УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
С17

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны» заснавана ў 2004 годзе*

*Падсерыя «Спадчына: агледзіны» выдаецца ў супрацоўніцтве:*
МГА «Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”»
Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк)
Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва

Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, уступнае слова, агульнае рэдагаванне
*Наталлі Гардзіенкі* і *Лявона Юрэвіча*

Каментары
*Наталлі Гардзіенкі, Аляксандра Пашкевіча, Лявона Юрэвіча*

Укладальнікі выказваюць шчырую падзяку
*Ганне Запартыцы*, *Юрыю Бабічу* — за дапамогу ў падрыхтоўцы
і каментаванні тэкстаў, Дзяржаўнаму літаратурнаму музею
Янкі Купалы — за дапамогу з матэрыяламі для выдання,
*Арсеню Лісу, Аляксандру Горнаму* — за падказкі і парады,
*Вітаўту Кіпелю* — за падтрымку і спрыянне

**ISBN 978-985-7180-36-3**

*І няхай Беларускі народ добра ўцяміць, што калі за Беларусь прырода ды калі яшчэ за Беларусь, за сваю Бацькаўшчыну ўстане і будзе сам беларус — ня толькі як этнографічная жывёліна, як народнае мора, але і як сьвядомы нацыянальна, духова аб'яднаны, культурна арганізаваны* ***народ****, дык — ні сьпіхнуць яго з роднай зямлі, ні зьесьці яго ніякімі там "асаднікамі" ці іншымі хітрымі спосабамі — ніякая моц на ўсім сьвеце ня зможа.*

*Тады запраўды — "****Затрыумфуе Беларусь****".*

*Уладзімір Самойла, 1923*

# АД УКЛАДАЛЬНІКАЎ

Біяграфічны нарыс, змешчаны далей у кнізе, — слова аднаго філосафа пра другога — мусіў бы называцца "Няма Прарока ў сваёй Айчыне". Але аўтар, Уладзімір Конан, надта ж не любіў клішэ.

Абсалютна ненармальную, паталагічную сітуацыю, што склалася ў дачыненні да спадчыны Уладзіміра Самойлы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, цудоўна дэманструе артыкул, напісаны, як кажуць у такіх выпадках, з найлепшымі інтэнцыямі і ўзнёсла-высока азагалоўлены "З Дому духоўнага":

*"Дом духоўны... Духоўная рэальнасць... Быццё сутнаснага... Менавіта да стварэння сутнаснага, вызначальнага, да Быцця Духу меў адносіны гэты чалавек. Большасці з нас вядомы, на жаль, толькі імем ды сціслымі энцыклапедычнымі звесткамі, адзінкавымі публікацыямі яго твораў, адзінкавымі аналітычна-асветніцкімі публікацыямі пра яго".*

А троху ніжэй у тым самым тэксце: "*Аднак Уладзімір Самойла — увогуле выдатная постаць у беларускім духоўным жыцці, у беларускай культуры. Мысляр, філосаф, літаратар, чалавек энцыклапедычных ведаў, таленавіты настаўнік. Яркі публіцыст, крытык залатога пяра і бездакорнага густу. [...] Творчасць Уладзіміра Самойлы — гэта цэлы пласт беларускай культуры, літаратуры, мастацкай свядомасці. Без яго творчасці нельга ўявіць сабе філасофскую, грамадскую, мастацкую думку Беларусі XX стагоддзя, нельга скласці ўяўленне пра нацыю, што з'яўляецца геаграфічна, гістарычна, свядомасна — сваімі культурнымі каштоўнасцямі — часткай Еўропы.*

*Уладзімір Самойла — асоба еўрапейскага маштабу*"[1].

У якім яшчэ народзе — калі ён сябе такім усведамляе — адзін і той чалавек можа ўяўляць з сябе "*цэлы пласт культуры*" і адначасна быць вядомы "*толькі імем*"?!

---

[1] Сямёнава, А. З Дому духоўнага // Наша Вера. 2005. № 1 (31).

І гэта пры тым, што не толькі ягоны вучань — той, хто заклікаў *“пакінуць свой адвечны сон”*, — уважаецца найбольшым нацыянальным паэтам, але і сам Настаўнік абгрунтаваў словы, якія прамаўляюцца штодзень:

«*Жыве Беларусь! Гэты кліч-лёзунг стаўся для беларускае нацыянальна-дзяржаўніцкае плыні ў XX стагодзьдзі стымулам да дзейнасьці ў пашырэньні беларускіх ідэяў, адраджэньні беларускае дзяржавы.*

*З Купалавае патрыятычнае спадчыны кліч “Жыве Беларусь!” выкрышталізаваўся як адзін з найбольш пашыраных і ўкаранелых заклікаў, што характарызуе беларускую палітычную мэтанакіраванасьць у нацыянальнай працы. А зь лёзунгам-клічам знаёмая, бясспрэчна, уся Беларусь.*

*Падставу для такога замацаваньня ды жывучасьці клічу выказаў ужо ў першым аналізе Купалавага зборніка “Жалейка” і верша “Гэта кліч, што жыве Беларусь” Уладзімер Самойла (“НН”, № 17, 1908), пішучы, што Купалавы радкі — гэта “голас, што выходзіць з самой глыбі народнай душы”, а таму гэтаму голасу — голасу душы народу — наканаванае жыцьцё ды лёс быць клічам будучыні, адраджэньня, клічам пакаленьняў*»[2].

Відаць, меў рацыю віленскі знаёмец Настаўніка Стась Станкевіч, калі напрыканцы 1970-х напісаў: *“Асоба й дзейнасьць Уладзімера Самойлы ані не сугучныя сяньняшняй нацыянальнай палітыцы партыі. Для нас-жа постаць Уладзімера Самойлы вельмі характэрная”*[3].

От толькі сышла тая партыя, змяніліся (і неаднойчы) сцягі і сімвалы, а спадчына “характэрнага” для нас дзеяча, што закончыў свае дні бібліятэкарам Віленскага беларускага музея, так і застаецца несабранай.

Вось жа кніга, якую трымае ў руках чытач, і ёсць першай (!) спробай падобнага збору. Збору выбранага, найперш — беларусацэнтрычнага, але і ў тым і блізу не вычарпальнага. Улучаныя тэксты, на думку і спадзяванне ўкладальнікаў, мусяць сфармаваць уяўленне пра той “культурны пласт”, што да сёння фактычна адсутнічаў у беларускай культуры, але які яшчэ можна паспець вярнуць і асэнсаваць.

І хай нам дапаможа крытычны аптымізм!

---

2 Кіпель, В. Жыве Беларусь! // Наша Ніва. 2002. № 8 (270). 22 лют.

3 Беларус. Нью Ёрк. 1979. № 262. Люты.

Уладзімір Конан[4]

# ПРАРОК У СВАЁЙ АЙЧЫНЕ[5]

*Уладзімір Самойла: 1878–1941*

Яшчэ дзесяць гадоў назад ім цікавіліся бадай што адны біёграфы Янкі Купалы. Недзе паміж 1893–1895 гг. дванаццацігадовы Янка Луцэвіч жыў на былым хутары Радзькаўшчына каля вёскі Мачаны (цяпер гэты хутар — вёска на беразе вадасховішча Вяча ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці) у сваёй цёткі Садаліі Ануфрыеўны Дамашэвіч.

Побач быў фальварак Івана Самойлы, дырэктара Мінскага рэальнага вучылішча. Вось там будучы паэт пазнаёміўся з сынам дырэктара, гімназістам Уладзімірам, старэйшым за яго на чатыры гады.

---

4 **Уладзімір Конан** (23.04.1934, в. Вераскава Наваградскага раёна Гродзенскай вобл. — 06.06.2011, Мінск), філосаф, гісторык, літаратурны крытык, доктар філасофскіх навук, сябра СП СССР ад 1982 г. У 1954 г. паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля заканчэння ўніверсітэта працаваў настаўнікам, а ад 1960 г. — дырэктарам Стражоўскай васьмігадовай школы Вілейскага раёна. У 1964 г. пасля заканчэння аспірантуры пры Інстытуце філасофіі і права АН БССР стаў працаваць навуковым супрацоўнікам, затым загадчыкам сектара эстэтыкі і сацыяльнай псіхалогіі, ад 1986 г. — вядучым навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута. Доктар філасофскіх навук. Даследваў пытанні гісторыі і тэорыі эстэтыкі і літаратуразнаўства Беларусі. Аўтар кніг “Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі. 1917–1934 гг.” (1968), “Демократическая эстетика Белоруссии. 1905–1917” (1971), “Очерк истории эстетической мысли Белоруссии” (з Э. Дарашэвічам, Масква, 1972), “Адам Бабарэка: Крытыка-біяграфічны нарыс” (1976), “От Ренессанса к классицизму” (1978), “Эстетическая мысль Советской Белоруссии” (1978), “Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в.” (1985), “Беларуская эстэтыка і мастацкая культура: гістарычныя традыцыі і сучаснасць” (1988), “Ля вытокаў самапазнання: станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору” (1989), брашур “Святло для людзей” (1989), “Боская і чалавечая мудрасць” (1990) і інш.

5 Друкуецца паводле: Вяртання маўклівая споведзь: Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу. Мінск, 1994. С. 169–190.

Уладзімір з Казіміраўкі (адзін са шматлікіх псеўданімаў У. Самойлы) прыкмеціў здольнага хлопчыка, які цягнуўся да асветы, і ўзяўся падрыхтаваць яго да паступлення ў Мінскае рэальнае вучылішча.

Паводле ўспамінаў Янкі Купалы, з гэтага рэпетытарства *"нічога не выйшла"*: не хапала пачатковых ведаў, да таго ж бацьку Дамініку патрэбны быў *"памочнік у гаспадарцы"*[6]. Але справа, відаць, не толькі ў выпадковых абставінах: Янку Луцэвічу было наканавана стаць не "рэалістам", а паэтам, пракокам нацыянальнага Адраджэння. Як гэта нярэдка бывала ў жыцці вялікіх людзей, выпадковая няўдача — толькі эпізод на іх шляху да высокай мэты. А першы адукаваны сябра і настаўнік Янкі пазней дапамог яму ў літаратурным дэбюце.

Уладзімір Самойла — крытык, публіцыст, філосаф, журналіст, урэшце яшчэ і паэт у расійскай мове — да сваіх пярэбараў у Заходнюю Беларусь (1921 г.) быў пісьменнікам *"на мяжы дзвюх культур"* — расійскай і беларускай: з першай яго звязвалі выхаванне і адукацыя ў сям'і абруселага службоўца "заходнерускага" памяркоўна-ліберальнага кірунку; з другой — генетычная памяць і спагадлівая паэтычная душа, што не магла застацца ўбаку ад самаахвярнага адраджэнскага руху. Спачатку ён падтрымліваў нацыянальнае абуджэнне свайго народа з лагера мясцовай "рускай" дэмакратыі, вітаў першыя беларускія газеты і паэтычныя кніжкі, па-свойму "адкрыў" Янку Купалу. Пазней, у віленскія гады свайго жыцця, ён — натхнёны прарок нацыянальнага Адраджэння і па сутнасці — генератар ідэй беларускага радыкальна-дэмакратычнага друку.

Калі б знайшоўся самаахвярны даследчык, які б узяў на сябе справу пошуку і сістэматызацыі апублікаваных твораў Самойлы (а гэта нялёгкая справа, бо шмат што з напісанага ім друкавалася ў заходнебеларускіх газетах як перадавіцы і рэдакцыйныя артыкулы), то яны склалі б некалькі вялікіх тамоў. Сёння беларускія даследчыкі яшчэ толькі пачынаюць далучэнне ягонай філасофскай, публіцыстычнай і літаратурнай спадчыны да нацыянальнай традыцыі. У 1920-я гг. беларускі нацыянальна-дэмакратычны друк па невядомых прычынах амаль не прыкмеціў таленавітай і дасціпнай публіцыстыкі Самойлы (мабыць з-за таго, што свае артыкулы ён падпісваў крыптанімамі і псеўданімамі, найчасцей — Суліма, Ул. Чэмер, Уладак з Казіміраўкі, Аглядчык, Мінчук, Стары Мінчук. Сірыўс, Ул. С., С-а, С., *Gudas, Ars, Roxolanus, Civis, Alter Ego* і інш.).

[6] Купала, Я. Збор твораў: у 7 т. Т. 7. Мінск, 1976. С. 418.

Пазней, у 1930-я гг., яго імя замоўчвалася і нават стала аб’ектам ідэалагічных нападкаў, бо тады пісьменнік падтрымліваў нацыянальна-дэмакратычную палітыку беларускага адраджэнца Антона Луцкевіча, аб’яўленага ненавіснікамі вольнай і незалежнай Беларусі *“нацыянал-фашыстам”*. Урэшце ў 1940 г. сталіністы дабраліся і да Вільні, арыштавалі і заходнебеларускіх дзеячаў, у тым ліку У. Самойлу, і, верагодна, знішчылі ў Курапатах ці іншым месцы масавых забойстваў. Толькі ў 1950–1960-я гг. яго імя зрэдку і эпізадычна прыпаміналася ў даследаваннях творчасці Янкі Купалы. Кароткую даведку пра яго ўпершыню дала Беларуская Савецкая Энцыклапедыя[7]. Пазней А. Ліс апублікаваў удакладнены і пашыраны варыянт кароткай біяграфіі пісьменніка[8]. У канцы 1970-х гг. складальнікі “Хрэстаматыі крытычных матэрыялаў” перадрукавалі тры артыкулы У. Самойлы пра творчасць Янкі Купалы, упершыню апублікаваныя ў газетах “Минский курьер” (1908) і “Наша ніва” (1908 і 1910)[9]. М. Калінковіч адшукаў і надрукаваў чатыры лісты У. Самойлы да А. Блока з каментарыямі да іх[10]. Пра У. Самойлу — рэцэнзента першых зборнікаў паэзіі Янкі Купалы пісаў Сцяпан Александровіч[11].

Грунтоўны артыкул польскай даследчыцы Аляксандры Бергман пра ўдзел У. Самойлы ў заходнебеларускім адраджэнскім руху раскрыў новыя, раней невядомыя эпізоды з біяграфіі пісьменніка і яго літаратурна-публіцыстычнай дзейнасці[12]. Гэтае даследаванне вызначаецца паўнатой бібліяграфічнага матэрыялу віленскага перыяду творчасці Самойлы, аналізам яго светапогляду ў кантэксце тагачаснай грамадска-палітычнай думкі і цікавымі, раней невядомымі штрыхамі да партрэта пісьменніка і журналіста. А. Бергман не мела магчымасці даследаваць рускамоўны перыядычны друк Беларусі 1905–1920 гг. (захоўваецца ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, у Мінску — толькі фрагментарна),

---

7 Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: у 12 т. Т. 9. Мінск, 1973. С. 348.

8 Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. Т. 4. Мінск, 1987. С. 634.

9 Александровіч, С.; Александровіч, В. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мінск. 1978. С. 231–236, 238–241.

10 Нёман. 1979. № 11. С 166–159.

11 Александровіч, С. Уладзімір Самойла — даследчык паэзіі Янкі Купалы // Полымя. 1982. № 1. С. 201–208.

12 Bergman, A. Władimierz Samojło-Sulima wobec kwestii białoruskiej w Polsce międzywojennej // Przegląd historyczny. T. LXXIV. Zesz. 4. 1983. S. 664–676.

у прыватнасці газеты “Северо-Западный край”, “Минский курьер”, “Минский вестник”, альманах “Туманы”, у якіх супрацоўнічаў У. Самойла. Усё яшчэ не даследаваны мінскія, віленскія і іншыя архівы, якія маглі б праліць святло на многія яшчэ невядомыя эпізоды з жыцця пісьменніка, яго творчасці, раскрыць ягоны радавод. А. Бергман змагла ўзнавіць толькі паасобныя штрыхі з мінскага жыцця пісьменніка, старанна выкарыстаўшы скупыя звесткі беларускіх даследчыкаў і ўспаміны жонкі Самойлы (жыве ў Польшчы), на жаль, таксама фрагментарныя і не пацверджаныя сямейным архівам.

А. Бергман чамусьці называе У. Самойлу ў анатацыі да свайго артыкула *“рускім літаратурным крытыкам і публіцыстам, ураджэнцам Беларусі”*, хоць не прыводзіць ніякіх архіўных доказаў, што сведчылі б аб расійскім радаводзе ягонай сям’і, альбо выказванняў пісьменніка пра яго самаідэнтыфікацыю з расійскім народам. На самай жа справе Самойла да пераезду ў Вільню пачуваў сябе беларусам у рускай культуры, а ў Заходняй Беларусі канчаткова сфарміраваўся як беларускі адраджэнец, радыкальны прыхільнік нацыянальнага самавызначэння народа.

У 1980-я гг. мне прыйшлося даследаваць рускамоўны друк Беларусі (апублікавана толькі першая, “мінская” частка гэтага даследавання), у тым ліку літаратурную дзейнасць і светапогляд У. Самойлы, яго бліскучыя артыкулы ў газеце “Минский курьер” (1908)[13]. Нядаўна па ініцыятыве рэдакцыі часопіса “Нёман” я апублікаваў у сваім перакладзе на рускую мову выдатнае літаратурна-філасофскае эсэ Сулімы (У. Самойлы) “Гэтым пераможаш! (Нарысы крытычнага аптымізму)” з каментарыямі і ўступным артыкулам[14].

А цяпер прапануем чытачу крытыка-біяграфічны нарыс пра жыццё, творчасць і светапогляд У. Самойлы, акцэнтаваўшы яго беларускую самабытнасць і прароцтва пра неадольнасць нацыянальнага Адраджэння.

Энцыклапедычны даведнік “Янка Купала” (1986) упершыню змясціў маю кароткую даведку пра бацьку пісьменніка Івана Іванавіча

13 Конон, В. М. Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в. Минск, 1988. С. 107–136; Ён жа. Реалистические и материалистические традиции в публицистике и литературно-художественной критике периода реакции // Идеи материализма и диалектики в Белоруссии (дооктябрьский период). Минск, 1980. С. 252–778.

14 Нёман. 1992. № 1. С. 154–187.

Самойлу. 12 красавіка 1912 г. ён раптоўна памёр ад інсульту на 73-й вясне свайго жыцця. Некралог надрукавала газета "Минский голос" (1912, 13 красавіка), адзначыўшы, што гэты руплівец на ніве асветы не дажыў адно лета да 50-гадовага юбілею сваёй настаўніцкай дзейнасці. Ён — заснавальнік і нязменны кіраўнік на працягу трыццаці двух гадоў Мінскага рэальнага вучылішча, раней быў інспектарам Мінскай мужчынскай гімназіі.

На грамадскіх пачатках узначальваў праўленне Мінскай грамадскай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, садзейнічаў развіццю пазашкольнай адукацыі, арганізацыі нядзельных (вячэрніх) школ. Аўтар некралога паведамляе яшчэ два цікавыя эпізоды з жыцця Івана Самойлы: напярэдадні рэвалюцыі 1906 г. сваімі сардэчнымі адносінамі да выхаванцаў спыніў забастоўку вучняў; за самаадданую службу ўзнагароджаны ордэнамі Станіслава 1-й і 2-й ступеняў, Уладзіміра 3-й і 4-й ступеняў, Ганны 2-й ступені. Нарэшце, у 1904 г. яму былі падараваны табакерка і пярсцёнак з вензелямі ад імя самога імператара Мікалая ІІ.

Не трэба мець багатага ўяўлення, каб здагадацца: Іван Самойла належаў да таго тыпу працавітых, ад прыроды добрых служакаў-кансерватараў, якія нават не здагадваліся, што сваім "заходнерускім" культуртрэгерствам часам руйнуюць самабытную, з тысячагадовай традыцыяй беларускую культуру. Але яму ўдалося перадаць сыну свае лепшыя чалавечыя рысы — адукаванасць, добрае, чуллівае сэрца і расійскую гуманітарную культуру. Захапленне гімназіста Уладзіміра "беларустыкай", яго амаль падсвядомае імкненне да беларускай ідэі здавалася ягонаму бацьку дзівацтвам, часовым захапленнем маладосці.

Уладзімір Самойла нарадзіўся 17 (29) студзеня 1878 г. у Мінску і быў другім дзіцем, меў двух братоў і сястру. Пра яго маці А. Бергман даведалася ад жонкі і сына пісьменніка толькі тое, што яна была педагогам. Паводле справаздачы пра стан мінскай гімназіі за 1897–1898 гг., якую знайшоў А. Ліс, атэстат сталасці Уладзімір атрымаў летам 1898 г. і заявіў пра сваё жаданне вывучаць медыцыну ў Маскоўскім універсітэце. Паводле інфармацыі, якую далі жонка і сын пісьменніка для А. Бергман, У. Самойла, здаецца, вучыўся на медыцынскім факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, але пакінуў яго на чацвёртым годзе: празмерна ўражлівая душа юнака не магла вынесці нават самога відовішча аперацый на трупах. Прафесійным лекарам ён, здаецца, не быў. Пра гэта сведчыць апублікаваны ў га-

зеце “Беларусь” (1919, 21 лістапада) *“спіс № 4 кандыдатаў у галосныя Гарадскога Савета ў г. Мінску”*, дзе другім значыцца *“Самойла Уладзімір, настаўнік хіміі”*.

Пазней, у сваіх віленскіх публікацыях, ён называў сябе славістам і сапраўды быў адным з самых кампетэнтных знаўцаў расійскай, беларускай, польскай, чэшскай культуры. А яшчэ быў ён бліскучым журналістам — публіцыстам і літаратурным крытыкам. Даследчыкі, здаецца, не зафіксавалі яго супрацоўніцтва ў газеце “Северо-Западный край” М. Мысаўскага. Аднак ёсць ускоснае сведчанне цеснай сувязі У. Самойлы з гэтай радыкальна-дэмакратычнай газетай, выдаўцы і рэдактары якой “не заўважылі” самабытную беларускую нацыю, хоць і паважалі яе *“этнаграфічныя асаблівасці”* і зрэдку друкавалі фальклорныя матэрыялы. І вось па рэкамендацыі У. Самойлы рэдактар газеты друкуе першы праграмны верш Я. Купалы “Мужык” (1906, 15 мая). З гэтай падзеі можна адлічваць пачатак чарговай, самай высокай да кастрычніцкіх падзей беларускай адраджэнскай хвалі. Яна жывіла станаўленне нацыянальнай класічнай літаратуры.

Вось як успамінае пра гэтую падзею Я. Купала ў аўтабіяграфічных матэрыялах для Л. Клейнбарта (1928): *«У 1904–1905 гг. я пазнаёміўся з беларускімі рэвалюцыйнымі дзеячамі (здаецца, членамі “Грамады”) У. І. Самойлам, былым маім рэпетытарам, Бурбісам, пазней камісарам земляробства БССР... Яны давалі мне нелегальную літаратуру для распаўсюджвання і да т. п. ...Я ўжо тады пісаў і свае вершы, паказваў У. І. Самойлу. Ён заўсёды хваліў і заахвочваў мяне да пісання. Пры яго дапамозе быў надрукаваны мой першы верш “Мужык” у мінскай газеце “Северо-Западный край” прагрэсіўнага кірунку»* (пер. з рускай мой. — *У. К.*)[15]. Здагадку паэта пра ўдзел У. Самойлы ў Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе даследчыкі, здаецца, не пацвердзілі, але і не абверглі.

Сухі афіцыйна-сумнаваты стыль аўтабіяграфічнага ліста Купалы (ён наогул без натхнення пісаў пра сябе) — зусім не доказ афіцыйных, “рэпетытарскіх” адносін Самойлы да паэта. Сам паэт паводле тэмпераменту і глыбіні перажыванняў, крытык, здаецца, бачыў у Янку Купалу свайго духоўнага брата і праз яго далучаўся да беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён быў адным з заснавальнікаў (разам з С. Скандраковым. А. Шабунем,

[15] Купала, Я. Збор твораў: у 7 т. Т. 7. Мінск, 1976. С. 424–425.

К. Шпакоўскім і інш.) першага беларускага кніжнага таварыства "Мінчук" (1906–1907) і рыхтаваў там да друку "Жалейку" Я. Купалы. Але не было сродкаў, суполка распалася. Тады сябра паэта выкарыстаў сваё пецярбургскае знаёмства з прафесарам Браніславам Эпімах-Шыпілам (1859–1934), заснавальнікам і фактычным кіраўніком беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" (1906–1914), рэкамендаваў да выдання першы зборнік паэта. Пасля выхаду ў свет "Жалейкі" Я. Купала прысвяціў свайму сябру адзін з вершаў цыкла "З песень беззямельнага" ("Як спыніўся я за хатай..."; друкаваўся ў "Нашай ніве", 1908, 20 лістапада з надпісам "Пасвячаю Ул. Ів. С-а"). Вядомы аўтограф Купалы — надпіс на падараванай сябру фотакартцы: *"На довад шчырага шацунку і сардэчнай прыязні найлепшаму і найсправядлівейшаму свайму учыцелю дабрадзею пану Ул. Ів. Самойла ад Янука Купалы. Вільня, 16.12.[1]908 г. Шчасціў будзь, заступніку бедных людзей. Жыві, дажывіся больш радасных дней. Я. Купала"*. У сваю чаргу У. Самойла прысвяціў сябру верш на рускай мове "Янку Купалу. У адказ на віншаванне з новым, 1907 годам"[16].

Чалавек па натуры імпульсіўны, схільны да інтэнсіўнага рыўка ў творчасці і да глыбокага меланхалічнага "маўчання", У. Самойла перажыў свой першы творчы пад'ём у 1908 г., калі па ініцыятыве памочніка прысяжнага паверанага Віктара Чавусава пачала выходзіць адна з самых культурных і ліберальных газет *"Минский курьер"*. У надрукаваных ёю матэрыялах ёсць сведчанне таго, што Самойла быў яе штатным супрацоўнікам (падпісваўся звычайна псеўданімам Вл. С.). Маю на ўвазе яго нататку "Адкрыты ліст" афіцэру п. Мільявіну пра інцыдэнт на дзяжурстве ў якасці загадчыка рэдакцыі. Якраз тады да літаратурнага рэдактара прыходзіў гэты афіцэр, патрабаваў, пагражаючы расправай, надрукаваць свае бездапаможныя вершы, бо, на думку аўтара гэтых вершаў, *"у Пушкіна ёсць рыфмы значна горшыя"*[17].

Якраз тады, у 1908 г., У. Самойла пачаў развіваць сваю беларускую ідэю ў расійскім друку пастаноўкай і сёння не вырашанай праблемы навучання і выхавання дзетак беларусаў у іх роднай мове. На думку публіцыста, родная мова ў дашкольным і школьным выхаванні — мінімальная ўмова, без якой немагчыма духоўнае

[16] Копія верша захоўваецца ў БДАМЛМ. Ф. 66. Воп. 1. Спр. 699. Л. 3–4.

[17] Минский курьер. 1908. 1 мая.

развіццё чалавека. Роднае слова — душа дзіцяці, жывая сувязь паміж яго ўнутраным светам і багаццем нацыянальнага жыцця. Вось як публіцыст фармуляваў гэтыя прынцыпы педагогікі: «*Няма школы на чужой, няхай самай блізкай мове!.. Стварыць для нашага народу родную, жывую школу — гэта нашая галоўная задача... Пакуль гэта не зроблена, — народ спіць, а мабыць, нават горш: народ прападае. Толькі гэты пароль адрозніває сапраўдных сяброў беларускага народу ад яго "сяброў" справа*»[18]. Сістэму навучання дзяцей у чужой мове публіцыст назваў *"школьнай інквізіцыяй"*, бо *"чужая мова ў школе — той жа класіцызм, вынайдзены забойцамі народнага духу, творчасці і самадзейнасці"*[19].

У заключных нататках на тэму роднай мовы ў школе У. Самойла крытыкаваў тэндэнцыі да нацыянальнага ізаляцыянізму ў сістэме адукацыі, бо ёсць, на ягоную думку, *"натуральныя і бясспрэчныя межы нацыянальных прэтэнзій"*[20]. Але тады публіцыст яшчэ не паспеў заглянуць за межы расійскага ліберальнага асветніцтва і, галоўнае, не ведаў шматвяковай гісторыі беларускай нацыі, еўрапейскіх традыцый яе культуры. Спасылаючыся на эксперыментальныя класы з карэльскай мовай выкладання, дзе ўвесь запас яе вычарпаўся ў першы навучальны год, Самойла "накладваў" гэты няўдачны вопыт на магчымую беларускую школу. На яго думку, *"выкладанне ў роднай мове малакультурных народаў магчымае толькі да тога часу, пакуль у гэтай мове ёсць матэрыял"* для аналізу адпаведнага школьна-дыдактычнага матэрыялу. У. Самойла не памыляўся, калі пісаў: практычна ўжо тады можна было стварыць пачатковую беларускую школу. Але ў сваіх далейшых развагах не пазбег лагічнай памылкі, характэрнай наогул для прыхільнікаў ліберальнага эвалюцыянізму. Паводле ягонай аргументацыі, *"прыдзецца проста пачакаць, пакуль уласная беларуская цывілізацыя не разаўецца сама сабою да такой ступені, што зробіць магчымым далейшую адукацыю беларускага дзіцяці"*. А пакуль што на сярэднім і вышэйшым узроўнях адукацыі беларусы *"вымушаны будуць карыстацца агульнадзяржаўнаю моваю — рускаю"*[21].

[18] Минский курьер. 1908. 1 лют.

[19] Минский курьер. 1908. 7 лют.

[20] Минский курьер. 1908. 5 крас.

[21] Минский курьер. 1908. 5 крас.

У дадзеным выпадку У. Самойла забываў, што сярэдняя і вышэйшая школа — не толькі вынік развітай цывілізацыі, але і адзін з яе стваральнікаў. І без гэтай школы ўсебаковае функцыянальнае развіццё нацыянальнай мовы — усяго толькі ліберальная ўтопія. Да таго ж публіцыст тады яшчэ не ведаў беларускай цывілізацыі ва ўсёй яе гістарычнай глыбіні. Але чарнасоценнай газеце "Минское слово" прыйшоўся не даспадобы нават такі памяркоўны беларускі патрыятызм Самойлы. Адказваючы на паліцэйскі данос вялікадзяржаўных шавіністаў, публіцыст раскрыў дэмагагічны прыём рэакцыйнай ідэалогіі — атаясамленне нацыянальнай самасвядомасці каланіяльных і "адсунутых" з гістарычнай арэны народаў з сепаратызмам і нацыяналізмам.

Паводле ж логікі і сацыяльнага вопыту, нацыяналізм — гэта палітычная дактрына, якая дамагаецца выключных правоў сваёй нацыі; нацыянальная свядомасць — гэта пазітыўная рэальнасць, заканамерны вынік гісторыі кожнага народа[22].

На выступленні У. Самойлы адклікнуўся беларускі публіцыст і перакладчык Напалеон Чарноцкі артыкулам "Да пытання пра беларускую народную школу"[23]. Вось што пісаў гэты малавядомы руплівец на ніве роднай культуры: «*Цяжка быць абыякавым сведкам, здаецца, адзінай у жыцці з'явы: шасцімільённы народ, фактычна не горшы за іншыя народы, і ў той жа час амаль бязмоўны. Свая мова ў яго, канечне ж, ёсць, "Словарь белорусского наречья" Насовіча* (у тэксце памылкова Касовіча. — *У. К.) не меншы іншых слоўнікаў*». Гэтай мове варожыя не толькі дзяржаўная палітыка, але і сістэма адукацыі, бо настаўніцкія семінарыі не выкарыстоўваюць родную мову. «*Адзін з народных настаўнікаў,* — працягваў Чарноцкі, — *памяняў кар'еру сельскага настаўніка на яшчэ менш гарантаваную — сталага супрацоўніка "Нашай нівы" і змяшчае ў ёй свае вершы пад псеўданімам Якуба Коласа. Рана бачыць у ім будучага беларускага Шаўчэнку, але нельга сумнявацца ў шчырасці і арыгінальнасці яго-нага таленту. Калі я пачаў чытаць калыбельную песню Якуба Коласа маладому настаўніку школы граматы… яго спакутаваны, змярцвелы твар асвяціўся шырокай радаснай усмешкай. Ён, мабыць, упершыню даведаўся, што ў яго мове, якой ён з такім намаганнем выракаўся, можна не толькі гаварыць, але пісаць і друкавацца*».

---

[22] Самойло, Вл. Объединенная редакция // Минский курьер. 1908. 1 крас.

[23] Минский курьер. 1908. 10 крас.

На выхад Купалавай “Жалейкі” У. Самойла адклікнуўся дзвюма рэцэнзіямі. У “Минском курьере” ён назваў свой артыкул «Вялікае свята: “Жалейка” Янука Купалы». Вось яго пачатак: «*На вуліцы Маладой Беларусі — вялікае свята! Сонца жывой сапраўднай паэзіі заглянула ў акенца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа! Гукі роднай “Жалейкі”, прасякнутыя сапраўднай чалавечнасцю, жывой любоўю і жалем да роднага беларускага свету, вырваліся з народнага сэрца, з вуснаў нацыянальнага паэта і цяпер сталі нацыянальным скарбам для беларуса, магутным рычагом для яго разумовага і маральнага развіцця... Мы прысутнічаем пры гістарычнай падзеі, надзвычай важнай для краю. Беларуская песня з узроўню этнаграфіі пераходзіць на ўзровень літаратурны. Беларускі народ з аб’екта фалькларыстычнага даследавання становіцца суб’ектам нацыянальнай самасвядомасці. І “Жалейка” Янука Купалы — адзін з доказаў гэтай вялікай падзеі...*»[24].

Рэцэнзія пісалася, як кажуць, на адным дыханні, у ёй крытык спасціг майстэрства паэта ў замалёўках яскравых карцін сялянскага побыту, яго глыбокі роздум над жыццём, шчырасць выяўлення чалавечых пачуццяў, унутраную дынаміку верша і яго музыкальнасць, пазнаёміў чытачоў газеты з узорамі купалаўскай грамадзянскай лірыкі. Урэшце, сказаў прарочае слова пра паэта ў пачатку яго творчага шляху: “*Няхай ён стане для беларусаў тым, кім быў Шаўчэнка для Украіны!.. Прыйдуць лепшыя часы, і за ягоны подзвіг родны народ заплаціць яму сваёй найлепшай удзячнасцю — неўміручасцю!*”

Рэцэнзію ў “Нашай ніве” Самойла падпісаў сваім “мінскім” псеўданімам Владэк з Казіміраўкі і прыдаў ёй адраджэнскі сэнс, Купалаву “Жалейку” рэкамендаваў беларускім чытачам як паэтычны сімвал узыходжання нацыі на арэну еўрапейскай гісторыі і культуры, а самога песняра — як прарока, “пячальніка і заступніка” беларускага працоўнага народа. “*Да нядаўняга часу,* — пісаў крытык, — *за беларускаю моваю ніхто ў нас не прызнаваў права на сваё асобнае жыццё, яе высмейвалі... Ей адводзілася самае незайздроснае месца: далей мужыцкага задворка, далей убогіх мужыцкіх палёў не смела прыходзіць мужыцкае простае слова. У школе і ў жыцці ўсё было зроблена так, што і сам мужык-беларус*

[24] Минский курьер. 1908. 23 жн.

*стаў цурацца і роднай мовы сваёй і свайго народу*"[25]. Купалава кніжка, паводле рэцэнзента, — гэта прамень святла для беларусаў, заклік усяго люду да вялікай працы, будавання свайго краю. У заключэнне — зноў прароцтва пра дэмакратычную Беларусь: *«Няхай "Жалейка" будзіць народнае самапачуццё, няхай памагае беларусам прачнуцца ад векавога сну, жыць новым жыццём, расці і развівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!».*

Рэцэнзіі на першую паэтычную кніжку Купалы засведчылі беларускую ментальнасць У. Самойлы. Ужо на першым, мінскім этапе сваёй творчасці ён не быў толькі "рускім краёвым" паэтам (а ён пісаў і вершы) і публіцыстам, бо адразу далучыўся да беларускага літаратурнага руху і пэўным чынам нават "запраграмаваў" адраджэнскую плынь нашай літаратурнай крытыкі. Дарэчы, у "Минском курьере" (1908, 13 красавіка) Самойла апублікаваў свой пераклад верша Купалы "Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні" пад назваю "Беларусу". Гэта быў, здаецца, першы вопыт перакладу Купалавай паэзіі на рускую мову. Але тады ён усё яшчэ заставаўся пісьменнікам *"на мяжы дзвюх культур"* і пэўным чынам нагадваў героя аповесці М. Гарэцкага "Дзве душы" Абдзіраловіча: амаль саракагадовага ўзросту ягоная душа адною часткаю жыла ў сферы рускай культуры Сярэбранага веку, а другою — у стане беларускага Адраджэння.

Апублікаваныя У. Самойлам літаратурна-крытычныя артыкулы ў "Минском курьере" належаць да лепшых здабыткаў рускай "краёвай літаратуры" ў гэтым жанры. Ён быў адным з першых (не толькі на Беларусі, але і ў Расіі) даследчыкам творчасці нарвежскага драматурга Генрыка Ібсена — "валадара думаў" прагрэсіўнай моладзі канца XIX — пачатку XX ст. П'есы Ібсена не сыходзілі са сцэны Масквы, Пецярбурга і тады губернскага Мінска. Публіцысту імпанавала маральна-экзістэнцыяльная праблематыка пісьменніка — лёс чалавечай асобы ў грамадстве, адказнасць чалавека перад Богам і светам. У цыкле артыкулаў беларускага крытыка пра герояў ягоных драм ёсць бліскучая спроба іманентнага аналізу мастацтва, імкненне разгадаць сімволіку і падтэксты твораў.

Цыкл пачынаецца артыкулам "Бог Бранда", прысвечаным маральна-філасофскаму аналізу аднаго з найбольш складаных і трагічных твораў Г. Ібсена "Бранд"[26]. На думку крытыка, крыніца

[25] Наша Ніва. 1908. 15 (28) жн.

[26] Минский курьер. 1908. 17, 20 лют.

трагізму герояў Ібсена — глабальныя змены духоўна-псіхалагічнага клімату на скрыжаваннях дзвюх цывілізацый — традыцыйнай (напаўхрысціянскай, напаўпаганскай) і новага, навукова-тэхнічнага веку. Чалавек губляе спрадвечную цэласнасць, гарманічную суладнасць з прыродай і боствам, але яшчэ не набыў новай экзістэнцыяльнай гармоніі — таго ўсеадзінства з чалавецтвам і Космасам, якое мроілася прарокам, мастакам і вялікім філосафам. Нараджалася новая трагічная свядомасць, сутнасць якой, паводле вобразнай думкі У. Самойлы, — у страце тоеснасці індывідуальнага жыцця з універсальнасцю: *"Памёр вялікі Пан, пакінуўшы за сабою пякучы смутак вечнай жальбы ва ўсім жывым. Але памёр і вялікі, аднасутны, непадзельны Бог сусвету. Кожны з нас нясе ў сваім сэрцы гэтыя два смуткі, гэтыя дзве жальбы... Пан жывой прыроды памёр для нас назаўсёды, бо нельга вярнуцца да цнатлівага шчасця свайго дзяцінства. А да Бога мы ніколі не дойдзем, нам толькі даецца задача — уваскрасіць, узнавіць Бога ў сваім уласным вобразе, стварыць яго падобнасць"*.

У інтэрпрэтацыі вобраза Бранда крытык не дапускаў сацыялагічных і фармалістычных спрашчэнняў, характэрных для тагачаснага літаратуразнаўства. Бранд — чалавек маральнага абавязку, рэлігіі моцных, разбітых, але наноў "склееных" людзей. Аднак яго халодны звышчалавечы маральны імператыў уступіў у канфлікт з жывой этыкай. На думку Самойлы, герой Ібсена імкнецца адрадзіць абсалютнае значэнне зямных каштоўнасцей і чалавечых абавязкаў, мінуючы хрысціянскі заклік — далучыцца да каштоўнасцей трансцэндэнтных, вечных.

Іманентны метад аналізу экзістэнцыяльнай праблематыкі творчасці Ібсена сутыкнуўся з сацыялагічнай канцэпцыяй Г. В. Пляханава, аўтара брашуры "Генрык Ібсен" (1906). У артыкуле "Асноўны характар творчасці Ібсена"[27] Самойла звярнуў увагу на тэндэнцыю расійскага марксіста да сацыялагізацыі духоўна-мастацкіх і эстэтычных праблем. Прыкмечаны Г. В. Пляханавым "парадокс" (*"Якім чынам майстрам драмы ў сучаснай сусветнай літаратуры мог стаць прадстаўнік адной з самых неразвітых краін?"*) У. Самойла тлумачыць агульнай заканамернасцю духоўнага развіцця, паводле якой *"тое, што для перадавых народаў вырашаецца эвалюцыйна, павольнай, але вернай сумеснай працай*

[27] Минский курьер. 1908. 10, 11 мая.

*прыроды і культуры, — для неразвітага народа (*маецца на ўвазе не духоўная, а сацыяльна-гістарычная няспеласць. — *У. К.) становіцца няспыннай рэвалюцыяй... бунтам для бунта*", у выніку чаго "*ствараецца страшная супрацьлегласць прыроды і культуры, трагічная супярэчнасць, якая ляжыць у аснове драмаў Г. Ібсена*". На долю маладых нацый, "*пазбаўленых школы і арганічных традыцый культуры… выпадае скажонае, фарсіраванае развіццё — скачкамі, рыўкамі*". На думку У. Самойлы, якраз тут, а не ў "*дробнабуржуазнай прыродзе*" Ібсена, як думаў Пляханаў, трэба шукаць "*сацыялагічны эквівалент*" пісьменніка. Сёння вельмі актуальна гучаць заключныя словы беларускага філосафа і крытыка: "*На прыкладзе п. Пляханава яшчэ раз пераканаемся, наколькі недастатковы класавы пункт погляду там, дзе з'ява выходзіць за межы класа, вырастаючы да памераў нацыянальнай падзеі*"[28].

У. Самойла дапускаў "класавы падыход" пераважна ў сферах сацыяльна-эканамічных і палітычных. У дачыненні ж да эстэтыкі і маралі такі метад, на яго думку, занадта вузкі. Адносна брашуры Пляханава крытык пісаў: «*Дзіўна чытаць у ёй, што "ўся слабасць Ібсена заключаецца ў няўменні знайсці выхад з маралі ў палітыку". Гэты камплімент можна было б vice versa*[29] *вярнуць п. Пляханаву: ягоная слабасць — у няўменні знайсці выхад з вузкай класавай "палітыкі" ў шырокую, як мора, "мараль" Ібсена*».

Беларускі публіцыст звярнуў увагу на яшчэ адну як быццам бы парадаксальную рысу светапогляду Ібсена. На думку нарвежскага пісьменніка, модны ўжо тады сацыялізм — самая рэакцыйная ідэалогія, асабліва ў неразвітых і бедных краінах, дзе няма чаго дзяліць і размяркоўваць, наадварот, неабходна стымуляваць асабістую ініцыятыву для развіцця вытворчасці. Акрамя таго, сацыялізм, паводле Ібсена, аддаў бы ўладу ўсё таму ж натоўпу, варожым духоўным парываннем "*дробным гандлярам*", якімі так пагарджалі героі нарвежскага драматурга. Гаворачы пра нарвежскую сацыяльна-эканамічную неразвітасць, У. Самойла ў падтэксце меў на ўвазе і тагачасную расійскую сацыяльную рэальнасць, але тут дапусціў недакладнасць, сцвярджаючы, быццам прадстаўнік неразвітай у сацыяльным плане краіны не можа сказаць тых "*чарадзейных слоў, якія выклікаюць вобраз будучыні і якіх патрабуе Гегель ад*

[28] Минский курьер. 1908. 11 мая.
[29] ***Vice versa*** (лац.) — у зваротным кірунку.

*мысляра”*[30]. Мы ведаем: той жа Гегель, а раней за яго Кант, Фіхтэ і Шэлінг у неразвітай і раздробленай Германіі абагульнялі вопыт перадавой Еўропы і якраз сказалі *“чароўнае слова”* пра будучыню.

Мабыць, якраз гэтую думку мела на ўвазе газета “Минский курьер”, робячы заўвагу да артыкула У. Самойлы: *“Рэдакцыя лічыць неабходным адзначыць, што ў яе асяроддзі ёсць іншыя думкі і погляды, не згодныя з пунктам погляду аўтара”*.

У. Самойла планаваў апублікаваць у мінскім друку артыкулы пра духоўную блізкасць Ібсена духоўным пошукам Ф. Дастаеўскага, Л. Андрэева ды іншых рускіх пісьменнікаў. Аднак паспеў надрукаваць толькі адзін — «“Зданні” Ібсена: вопыт сімвалагічнага разбору»[31], бо ў кастрычніку 1908 г. газета “Минский курьер” была закрыта. Драму “Зданні” крытык палічыў за мастацкі шэдэўр Ібсена і еўрапейскай драматургіі наогул. Ягоны артыкул, як усе, што выходзіла з-пад пяра Самойлы, — палемічны, ён абвяргае павярхоўнасць і спрошчанасць поглядаў на мастацтва “лекара” М. Нардаў і “палітыка” Г. Пляханава. Г. Ібсен у гэтым творы, на думку Самойлы, выявіў *«палкі пратэст супраць разбурэння таго, што патрэбна заўсёды чалавеку, пры любых формах палітычнай арганізацыі і грамадскага ладу, — духоўных каштоўнасцяў, “нястворанага духу” чалавечай асобы»*. Памастацку выяўленыя ў “Зданнях” супярэчнасці нарвежскага жыцця, на думку крытыка, аналагічныя духоўным драмам у Расійскай імперыі, адлюстраваным у рускай літаратуры.

У “ібсенаўскім” цыкле артыкулаў У. Самойла — адзін з пачынальнікаў той “медытацыйнай” крытыкі і публіцыстыкі, якая адраджаецца сёння, але, на жаль, не заўсёды ўдала, часам схіляючыся да шматслоўнасці. Яе прызначэнне ў тым, каб сумовіцца з чытачом не паводле раней нарыхтаваных матэрыялаў і лагічных схем, а імправізацыйна, як бы ўключаючы публіку ў працэс думання. А задача “сімвалагічнага аналізу” — разгледзець у вобразах, калізіях і мастацкіх структурах пісьменніка сімвалы рэальнай гісторыі краіны, для Самойлы — не так Нарвегіі, як Расіі. І тут публіцыст прарочыў ёй амаль тое, што спраўдзілася пазней: спачатку татальная рэвалюцыя, *“бунт для бунта”*, а пазней — дэмакратыя без павышэння культуры і, як вынік, — разбэшчванне ўлады, бязмежны рост хлусні, подласці, прадажнасці, нахабства.

---

30 Минский курьер. 1908. 10 мая.

31 Минский курьер. 1908. 16, 18, 24, 30 мая.

Падставай для другога цыкла артыкулаў У. Самойлы стала лекцыя вядомага расійскага літаратуразнаўцы Ф. Анічкава ў Мінскім літаратурна-артыстычным таварыстве пра тагачасную рускую паэзію (люты 1908 г.). Дакладчык зацікавіў публіку аналізам антынамічнасці расійскай літаратурнай свядомасці. Паводле эстэтычнай сутнасці руская літаратура імкнулася да ідэалу прыгажосці, але, з другога боку, кіруючыся маральнымі імператывамі і марай пра грамадскую справядлівасць, яна асцерагалася адкрытага прызнання самакаштоўнасці красы. Апазіцыя эстэтыцы выявілася на розных этапах у творчасці М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, Л. Талстога і толькі ў канцы XIX — пачатку XX ст. *"страх перад красой адпаў"*, пачаўся новы рускі рэнесанс. Аднак і тады, казаў лектар, засталася чыста руская драма — барацьба паміж імкненнем да красы і страхам перад ёю. Паводле афарызма М. К. Міхайлоўскага: *"Я баюся, каб Каін — эстэтыка не забіў Авеля — палітыку і этыку"*.

Закранутыя ў лекцыі Анічкава ідэі Самойла разгарнуў у праблемны артыкул "Апошнія парасткі рускай паэзіі"[32]. Крытык значна пашырыў праблематыку, выявіў філасофска-эстэтычны сэнс асноўных плыняў расійскай літаратуры. Сутнасць яе ўнутранага трагізму ён сімвалічна пазначыў як сутыкненне *"граху і малітвы"*, Венеры і Мадонны. Гэтая думка развіваецца ў тэатральнай рэцэнзіі У. Самойлы «Да спектакляў Вс. Эм. Мейерхольда: "Электра" Г. Гофмансталя і "Беатрыса" М. Метэрлінка»[33] Зрэдку крытык публікаваў у мінскім друку тэатральныя рэцэнзіі, апублікаваў артыкул "Гастролі М. Г. Савінай"[34].

У. Самойла быў шчырым і кампетэнтным прыхільнікам паэзіі Аляксандра Блока, некалькі гадоў (1909–1911) перапісваўся з выдатным паэтам, выступаў з лекцыямі пра ягоную творчасць. А. Блок у сваіх дзённікавых запісах адзначыў артыкул Самойлы пра сваю паэзію (друкаваўся ў альманаху "Туманы") як адзін з лепшых і кампетэнтных, паставіўшы яго поруч з рэцэнзіямі В. Брусава, Вяч. Іванава. Д. Філосафава. У. Самойла паспрабаваў свае сілы і ў паэзіі: надрукаваныя ім у "Минском курьере" ды іншых выданнях вершы маглі б скласці зборнік. Але Самойла-крытык, які меў дасканалы мастацкі густ, відаць, палічыў іх за паэтычныя штуды,

[32] Минский курьер. 1908. 24 лют., 5, 8 сак.

[33] Минский курьер. 1908. 11 сак.

[34] Минский курьер. 1908. 28 мая.

дзе адчуваюцца ўплыў А. Блока і К. Бальмонта. Прывяду адзін з іх ("Каралавая выспа"), які, здаецца, пераклікаецца з фрагментам сімволіка-медытатыўнага верша Максіма Багдановіча "Усплывае грамада сіфонафораў...":

*В просторе глухом океана*
*Из мертвой, глухой глубины*
*Поднялся коралловый остров*
*Над вечною зыбью волны.*

*Мириады ничтожных и глупых*
*Полипов миллионы веков*
*Росли, разрастались на трупах*
*Таких же ничтожных отцов.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Лишь грезится здесь о просторе,*
*О чарах туманной земли,*
*О бурях и шквалах на море,*
*Где гибнут в борьбе корабли*[35].

Верш "Лілії" пазначаны аўтарам як *"матыў Бальмонта"*.

*Белоснежные, чутко пугливые*
*В чуждом шуме людской суеты,*
*Подымают головки стыдливые*
*Белых лилий немые цветы.*

*Они помнят их родину дальнюю,*
*Помнят ширь многоводной реки...*
*Все в мечту превратилось печальную,*
*Вечно полную жгучей тоски...*

У 1909–1917 гг. У. Самойла, здаецца, перажыў цяжкі душэўны крызіс. З-за цэнзурных праследаванняў і фінансавых цяжкасцей закрылася апошняя ў Мінску яркая газета "Минский курьер". Выжылі толькі тыя выданні, якія прапаведавалі вялікадзяржаўны шавінізм ("Минское слово", "Северо-Западный голос") альбо дапасаваліся да буржуазнага рынку ("Минский голос", "Минская газета-копейка"). Пасля смерці бацькі Уладзіміру, відаць, прыйшлося

[35] Минский курьер. 1908. 5 сак.

заняцца гаспадаркай у фальварку Казіміраўка. У лісце да А. Блока (1911, 1 чэрвеня) ён з жалем пісаў: «*Шмат маіх планаў — назаўсёды ці часова — "захінулася жалобнай тафтой..." Апошнія два гады былі для мяне надзвычай цяжкімі, і цяжкасць гэтая не вырашылася і сёння хоць бы прыблізна*»[36].

Мы мала што ведаем пра творчасць пісьменніка гэтага "цёмнага перыяду" (1909–1917) яго жыцця. Паводле скупых звестак яго жонкі і сына для А. Бергман, у гады Першай сусветнай вайны У. Самойла быў мабілізаваны для працы ў дзяржаўнай хімічнай лабараторыі ў Мінску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ён быў выбраны ад партыі кадэтаў дэпутатам Мінскай гарадской думы. Восенню 1919 г., як ужо адзначалася, быў кандыдатам у "галосныя" Мінскага гарадскога савета. Гэты эпізод дае падставу перагледзець выснову А. Бергман, паводле якой у снежні 1918 г. Самойла пераехаў у Вільню[37]. Верагодна, пераезд адбыўся на год пазней, калі ў Мінску ўсталявалася савецкая ўлада, у якой, мякка кажучы, не было спачування да шляхціца і кадэта, нават калі той быў "рускамоўным" пісьменнікам.

Было яму тады каля сарака гадоў. У Вільні адаптаваўся без асаблівых цяжкасцей, бо ведаў беларускую і польскую мовы, меў знаёмых — Адама Станкевіча, польскага прафесара Мар'яна Здзехоўскага ды іншых. Яны дапамаглі яму атрымаць пасаду выкладчыка грэчаскай і лацінскай моў у гімназіі Ф. Велера. Даваў таксама прыватныя ўрокі; прафесар Здзехоўскі пасылаў сваіх вучняў да Самойлы як дасканалага знаўцы класічнай філалогіі. Жыў гэты сціплы настаўнік на рагу вуліц Людвісарскай і Баніфатарскай, 14/2, на кватэры з піяніна. У маладосці ён навучыўся іграць на гэтым інструменце, нядрэнна маляваў.

Вальсы і мазуркі ў выкананні адзінокага халасцяка зацікавілі суседку па кватэры, польскую віленянку, медсястру Софію Яніну Жылевіч. Вялікая розніца ў гадах не перашкодзіла ўзаемнай сімпатыі: маладой жа паненцы падабаўся высокі і шчуплы, шляхетны і адукаваны сусед. Вянчанне адбылося ў касцёле, паводле жадання жонкі-каталічкі. Уладзімір быў праваслаўным, але талерантным, не перашкаджаў, каб яго сына, таксама Уладзіміра, выхоўвалі на

[36] Нёман. 1979. № 11. С. 158.

[37] Bergman, A. Władimierz Samojło-Sulima wobec kwestii białoruskiej w Polsce międzywojennej. S. 658.

каталіка. Бацька быў першым настаўнікам свайго сына. Пра свае драмы і беды распавядаць не любіў, у добрым гуморы музіцыраваў і чытаў вершы. Іхняя сціплая кватэра ў паддашшы таго ж самага дома стала вядомай сярод дэмакратычнай інтэлігенцыі — беларускай, польскай, расійскай. Прыходзілі гімназісты і студэнты са сваімі вершамі, даследаваннямі. Досыць часта бываў там Браніслаў Тарашкевіч. Паводле меркавання А. Бергман, Самойла падаў яму ідэю — перакласці "Іліяду" на беларускую мову.

1921–1922 гады далі вялікі пад'ём заходнебеларускага нацыянальняга руху. Пасламі ў Сойм сталі 14 прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацый. Сціплы *"беларускі трыумф"* зрабіў моцнае ўражанне на Самойлу, і рэагаваў ён на гэтую падзею, як заўсёды, спантанна і энергічна: канчаткова далучыўся да беларускай справы, пачаў сам пісаць і гаварыць пераважна па-беларуску. Стаў прафесіянальным палітычным журналістам, адсунуўшы літаратурную крытыку на другі план. Друкаваўся пераважна ў левым друку, супрацоўнічаў з Л. Родзевічам. Я. Лагіновічам, Б. Тарашкевічам. Па сутнасці Самойла быў тады *"генератарам ідэй"* беларускага радыкальна-дэмакратычнага друку, выступаючы аўтарам рэдакцыйных матэрыялаў без аўтарства і праблемных артыкулаў. Найчасцей карыстаўся псеўданімам Суліма, бо лічыў сябе нашчадкам радаводу шляхціца Завішы Чорнага, які меў герб "Суліма".

На думку А. Бергман, гэтая ананімнасць адметнага публіцыста тлумачыцца, мабыць, тым, што да канца 1928 г. ён не меў польскага грамадзянства і ў любы час мог быць высланы з краіны. А можа, ён утойваў свой удзел у беларускім руху, бо жыў у асяроддзі "рускамоўнай" эміграцыі, якая *"прыкідвалася дурнем"*, імкнучыся перааканаць сябе і еўрапейскую грамадскасць, быццам бы нацыянальны рух беларусаў — гэта "рука" бальшавіцкай Масквы.

Публіцыстычным дэбютам У. Самойлы ў заходнебеларускім друку быў, здаецца, артыкул "Не чакайце міру", апублікаваны ў віленскай газеце "Незалежная думка" 11 ліпеня 1920 г. і падпісаны псеўданімам *Civis*, якраз напярэдадні паходу Чырвонай арміі пад Варшаву. Аўтар прадбачыў гэтую падзею і ганебны Рыжскі мір следам за ёю, раіў свайму народу: *"Дык не спадзявайцеся, беларусы, на чужынцаў, на канферэнцыі і лігі народаў, не чакайце міру і згоды без вас, а дабівайцеся панства ў сваёй старане"*. Крыху пазней ён выступіў з серыяй публіцыстычных нататкаў у расійскай

газеце “Виленское слово”. Дасціпна крытыкаваў дактрынёрства і фармалізм бальшавіцкай палітыкі і савецкага “ладу” (ці, хутчэй, бязладдзя). *«Працяглая “рэвалюцыйная свабода”*, — пісаў публіцыст, — *ператварыла краіну ў нявольніцкі рынак, а гістарычны народ — у бясформенную, этнаграфічную масу... Як пакутліва глядзець на гэтае гістарычнае адмаўленне і разам з тым дзівотныя, безнадзейна-недарэчныя пошукі формы па-за культурна-гістарычнымі нормамі ў няшчаснай Расіі”*, на гэтую *“савецкую таўкатню”, з якой нічога не выходзіць, апрача хіба што падноўленай бюракратыі. А бальшавікі толькі размахваюць гэты “маятнік д'ябла”, дарэмна праліваючы народную кроў, фатальна знішчаюць той самы чалавечы матэрыял, дзеля якога быццам бы пачалі рэвалюцыю, разбурыўшы цывілізаваныя формы грамадскага жыцця»*[38].

Праз год У. Самойла надоўга развітаўся з “расійскай тэмай”, але пэўны час цікавіўся жыццём у БССР, асабліва калі там пачаліся беларусізацыя і “ўзбуйненне” Беларусі за кошт яе спрадвечных Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Гэтай тэме ён прысвяціў артыкул у газеце “Наш сцяг”, адзначыўшы за бальшавікамі станоўчую рысу — прызнанне сваіх памылак у дачыненні да Беларусі, дзе яны раней арыентаваліся на антыбеларускі лямант *“сваіх жа рэнегатаў ці наезжых (краёвых) культуртрэгераў з адукацыяй царкоўнапрыходскіх школаў і хэдэраў”*[39].

Галоўным ягоным клопатам заставаліся культурнае ўзгадаванне і нацыянальнае самавызначэнне Заходняй Беларусі, бо яна ўяўлялася пісьменніку палітычнай арэнай, дзе вырашаецца лёс нацыі, яе будучыня. Невыпадкова першай газетай, дзе Самойла выявіўся як дальнабачны палітык, была газета “Наша будучыня” (1923). Там ён дасціпна выкрываў псеўдарадыкальную партыю “Вызваленне”, якая абараняла інтарэсы польскіх службоўцаў, асаднікаў і апалячаных беларусаў, не без поспеху прымяняючы тактыку мімікрыі — падробкі пад беларускі адраджэнскі рух[40]. У. Самойла назваў асадніцтва *“гішпанскім каўняром”* на шыі Беларусі, *“адным з самых ядавітых скарпіёнаў”*, якім польская ўлада

[38] Виленское слово. 1920. 28 кастр.

[39] Аб граніцах Радавай Беларусі // Наш Сьцяг. 1923. 12 жн.

[40] Суліма. Што такое “Wyzwolenie” з беларускага пункту погляду? // Наша Будучыня. 1923. 20 студз. — 11 лют. № 3–6.

думала прывязаць да сваёй дзяржаўнасці сялянскую Беларусь. Асадніцтва, паводле яго дасціпнага вызначэння, — гэта спроба ажывіць “ідэю” аракчэеўскіх вайсковых пасяленняў, узгадаваць *“польскае казацтва на беларускіх сялянскіх плячах”*. Прычыну поспеху гэтага “фальсіфікату” на выбарах у Сойм (з 40 мандатаў ад беларускага насельніцтва “Вызваленне” атрымала амаль палову — крыху больш, чым Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт) публіцыст бачыў у тым, што адміністрацыя і манапольная прэса зрабілі ўсё, каб не дапусціць на рынкі ідэй *“аўтэнтычны прадукт самастойнай палітычнай думкі — уласную беларускую нацыянальную і сацыяльную ідэалогію”*.

Пазней пісьменнік мабілізаваў усю сваю эрудыцыю, красамоўніцкі талент, урэшце, моцны тэмперамент палітычнага барацьбіта, каб удыхнуць у беларускае грамадства дух аптымізму і творчую энергію, выкрыць дэнацыяналізатарскую палітыку “месіянскіх” нацый на Беларусі. Напісанае восенню 1923 г. на высокім творчым напружанні сацыяльна-этычнае эсэ “Гэтым пераможаш! (Нарысы крытычнага аптымізму)” было другім адраджэнскім прароцтвам пра Беларусь, якой здрадзіла “дэмакратычная” Еўропа, а падзялілі паміж сабою бальшавіцкая Расія і панская Польшча. Першым падсумаваннем духоўнага вопыту беларускай нацыі быў сацыяльна-філасофскі нарыс Ігната Абдзіраловіча (І. Канчэўскага) “Адвечным шляхам (Даследзіны беларускага светапогляду)” (1921), нядаўна перадрукаваны ў зборніку “Вобраз-90”[41].

Пераказваць гэты твор Самойлы бадай што немагчыма, бо ён сваім вобразным, экспрэсіўным стылем набліжаецца да *“паэмы ў публіцыстыцы”*. Гэтае прароцтва Сулімы мне бачыцца ў двух аспектах — нацыянальна-беларускім і сусветным. Беларускі *“крытычны аптымізм”* выявіўся ў пераканаўчым доказе той праўды, што двум асімілятарам — псеўдарэвалюцыянерам, што марылі пра безнацыянальны камуністычны *“рай на зямлі”* і контррэвалюцыянерам, якія з эгаістычнай інфантыльнасцю абвясцілі канфедэратыўную шляхецкую Рэч Паспалітую да яе “разбору” ў канцы XVIII ст. польскай унітарнай дзяржавай і спрабавалі адрадзіць сваю няспраўджаную імперыю, — ніколі не ўдасца сцерці з твару зямлі Беларусь, бо яна засведчыла сябе самабытнаю моваю, культураю і прагай да самавызначэння.

---

41 Вобраз-90: Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, 1990. С. 43–85.

Другое прароцтва пацвярджаецца сусветнай гісторыяй. Паступальнае развіццё чалавека і грамадства, сусвету і асобнага рэгіёна абумоўлена стваральнаю працай, творчым напружаннем, якія ўзгадоўваюцца культурнаю эвалюцыяй. Усе гвалтоўныя рэвалюцыі, контррэвалюцыі і войны (што ўрэшце — адно і тое ж) заўсёды прыводзілі народы да варварства, паніжэння ўзроўню чалавечага тыпу. Чалавек і чалавецтва выратуюцца праз творчасць і працоўную энергію, што нараджаюць радасны, рэлігійна-прасветлены аптымізм, так неабходны людзям і нацыям у часы іх грамадскага і духоўнага крызісу.

Сацыяльная этыка Сулімы апіраецца на філасофскі аптымізм Г. В. Лейбніца (1646–1716), І. Г. Фіхтэ (1762–1814) і, мабыць, часткова на хрысціянскі экзістэнцыялізм, пачынальнікам якога быў расійскі філосаф М. Бярдзяеў (1872–1948). Асноўная думка публіцыста месціцца ў формуле: творчыя адносіны да быцця — гэта не фізічнае знішчэнне “зла”, а яго пераўтварэнне ў дабро. Паняцце “зло” тут бярэцца ў двукоссе, бо ў сацыяльна-палітычнай барацьбе дабро і зло найчасцей ацэньваюцца людзьмі, саслоўямі і народамі не этычна *sub specie aeternitatis* (з пункту погляду вечнасці), а з гістарычна абмежаваных, прыватных, вузканацыянальных ці класавых інтарэсаў.

Свет гэты і жыццё ў ім не ёсць дасканаласць, і наш маральны імператыў — якраз у тым, каб удасканальваць іх. Сацыяльныя інстытуты, грамадскія з’явы і людскія ўчынкі заўсёды будуць недасканалымі, бо ў свеце ёсць толькі дынамічная апазіцыя дабра і зла, іх барацьба. Возьмем, напрыклад, інстытут прыватнай уласнасці. У якасці маральна апраўданай працоўнай энергіі яна — бясспрэчнае дабро, бо з’яўляецца ўмовай ініцыятывы, прадпрымальніцтва, урэшце, гарантам асабістай свабоды. Але ёсць “*першародны грэх*” прыватнай уласнасці, яе “*каінаў пачатак*”: маральна неапраўданая актыўнасць, самасцвярджэнне за кошт іншых, абмежаванне іх творчай ініцыятывы. Банальна кажучы, — эксплуатацыя, жорсткая барацьба за выжыванне. Гэта — жывёльны пачатак і хутчэй “прырода”, чым культура. Вось тут і пераконвае аўтар эсэ “Гэтым пераможаш!..”: гвалтоўнае, “рэвалюцыйнае” разбурэнне прыватнай уласнасці не вырашае праблемы сацыяльнай справядлівасці, а ўскладняе яе. Адабраная рэвалюцыяй прыватная ўласнасць, дабавім мы, альбо дзеліцца паміж вытворцамі

і спажыўцамі, альбо перадаецца дзяржаве, абвяшчаецца "агульнанароднай". У першым выпадку грамадства вяртаецца да стадыі "*першапачатковага назапашвання*", г. зн. да "першабытнага" капіталізму. У другім выпадку дзяржаўна-бюракратычны апарат становіцца ўласнікам-манапалістам і пераходзіць да неэфектыўнай вытворчасці праз шматлікі інстытут "наглядчыкаў". Добрыя мэты рэвалюцыі — "*свабода, роўнасць, братэрства*" пераходзяць у сваю супрацьлегласць — усеагульнае рабства.

Другі прыклад — з гісторыі народаў, іх узаемаадносін. Па неабходнасці схематызуючы рэальныя працэсы, можна сказаць: амаль уся гісторыя чалавецтва была барацьбой — часам мірнай, а найбольш узброенай — за развіццё этнічнай, нацыянальнай самабытнасці, з аднаго боку, і за станаўленне буйных шматнацыянальных імперый — з другога. Без "*злога пачатку*", на жаль, няма гісторыі. І пачалася яна, паводле біблейскай легенды, з "грэхападзення" чалавека, яго імкнення да самапазнання праз свой уласны трагічны вопыт. Сутнасць чалавека — ёсць свабода як для дабра, так і для зла. Спрадвечная парадыгма гісторыі — біблейскі міф пра Каіна і Авеля: па зайздрасці "*паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго*" (Быццё 4, 8). Калі б чалавек быў "запраграмаваны" толькі на дабро, то жыў бы не ў свабодзе і гісторыі, а ў неабходнасці і прыродзе. Мікалай Бярдзяеў неяк заўважыў, што без свабоды зла не было б гісторыі, бо яна "пачалася б" і "закончылася б" не з пачатку, а з канца[42].

Сёння паняцці "імперыялізм", "нацыяналізм", "касмапалітызм" у нашым "савецкім", а часам і "еўрапейскім" слоўніках набылі негатыўны ідэалагічны сэнс, што само па сабе сведчыць не на карысць нашай навукі і грамадскай свядомасці. Але што такое імперыя Аляксандра Македонскага, Рымская імперыя ці больш раннія імперыі Егіпецкая, Асірыйская, Вавілонская альбо новыя імперыі Французская, Іспанская, Брытанская, урэшце, Расійская? Без іх не было б ні Інтэрнацыянала, ні сучаснай аб'яднанай Еўропы, ідэі новага сусветнага парадку. Без "імперыялізму" свет застаўся б на ўзроўні ізаляваных і варожых паміж сабою дзяржаўполісаў, а ў адсталых рэгіёнах — племянных аб'яднанняў! Але, з другога боку, ва ўсіх імперыях быў і застаўся "*першародны*

---

[42] Бердяев, Н. Смысл истории: Опыт истории человеческой судьбы. 2-е изд. Париж. 1909. С. 39.

*грэх*" — іх аб'ектыўная тэндэнцыя да уніфікацыі ўсяго і ўсіх: не толькі тэхналогіі, сродкаў зносін, эталонаў "*меры і вагі*", але і мовы, культуры, побыту. Урэшце адбывалася ўсё тая ж самая біблейская драма: Каін забіў Авеля, брата свайго... Асімілюючы і паглынаючы іншыя народы і культуры, імперыялістычныя нацыі "самараспыляюцца", падпадаюць пад "*нацыянальную энтрапію*". Чалавечая індывідуальнасць рэалізуецца толькі ў сацыял-духоўным адзінстве з іншымі самабытнымі асобамі. Гэтаксама народы і нацыі — у агульначалавечым, зямным доме.

Філасофскае эсэ У. Самойлы "Гэтым пераможаш!.." як быццам бы пісалася па заказе нашай сучаснасці. Як быццам сёння чытае ён лекцыю пра пераўтварэнне сусветнага зла творчым парывам, пераўтварэнне яго ў дабро. Пра тое, што не выратуе нас ні рэвалюцыя, ні контррэвалюцыя, а толькі працоўная энергія і духоўны аптымізм. Сістэма лагічных доказаў гэтага самабытнага філосафа і этычнага сацыёлага грунтуецца на пастулаце, паводле якога жыццё ёсць нічым не абгрунтаваны, прыроджаны аптымізм. Гэтая стыхійная вера ў быццё спараджае духоўна-творчую актыўнасць, якая, каб быць плённай, кіруецца "*прынцыпам эканоміі сілы*". Паводле гэтых крытэрыяў, Самойла выдзяляе два культурнагістарычныя тыпы — усходні, альбо "фаталістычны", і заходні, альбо "актывістычны". Для першага тыпу ўсе праявы дабра і зла, усе гістарычныя дзеі — "*вытвор Прыроды, Лёсу, Бога*" ці іх "намеснікаў" на зямлі ў постацях дзяржаўнай улады, у якой бачаць не палітычную функцыю грамадства, а звышсацыяльную, надграмадскую субстанцыю. Наадварот, для "заходняга" тыпу культуры і светапогляду характэрна, што сам чалавек не толькі стварае для сябе ўмовы творчага самавыяўлення і нясе ў самім сабе свой уласны лёс, але і сам стварае палітычную ўладу і стаецца сам як быццам бы сваім "*уласным Богам*"[43].

Філосаф агітуе свой народ ісці па шляху заходняга "актывізму". Бо асноўны змест нацыянальнай ідэі такіх паднявольных і падзеленых народаў, як беларусы, ёсць свабода і воля да жыцця. Спасылаючыся на французскага сацыёлага Рэнана, ён любіў паўтараць: нацыя — гэта "*штодзённы плебісцыт*". Кожную сваю ўласнасць, кожнае сваё права яна павінна адваёўваць нанава. У гэтай барацьбе перамагае

---

[43] Суліма. Гэтым пераможаш!.. // Заходняя Беларусь. Вільня. Кн. 1. 1924. С. 16–17.

толькі высокая духоўная і працоўная актыўнасць. У заключэнне свайго прароцтва У. Самойла звярнуўся да беларусаў: *“Дзяржыся за сваё роднае карэнне, беларускі народзе! Бо на гэтым камяні збудуе для цябе Бог Царкву сваю, і вароты пякельныя не перамогуць яе!”* Гэта — перыфраза звароту Хрыста да апостала Пятра (Евангелле паводле Мацвея 16, 18).

Следам за Фіхтэ беларускі філосаф пераконваў, што асноўны чыннік, які злучае народ, ёсць і яго багатая самабытная родная мова. *“Беларуская мова сведчыць пра беларускі народ”*, — паўтараў ён. Але У. Самойла недастаткова апіраўся на яшчэ адну аснову нацыі — яе тысячагадовую гісторыю. Да пэўнага часу яму не хапала ведаў у беларускай гісторыі. У другой палавіне 1920-х гг. ён пазбавіўся і гэтага недахопу, чаму, відаць, садзейнічала супрацоўніцтва з Антонам Луцкевічам ды іншымі сябрамі Беларускага навуковага таварыства ў Вільні.

Цікавая наступная дэталь: адным з першых рэцэнзентаў гэтага твора Самойлы быў яго мінскі знаёмы, журналіст, паэт і перакладчык Дарафей Бохан. Ён станоўча ацаніў эсэ “Гэтым пераможаш!..”, адно зрабіў закід: *«калі гэтая праца пісалася для агітацыі, то “маленькім” людзям не патрэбныя Фіхтэ, Гегель, іхняя філасофія»*[44]. Д. Бохан памыляўся. Прарочае эсэ пісалася для свядомых беларусаў, дзеячаў нацыянальнага адраджэння, дзе, як вядома, няма месца для “маленькіх”.

У яркіх артыкулах, што друкаваліся на старонках заходнебеларускіх газет “Наш сцяг” (1923), “Змаганне” (1923–1924) ды іншых выданняў, У. Самойла развіваў думкі свайго філасофскага твора, прымяняў іх для аналізу польскай і еўрапейскай палітыкі. Ён выкрываў рабскую залежнасць Польшчы ад Францыі ды іншых пераможцаў Германіі, у той час як польская эканоміка шмат выйграла б ад традыцыйных сувязей з Нямеччынай. Французская дыктатура не дае Польшчы выбавіцца ад *“паралiча фінансава-эканамічнай волі”*, урэшце, ставіць самы працавіты ва ўсім свеце нямецкі народ у *“такія варункі жыцця, што ён не можа працаваць, а змушаны ваяваць”*[45]. Прадбачыў ён і перамогу фашызму ў Італіі, выкрываў рабаўніцкую палітыку былой Антанты і дэмагогію Мусаліні[46].

[44] Виленское утро. 1924. 10 студз.

[45] С. Ці разумеюць? // Наш Сьцяг. 1923. 7 вер.

[46] С. Драматычны мамэнт // Наш Сьцяг. 1923. 11 вер.

У шэрагу публіцыстычных артыкулаў ("Новы зварот у справе Рура", «Пяты год "версальскай" Еўропы», "Адзнакі працверажання", "Што дадуць новыя выбары ў еўрапейскія парламенты?" і інш.), апублікаваных у газетах "Наш сцяг", "Змаганне" і "Голас беларуса" (1923–1924), У. Самойла грунтоўна раскрыў эканамічныя і палітычныя фактары, якія руйнавалі мірнае жыццё Еўропы і фатальна вялі да сусветнай вайны. Наогул, гэты нікому невядомы ў Еўропе напаўананімны палітычны аглядальнік валодаў тонкай прагнастычнай інтуіцыяй. У нарысе "Шляхам катастрофаў (Сусветнае значэнне японскай катастрофы)"[47] ён прадбачыў, што пасля гіганцкага вывяржэння вулканаў Японія пачне вызваляцца ад ярма еўрапейскага імперыялізму, раскрые творчыя магчымасці *"азіяцкай душы"*, пачнецца адраджэнне яе самабытнай культуры і ўрэшце гэтая краіна стане магутным канкурэнтам *"англа-амерыканскай сусветнай дыктатуры"*.

Не пакідаў ён выкрываць згубныя для славянскага свету вынікі грабежніцкага Рыжскага міру 1921 г. і каланіяльную палітыку польскага нацыяналізму на Беларусі. Крытыкуючы няздольнасць тагачаснай Польшчы справіцца з валютным крызісам, Самойла станоўча ацаніў "залатую" рублёвую рэформу ў СССР[48]. У гэтых публікацыях яскрава выявіўся талент Самойлы як палітычнага фельетаніста. Рыжскі мір 1921 г. ён назваў *"вердыктам новага Саламонава суду"*, хоць ні адзін з бакоў (Расія і Польшча) не быў сапраўднай маці беларускага дзіцяці.

Вось яшчэ адзін прыклад. Рэдактар польскай газеты "Dziennik Wileński" з нямецкім прозвішчам Ёган Обст бараніў каланізатарскія інтарэсы *"мясцовага польскага люду"* на беларускіх "усходніх крэсах" і адначасова выкрываў польскіх каланістаў "заходніх крэсаў", далучаных да Польшчы паводле Версальскага міру. Тады У. Самойла апублікаваў фельетон "Два Обсты ў адной галаве (Спроба дыягназу нейкай нечуванай хваробы)"[49]. Нямецкае слова *Obst* азначае садавіну, фрукты. Два розныя "фрукты", дасціпна пісаў публіцыст, як два супярэчлівыя паняцці пра дзве аналагічныя з'явы, змяшчаюцца не толькі ў слабых галовах рэдактараў польскіх газет, але і ў цэнтральнага, варшаўскага Обста. І тым не менш ён

[47] Наш Сьцяг. 1923. 30 вер. — 3 кастр.
[48] С. Радавы чырвонец і польскі "złoty" // Наш Сьцяг. 1923. 6 кастр.
[49] Наш Сьцяг. 1923. 10–12 кастр.

кіруе вялікай дзяржавай, хоць такія галовы ў псіхіятрыі называюць ідыятычнымі. Але гісторыя ўрэшце *"выправіць мазгі"*. Цыкл дасціпных артыкулаў, выдадзеных у брашуры «Які "самаўрад" гатуе беларускаму народу Польская Рэспубліка?» (1924), Самойла прысвяціў выкрыццю каланіяльнай сутнасці псеўдавыбараў у мясцовыя органы "самакіравання".

Сапраўдным журналісцкім подзвігам У. Самойлы стала ананімная кніга-рэпартаж (394 друкаваныя старонкі!) аб працэсе 45 беларусаў у Беластоку. Маладых адраджэнцаў абвінавачвалі ў стварэнні падпольнай арганізацыі ў Бельскім, Беластоцкім і Сакольскім паветах з мэтай аддзялення ад Польшчы шляхам узброенага паўстання часткі дзяржаўнай тэрыторыі Польскай Рэспублікі і стварэння з адарваных зямель незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Справа разбіралася 14–22 мая 1923 г. Суд даказаў, што ідэя незалежнасці была, але не было ні ўзброенага паўстання, ні ўзброеных паўстанцаў. Тым не менш маладыя кіраўнікі падпольнай арганізацыі (Сяргей Баранаў, Вера Маслоўская, Ігнат Матэйка) былі асуджаны на 6 гадоў, а тыя, хто ім дапамагаў, — на меншыя тэрміны астрогу і штрафы.

Аўтар гэтай унікальнай кнігі працаваў апантана і ў тым жа 1923 г. апублікаваў яе. Ён убачыў у гэтай падзеі сутыкненне дзвюх нацыянальных ідэй: беларускай (адраджэнне народа, стварэнне суверэннай Беларусі) і польскай, што грунтавалася на міфе пра Вялікую Польшчу *"ад мора і да мора"* ды польскае "месіянства" на Беларусі. У гэтым сутыкненні перамагла польская ідэя, бо ідэя беларуская толькі абвясціла сябе, не маючы сродкаў для свае рэалізацыі. Але ёсць вышэйшы, духоўны сэнс перамогі і паражэння, якія не заўсёды адэкватны іх "матэрыяльнаму" і палітычнаму зместу. Прарок беларускай ідэі мудра, па-хрысціянску казаў: *"Ёсць свае ўрокі і свае надзеі ў паражэнні, як ёсць таксама небяспека духоўнага паражэння ў перамозе"*. На судзе адбылося новае, духоўнае сутыкненне гэтых ідэй. Маральная перамога аказалася на баку Беларусі. У. Самойла прысвяціў гэтую кнігу *"роднаму беларускаму народу"* і як напамінак — тым палякам, якія выракліся гэтага сваяцтва[50].

Тэму беларускай ідэі У. Самойла развіваў (цяпер ужо ў гісторыка-культурным кантэксце) у артыкуле "Праф. Здзехоўскі аб беларускай

50 Працэс 45-ці беларусаў у Беластоку (паводле справаздачы спецыяльнага карэспандэнта). Вільня, 1923. С. V—VII, 4.

душы"[51], які быў перавыдадзены асобнай брашурай (1924). Падставай паслужыла лекцыя польскага прафесара "Уладыслаў Сыракомля. Літоўска-беларускі элемент у польскай творчасці", прачытаная ў Віленскім універсітэце 8 снежня 1923 г. З усёй гарачай заўзятасцю сваёй натуры крытык выкрывае тут "духоўны імперыялізм" месіянскіх нацый, што нават у XX ст. працягвалі абкрадваць і нават адмаўляць гісторыю і культуру беларускага народа. Ён развівае сваю ранейшую думку пра неабходнасць нацыянальнага аптымізму і прарочыў нараджэнне Беларусі *"новай, моцнай, радаснай, адзетай у сонца"*[52].

Не пакінуў Самойла без увагі і нацыянальна-рэлігійную праблематыку на Беларусі. Паводле свайго светаўспрымання паэта і эстэта ён схіляўся да пантэізму, але высока цаніў трагічны аптымізм хрысціянства, а ў нацыянальнай царкве бачыў інструмент беларускага Адраджэння, яднання народа, сімпатызаваў руху за аднаўленне царкоўнай уніі[53].

Радыкалізм палітычных выступленняў Самойлы, яго актыўнае супрацоўніцтва ў "левым" друку можа прывесці чытача да памылковай высновы, быццам ён салідарызаваўся з Кампартыяй Заходняй Беларусі, праца якой фактычна кантралявалася з Масквы і Мінска. А на самай справе яны былі антыподамі. У. Самойла — прыхільнік дыялектыкі, але хутчэй фіхтэўска-гегелеўскай, чым марксісцка-ленінскай. У матэрыялізме і бальшавізме ён бачыў упадак духу культуры, а не іх завяршэнне. Рашуча выступаў супраць падзелу "забраных" народаў на варожыя класы і партыі, за адзінства нацыянальна-адраджэнскага руху. Камуністы — за рэвалюцыю і класавую барацьбу, Самойла — за духоўна-творчую эвалюцыю і нацыянальную салідарнасць. Пісьменнік супрацоўнічаў з Таварыствам беларускай школы і Грамадой (БСРГ), сябраваў з Б. Тарашкевічам, іншымі дзеячамі беларускага руху. Але не прымала яго сэрца тых, хто паслухмяна выконваў месіянскапралетарскія дырэктывы бальшавікоў.

У шэрагу артыкулаў У. Самойла разгадаў супярэчнасць дэмакратычных інстытутаў адроджанай Рэчы Паспалітай у пачатку 1920-х гг. Напрыклад, Сойм выбіраўся на аснове прадстаўніцтва ад

---

[51] Змаганьне. 1923. 23 снеж.

[52] Суліма. Праф. Зьдзехоўскі аб беларускай душы. Вільня, 1924. С. 20.

[53] Privatisimus. Unia w przeszłości i przyszłości // Przegląd Wileński, 1929. № 7–8. S. 9.

усіх нацыянальнасцей краіны, а паводле задумы "айцоў" польскай дэмакратыі вырашаць дзяржаўныя справы павінны былі палякі. Ад усіх паслоў, сенатараў, іншых урадаўцаў патрабавалася лаяльнасці адзінай *"польскай нацыі"*. Пісьменнік прадбачыў немінучы крызіс такой *"парламенцкай дэмакратыі"*, папярэджваў Беларускі клуб Сойму, што кампрамісы з такой *"дэмакратыяй"* павінны мецъ свае межы, за якімі пачынаецца стратэгія беларускага Адраджэння — барацьба за нацыянальны суверэнітэт.

Пяць гадоў (1922–1927) пісьменнік змагаўся за адзінства беларускага руху. Калі ж беларускія арганізацыі і групоўкі пад націскам прапаганды класавай барацьбы пачалі ўзаемнае "самаедства", выступіў з адкрытым лістом, заявіў аб сваім фармальным выхадзе з усіх беларускіх арганізацый[54]. Гэты дакумент — запавет усім, былым і сучасным, беларускім адраджэнцам.

Пасля ваеннага перавароту ў Польшчы (май 1926), пасля таго, як Пілсудскаму ўдалося за адзін год падавіць разрозненыя беларускія арганізацыі, У. Самойла адышоў ад актыўнага ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці. Супрацоўнічаў у нямецкім "Штогодніку славянскай культуры і гісторыі" (1928–1929), друкаваў у беларускім і польскім друку рэцэнзіі і праблемныя артыкулы, прысвечаныя гісторыі і сучаснаму стану беларускай культуры.

Пра беларускае культурнае адраджэнне У. Самойла не забываў і раней, у разгар палітычнай барацьбы. Яшчэ тады ён апублікаваў цікавую рэцэнзію на малавядомую (а сучаснаму чытачу, мабыць, зусім невядомую) незакончаную аповесць мастака Язэпа Драздовіча "Вар'ят без вар'яцтва", якая друкавалася ў віленскім выдавецтве Б. А. Клецкіна пад псеўданімам Язэп Нарцызаў[55]. Зрэдку друкаваў нататкі пра беларускі тэатр у Вільні. У грунтоўнай рэцэнзіі на першыя шэсць нумароў беларускага часопіса "Крывіч" (Коўна)[56] даказваў, што *"палітыка для нас павінна быць усюды толькі спосабам для павелічэння культурнага багацця народу"*.

У 1930-я гг. вынікі сваіх даследаванняў гісторыі і культуры Беларусі падсумаваў у артыкуле "Вялікі скарб нашай старасветчыны"[57]

[54] Наша праца. 1927. 22 кастр.

[55] Суліма. Гаспадарства кветак васілька на заваяваньне места // Змаганьне. 1923. 28 кастр. — 2 ліст.

[56] Голас беларуса. 1924. 17, 22 мая.

[57] Калосьсе. 1938. № 2. С. 77–80; № 3. С. 138–144.

пра 750-я ўгодкі “Слова пра паход Ігараў”. Каб аднавіць гістарычнае жыццё беларускага народа, даказваў Самойла, неабходна вярнуць нацыі яе гісторыю і шматвяковыя набыткі культуры, а гэта магчыма толькі на грунце нацыянальнай самастойнасці. У часопісе “Калоссе” пад псеўданімам Ул. Чэмер друкаваў літаратурныя партрэты Ф. Шаляпіна, А. Грачанінава, нататкі пра беларускі хор Р. Шырмы, па гісторыі беларускага мастацтва.

Арыгінальны пісьменнік, публіцыст і філосаф, таленавіты настаўнік, па сутнасці прафесар, якім магла б ганарыцца кафедра культуры ці паліталогіі еўрапейскага ўніверсітэта, Уладзімір Самойла ў забраным заходнебеларускім краі сціпла жыў за кошт школьных урокаў і амаль што падпольнай публіцыстыкі.

Калі ў верасні 1939 г. Чырвоная армія заняла Вільню, У. Самойла разам з А. Луцкевічам, А. Уласавым, іншымі беларускімі дзеячамі адмовіўся ехаць у эміграцыю. Яны заявілі, што хочуць супрацоўнічаць з новаю ўладай дзеля духоўнага адраджэння Беларусі. Але не былі пачуты бальшавікамі. 8 кастрычніка 1939 г. пісьменніка арыштавалі энкавэдысты на яго кватэры ў Вільні. Спачатку У. Самойла пакутаваў у сумна вядомых віленскіх Лукішках, пасля яго адправілі па этапе у Вілейку, пазней у Мінск. Адтуль не вярнуўся. Бо адтуль ніхто не вяртаўся.

## ЯНУКУ КУПАЛЕ

В ответ на поздравление с новым 1907 годом[58]

Спасибо, дорогой товарищ,
За новогодний Ваш привет.
Средь злобы, крови и пожарищ
У нас еще живет поэт.
За Ваши милые желанья
Признателен глубоко Вам.
Но нет — для нас нужней страданья, —
Они в удел достались нам.
Мы, обреченные на муки,
Рождаем в муках красоту;
Лишь верить бы, что эти звуки
Пробудят светлую мечту,
Что пробудят они во звере
И в торжествующем скоте
Тоску по правде, чести, вере,
Любви и вечной красоте,
Что песни о страданьях брата
Найдут свой отклик хоть на миг
В ушах аграрного кастрата,
Что хама тронет этот крик,
Что тот, кто жизнь во хмеле пира
И в скотской пошлости провел,
Поймет призыв иного мира,

58 Друкуецца паводле: Пуцявінамі Янкі Купалы: дакументы і матэрыялы / уклад. Г. В. Кісялёў. Мінск, 1981. С. 51–52. Яшчэ два арыгінальныя рускамоўныя вершы і перакладзены Уладзімірам Самойлам “Беларусу” Янкі Купалы выдрукаваныя ў кнізе Ісідара Баса “Падарожжа ў літаратурнае мінулае” (Мінск, 1971. С. 229–231).

Что уж грядет, хоть не пришел.
Поэт и верит и не верит:
То счастлив, то страдает он,
То ужас правды в миг измерит,
То ложью божьей опьянен…
Он видит здесь иную братью,
Душ сильных, словно стали твердь;
Они, бесстрепетною ратью,
Идя, для жизни сеют смерть.
Они не знают ни сомнений,
Ни веры, что горит на миг;
Железом твердых убеждений
Губя, творят. Есть сила в них.
Он содрогается пред кровью,
Хоть те ведут куда и он…
Своей ужасною любовью
Они страшат… Поэт смущен…
Он говорит: ведь то — далеко,
Что будет в дивной той стране,
О том мечтаю, но глубоко
За человека страшно мне…
Так было, будет в каждом веке:
Поэт хранит святую нить,
Чтоб всё, что Божье, в человеке
В борьбе кровавой сохранить.
И Вам желаю я участья
В судьбе поэта: эту нить
Хранить, скорбя… — и столько счастья,
Чтоб только… можно было жить.

# ВЕЛИКИЙ ПРАЗДНИК. “ЖАЛЕЙКА” ЯНУКА КУПАЛЫ[59]

*Гэта крык, што жыве Беларусь!*

На улице Молодой Белоруссии праздник! Солнце живой настоящей поэзии заглянуло в оконце темной, бедной, но великой хаты белорусского народа!

Звуки “Жалейки” (свирель), проникнутые истинной человечностью, живой любовью и жалостью к родному белорусскому миру, вырвались из народного сердца — из уст национального поэта, отныне стали национальным сокровищем для белоруса, стали могучим рычагом для его умственного и нравственного развития.

[…] Теперь зазвучал самостоятельно и властно собственный голос печальника-народа со всеми его великими страданиями, со всеми малыми радостями, со всей могучей, только что пробудившейся верой в свою будущую долю, в свое право на жизнь, на волю, на счастье! Те, кто раньше сомневался, сам ли белорусский народ хочет своей белорусской доли, своего белорусского счастья, — теперь должны признать, что этот голос настоящий, неподдельный, выходящий из самой глубины народной души. *“Гэта крык, што жыве Беларусь!”*. Он должен признать, что теперь белорусы сами за себя *“нясуць сваю крыўду на сьвет цэлы”*, что они *“агромністай грамадой”*, восемь миллионов, сами захотели *“людзьмі звацца”*.

И это факт громадной важности. Недавний весенний *“вецер вольны, што па горах скача”* и только что пережитые *“бурлівыя паводкі… што вясною час кароткі… залівалі, затаплялі” “родную зямельку” — “навеялі, нанесьлі”* все эти *“думкі, думкі-весялушкі”*, что в сердце поэта, *“нібы птушкі, песьняй азваліся”*, как он говорит в прелестном стихотворении “Да сваіх думак”. И эти *“думкі-весялушкі”*, эти *“птушки”* родной поэзии разлетаются по всей *“роднай зямельцы”* и, чаруя своей близкой народному сердцу родной красотой, неизмеримо больше сделают для народного самосознания и духовного роста, чем десятки обрусительных школ и тысячи поповских проповедей и ксендзовских казаний.

И тот, кто хочет, чтобы народ действительно жил и развивался, рос и богател духовно, а не только исполнял разные казенные и панские повинности, должен всеми силами способствовать

[59] Друкуецца паводле: Александровіч, С.; Александровіч, В. Беларуская літаратура XIX — пачатак XX ст. С. 231–234. Упершыню апублікавана ў: Минский курьер. 1908. № 113.

распространению этой небольшой книжки, которой предстоит большая будущность.

Мы присутствуем при историческом событии, чрезвычайной для края важности. Белорусская песня из области этнографии переходит в область литературы; белорусский народ из объекта фольклористического изучения становится субъектом национального самосознания. И “Жалейка” Янука Купалы — одно из несомненных доказательств этого крупного факта.

Целый ряд поэтических песен оплакивает теперешнюю горькую долю белоруса, его бедность, темноту, угнетение с двух сторон — чиновником и паном. […]

Но поэт, а значит, и народ не отчаиваются. При всем безотрадно горьком тоне многих песен о мужицкой доле, о зиме и осени есть целый ряд прекрасных добрых и сильных песен о войне, проникнутых горячей верой в могучую силу солнца, света, весны, в их торжество над мраком и холодом, — песен, исполненных верой в будущее родного края, в лучшую долю родного народа.

Поэт твердо верит, —

*Што вясна наша гора, як сьнег і завею,*
*Пахавае ў рацэ, спале сонца агнём!..*

В бодром стихотворении “Песьня аб песьнях” поэт, веруя в свое великое дело, советует дорожить родной песней, которую потом не вырубишь топором из сердца народного, говорит:

*Блізкі той дзянёк, калі*
*Шчасна запануем,*
*Станем самі мы людзьмі*
*І край адбудуем!*

И к этой громадной работе *“адбудаваньня краю”* — создания народной доли поэт и зовет *“свой люд”*. Он зовет не поддаваться нудеотчаянию, а *“працаваць за траіх, каб ня дацца нудзе!”*.

[…] И в этой деятельной тенденции, в этом живом сознании народного единства, в проповеди любви и солидарности — громадная воспитательная ценность поэтического творчества Янука Купалы, отразившего в себе лучшие свойства умного и много научившегося за долгие годы гнета белорусского народа.

*Грамада — вялікі гмах:*
*Адзін ляжа, сто ідзе,*
*А хто-ж роўны грамадзе? —*

Восклицает он в прекрасном стихотворении “Касцу”. Сознание рабочей силы, трудовой ценности, человеческого достоинства своего народа внушает поэту целый ряд прекрасных стихотворений боевого полемического характера, где есть прекрасные сильные строки:

*Кажуць, крыўджу людзей,*
*Ах, каб іх-жа багі! —*
*Ці-ж ня з працы маей*
*Карыстае другі!?*

Целый ряд картин крестьянского быта и белорусской природы (дивное стихотворение “Гэта крык, што жыве Беларусь”), образы родных березок, “Вольха”, “Ліпа” нашли себе прекрасное поэтическое выражение, проникнуты глубокой теплотой и любовью к бедной забитой родине:

*Невясёлая старонка*
*Наша Беларусь,*
*Людзі: Янка ды Сымонка,*
*Птушкі: дрозд ды гусь…*

Из действительно грубого и необработанного белорусского языка поэт, воспитанный и выработавший свой стих на лучших образцах русской и польской поэзии, делает просто чудеса. В этом убедится каждый, кто прочтет его сборник. […]

Заключим нашу краткую рецензию небольшой цитатой, окончательно дорисовывающей нам благородную личность автора. В стихотворении “Чаго-б я хацеў?” поэт говорит, что не желал бы себе ни богатства рядом с бедным народом, ни счастья среди забитой угнетенной родной страны:

*Гэй, сказаць жа чаго я хачу?*
*За што сэрца бы нават аддаў?*
*З чаго твар я сьлязьмі мачу,*
*Ці-ж з вас гэта калі хто згадаў?*
*Дык вот чуйце, чаго-б я хацеў,*
*Аб чым думачкі толькі мае:*

*Каб мой люд маю песьню запеў*
*І пазнаў, аб чым песьня пяе!*

И мы всей душой присоединяемся к благородному желанию поэта. Пусть он будет для белоруса тем, чем был Шевченко[60] для Украіны! Пожелаем ему творящих сил для новых песен и посодействуем самому широкому распространению этого первого выпуска творений настоящего белорусского поэта — *“божей милостью”*. Придут лучшие времена, — и за подвиг его родной народ заплатит ему своей лучшей благодарностью — бессмертием.

## “ЖАЛЕЙКА” — ПЕСЬНІ ЯНУКА КУПАЛЫ[61]

Да недаўняго часу за беларускаю моваю ніхто ў нас не прызнаваў права на свае асобнае жыцьцё, яе высьмейвалі, называлі *“дубоваю”*, *“хамскаю”*; ёй адводзілося самае незавідное мейсцо: далей мужыцкаго задворка, далей убогіх мужыцкіх палёў не сьмела прахадзіць мужыцкае простае слова. У школе і ў жыцьцю ўсё было зроблена так, што і сам мужык-беларус стаў цурацца і роднай мовы сваей, і свайго народу.

Народные песьні тапталіся ў гразь. І васьмі-мільённы беларускі народ, прыдушэны векавым уціском, забыты богам і людзьмі, разьсеяны сярод непрытульных балот, лясоў, гор і пяскоў, — ня меў нават песьняроў-“печальнікоў” і заступнікоў сваіх, што ў песьнях маглі бы разсказаць пра яго гора і радасьці, пра яго надзеі, жаданьня лепшаго жыцьця.

Толькі нядаўна над цёмнай і пахмурнай Беларусьсю сталі крыху расхадзіцца хмары, вузенькі луч сьвету і цепла пачаў ліцца ў змучаную душу мужыка-беларуса. Такі дачакаў народ наш сваіх “печальнікоў”.

Да гэтых “печальнікоў” беларускага народу належыць перш-наперш малады песьняр Янук Купала. Затрымаемся даўжэй на творах яго.

Творы Янука Купалы дагэтуль друкавала толькі “Наша Ніва”, але цяпер песьні яго выйшлі ў сьвет у асобнай кніжцэ, каторую мала-

[60] **Тарас Шаўчэнка** (укр. *Тарас Шевченко*, 1814–1861), паэт, класік украінскае літаратуры.

[61] Тэкст быў падпісаны *Владак з Казіміроўкі*. Друкуецца паводле: Наша Ніва. 1908. № 17.

ды песьняр наш назваў “Жалейкай”. Песьні Купалы — гэта люстра, у каторым сьвеціцца душа беларуса, яго жыцьцё, яго родны край; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самай глыбі народнай душы, гэта — *“крык, што жыве Беларусь”*. — І хто раней ня верыў, каб беларускі народ мог прачнуцца і пайсьці сваей уласнай дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы ешчэ не умёрлі, ешчэ маюць сілу жыць і разьвівацца, што ўжо самі яны *“нясуць сваю крыўду на сьвет цэлы”*, захацелі *“людзьмі звацца”*.

Думкі і погляды “Жалейкі” — гэта тыя-ж думкі і погляды, што жывуць у народзе. У надта харошым вершыку “Да мужыка” песьняр наш пытае:

*Эй, скажы, мужычок,*
*Дзе ты долю падзеў?*
*Ці ўтапіў ў ручаёк,*
*Ці прапіў, ці праеў?..*

і мы ведаем, што ўсе беды папраўдзе так прыціснулі беларуса, што і дыхаць яму цяжка. Але песьняр разам з народам верыць, што тая доля калісь знойдзецца,

*Што весна нашэ горэ,*
*Як сьнег і завею,*
*Пахавае ў рэчцэ; —*
*Сонцэ спаліць агнём…*

што ўжо

*Блізкі той дзянёк, калі*
*Шчасна запануем,*
*Станем самі над людзьмі*
*І край адбудуем…*

(“Песьня а песьнях”)

Да вялікай працы *“будаваньня краю”* клічэ песьняр наш *“свой люд”*; ён заве ўсіх *“працаваць за траіх, каб не дацца нудзе”* (“Нуда”, стр. 54). Добра ўдалося Купале перэлажэньне народнай казкі аб “Конюху”, каторы быў праклят Богам і назначэны вечна прагнуць за тое, што з гультайства і сябелюбства адмовіўся ад агульнай работы *“дабываньня вады”* — работы, каторую даў Бог усяму жывому. Гэты вершык пасьвячаецца думцэ аб супольнай, згоднай працы

грамадзкай, без каторай народу ніяк нельга палепшыць жыцьця свайго. Песьняр моцна верыць у сілу грамады:

*Грамада — вялікі гмах:*
*Адзін ляжа — сто ідзе,*
*А хто-ж роўны ў грамадзе!?*

У “Жалейцы” многа вершыкоў, гдзе рысуюцца образы жыцьця мужыцкаго, роднай старонкі (“Гэта крык, што жыве Беларусь”), — образы родных бярозак, альшын, ліпы; і ўсюды поўна глыбокай жаласьлівасьці, цеплаты, любові да беднаго, забітаго краю:

*Невясёлая старонка*
*Наша Беларусь:*
*Людзі — Янка ды Сымонка,*
*Птушкі — дрозд ды гусь!*

У песьні “Чаго-б я хацеў” песьняр гаворыць, што не жадаў-бы сабе ні багацтва поруч з бядою народу, ні шчасьця ў забітай, прыніжэнай старонцы:

*Гэй, сказаць жэ, чаго я хачу?*
*За што сэрцэ бы нават аддаў?*
*С чаго твар я сьлезамі мачу?*
*Ці-ж з вас гэта калі хто згадаў?*
*Дык вот чуйце, чаго-б я хацеў,*
*Аб чым думачкі толькі мае:*
*Каб мой люд маю песьню запеў*
*І пазнаў, аб чым песьня пяе!!!*

Мы шчыра падтрымоўваем добрае жаданьне песьняра. Няхай яго думкі, “*думкі-весялушкі*”, што ў сэрцы паэты народнага, “*нібы птушкі песьняй азваліся*”, знойдуць сабе дарогу ў кожную хату вёсковаго беларуса. Нехай “Жалейка” будзіць народнае самопачуцьце, нехай памагае беларусам прачнуцца ад вековаго сну, жыць новым жыцьцем, расьці і разьвівацца ў добрай згодзе і разам з братнімі суседнімі народамі!

# “АДВЕЧНАЯ ПЕСЬНЯ” ЯНКІ КУПАЛЫ[62]

Імя Янкі Купалы многа гаворыць нашаму сэрцу: яно ўжо стало дарагім для ўсіх беларусоў, да каторых дайшла выданая тры гады таму назад яго “Жалейка”; яно дораго і тысячам чытацелёў “Нашае Нівы”, што на страніцах гэтай газэты прывыклі спатыкаць імя Купалы.

І гэта ня дзіва: паэзія Купалы — адзін з найцэньнейшых скарбоў, якіе нясе з сабой нацыональнае адраджэньне беларусоў. У ёй ярчэй, глыбей і паўней адбіваецца ўвесь змест, характво, разгон і веліч гэтаго мо’ найважнейшаго ў гісторыі нашаго краю здарэньня. Янка Купала — душа і язык прабудзіўшагося да новаго жыцьця народа, і ў гэтым усё значэньне яго паэзіі — як нацыональнае, так і агульналюдзкае.

Жывая энэргія, яснае і праўдзівае пазнаньне свайго *я* і ўсяго, што ёсьць навокал гэтаго *я* — вось дзьве найважнейшые рэчы, з каторых складаецца поэзія Купалы, дзякуючы каторым яна мае нейкае асобнае, свае, нацыональнае характво.

Убачыць ў сабе чалавека, значыць ужо зрабіцца чалавекам, а зрабіць так, каб тое-ж самае пачулі і другіе, каб пачуў цэлы народ, моцна заціснены бяздольным жыцьцём, гэта ўсё роўна, як бы таму народу ўлажыць жывую чалавечую душу. Гэткае *“очэлавечэньне”* ёсьць задача ўсякай паэзіі, а асабліва паэзіі маладых нацый, што ешчэ толькі прылучаюцца да сям’і культурных народаў; у ім і ўся цікавасьць творчасьці Купалы. Яго паэзія — гэта паэзія праўды, паэзія праўдзіваго — без усякіх прыкрас — жыцьця беларусахлебароба; тварыць яе можа толькі чэлавек з моцнай душой, і такую моцную душу, як відаць, мае Янка Купала. Вось чаму, калі ён у жыцьці або ў прыродзе нашай бачыць характво, красу, то значыць, што яны-ткі папраўдзе ёсьць. Мы сьмела можэм верыць нашаму паэту: ён так добра знае і горэ і радасьць беларуса, разумее вялікую будучыну свайго народа!

Праўдай, верай у будучыну, бодрасьцю, але і нейкім жалем разам з глыбокім самопазнаньнем вее ад усіх твораў Янкі Купалы.

Новая кніжка нашаго маладога песьняра — “Адвечная Песьня” яшчэ раз пацьверджае ўсё тое, што мы аб ім тутака сказалі.

---

[62] Тэкст падпісаны *Вл. С.* Друкуецца паводле: Наша Ніва. 1910. № 38.

Ужо будзіцца беларускае селянство ад доўгага сну. Ідзе новае жыцьцё. Яно мае свае новые патрэбы і жаданьня, і пад іх націскам пачынае разстраівацца старадаўны лад у беларускай вёсцы. Трэба будаваць нешта новае. Але старое, *адвечнае* жыцьцё, заміраючы, пакідае па сабе сваю *“адвечную песьню”* дзеля навукі новаму, маладому жыцьцю, каторае возьме ад старога ўсё тое, што было ў ім папраўдзі вечнаго.

У сваёй “Адвечнай Песьні” малюе Купала тое адвечнае жыцьцё. Песьняр наш — насьледнік старога і працоўнік над будовай новаго жыцьця — паказвае, што стары лад апіраўся ня толькі на *вечных* асновах, але і на такіх, каторые так чы гэтак павінны былі наклікаць на яго сьмерць, загубіць яго. Бо старое жыцьцё нерухома застыло ў нязьменных формах, а навакол яго, хаця прырода і астаецца той самай, ўсё перэменяецца, усё руйнуецца, і доля мужыка становіцца ўсё цяжэй і цяжэй…

Поэма Купалы прымушае нас моцна задумацца над пытаньнем, як выйсьці з гэтаго палажэньня? Жыць так, як дагэтуль, у поўнай залежнасьці ад прыроды і ад сьляпой сілы прыпадку ўжо німа змогі: трэба жывой, сьведомай энэргіяй чалавека зваеваць *“голад і холад”* мужычаго жыцьця, трэба новай працай палажыць канец панаваньню прыпадку, панаваньню *“царыцы-бяды”*, каторая папраўдзі скрозь запанавала па нашых вёсках, заўладала старым, *“адвечным”* жыцьцём… Мужык ужо стаў *чэлавеком*, каторому *“ўсясільнай рукою тварэньня даны правы істненьня”* — кажэ прывід “Жыцьця”.

Гэты голас “Жыцьця” павінен кіраваць думкамі беларуса-мужыка, клікаць яго рвацца *“к радасьці, славе, багацьцю”*, *“к сонцу жыцьця”*, не паддаючыся сьляпой і выпадковай *“Долі”*. Хаця сімволы Бяды, Голаду, Холаду пяюць сваю “адвечную песьню”, хаця Доля “пляце свае адвечныя казкі”, “трасе душой і хацінкай мужыка”, але *чэловек* — “галава зямлі” — павінен, ня гледзячы на ўсё гэта, ісьці к сваей мэце — шчасьцю:

*гэтак з песьняй, гэтак*
*з верай і надзеей*
*кожны свой палетак*
*хай арэ і сее,*

а як жыцьцё цэлаго народа ніколі не бывае аднастайным, не абмежываецца аднэй якой-небудзь формай, дык і *“палеткоў”* на нашай роднай ніве многа…

*“Да неба трэба ісьці па зямлі”*. На зямлі — холад, голад, беда, але — *“сіла зможэ ўсё!”* — Ад *“хрэсьбін”* да *“хаўтуроў”* пройдзе кожын чэлавек, і ад кожнаго нешта астанецца. *“Чэлавек”*, каторы пяе на зямлі сваю *“адвечную песьню”* працы, гора і шчасьця, — чэлавек гэты складае грамаду — сілу: *“Адзін ляжэ — сто ідзе, бо хто-ж роўны грамадзе!?.”*.

Зьеднаньне людзей у *“Чэлавеку”* вельмі хораша прэдстаўлено ў апошняй сцэне “Адвечнай Песьні” — “На могілках”. Цень мужыка ня можэ супакоіцца пасьля сьмерці, ён, мужык, не памёр увесь, ён жыве ў цэлым — у грамадзе:

*Што насып размыла жвіровы?*
*Што спаць мне ў зямлі не дае?*
*Чаго кажаны тут і совы*
*Зьляцеліcь на косьці мае?*

*Прэч, гадзіны, сліўні, рапухі!*
*Хоць згінце ў праметнай на дне.*
*Благіе і добрые духі*
*Прыбліжцеся жыва ка мне!*

*Так спаць неахвота век цэлы;*
*Мне хочацца ведаць, пачуць,*
*Што чутна на сьвеце на белым?*
*Патомкі мае як жывуць?*

*Ці досі ім хлеба й да хлеба,*
*Як добра ім плаціць зямля?*
*Ці ласкі ад сьвету, ад неба*
*Ня маюць, як некалі я?*

*Ці песьні пяюць, ці, як мухі,*
*Ў цянётах гніюць павука?*
*І ўсё гаварыце мне, духі,*
*Што зроблено для мужыка?*

Так гаворыць Цень мужыка, падняўшыся з магілы.

*"Што зроблена для мужыка?"* — вось пытаньне, каторае дае кожнаму з нас наша сумленьне… Пытаньне, каторае, як кажэ наш песьняр, будзе мучыць нас і пасьля сьмерці. Што зроблено для *чэлавека*, — на гэта кожын павінен даць адказ сабе, людзям і Богу!

Пагулянка[63]

## "TRIUMFUJE BIAŁORUŚ!.."[64]

*Daremne žale! Prŏžny trud!*
*Zbyteczne zlorzecnia! — Minionych kształtŏw žaden cud*
*Nie wrŏci do istnienia!*[65].

*Adam Asnik*[66].

Колькі найлепшых пачуцьцёў і самага запраўднага нацыянальнага энтузыязму, колькі палітычнага розуму і адміністратыўнага таленту, колькі забойча-тонкага, неабмыльна-вернага рашчоту ўложана было *"прыроджаным гаспадаром"* Заходняе Беларусі ў вядомы, гэніяльна-просты плян — распладзіць на сьпіне беларускага народу, пад яго кашуляй — тое сьвярблівае супакойнае жыцьцё мясцовага жыхарства, *"жывёлы"*, таго польскага *"казацтва"*, якое завецца *"асадніцтвам"*[67].

Колькі гэтак патрэбных для безнадзейна-шуканай *"буджэтнай раўнавагі"* народных мільярдаў было патрачана на зьдзяйсьненьне і падтрыманьне гэтага гэніяльнага пляну…

---

[63] **Пагулянка** — адно з прадмесцяў Вільні на пачатку XX ст. На рагу вуліцы Малая Пагулянка і Завальная ў 1911–1914 гг. знаходзілася рэдакцыя "Нашай нівы".

[64] Тэкст падпісаны *Суліма*. Друкуецца паводле: Сьцяг Народу. Аднаднеўка. Вільня. Чацьвер, 23-га жніўня 1923 г. С. 1–2.

[65] *"Дарэмны смутак, марны нуд, / Бясьсільныя заклёны: / Ані адзін жыцьцёвы цуд / Ня вернецца, мінёны"* (перакл. Ніны Мацяш).

[66] Маецца на ўвазе **Адам Аснык** (польск. *Adam Asnyk*, 1838–1897), польскі паэт і драматург.

[67] Асаднікамі называлі польскіх каланістаў, якім паводле закону 1920 г. выдзяляліся землі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Яны выконвалі ролю памежнікаў — з Савецкай Расіяй, а таксама карныя функцыі на тэрыторыі Беларусі.

Колькі, з другога боку, найгоршых, але справядлівых пачуцьцёў было разбуджана і ўскормлена ў сэрцы беларускага народу, — гэткімператварэньнем суседа-паляка, брата-земляроба ў жываеда-асадніка…

Колькі лепшых надзей беларускага народу было прынесена ў крывавую ахвяру на аўтар сьвяткаваўшай свае нарадзіны Польскай Дэмакрат[атычнай] Рэспублікі…

Здавалася-б, што гэты *“абаронны вал”*, гэны *“роў дэфэнзывы”* — ад *“усходняе небясьпекі”* — былі насыпаны і выкапаны надта добра…

Здавалася, што гэтыя *“асяродкі”* ці *“расаднікі”* гэныя *“жывёлы”*, выбачайце — польскае культуры былі ўгрунтованы яшчэ мацней…

Адным словам, здавалася, давай толькі гэтым *“расаднікам”* — асаднікаў, па 50 мільярдаў у месяц, маючы на ўвазе няхібны спадак маркі… — і паны Скульскія[68] і Студніцкія[69] могуць быць зусім спакойны: шмат раней, як за 50 гадоў ад беларусаў у Беларусі не застанецца нават духу!..

Але-ж вось паслухайце — што-ж сталася…

Ня дзе-нібудзь, — не ў якім там зайздросна-лявіцовым органе, па дрэннай прафэсіі заўсёды шальмуючым ахвярную дзеяльнасьць *“Богам і Айчызны”* пазванага да ўлады *“rządu wiekszości narodowej”*[70], але ў самай *“урадовай”* “Газэце Варшаўскай”[71], надрукована стацьця, з якой зусім, як сьвет, ясна, што як для польскага оптымізму, гэтак сама і для беларускага пэсымізму няма рашуча ніякіх падставаў…

Гэтую цікаўную стацьцю, надрукаваную ў № 213 паказанай газэты, мы і павінны ўявіць нашым чытачом.

Робім гэта якнайкарацей, па магчымасьці — з захаваньнем яе букету…

Перш-на-перш аўтар адразу кажа, што *“лявіцовая”* польская ўлада ад пачатку прышла ў Беларусь дзеля таго і рабіла ўсё тое, каб зьнішчыць у Краі не беларускі элемэнт, а польскі… Гэта і было

---

68 **Леапольд Скульскі** (польск. *Leopold Skulski*, 1877–1940), польскі палітычны дзеяч, у 1919–1920 гг. старшыня Рады міністраў Польшчы, а ў 1920–1921 гг. міністр унутраных спраў Польшчы.

69 Маецца на ўвазе **Вацлаў Студніцкі**, віленскі польскі гісторык і публіцыст, прыхільнік кансерватыўнай ідэалогіі.

70 ***Rządu wiekszości narodowej*** (польск.) — Ураду нацыянальнай большасці.

71 ***“Gazeta Warszawska”*** — першая рэгулярная газета ў Варшаве. Заснаваная ў 1774 г., выходзіла — са зменамі назвы — да 1935 г., калі была забароненая ў час санацыі.

галоўнай папыткай усяе крэсовае палітыкі… Вось табе і маеш, а мы ўсе думалі, што *"лявіцовая ўлада"* толькі гаварыла пекныя словы, а рабілася заўсёды тое самае, што робіцца цяпер, — каб выкараніць беларуса з Беларусі… Польскай уладзе трэ' было адразу… *«падтрымаць на Крэсах "większa wlasność ziemska"»*[72]… гэта значыць — абшарнікаў… Гэта — дзеля таго, што ўсялякая іншая зямельная палітыка на Крэсах, якія-б *"польскія мэты"* яна сабе ня ставіла, асуджана на загібель.

Ня можна ня прызнаць, што гэтае разважаньне, надыктаванае страхам гінучых абшарнікаў, маець самыя важныя падставы. Запраўды ёсьць ад чаго прыйсьці да адчаю: адзінае срэдства ёсьць на сьвеце, каб захаваць на *"Крэсах"* польскі характар зямельнай уласнасьці, абараніць польскі элемэнт ад паглыненьня яго беларускім элемэнтам, — гэта… захаваць нятыкальна на Крэсах гэткія магнацкія *"польскія двары"*, як — Радзівілаў, Браніцкіх і падобныя.

Усялякія іншыя *"асяроднікі"* і *"расаднікі"*, як слушна кажа аўтар, асуджаны *"на растварэньне ў народным беларускім моры"*. Але-ж, нажаль, і ў гэтым — галоўная трагэдыя *"польскасьці"* на *"Крэсах"*… — нажаль — гэтае адзінае на ўсім сьвеце срэдства сталася немагчымым… Аўтар даводзе, што віна ў гэтым — кепскай палітыкі, — *"Левіцовай адміністрацыі"*. Мы ведаем, што справа тут — шмат глыбей. Але — па розных прычынах — срэдства гэтага ня было і няма. І вось — *"спасярод вялікай зямельнай уласнасьці пачалася нябывалая паніка… абшарнікі пачалі на гвалт пазбывацца зямлі… 85 процэнтаў вялікай уласнасьці знаходзіцца ў стане поўнай ці частковай ліквідацыі"*… *"Катастрофа ня была-б яшчэ гэтак страшнай, калі-б зямлю гэтую дарогай парцэляцыі куплялі палякі. Але-ж нажаль гэтая зямля гуртом перадходзіць у рукі беларусаў, якія наагул варожа настроены да ўсяго, што толькі польскае"*… Бяз сумліву сам Мураўёў[73] не нарабіў столькі бяды польскаму ўладаньню на Крэсах, як *"…жонды тутэйшых левіцовых рэфэрэнтаў"*, кажа аўтар… — як нарабілі самі палякі, паправім мы…

Сама *"сувэрэнная"* польская ўлада з мёртвых паўстаўшае Польшчы забіла на Крэсах сваю *"польскасьць"* ляпей за самаго Мураўёва!.. — вось які забойчы вывад робіць аўтар…

---

72 ***Większa wlasność ziemska*** (польск.) — Большая зямельная ўласнасць.

73 **Міхаіл Мураўёў-Віленскі** (рус. *Михаил Муравьев-Виленский*, 1796–1866), генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю ў часы задушэння паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Вывад зусім слушны, можна толькі яго яшчэ пашырыць, не абмяжоўваючы яго аграрным пытаньнем, і — дадаць толькі, што, як выходзе з фактаў, прыведзеных аўтарам, ніякай іншай зямельнай палітыкі ў напрамку пажаданьняў эндэцкага[74] аўтара ніякая ўлада на Крэсах вясьці-б не магла.

Польскае вайсковае асадніцтва на Крэсах зьяўляецца прадпрыемствам бязумоўна няўдалым, як у сэньсе эканамічным, гэтак сама і з боку нацыянальна-палітычнага. *“Галоўнай мэтай вялікай часьці асаднікаў зьяўляецца”*, як трафна кажа аўтар, — *“штось ухапіць”*, *“штось зьліквідаваць”* і, *“злажыўшы манаткі”*, *“уцячы” (zwiać)*. *“З гэтае прычыны асадніцтва з эканамічнага боку зьяўляецца адным грамадным нулём, калі не вялізарнай шкодай”*. *“Нявартa радавацца і з нацыянальна-палітычнай вартасьці гэтага прадпрыемства. Выбары ў цяперашні Сойм паказалі ў поўнай меры, што вялікшая большасьць асаднікаў, гэта ўсе — вызваленцы, якія галасавалі ў паражаючай еднасьці з беларусамі — за рознымі Галавачамі[75], Аўсянікамі[76] ці Галкамі[77]… Відаць з таго, што з гэтага боку чакаць падтрыманьня польскасьці на Крэсах няма чаго”*. *“Можна наадварот цьвярдзіць, што слабыя матар'яльна, кінутыя на волю лёсу нашыя асаднікі ў блізкай прышласьці патануць у беларускім моры”*... *“Нашая гісторыя вучыць нас, што беларуская срэда, грамада* (слухайце, браты-беларусы!) *мае невычарпальную сілу асыміляцыі, паглыненьня ў сабе чужых элемэнтаў”*.

Куды дзелася, горка ўздыхае аўтар, тая многалікая польская шляхта, якая калісь так шумела на ўсялякіх *“соймiках”*?! Няма ад яе нат' сьлядоў! Засталіся ад яе толькі ўсяго адны… польскія

[74] **Эндэкі** — скарочаная назва сябраў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Польшчы.

[75] **Фелікс Галавач** (1886–1972), беларуска-польскі грамадска-палітычны дзеяч. У 1922–1927 гг. пасол Польскага Сейма, прайшоў у яго ў Лідскай акрузе па спісе Польскай народнай партыі “Вызваленне”. Падкрэсліваў сваё беларускае паходжанне. У 1924 г. адзін са стваральнікаў і лідараў Незалежнай сялянскай партыі. Быў арыштаваны ў студзені 1927 г. разам з пасламі ад БСРГ. Вызвалены праз 18 месяцаў без суда.

[76] **Антон Аўсянік** (1888 — пасля 1933), грамадска-палітычны дзеяч. У 1922 г. пасол Польскага Сейма, уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб.

[77] **Антон Галка** (1896–1967), грамадска-палітычны дзеяч, пасол Польскага Сейма ў 1922–1927 гг., выбраны ў Свянцянскай выбарчай акрузе са спіса Польскай народнай партыі “Вызваленне”. Пасля выхаду з “Вызвалення” ў 1927 г. далучыўся да Сялянскай партыі.

прозьвішчы ў шмат каго з зусім добрых, запраўдных беларусаў… *“Гэтая польская шляхта ўстала процiў русіфікацыі, але-ж беларуская грамада праглынула ўсю пасыўную масу гэтае польскае шляхты”*...

Ад гэтае асыміляцыі асталіся толькі… *“вялікія двары”* — толькі магнацкія роды абшарнікаў…

Значыцца, — польскай палітыцы і гістарычнае прошлае, і інтарэсы цяперашняга часу катэгарычна ўказваюць адзіны толькі шлях да захаваньня польскасьці на Крэсах… Гэта — захаваньня і падтрыманьне абшарнікаў!.. Але-ж, ізноў паўторым: нажаль, па прызнаньню самае-ж *“урадовае”* газэты, гэты шлях... на 85 % закрытызавалены, і па ім ужо няма ніякага праезду… Бо, як добра мусіць ведаюць самі паны-абшарнікі, няма той сілы ў сьвеце, якая-б магла спыніць гэты надзвычай карысны для абшарнікаў, хаця і з вялікім *“дакладам”* з боку купляючага зямлю сялянства, загадзя *“дыскантуючы”* ўсё толькі пагражаючую *“зямельную рэформу”*, а можа нат' прадугледжываючы штось яшчэ горшае, рух *“парцэляцыі”*[78]… Акурат тыя асаднікі і абшарнікі сьпяшаюцца *“штось ухапіць”*, *“штось зьліквідаваць”* — *zwiać*, карыстаючы з часу…

*“Гэтыя двары”*, кажа аўтар, *“былі калісь “магутнымі фартэцамі”* (цьвярдынямі) *польскасьці ў Краі!”*…

Але-ж гэтыя часы мінаваліся і ня вернуцца ўжо ніколі…

Адбудаваць гэныя *“фартэцы”*, вярнуць гэтыя *“сьвятыя”* часы — пустая думка тых жывых нябожчыкаў, што маюць ужо толькі нагэтулькі сілаў, каб… пісаць сабе нэкралёгі…

І ляпей за ўсё аб гэтым сьведчыць сам польскі *“жонд”*, які, як кажа аўтар, сам вядзе барацьбу, разбураючы гэтыя *“фартэцы”*, а з імі разам і адзіныя падставы польскасьці ў Краі…

У канцы — праз некалькі гадоў, калі ня будзе зьменена ўся гэтая палітычная сыстэма (мы чулі ад яго-ж, што гэта — немагчыма!), дык у грузалкі рассыплюцца гэтыя фортэцы і

***“Затрыумфуе Беларусь”!***

---

78 **Парцаляцыя** (польск. *parcelacja*) — падзел вялікіх зямельных уладанняў на меншыя надзелы і продаж іх прыватным уласнікам. Найбольш маштабная парцаляцыя ў польскай гісторыі адбывалася ў часе зямельнай рэформы 1920-х гг. Пачатак ёй быў пакладзены Законам аб нацыяналізацыі зямлі ў некаторых паветах Рэчы Паспалітай ад 17 снежня 1920 г. (“*Ustawa z dnia 17 grudnia 1920 r. o przejęciu na własność Państwa ziemi w niektórych powiatach Rzeczypospolitej Polskiej*”) і канчаткова аформлены прынятым 26 ліпеня 1925 г. Законам аб правядзенні зямельнай рэформы, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай “Закон аб парцаляцыі і асадніцтве”.

Амэн, пабожна дабавім мы…

Мы відзім, што *“Беларусь затрыумфуе”* ўжо дзеля таго, што за яе сама прырода. Беларускі народ мае вялікую сілу дзеля таго, што ён жыве ў сябе дома на сваёй зямлі, дзе жылі яго дзяды і прадзеды… мае вялікую непераможную моц дзеля таго, што сядзіць на сваёй зямлі вялікай Грамадой.

Гэтую адналітную Грамаду чужынцы хочуць разьдзяліць, разьбеларусіць ўсялякімі спосабамі…

І няхай Беларускі народ добра ўцяміць, што калі за Беларусь прырода, ды калі яшчэ за Беларусь, за сваю Бацькаўшчыну ўстане і будзе сам беларус — ня толькі як этнографічная жывёліна, як народнае мора, але і як сьвядомы нацыянальна, духова аб’яднаны, культурна арганізаваны *н а р о д*, дык — ні сьпіхнуць яго з роднай зямлі, ні зьесьці яго ніякімі там *“асаднікамі”* ці іншымі хітрымі спосабамі — ніякая моц на ўсім сьвеце ня зможа..

Тады запраўды — ***“Затрыумфуе Беларусь”***.

## “ПАН МІНІСТАР”, НОВАЯ П’ЕСА П. АЛЯХНОВІЧА[79]

У нядзелю, 17 верасьня, у залі Беларускае Драматычнае Майстроўні[80], адбылося першае прадстаўленьне новага твору вядомага нашага драматурга Ф. Аляхновіча.

Новая п’еса Аляхновіча — у драматычнай форме як быццам *“палітычная сатыра”* на стварыўшыяся калісь у Менску, як можна думаць, у часах нямецкае акупацыі, беларускія стасункі — пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Дзеля таго *“палітычная сатыра”* шмат запазьнілася і б’е ня толькі, гэтак кажучы, па ляжачаму, але і ўжо па мёртваму… Дзеля таго *“сатыра”* мае толькі гістарычны характар, кажучы інакш, — п’еса павінна мець пэўную артыстычную ці ідэйную вартасьць. Мы ня

[79] Тэкст падпісаны крыптанімам *С.* Друкуеццa паводле: Вольны Сьцяг. Вільня. 1923. № 13. 28 вер. С. 4.
**Францішак Аляхновіч** (1883–1944), драматург, празаік, тэатральны дзеяч, названы Ігнатам Дварчаніным *“бацькам навейшай беларускай драматургіі”*.

[80] **Беларуская драматычная майстроўня** — аматарская тэатральная студыя, якая існавала ў 1922–1925 гг. Складалася з навучэнцаў і настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі.

будзем тутака падрабязна разьбіраць меры гэтае вартасьці новай п'есы, скажам аб ёй толькі некулькі слоў.

Фабуля п'есы вельмі простая.

Пан Пупкін, відаць, з расейскіх мясцовых чыноўнікаў-абрусіцеляў, шмат пажылы, маючы пэўны дастатак чалавек, рашыў, карыстаючыся з новай фазы беларускага нацыянальнага руху і падшываючыся пад беларуса, зрабіць сабе на гэтым палітычную кар'еру, выставіўшы сваю кандыдатуру ў міністры…

П'еса пачынаецца як раз на тым, што Пупкін толькі што закончыў пісаньне свое біографіі, якую хоча надрукаваць у ўплывовай беларускай газэце.

Дзеля гэтага ён запрашае да сябе газэтнага працаўніка, падкупляе яго ласку пачастункам і грашмі…

*"Газэтчыкі"* п'юць, ядуць, бяруць грошы, але… газэта заместа *"аўтабіографіі"* Пупкіна друкуе аб ім праўду…

І — ужо зусім пэўны свайго посьпеху — Пупкін праваліваецца са сваей кандыдатурай.

Раўналежна з гэтай лініяй *"палітычнай"* кар'еры Пупкіна разьвіваецца ў п'есе і гэтак кажучы *"сэрцовая"* кар'ера "Пана Міністра".

Пупкін, які мае ўжо ў сябе пажылую *"гаспадыню"*, прывёз сабе з вёскі маладзенькую пекную, нічога йшчэ не разумеючую дзяўчынку Любу, для якой назваўся *"дзядзяй"*, якую патрошку хоча прыўчыць да таго, каб мець у ёй *"асалоду"* свайго *"міністэрскага"* жыцьця…

Але і гэтая *"кар'ера"* Пупкіна абрываецца такім самым правалам, і тут заместа *"аўтобіографіі"* яго застаецца *"надрукована"* нешта іншае…

Запраўднае маладое беларускае жыцьцё трыумфуе над старым варожым, падшыўшыся *"эрзацам"*. Няведаючая жыцьця, але маючая добрае чуцьцё, спрытная Любка хутка знаходзе сабе пару ў асобе маладога беларускага вучыцеля, і гэтая маладая пара, лёгка перамагаючы захацеўшую зажыць чужы век чужую, варожую, прыкінуўшуюся прыхільнаю, падшыўшуюся старасьць, дабівае Пупкіна да канца…

Пупкін астаецца, як быў — пры своей *"единой и неделимой Россіи"* і з гэтай самай *"адзінай і недзялімай"*… старой кухаркай Мартай…

Помысл п'есы някепскі.

Але трэба сказаць, што выкананьне яго зашмат, гэтак кажучы, элемэнтарнае, што робіць з п'есы падабенства кароткага ледзь накіданага фарсу… Але фарс той канчаецца, з аднаго боку, гэтак ка-

жучы, у лягеры старасьці — нейкімі трагічнымі нотамі — пагрозамі *“вярнуцца назад”*, хваробай Пупкіна, а з другога боку — у лягеры моладзі — гарачым поўным запраўднага пафосу і энтузыязму нацыянальнага адраджэньня монолёгам вучыцеля, які выражае паважную думку ўсяе п’есы… І з гэтай элемэнтарнасьці ізноў вынікае, што запраўднага зьместу палітычнае сатыры п’еса ня мае. Ані якога *“фону”* гістарычнага, ані паняцьця аб тым, што і як робіцца *там*, дзе вырашаюцца кандыдатуры міністраў, п’еса не дае…

З пункту гледжаньня гістарычнай праўды, можа, трэба было-б дадаць, што ў часы нямецкае акупацыі, у часы тагачаснае *“міністэрскае чэхарды”*, калі ўжыць выраз з расейскага палітычнага жыцьця, бывала якраз наадварот таму, што паказана ў п’есе…

Бывала, што кандыдатура гэткіх Пупкіных зусім не правальвалася, але трыумфавала…

За гэта гавора і кідаўшаяся ў вочы пэўная *“партрэтнасьць”* сатыры…

Але трэба сказаць, што гэтая *“партрэтнасьць”*, якая паважным аўтарам, іграўшым ролю Пупкіна, падчырквалася нават у грыме, ня толькі не дадае нічога добрага да артыстычнай вартасьці п’есы, але зьяўляецца нават забароненай добрым мастацкім смакам, а можа і добрымі літаратурнымі звычаямі…

Гралі ня кепска, але трэба яшчэ сыграцца, каб наагул не чакаць суфлёра, чым грашыў нават сам аўтар, ён-жа і герой *“трагі-фарсу”* Пупкін…

Лепей за ўсіх кажа аб бязьсільлі гэтага напалову мёртвага ворага сам аўтар праз вусны сваіх герояў.

І ці-ж не зьяўляецца запраўдным страляньнем з пушак па вераб’ям апошні гарачы маналёг Міколы Сьветляка проці Пупкіна, запраўды *“топчучы, дратуючы”* гэтую *“непатрэбную сухую траву”*.

*«Але, пане Пупкін, наш многапакутны народ ускалыхнуўся пасьля векавога сну і гэты народ не дзіця, ён ведае, хто можа быць яго правадыром!*

*А вы, “тоже” беларус сёньняшнега дня захацелі ўлезьці на найвышэйшую ступень і схваціць у свае рукі народную справу!*

*А тады, калі нас сьмехам аплёўвалі, калі нас за нашу беларускасьць у турмы садзілі, калі ўсялякі зьдзек над намі рабілі — дзе вы тады былі? Дзе вы былі, пане Пупкін, калі мы хадзілі галодныя ды абадраныя, з зайздрасьцю паглядаючы на багатыя сталы іншых. А цяпер, калі ёсьць магчымасьць пры нашым полымі зварыць і сваю*

*кашу, вы прыходзіце да нас і вялікадушна ахвяроўваеце нам сваю асобу — спазьніліся, пане Пупкін. Тады вы былі глухія і сьляпыя. Цяпер наш народ будзе глухі і сьляпы на ваш крык, і наша адраджэнская хваля пройдзе міма вас або — праз вас: народ стопча , здратуе вас, як непатрэбную сухую траву. Спазьніліся, пане Пупкін!*».

Яшчэ лепей аб бязьсільлі гэтага *"ворага"* гавора аўтар вуснамі самога Пупкіна — у апошняй зьяве, калі ён застаецца адзін са сваей *"единой и неделимой"* Мартай…

*"Вось я ўпаў, ляжу, ідзеце празь мяне, праз мой труп, дратуйце мяне! Я — бязьсільны, сьмейцеся зь мяне. Ну, сьмейцеся, зьдзекуйцеся, бо я ўжо не магу бараніцца, бо я стары, слабы, бо я адзін"*…

З гэтага відаць, што мастацкае пачуцьцё аўтара, можа нават паміма пэўнага гатунку, гэтак кажучы, *"адцягіваючай"* увагу ад сучаснасьці *"тэндэнцыі"* п'есы, дае праўдзівыя разьмеры тым варожым сілам, якія ўцелесьняе аўтар у асобах сваіх герояў.

Бо іначай запраўды было-б дзіўным... гэтае запрашэньне беларускай моладзі — *"таптаць і дратаваць непатрэбную сухую траву"* — у тым заборы, у тыя часы, дзе і калі яе самую — жывыя, маладыя ўсходы, яе — зялёную рунь беларускіх палёў *"топча і дратуе"*, як *"сухую траву"*, ня Пупкін, а нехта другі, памацней…

## З "ГАСПАДАРСТВА КВЕТАК ВАСІЛЬКА І ПРАЛЕСКІ" НА ЗАВАЯВАНЬНЕ МЕСТА[81]

*Язэп Нарцызаў[82]. Пабрацімцы. Вялікая шышка. Першая часьць аповесьці "Вар'ят без вар'яцтва". Віленскае Выдавецтва Б. А. Клецкіна. Беларускі аддзел. Вільня, 1923.*

Толькі што выйшла ў сьвет гэтая першая часьць повесьці новага беларускага аўтара.

Зьяўленьне кожнага новага тварца на бедным, толькі пачынаючым зелянець, полі нашае літаратуры будзіць цэлы рад думак і надзей, параджае прагавітую цікавасьць…

[81] Тэкст падпісаны *Суліма*. Друкуецца паводле: Змаганьне. Вільня. 1923. № 1. 28 кастр. С. 2–3; № 2. 1 ліст. С. 2–3.

[82] **Язэп Нарцызаў** — псеўданім Язэпа Драздовіча (1888–1954), мастака, скульптара, пісьменніка, касмолага, этнографа, археолага, настаўніка.

Тым больш, што новы аўтар піша прозай і пачаў вялікшага маштабу повесьць.

Паэтаў мы маем шмат, маем нават бязспрэчна вялікага паэту, ня меншага ад Шаўчэнкі, — Янку Купалу.

Маем шмат аўтараў-раскашчыкаў.

Маем такіх мастакоў-новэлістаў, такіх артыстаў кароткага апавяданьня, як Ядвігін Ш., нябошчык Лявіцкі[83].

Але вялікшых повесьцяў маем вельмі мала… А запраўднага беларускага нацыянальнага романа мы яшчэ прагавіта чакаем…

Дзеля таго зьяўленьне гэткага аўтара, які пачынае штосьці вялікшае, хаця-б толькі па разьмерам, будзіць у нас нейкую радаснатрывожную надзею: ці ня ён дасьць нам тое, чаго чакае беларускі чытач, а можа і тое, чаго чакае беларуская літаратура?

Язэп Нарцызаў, як відаць з першае часьці і як даведаўся ад самага аўтара, пішучы гэтыя радкі, запраўды мае намер і зусім гатовы плян стварыць, калі не раман, дык вялікую повесьць, якая будзе складацца аж з 5 часьцей!

Апроч пролёгу — “Пабрацімцы” — і першае часьці “Вялікая шышка”, ужо зусім гатова да друку і другая часьць — “Скандал на Гапонавым млыне”.

Трэцяя часьць — “Вар’ят без вар’яцтва” — якая ўжо пішацца, будзе мець месцам падзей дом вар’ятаў, матар’ял для мастацкага апісу якога даў аўтару ўласны яго досьлед у характары фэльчэра. У гэты дом пападае галоўны герой аповесьці — мастак Гапук з надмеру свайго *“вялікашышаўскага я”*…

Чацьвёртая часьць рысуе героя ў ролі “Разбойніка Пугі”… Нарэшце — пятая — “Гапук мільянэр” будзе мець сваім тэрэнам … поўдзень Францыі, дзе Гапук за нарабаваныя грошы купляе вілу, будуе галерэю абразоў і дапінае ўрэшце мэты сваіх імкненьняў, сваей амбіцыі — становіцца запраўднай *“вялікай шышкай”*…

Як бачым ужо з гэтага пляну, мы маем перад сабой зусім арыгінальны помысл, нешта зусім новае для нашае літэратуры, як па разьмерам, таксама і па свайму зьместу…

Зьмест повесьці, як відаць з першае часьці, прадстаўляе раўналежную гісторыю двух маладых хлопцаў-пабрацімцаў, мастакоў — Гапука і Альфука.

[83] **Ядвігін Ш**. (сапр. *Антон Лявіцкі*, 1869–1922), празаік, публіцыст, перакладчык, паэт, байкапісец.

Розьніца іх жыцьцёвае кар'еры, якая састаўляе ўсю цікавасьць апавяданьня, вынікае з рэзкай розьніцы паміж іх натурамі, тэмпэрамэнтамі, разнастайнасьцяй бацькоўскага дастатку, хатняга выхаваньня й г. д.

Іменна гэтае, псыхолёгічна-рэалістычнае, чыста мастацкае заданьне, вольнае ад усякай, як кажуць, *"тэндэнцыі"* — з гары ці звонку накінутай ідэі ці прадузятай думкі — і мае аўтар зьдзейсьніць у сваёй аповесьці.

Як бачым, гэта рэчаіста нешта зусім новае ў нашай літаратуры.

Мы ня кажам, што ў нас няма празаічных твораў чыста мастацкай, вольнай ад паняволеньня тэндэнцыяй вартасьці.

Але ўсе яны неяк зьвязаны ўваскрашаемай паэтам мінуўшчынай, ці паняволены й здушаны сумнай сучаснай рэчавістасьцяй...

Язэп Нарцызаў — наадварот — зусім вольны мастак-разкашчык, — псыхолёг-рэаліст, і робіць спробу гэтак званага *"экспэрымэнтальнага романа"*, які мае заданьнем *"рашэньне"* пэўнай мастацка-псыхолёгічнай праблемы, а бліжэйшай мэтай — даць чытачу папросту мастацка-цікаўнае, займаючае апавяданьне.

Трэба зусім выразна адзначыць, што гэтае вызваленьне мастацкай творчасьці з усякіх путаў, гэтая спроба поўнай незалежнасьці яе ад усякай тэндэнцыі — сацыяльнай ці палітычнай, ці нават нацыянальнай — як гэта ні пакажацца дзіўным, а для каго можа няпрыемным, зьяўляецца новым, вельмі важным і дадатным крокам уперад на шляху разьвіцьця нашае літаратуры.

Новая, вызваленая, кіруючаяся толькі сваімі ўнутранымі законамі творчасьць запраўднага мастака будзе толькі яшчэ лепш — бо вольна! служыць духоўнаму разьвіцьцю й хараству нацыянальнага "Я" беларускага народу!

Гэта ўсё можа вельмі добра, — адкажа чытач. — Можа Язэп Нарцызаў запраўды зусім *"вольны мастак"*, бо *"вызваліўся"* і асьмялеў аж да таго, што маніцца завясьці свайго Гапука аж на поўдзень Францыі і паказаць нам яго запраўднай *"вялікай шышкай"*.

На гэткі *"экспэрымэнт"* даправўды-ж яшчэ не адважыўся аніводны са скромных беларускіх пісьменьнікаў... Але-ж ці хопіць у нашага Язэпа Нарцызава таленту, мастацкіх сілаў і знаёмасьці рэалістычнага быту, каб паказаць нам на гэткіх розных тэрэнах усе штукі яго *"Вялікай Шышкі"*?! Ці яго *"пяці-часьцёвы раман"* ня ёсьць таксама чымсьці ў родзе *"вяліка-шышкаўскай" "ідэі"*-фікс нейкага

*“вар’ята без вар’яцтва”*, *“ідэі”*, якая можа пагражае самому аўтару папасьці, гэтак кажучы, — *«у трэцюю часьць яго ўласнай “повесьці”»*?

Гэтае сумліўнае пытаньне — зусім слушнае.

Запраўды — ці ёсьць у тым, што ўжо даў нам аўтар пэўнае апраўданьне яго вялікага пляну — якісь залог яго абяцанак?

Ці ёсьць у тым, што ён даў, прынамсі элемэнты тэй мастацкай вартасьці, аб якой мы казалі вышэй?

Ці маем мы ў асобе новага аўтара запраўднага мастака, ад якога нашая літаратура можа спадзявацца вялікшых дароў?…

На гэтыя ўсе пытаньні іменна і павінна адказаць крытыка.

Хто-ж такі Язэп Нарцызаў?

Характар творчасьці кожнага аўтара ў значнай меры тлумачыцца яго сацыяльным паходжаньнем і данымі яго біяграфіі. Схаваўшыся пад гэтай псэўданазовай аўтар — Я. Д-ч. — запраўдны тыповы беларус з Полацкай зямлі (Дзісьненскага павету), скуль можа паходзяць і абодва яго героі.

Паходзячы з дробнай шляхты, яго род страціў калісь уласны засьценак і зыйшоў у арэнду.

У тыя *“добрыя даўныя часы”* зусім ня было ў нас вострасьці сацыяльна-зямельных адносінаў, і добры гаспадарны арандар — пасрэднік паміж панам абшарнікам і працоўным земляробам — даваў пэўныя карысьці абодвым сацыяльным антаганістам (супраціўнікам); лёгка дарабляўся і ўласнага дабрабыту.

Гэтак было і ў сям’і аўтара.

Патрыярхальная заможнасьць быту, спакойны і радасны лад, якія панавалі ў яго пасьпешна-працоўнай сям’і, далі магчымасьць разьвіцца ў ім тэй сьветлай і бяззлобнай апалітычнасьці, якая састаўляе галоўную асаблівасьць аўтара, якая, трэба прызнаць, настолькі рэдкае зьявішча ў нашыя дні, што запраўды робіць з гэтай новай птушкі, заляцеўшай на беларускі Парнас, — запраўднага *“белага крука”*…

Яшчэ адную й галоўную чырту духоўнага складу аўтара трэба зьвязаць з яго біографіяй і добра зразумець, каб у далейшым зразумець да канца яго індывідуальнасьць тварца-художніка.

Лепшыя прадстаўнікі такога тыповага для даваенных адносінаў ў нашым краі сацыяльнага слою, — безьзямельных арандатараў — страціўшы пачатную апору ўва ўласнай зямлі, здалелі знайсьці ўва ўласнай энэргіі, у новай форме жыцьцёвае актыўнасьці новую

апору, як пераможцы ў жыцьцёвай барацьбе, выпрацоўвалі ў сабе й пэўны запас моцнага жыцьцёвага оптымізму.

Тыя каротка-тэрміновыя, 3-6-ці гадовыя кантракты, пастаянныя пераезды з аднэй арэнды на другую, якіх, напрыклад, аўтар помніць у сваім жыцьці больш дзясятку, толькі гартавалі рухавасьць гэтае энэргіі, яе свабоду і лёгкасьць, — давалі гэтаму тыпу людзей магчымасьць і здольнасьць у разе патрэбы лягчэй перакінуцца зь вёскі ў места, лягчэй дапасавацца да таго ладу і тэмпу жыцьцёвае барацьбы, якія пануюць у месьце…

Гэтая новая, выпрацаваная бацькамі й дзядамі актыўнасьць, вызваленая ад паняволеньня "адвечнай песьні" ўросшага ў зямлю сялянскага "жыцьця", у сыноў, як гэта заўсёды бывае, — з крахам страціўшага гаспадарчыя і маральныя падставы старога патрыярхальнага быту — пераходзіць — у новай сьвядомасьці маладога пакаленьня — у новую духоўную форму, — выяўляецца зазвычай у тэй ці іншай — ці прамыслова-гандлёвай, ці сацыяльнай, ці паэтычнай, актыўнасьці…

З гэтага слою драбнейшых безьзямельных арандатараў выйшаў і стаў паэтам, адкрыўшы дарогу цэламу легіёну меншых братоў, сам кароль нашай паэзіі — Янка Купала.

Гэтак сама з таго-ж слою, а толькі больш заможнага, прыйшоў у места і вядзе такіх-жа, як ён сам, сваіх герояў-мастакоў з сялянскага сьвету ў гарадзкі і наш Язэп Нарцызаў.

Гэтая "*новая свабода*" падняўшагася над зямлёй, парваўшага ў пэўнай мэры гэтыя адвечныя сувязі і путы духу, як ведама, прынцыпова адрозьнівае па аснаўному тыпу творчасьці Купалу ад Коласа, з якіх апошні ня можа й ня хоча адарвацца ад зямлі, ад вёскі, ад вясковага пэйзажу, ад сялянскага жыцьця…

Гэта самая супольная з Купалай — галоўная чарта — свабода ад зямлі і, так сказаць, "*самаапорнасьці*", творчага духа, толькі пасунутая яшчэ далей — зьяўляецца найбольш характэрнай і для Язэпа Нарцызава, састаўляе падставу яго арыгінальнасьці.

Вялікае важнасьці об'ектыўны сацыяльна і культурна-гістарычны факт, які, як бачым і яшчэ ўбачым далей, стаіць за творчасьцю Язэпа Нарцызава, зьмяшчаецца ў тым, што беларускі "*нацыянальны геній*", творчы дух беларускага народу — не здаволіваецца ўжо адным сялянскім жыцьцём і зьвязанымі з ім адвечнымі лірычнымі і эпічнымі, а на'т і сацыяльнымі матывамі, але ўжо пачаў

пераходзіць і ў места, усвойвае новыя свабодныя формы творчае актыўнасьці, пароджаныя *“меставым духам”*…

Гэты новы ў беларускай літэратуры *“дух места”* выяўляецца ў творчасьці Язэпа Нарцызава ня толькі ў зьмесьце яго повесьці, якая, як мы бачылі з яго плёну, лёгка, як і яго бацька-арэндар, зьмяняе тэрэн сваіх падзей, пераносячыся зь вёскі ў места і наадварот; але, што шмат важней, — і ў самай форме, і *“манеры”* повесьці ў тых мэтадах панаваньня над матар’ялам, яго мастацкай абработкі, у самой арганічна-цэльнай вобразнасьці, і — урэшце — у тым цэнтральным усёахопліваючым сымвалізьме, у тэй агульнай маральна-актыўнай ідэі, якая, як відаць ужо з першай часьці, як можна меркаваць з агульнага пляну, — праходзіць чырвонай стужкай праз усю повесьць, зьвязываець у адзінае арганічнае цэлае ўвесь твор нашага аўтара.

Язэп Нарцызаў, што называецца, — артыстычная, мастацкая натура.

Ён ня толькі пісьменьнік, але і мастак-рысавальшчык: скончыў рысавальную школу ў Вільні. Дасканалая вокладка яго першай кніжкі — яго ўласнай работы. І абодва яго герої — таксама художнікі, вучні мастацкай школы ў месьце Далінску.

Вайна і чарга акупацыяў зруйнавалі зусім яго сям’ю, крывавая хваля вайны ганяла яго па ўсёй Расеі як жаўнера, пасьля як ваеннага фельчара, пакуль ня выкінула на голы і зыбучы бераг сучаснага, горшага ад вайны *“міру”*…

Але ўспадкованая ад бацькоў закалка ня спыніла ў ім ані актыўнасьці, ані оптымізму тварца-мастака.

Яго творчасьць перад усім — лёгкая й радасная, вольная… Гэтае злучэньне ў асобе аўтара абодвых радоў штукі, абодвых талентаў зьяўляецца вельмі важным і характэрным для яго як для мастака-пісьменьніка: тыя самыя мэтады зусім свабоднага панаваньня над сваім матар’ялам, якія ён усвоіў, як жывапісец, ён уносіць і ў вобласьць поэзіі. З гэтага ўнутранага сынтэзу абодвых радоў штукі бярэ свой пачатак і тая вобразнасьць, той сымвалізм, які, як мы казалі, і ахоплівае звонку і прасякае наскрозь усю творчасьць аўтара.

Зьвернемся цяпер да таго, што даў ужо ў сваей першай кніжцы аўтор, і пакажам на канкрэтным матар’яле справядлівасьць таго,

што мы, можа, зашмат поэтыцка-павялічанымі вачамі, угледзілі ў першай часьці яго повесьці.

*“Поэт,* кажа вялікі нямецкі поэт Гэйнэ[84], *відзіць ужо дубовы лес у жалуду”*, і кожны крытык, каб зразумець гэткага поэта, павінен быць і сам хаця троху да яго падобным…

Пролёг повесьці — “Пабрацімцы” дае апісаньне таго сялянскага жыцьця, быту тых дзядоў і бацькоў, якія парадзілі абодвых герояў повесьці. Альфукова сям’я больш бедная, больш працоўная, дае лепшую маральную закалку ідучаму ў места за новым лёсам, на новую працу — першаму з пабрацімцаў. Сталяр і ганчар Альфукоў бацька — прабуждае мастацкія здольнасьці і імкненьні ў абодвых хлопцаў.

Сям’я Гапука — разбагацеўшая сям’я сельскага кулака-млынара, пасьля памешчыка, першай, паводля рады суседняга бацюшкі, пасылае свайго сына ў места, у школу жывапісі. Вельмі цікава рысуюцца парваўшыя *“адвечную сувязь”* адносіны паміж *“бацькамі і дзецьмі”*, тыпова сымвалізуючыя адносіны паміж вёскай і местам: Гапон ня ўласны сын яго бацькі Гапона… *“Бацькі”* незадаволены, амаль не пагардліва адносяцца да пустадомкаў-мастакоў, бадзяўшыхся, прыяжджаючы на вакацыі, па *“пустых сьцежках”*, шукаючы *“ўдачнага”* пэйзажу, але зараз неяк чуюць пэўную сілу ў гэтай меставай працы, гардзяцца сынамі, якія гэтым шляхам маюць неяк *“выйсьці ў людзі”*…

Тут-жа дае аўтор і апісаньне гарадзкога жыцьця абодвых мастакоў, дае ўжо і агульную характарыстыку іх процілежных натураў.

Альфук — працавіты, больш скромны і замкнёны ў сабе; спакойны і стрыманы, роўны — верыў у нешта *“трошкі сьвятлейшае ў будучыне”*, чым тое, што ёсьць цяпер. Гапук як быццам з хуткага бацькавага багацьця *“набраўся фанабэрыі”*, як казаў яго бацька, моцна верыў у сваю хуткую славу мастака, усім і кожнаму высоўваў напярод сваё, як кажа аўтор, — *“вось я”*.

Альфука любілі калегі; Гапука за гэтую яго *“фанабэрыю”* і гордасьць не далюблівалі і называлі — *“вялікая шышка”*…

Першая часьць повесьці гэтак і называецца “Вялікая шышка”, і ўся занята апісаньнем таго, як рыхтаваўся і адбываўся ў вялікім і прыгожым месьце Далінску задуманы вучнямі школы *“баль мастакоў”*.

[84] **Генрых Гейнэ** (ням. *Heinrich Heine*, 1797–1856), нямецкі паэт, публіцыст і крытык.

Мастацкі зьмест *“балю мастакоў”* выяўляўся ў дзьвюх працэсіях: адна павінна была ў касьцюмах прадставіць усё багацьце *“гаспадаства кветкі васілька”*, усё царства палёў і лугоў, з усімі прадстаўнікамі хатняе жывёлы і расьліны, сабранымі навокал сябе селянінам.

Другая працэсія ўяўляла *“гаспадарства кветкі пралескі”*, — выабражала лясное каралеўства. Выбіралі, што хто хацеў: хто касьцюм папараці, хто баравіка, хто мухамора, хто птушку нейкую…

Вось што асталося ад жывога, рэальнага, кормячага меставое насяленьне селянскага царства ў жыцьці меставых *“цілігентаў з талантам”*, як выражаўся, перадражніваючы сына, Гапукоў бацька…

Нашыя мастакі выбралі сабе, паводле думкі Гапука, касьцюмы — Гапук яловай, а Альфук сасновай шышкі…

Мы ня будзем сачыць далей за гісторыяй спрэчкі паміж абодвых пабрацімцаў, іх барацьбы рознымі, згодна з розьніцаю іх характараў, мэтадамі за *“пагляды”* іх супольнай сымпатыі — маладой мастачкі Адэлькі, ня будзем сачыць за папісамі абодвых мастакоў на балю — за аканчальным паражэньнем зваліўшайся з сваёй “яловай” вышыні “вялікай шышкі” — зашмат заразумелага і добра ўкаранага Гапука.

Мы хочам толькі зьвярнуць увагу чытача на тое, як арганічна прадуманы й зьвязаны адным галоўным цэнтральным вобразам, узвышаючымся да запраўднага, па-мастацку створанага поўнага глыбокага маральнага зьместу, — сымвала, вобразам “вялікай шышкі” — “яловай” шышкі — увесь ланцуг зьмяшчаючыхся ў кніжцы падзей.

Гэты новы мэтад мастацкага аб’яднаньня ўсяе многатворнасьці, усёй многавобразнасьці захопленых невадам раманіста жыцьцёвых падзей, зьяўляецца доказам сілы й бязспрэчнай арыгінальнасьці аўтара.

Значэньне гэтага мастацкага прыёму лёгка ацэніць усякі, хто ўдумаецца ў яго сутнасьць. Ня толькі для працэсу тварэньня, — пакарэньня паэтычнай волі мастацкім мэтам, індывідуальнай асобе аўтара налятаючай з усіх бакоў, як з памяці мінуўшчыны, таксама і з бушуючай навокал сучаснасьці — масы зьявішч і ўражаньняў, — групаваньня іх у стройны лад мастацкага арганічнага цэлага: але нават для чытача, для лёгкасьці ахопленьня, трыманьня ў памяці і разуменьня глыбокага, запраўднага зьместу твору — гэты новы мэтад, які Язэп Нарцызаў уносіць у якасьці адначасна пісьменьніка

і мастака — уносіць у беларускую літэратуру, мае вельмі важнае значэньне.

Хай чытач сам прасьледзіць, з якой запраўды арганічнай суцэльнасьцяй і паступовасьцяй праведзены ў повесьці гэты вобраз чалавека, які налажыў на сябе і носіць ня толькі на балю, але заўсёды, як дрэнны звычай, гэты *"касьцюм яловай шышкі"*, зроблены з *"грубага, цьвёрдага картону і жалезнага дроту"*…

Як вельмі псуе і людзям і перад усім самому сабе такі чалавек, адзеўшы такі касьцюм і лічучы сябе запраўднай *"вялікай шышкай"*…

Можна закінуць аўтору пэўную анэкдатычнасьць зьместу першай яго кніжкі, можна яшчэ шмат чаго сказаць яму і аб ім, прыкладаючы да яго твору зашмат суровую і высокую мерку.

Але адняць ня можна ад яго запраўднай арыгінальнасьці, мастацкай об'ектыўнасьці, свабоднага панаваньня над матар'ялам, зусім новага для нашае літаратуры духу лёгкасьці і сьветлае радасьці мастака пераможцы, якія даюцца іменна выкрытым і раскрытым намі яго сымвалічным, у простым і добрым сэнсе выразу, мэтадам мастацкае перамогі над бязьлікімі краскамі, тварамі жыцьця, якое ён хоча і ўмее паказаць другім…

Таксама ня можна адабраць ад новага аўтара і яго лёгкай, чыстай, жывапіснай — запраўды мастацка-народнае мовы…

Усё гэтае дае нам права чакаць вельмі многага ад гэтак добра пачаўшага аўтара і — прагавіта жадаць скарэйшага паяўленьня далейшых часьцей яго повесьці аб тым, як з *"гаспадарства кветак васілька і пралескі"* беларускі *"дух"* ідзе праз мастацтва на заваяваньне места!..

# “КРЫВІЧ”[85]

## Месячнік літаратуры, культуры і грамадзкага жыцьця. Пад рэд. В. Ластоўскага[86] і К. Дуж-Душэўскага[87]. №№1–6[88]

Трэба перадусім шчыра прызнацца ў вялікай віне: больш, як паўгода, істнуе адзіная па гэты бок усходняга кардону беларуская часопісь, беларуская прэса ў Заходняй Беларусі ані разу не адгукнулася на гэтае, у кожным разе вельмі выдатнае ў нашым бедным культурным жыцьці зьявішча…

Пэўна-ж былі тыя ці іншыя прычыны доўгага маўчаньня… Але трэба прызнаць і тое, што запраўдная вартасьць культурнай працы ковенскіх *“крывічоў”* усё-ж перамагла…

Мы ня будзем тутака дашуківацца гэтых прычын, скажам толькі, што галоўная зь іх ляжыць у тых аб’ектыўных варунках — парэзу і падзелу беларускай тэрыторыі і беларускага грамадзянства на 4-5 кавалкаў, ня лічучы эміграцыі, якія воляй лёсу змушаны жыць і працаваць у вельмі розных палітычных варунках. Ужо адно гэта выклікае пэўныя, часам вельмі глыбокія і прыкрыя непаразуменьні.

Трэба-ж прызнаць, што ўсюды, ува ўсіх бяз вынятку *“заборах”* Беларусі няма запраўднага, зусім нармальнага палітычнага жыцьця, якое магчыма толькі ў незалежнай і непадзельнай дзяржаве… Паўсюль маюцца свае асобныя для кожнага *“забору”*, дэнармуючыя свабоднае ў сваім нацыянальным адзінстве жыцьцё, уплывы і цісьненьні, свае *“ражыянальныя”* — дыплёматычныя ці палемічныя — *“ор’ентацыі”*…

Палітычны падзел *прымушае* да раздробленьня, але беларускае грамадзянства якраз і *павінна* — насустрэчу гэтаму вонкаваму прымусу — процістанавіць сьвядомую волю да падтрыманьня, а нават паглыбленьня і ўмацаваньня нацыянальнага адзінства…

І калі лёкальная палітыка ор’ентацый заўсёды дзеліць, дык культурная праца, імкнучаяся да тварэньня агульна-нацыянальнага, агульналюдзкога значэньня вартасьцяў, заўсёды лучыць, зьбліжае, яднае…

---

85 **“Крывіч”** — беларускамоўны часопіс, які ў 1923–1927 гг. выходзіў у Коўне.

86 **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), пісьменнік, гісторык, прэм’ер-міністр Рады БНР у 1919–1923 гг.

87 **Клаўдзій Дуж-Душэўскі** (1891–1959), архітэктар, журналіст, выдавец. Стваральнік сцяга БНР.

88 Тэкст падпісаны *Суліма*. Друкуецца паводле: Голас Беларуса. Вільня. 1924. № 2. 17 лют. С. 2–3; № 3. 22 лют. С. 3–4.

Таксама здарылася і ў тым выпадку, аб якім мы пачалі мову: калі *“крыўская”* палітыка ковенскіх беларусаў падзяліла, дык *беларуская культура* “Крывіча” ізноў спыніла падзел — злучыла ізноў і, як мы казалі, — перамагла…

Можна нават наагул сказаць, што нават выракшаяся з тых ці іншых прычын палітычных мэтадаў чыста культурная праца часта мае ў канцы канцоў палітычныя вынікі шмат вялікшага значэньня, чым чыста палітычная дзеяльнасьць, асабліва — у тых палітычна-ненармальных варунках, аб якіх мы казалі вышэй…

І наадварот, чыста палітычныя мэтады, не падмацованыя культурнай працай грамадзянства, наагул ня могуць тварыць палітычных фактаў, колькі небудзь трывалага значэньня.

Кожнаму ясна, што наагул усякая палітычная дзеяльнасьць беларускага грамадзянства ў варунках, ня створаных свабодна народам для сябе, як для самамэты, але якраз наадварот — створаных для яго ў мэтах таго палітычнага арганізму, у які папала тая ці іншая частка беларускага грамадзянства, — наагул вельмі небясьпечна і часта можа прынясьці вялікую шкоду для суцэльна-нацыянальнага жыцьця і яго разьвіцьця як адзінага арганічнага цэлага…

Дзеля таго наагул ніколі ня трэба зашмат захоплівацца палітычным дзействам у *“чужой хаце”*, бо нават пачаўшы з найбезадказьнейшай опозыцыі, акурат дойдзеш да *“ўгоды”*…

Найлепшы прыклад гэтага даюць *“найвытраўнейшыя”* польскія палітыкі з аўстрыяцкага забору, якія патрапілі іграць вельмі значную ролю ў Аўстрыі, але зусім не прыдаліся ў дажыўшай да незалежнасьці Польшчы…

Палітыка для нас павінна быць усюды толькі спосабам для павялічэньня багацьця народу…

Культурна-эканамічная незалежнасьць грамадзянства ў данных граніцах таго ці іншага забору і культурна-нацыянальная непадзельнасьць — паверх усіх палітычных граніц — вось тое, чаго можна бяз усякага страху і рызыкі дабівацца і дасягаць самымі мірнымі і нармальнымі мэтадамі — пры ўсялякіх варунках, як гэта відаць з прыкладу жыдоў…

І трэба зразумець, што ў гэтым ня толькі няма здрады беларускаму палітычнамі ідэалу, але якраз наадварот: гэта найвярнейшы шлях дасяжэньня апошняга…

Гэта добра зразумелі кіраўнікі “Крывіча”, і ў гэтым іх вялікая моц, як бы і з кім не дзяліла іх тая ці іншая іхная *“палітыка”*…

І вось дзеля чаго іх дзеяльнасьць выходзіць далёка за межы іх частковага палітычна-*“крыўскага”*, заборнага жыцьця і іх часопісь вырастае да разьмераў значнага агульна- і супольна-беларускага нацыянальнага факту.

Вось як тлумачаць сваё новае становішча рэдактары “Крывіча”.

Увесь час рэвалюцыі ўсе нашы сілы былі скіраваны ў бок абароны палітычных пазіцыяў, клалася на гэты бок многа ахвярнай і труднай працы: ніва-ж нашай культурнай працы была пакінута выключна ініцыятыве і захадам паасобных дзеячоў.

У выніку атрымалася значнае папярэджаньне працы палітычнай перад культурнай. Настаў вялікі час, калі беларускай адраджэнскай думцы, ані на момант ня спыняючы ні зь якога боку змаганьня, патрэба акапацца на здабытых дагэтуль пазыцыях: прыступіць да творчай працы ў дзедзіне нашага самапазнаньня, самаацэны і самакрытыкі.

І так, культура — папярод палітыкі, вось — першая галоўная рыса часопісі, маючая, як мы бачылі, як агульна беларускае абаснаваньне, таксама і сваё поўнае лёкальнае апраўданьне…

Але пад знакам найменьня “Крывіч”, у зьвязку з пэўным адходам ад актыўнай палітыкі, ствараецца вельмі моцны характэрны ўклон часопісі ў вобласьць гісторыі…

Найбольшая частка артыкулаў і заметак у “Крывічу”, згодна, так сказаць, зь першаю любоўю галоўнага рэдактара В. Ластоўскага, зварочаны ў бок роднай мінуўшчыны…

І гэта таксама — зусім зразумела…

Як толькі грамадзянства ставіць сабе мэты нацыянальнага самапазнаньня, дык адразу павінна зьвярнуцца да шуканьня крыніц і каранёў таго, што існуе ў сучаснасьці, бо кожнае жывое, арганічнае, індывідуальнае зьявішча мае сваё разьвіцьцё ў часу і дзеля гэтага можа быць пазнана цалком толькі гістарычна…

Але ня толькі ў самапазнаньні тут рэч…

Тэрмін “культура” запазычаны навукай у хлебароба ці садавода: культура і складае сабраньне добрых, праверaных, аснаваных на ізучэньні гісторыі разьвіцьця таго ці іншага арганізму, спосабаў, якія маюць наагул мэтаю найвышэйшую дасканаласьць гэтага свабоднага разьвіцьця…

Ясна адсюль, што гістарычнае самапазнаньне як частка грамадзянскай культуры ставіць сабе галоўную для грамадзянства мэту: самаўзгадаваньне…

Вельмі важным і сумным вынікам таго, што беларускі народ быў падбіты праз колькі вякоў і праз увесь гэты час ня жыў гістарычным жыцьцём, зьявілася тое, што ня толькі яго жывыя адзінкі і яго тэрыторыя пераходзіла з рук у рукі, рэзаліся і дзяліліся, як рызы Хрыста, паміж тымі ці іншымі крыжаваўшымі яго *“воінамі”*, але таксама, як яго Бацькаўшчына, дзялілася і аставалася ў заборцаў, як адарваныя ад цэлай сьвятарнай рызы шматы і кавалкі, і яго мінуўшчына — яго суцэльнае культурна-гістарычнае разьвіцьцё…

І вось для гістарычна сьвядомага культурнага самаўзгадаваньня грамадзянства паўстае задача — вярнуць з гэтай роднай мінуўшчыны ўсё тое, што прысвойвалі сабе нашы суседзі-дабрадзеі, якія пазапісывалі, гэтак кажучы, сабе на прыход вельмі значную частку гістарычнага даробку беларускага народу…

Гэтай вельмі важнай працы ахвяруе многа вучонай увагі і таленту “Крывіч”.

Так бязспынна ідзе гэтае *“зьбіраньне Зямлі Беларускай”*, толькі перакінулася ў мінуўшчыну, у гістарычна-нацыянальнае самаўсьведамленьне — як толькі рэальна-палітычнае зьбіраньне сталася цяпер немагчымым…

А можа якраз гэтае культурна-нацыянальнае *“зьбіраньне зямлі”* і павінна папярэдзіць — моцна толькі яно і *трывала акрэсьліць* дзяржаўна-тэрыторыяльнае…

У кожным разе праца гэта — першараднай вагі для запраўднага адраджэньня Беларусі… ня менш важная, як тая *“палітыка”*, якой пераважна заняты мы ўсе ў нашай Заходняй Беларусі…

Бо мы ведаем, што ўсё тое, што пазахоплівалі нашы суседзі-дабрадзеі, — ці *“ваенныя трофэі”*, ці як навучна *“цікавыя памятнікі”*, ці, папросту, як нягодны хлам — валяецца па кутох у іх музэях, — даючы толькі шкодную страву для іх нездаровага шовінізму, для беларускай душы зьяўляецца тэй роднай асярэдзінай, у якой яна толькі і можа нармальна разьвівацца — тым здаровым паветрам, якім беларус павінен дыхаць, — безь якіх ён чахне і замірае…

Для беларуса гэтая “старыня” — ня мёртвы архіў, не засушаны калекцыянерам-любіцелем гэрбарый, але жывы, пахнучы сад, у якім кожная расьліна гавора зь яго душой сваёй і яго роднай мовай — складаючы зь ім адно арганічнае цэлае — адзіны ў часе і прасторы беларускі сьвет…

І ў гэтым напрамку ковенскія “крывічы” робяць вельмі многа. Цікавыя і важныя ў гэтым сэнсе працы самага рэдактара Лас-

тоўскага і п. п. Юра Верашчакі[89] (асабліва), Брачыслава Скарыніча[90], Ружанцова[91] і інш.

Вельмі цікавы артыкул п. Ю. Верашчакі “Хто ў каго пазычае”, які, апіраючыся на працы пераважна польскіх аўтараў навейшай об’ектыўнай, *“рэальнай”* школы, Бран[іслаў] Хлебоўскі[92], а таксама расейскіх і нямецкіх вучоных, зусім пераварочвае *“найбольш папулярную, але і найбольш непраўдзівую басьню аб польскай цывілізацыі на Беларусі”... «Паводле гэтай басьні да прыходу палякаў у Беларусь быў тут край дзікі, з простай мовай, якую польская цывілізацыя “ўшляхотніла”»*...

Аўтар чарадою довадаў і цытатаў з Хлебоўскага і інш. даводзіць, што якраз наадварот — сама польская мова і польская культура былі ў тыя даўнія часы бедныя — яшчэ шмат бядней за беларускія…

Да гэтай вельмі важнай працы мы йшчэ вернемся; цяпер адзначым толькі важныя ўказаньні аўтара, што не Беларусь у Польшчы, але наадварот — Польшча пазычыла ў Беларусі — і ня толькі ў далёкія дахрысьціянскія часы, зь якіх Польшча згубіла ўсё багацьце, усю спадчыну народнай творчасьці, гэтак багата захаванай іншымі славянамі, у тым ліку і беларусамі, але гэтыя сыстэматычныя пазыкі адбываліся і пазьней… Нават пышнае *“польскае Адраджэньне чэрпала жывыя сокі з Русі”*… А нават *«найбольшыя захваты беларускага лексычнага (слоўнага) матар’ялу прыпадаюць на XX стагодзьдзе, калі палякі, утраціўшы палітычную незалежнасьць, пачалі дасканаліць сваю літаратуру і мову пры помачы “правінцыялізмаў”»*, — гэта значыць, — беларускай і ўкраінскай духоўнай стыхіі…

Цікавы рад гістарычных справак з расейскіх аўтараў аб найменьні *“крывічы”* як запраўднай і найстарэйшай назовы *“беларусаў”*, даў той самы п. Верашчака.

Аўтар, можа, давёў вядомую рэч, што найменьне *“беларус”* — пазьнейшае, не давёў толькі аднаго: магчымасьці карыстаньня гістарычным найменьнем *“крывіч”* заместа сучаснага, маючага

---

[89] **Юры Верашчака** — псеўданім Вацлава Ластоўскага.

[90] **Брачыслаў Скарыніч** — псеўданім **Янкі Станкевіча** (1891–1976), грамадска-палітычнага дзеяча, мовазнаўцы, які на той час жыў у Чэхаславаччыне.

[91] **Аляксандр Ружанцоў** (1893–1966), вайсковы дзеяч, бібліёграф, паэт. У 1919–1939 гг. жыў у Коўне.

[92] **Браніслаў Хлябоўскі** (польск. *Bronisław Chlebowski*, 1846–1918), польскі гісторык, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта.

бязпрэчнае прызнаньне і сусьветную вядомасьць, дзеля таго і вялікае палітычнае значэньне тэрміна *“беларус”*.

Вельмі важны рад артыкулаў ахвяраваны беларускай этнаграфіі — пераважна працы самога В. Ластоўскага. Працы гэтыя — пакуль што толькі адарваныя часткі ці матар’ялы, але маюць бясспрэчную важнасьць і цікавасьць.

Нязьмерна цікавая з тых, бо заўсім арыгінальная, праца — аб “Беларускім іменьніку”. *“Адкрыцьцё”* аўтора зьмяшчаецца ў тым, што імя, дадзенае беларускаму дзіцяці пры хрэсьбінах, зусім заканамерна, паводле агульнага закону, зьмяняецца ў нашай жывой мове, дапасовываючыся да веку яго — як быццам расьце і разьвіваецца разам з чалавекам.

Напрыклад, навахрышчаны *Анастасій* — да *“першых парток”* завецца *Насьцік*. Пэрыяд *“пастускага стану”* і веку адзначаецца формай *Настук*. Дзяцюк, маладзён — ужо Настась: форма ветлівай узаемнай пашаны і — флірту. Пераход зь *“дзіцячага стану ў мужчынскую славу”* адзначаецца цьвёрдай, энэргічнай формай — *Настас*, гэта — жанаты гаспадар і воін. Далей Настас ужо ажаніў сына, і прыйшоўшая ў чужую хату нявестка зь ветлівай жаноцкай увагай зьмякчае гэты мужаска-баявы гук у форму — *Насташ*.

На жаль, гэты старадаўні звычай-закон неяк ужо выветрываецца ў нашага народу.

П. Ластоўскі справядліва кажа, што гэтае зьявішча дае цэнныя данныя для зразуменьня паходжаньня многіх гістарычных імёнаў і прозьвішчаў.

Таксама вельмі важную працу, хаця таксама адарвана і несыстэматычна, дае аўтар па ізучэньні беларускіх аднасловаў, беларускага зельніка і інш.

Усё гэта пакуль што толькі пачаткі, але-ж, як мы ведаем, добры пачатак часам варты палавіны дзела: па пралажанаму першаку лягчэй пасьля будзе ехаць другім…

Можа больш спрэчнымі зьяўляюцца спробы п. Ластоўскага ў напрамку стварэньня беларускай навуковай тэрміналёгіі — па фізыёлёгіі, анатоміі і г. д.

Дапраўды — устанаўленьне тэрміналёгіі тэй ці іншай навучнай галіны — справа і кампэтэнцыя камісіяў і зьездаў спэцыялістаў. Але ковенскія *“крывічы”*, з шануючай сябе і навуку скромнасьцю,

дадаюць, што праца іх у тым напрамку зьяўляецца ў сьвет *“у дыскусыйным парадку”*. Але і тутака — першая спроба зьяўляецца вельмі важнай і заслугоўвае на ўсякую ўдзячнасьць.

Можа, слабейшай галіной у “Крывічы” зьяўляецца аддзел прыгожага пісьменства. Аддзел паэзыі складаецца пераважна, калі ня выключна, з твораў самога рэдактара Ластоўскага. Вершы разнастароннага аўтара, часам вельмі цікавыя, перадусім *“шванкуюць”* з боку формы, а часта *“вольны верш”*, з прыпадкам падвярнуўшайся паміж *“белымі канцамі”* рыфмай, прадстаўляе напісанную *“вершам”* прозу…

Гэтая проза, часам вельмі цікава ўзбагачана мадэрнізаванымі аўтарам архаізмамі, наагул пісана моцнай мовай. У аўтара відаць часам вельмі цікаваю барацьба са слоўным матар’ялам, чуваць гэтыя дабрародныя высілкі, якія часам даюць і бліскуючую перамогу… Але яго дасяжэньні наагул ня маюць таго, без чаго, як гэта цяпер ужо ўсюды зразумела, няма паэзыі, няма галоўнага ў вершу — музыкі…

З арыгінальнай бэлетрыстыкі на шчыце запраўднага мастацтва стаіць вялікае апавяданьне — *“літэратурны нарыс”* Янкі Палына[93] — “Аднабочнікі”.

Нарыс аўтара з жыцьця інтэлігэнтнай моладзі — стаіць ня толькі на вышыні запраўднай інтэлігэнтнасьці дасьледчыка-псыхолёга, але і на вышыні сучаснай апавядальнай тэхнікі, так што можа быць пастаўлены нароўні з падобнымі творамі любой з эўрапэйскіх літаратураў. Суровы прысуд (самазабойства), вынесены аўтарам свайму *“аднабочнаму”* герою паказывае, што аўтар глядзіць на жыцьцё ня толькі глыбокім вокам псыхолёга-мастака, але і з пачуцьцём маральнай адказнасьці мысьліцеля…

І ў гэтым — залог яго далейшага разьвіцьця на карысьць роднай літаратуры і маладога беларускага грамадзянства. Не сумляваемся, што рэдакцыя “Крывіча” выдасьць гэты нарыс асобным выданьнем; прыпадковага характару зьяўляюцца ў часопісе пераклады з чужых літаратураў. Рэч, на якую варта было-б зьвярнуць асаблівую ўвагу.

[93] **Янка Палын** — псеўданім **Віктара Вальтара** (1902–1931), пісьменніка, аўтара рамана “Роджаныя пад Сатурнам”, напісанага ў эміграцыі ў Празе.

Вельмі важным і карысным аддзелам у часопісі зьяўляюцца Запіскі — сабраньне драбнейшых гістарычных, філёлёгічных, этнаграфічных і інш. заметак, датычучых пераважна беларускай мінуўшчыны — часамі цэлых маленькіх, але ўсё-ж ня менш важных і цікавых *"монографіяў"* — матар'ялаў да таго *"зьбіраньня Беларусі"*, у часе, калі ня ў прасторы, аб якім мы казалі вышэй.

Можа менш, як мінуўшчына, зьвяртае на сябе ўвагу і энэргію рэдактароў часопісі беларуская сучаснасьць. Але й тутака трэба прызнаць, што аддзелы — *"Агляды культурнага жыцьця"*, — *"дзейнасьці беларускіх палітычных арганізацыяў і партыяў"*, — *"беларускага грамадзкага жыцьця"* — *"пад Расеяй"*, *"пад Польшчай"*, *"у Латвіі"*, *"у Літве"* і *"па ўсім сьвеце"* — як гэта і абяцала Рэдакцыя ў сваім праспэкце — выпаўняецца вычарпаюча і об'ектыўна.

Можна толькі заўважыць, што часам у аглядзе прэсы не паказываецца крыніца, як, напрыклад, у № 5 арт. "Рожнымі меркамі", што передрукаваны зь віленскай беларускай газэты.

Як бачым, часопісь і задумана паводле добра ўложанай шырокай праграмы і выпаўняюць яе сумленна і з адпаведнымі ўвагай і талентам…

Пэўная *"аднабочнасьць"* — гістарычна-культурная — часопісі зьяўляецца зразумелым вынікам таго, што грамадзка-палітычнага жыцьця ў ковенскай *"Крывіі"* амаль ўжо няма… Дзеля гэтага ня можа быць і яго жывога, бьючага гарачай кроўю, адбіцьця ў тамтэйшым органе прэсы… Публіцыстыкі апошні амаль ня зусім пазбаўлены…

Але і за тое, як мы бачылі, вельмі патрэбнае багацьце, што даюць беларускаму ўсяму грамадзянству перакаваўшыя *"палітычныя мячы"* на *"культурныя аралы"* ковенскія *"крывічы"*, яно павінна прынясьці шчырую падзяку і падтрыманьне.

Пажадаем ім — хай аруць і барануюць, калі ня беларускую народную цаліну, дык — запушчаны і заросшы, захоплены суседзямі беларускі *"гістарычны дзерван"* — пад родную азімую рунь…

Прыйдзе і для апошняй вясна… Дачакаецца і яна свайго красаваньня… дачакаецца і яна — сабранай Зямлёй — Беларускай Грамадой — як зажынак, таксама і дажынак, — на сваім вольным полі Бацькаўшчыны.

# ГЭТЫМ ПЕРАМОЖАШ!
## (Нарысы крытычнага аптымізму)[94]

### 1.

Дабро і зло,— што-б ні казалі крайнія оптымісты і крайнія пэсымісты — як трэба зраўнаважаны ў нашым сьвеце...

У гэтым найлепшым спасярод сьветаў, — дадаюць оптымісты...

Спасярод найгоршых... — гавораць пэсымісты.

У найлепшым спаміж усіх магчымых, — скажам мы, — ужо дзеля аднаго таго, што ён — адзіны дадзены, што толькі ён — спаміж усіх мысьлімых — мае самую важную для дасьпелага дзеяльнага чалавека, ды мо' і самую няпрыемную для юнага лятуценьніка ўласьцівасьць: рэальнасьць, істотнасьць...

Толькі ў дадзеным нам рэальным сьвеце мы можам дзеяць...

Зла на сьвеце — акурат гэтулькі, каб сьвет з вечнае *"мысьлі Божае"* мог ставацца рэальнасьцяй у часе і прасторы.

Зла на сьвеце — акурат гэтулькі, каб ён мог і павінен быў-бы *дасканаліцца,* а не застыг і не загніваўся ў сваім ненарушным сьвятым *супакоі,* як гатовая ўжо *"абсалютная дасканаласьць"*...

Зла па сьвеце — акурат гэтулькі, каб ня даць лятуценьнікам залятуцецца, каб канечна напамінаць ім аб запраўднасьці, — каб *абярнуць лятуценьніка ў дзеяча на дасканаленьні недасканалага сьвету...*

Такую прыблізна разьвязку філязофскае праблемы сусьветнага зла і даў — у мамэнт пераходу нямецкага сьвету з філязафуючае юнасьці ў дасьпеласьць кантаўска-крытычнае мысьлі — нямецкі мысьліцель, зьнемчаны славянін, Лейбніц[95].

З гэткае пастаноўкі справы ясна, што тольні жывою дзейнасьцяй у недасканалым, поўным зла, сьвеце, толькі актыўным змаганьнем са злом у імя і дзеля ідэальнага дасканаленьня сьвету разьвязуецца філязофская праблема *"апраўданьня сусьветнага зла"*, — *толькі на гэтым грунтуецца крытычна і самы оптымізм.*

Вось якую разьвязку праблемы дае згерманізованы славянін Любеніч-Лейбніц.

---

[94] Тэкст падпісаны *Суліма*. Друкуецца паводле: Заходняя Беларусь. Вільня. Кн. 1. 1924. С. 9–70.

[95] **Годфрыд Вільгельм Лейбніц** (ням. *Gottfried Wilhelm Leibniz*, 1646–1716), нямецкі філосаф, логік, матэматык, фізік, юрыст, гісторык, мовазнаўца.

І калі можна і трэба рашуча паўставаць проці няволеньня славяніна немцамі, дык такая карысная для пасіўнага славянства *“германізацыя”* ягонага духу нічога, апрыч дабра, даць ня можа...

Гэтая *“актывізацыя”* духа; гэтая *“оптымізацыя”* душы асабліва патрэбна нашаму вякамі прывучанаму да рабства беларускаму роду — у часіну яго Адраджэньня.

Гэтыя радкі і прадстаўляюць першую, слабую спробу ў гэтым кірунку...

2.

*“У Пачатку (значыць, яшчэ да стварэньня з гэтага Пачатку нашага сьвету) было Слова (значыць, Розум), і Слова гэтае імкнулася да Бога, і само гэтае Слова сталося Богам”.*

Так кажа асабліва любая славянству Эвангелія паводле Яна.

Гэтае гатовае, але блага зразумелае Слова і падхапілі бюракратысьвяшчэньнікі і тупа-трусьлівыя маралісты і — падзялілі ўсенькі сьвет на драбнюсенькія кусочкі, разграфілі ўсенькае жыцьцё на клетачкі дабра і зла...

І вось гэная мэханічная мешаніна доўга астаецца ў нашых душах, аберненых тымі благімі вучыцялямі жыцьця ў нейкія бюракратычна-царкоўныя судзіны, каб пераховываць у іх душу ў *“вечна непарушным”* стане, у *“нязьменным”* відзе...

І кожны з нас, каб стацца запраўды жывым чалавекам, запраўды *“актыўным хрысьціянінам”*, павінен сам, сваей уласнай істотай, перажыць раней ці пазьней нейкі нязвычны мамэнт, нейкі выбух, быццам ад агню, прыткнутага для самае душы, да гэнае выбуховае мешаніны, што пераховываецца ў ёй, — перажыць запраўдную духовую рэвалюцыю... Быццам полымя агорне разам усю душу, і водблескам ад яго асьвеціцца ўсенькі сьвет... І зробімся мы — як багі, запраўды спазнаўшыя дабро і зло, а ня гэныя *“словы”*, ня гэныя *“кусочкі”*, на якія іх пабілі... І пераплавіцца ў жывую волю жыцьця, у жывую актыўнасьць тое, што было гэткім *“непарушным і нязьменным”* — уся гэная мэханічная мешаніна дабра і зла...

Так ад прыткнутага серчыка — у рэакцыі гарэньня — ператвараецца ў хімічнае недзялімае, у *з у с і м  н о в а е  ц е л а,* дробная мешаніна мэталю і серкі...

Толькі пасьля такое пламеннае навальніцы, што як быццам праймчыцца праз усю яго істоту, чалавек пачуе, што яго душа, яго дух, яго *“Я”* ёсьць нешта адзінае, самастойнае, суцэльнае, не-

падзельнае... Пачуе і ўсьвядоміць сабе, што і тое другое, вялікшае *“Я”* — душа яго роднага народу, у якое уваходзіць, як жывая, неаддзялімая складовая частка, ягоная ўласная душа, — ёсьць так сама жывая, адзіная і непадзельная, хоць і неаддзялімая ад людзкасьці, істнасьць... Зразумее і пачуе, што і ўсенькае вялізарнае *“Я”* Бога-Сусьвету прадстаўляе сабою так сама адзіную арганічную суцэльнасьць...

Такі выбух пламеннага рэлігійна-філязофскага самаўсьведамленьня сто гадоў таму назад, — пад уплывам паэзіі Гётэ[96], крытычнае мысьлі найвялікшага філёзафа-мараліста новых часоў — Канта[97], *“дасьледу”* Вялікае Француcкае Рэвалюцыі і многалетняе акупацыі Наполеонам[98] бацькаўшчыны, — перажыў просты нямецкі селянін, Ян Фіхтэ[99], каторы, дзякуючы бязспыннай працы мысьлі, стаўся ня толькі вялікім нацыянальным філёзафам, але, што яшчэ важней, *вялікім вучыцелем* нямецкага народу, *тварцом у ім тае актыўнае формы нямецкага народнага духу*, што жыве дагэтуль, што каваў і — мы ведаем — будзе каваць да канца Сам сваю долю...

Гэты просты сын вясковага ткача заражаюча-творчаю сілай свайго духа ня толькі навучыў нямецкі народ, як унутранымі духовымі сіламі вызваліцца ад падзяліўшага, паняволіўшага і прынізіўшага ягоную старонку францускага заваявальніка, ня толькі даў жывыя, самыя пэўныя метады дзеля аб’яднаньня пабітае на дзесяткі кускоў свае бацькаўшчыны, але і першы, — ня гледзячы на тое прыніжэньне, якое перажывала ў той час Нямеччына, — здалеў даць такую моц, энэргію і гартоўнасьць нямецкаму нацыянальнаму духу, збудзіць у ім такі оптымізм, маральна абаснаваць для яго такую веру ў самога сябе, у сваё высокае назначэньне на сьвеце, у сваё выключнае палажэньне пасярод народаў Зямлі,— што нават... *“перасаліў”* у гэтым: ад гэнага пад’ёму ў краіну Абсалютнага Духа

---

96 **Ёган Вольфанг фон Гётэ** (ням. *Johann Wolfgang von Goethe*, 1749–1832), нямецкі пісьменнік і навуковец.

97 **Імануіл Кант** (ням. *Immanuel Kant*, 1724–1804), нямецкі філосаф, пачынальнік класічнай нямецкай філасофіі.

98 **Напалеон Банапарт** (фр. *Napoleon Bonaparte*, 1769–1821), генерал французскай рэвалюцыйнай арміі, першы консул Першай Французскай Рэспублікі (1799–1804), імператар (1804–1814).

99 Маецца на ўвазе **Ёган Готліб Фіхтэ** (ням. *Johann Gottlieb Fichte*, 1762–1814), нямецкі філосаф, адзін з заснавальнікаў нямецкай класічнай філасофіі і яе кірунку — суб’ектыўнага ідэалізму.

ў немцаў ажно закружылася галава, а неразумныя выпаўніцелі фіхтаўскае ідэі заваяваньня сьвету сілаю духа, замяніўшы гэту ідэю духам гвалту, вераю ў вагонь, волава і жалеза, давялі Нямеччыну на нашых вачох да краху...

На прыкладзе Фіхтэ мы бачым усю сілу духовага ўплыву на народ, *сілу духовага сяменьня*...

Веры ў гэту сілу Духа ня здольны разьбіць тыя навукі вульгарызованага матэрыялізму, якія зьяўляюцца пануючымі ў нашы часы: гэтыя навукі маюць свой абмяжованы прастор, дзе яны зьяўляюцца праўдай, і не датыкаюць нашае праўды. Абодва мэтады вызваленьня: матэрыяльны і духовы, — ня толькі не пярэчаць сабе ўзаемна, але неабходна дапаўняюць адзін аднаго. Узгадаваць і ўмацаваць гэту веру і сілу бязьмежна ўзрастаючага ў сваей моцы народнага духа, для якога ня істнуюць *ніякія перашкоды* і рубяжы, паказаць найлепшыя мэтады і спосабы дзеля гэткага маральна-апраўданага росту — вось галоўная, найважнейшая задача для тых, што бяруць на сябе адказную роль быць правадырамі і вучыцелямі народу, што хочуць забясьпечыць яму *трывалую будучыну*...

Далей мы пабачым ролю і значэньне гэтага дзеяльнага оптымізму, аб якім мы гаварылі, як для паадзінокіх людзей, так і для цэлага народу. Але ўжо і цяпер, на прыкладзе Фіхтэ і Нямеччыны, мы можам дагледзіць, якую вялізарную сілу мае гэты пэўны сябе і *апраўданы маральна сваей дзеяльнай энэргіяй оптымізм.*

На тым-жа прыкладзе Нямеччыны мы бачым і тое, да чаго можа давясьці цераземерны, маральна не апраўданы, самаздаволены *“оптымізм”*, калі ён, як гэта бывае ў *“гэтым найлепшым спасярод сьветаў”*, не даволі раўнаважыцца адпаведнай дозай крытычнага *“пэсымізму”*

І мы ізноў падыходзім да таго, што зло ня толькі ня страшна, але проста неабходна на сьвеце, і то ня толькі дзеля магчымасьці бязьмежнага дасканаленьня сьвету, але і дзеля раўнавагі як кожнае асобнае чалавечае душы, так і цэлых людзкіх грамадзянстваў...

3.

Гэты крытычны оптымізм павінен разьвіць у сабе кожны беларус. І ўвесь народ беларускі ў цэлым, калі хоча астацца пераможцам у барацьбе за сваё істнаваньне, за сваю нацыянальную індывідуальнасьць: бо гэтая барацьба павінна адбывацца ў такіх нябывала цяжкіх, такіх выключна-прыгнятаючых натуральны

оптымізм абставінах, якія гістарычная доля моʼ не стварала йшчэ для ніводнага народу...

Ці пры такіх абставінах магчыма перамога наагул?..

Пачатны біялягічны, натуральны оптымізм жывога народу, як і кожнага біялягічнага віду ў прыродзе, звычайна аб гэтым не пытаецца...

Ён проста жыве і змагаецца за жыцьцё, перамагае ці гіне ў барацьбе, не абасновываючы сьвядома свайго оптымізму. Не здарма адно з найбольш дасціпных азначэньняў жыцьця гавора, што самае ЖЫЦЬЦЁ ЁСЬЦЬ НІЧЫМ НЕАБАСНАВАНЫ ОПТЫМІЗМ...

Але для народу, які забыўся ўжо аб часох, калі быў пераможцам у жыццёвай барацьбе, — для народу, які — ад прывычкі да рабства, ад сталага прыніжэння, ад раскладаючага ўплыву пераможцаў — расьцярушыў у значнай меры сваю жывую энэргію, жывую бязгрэшнасьць сваіх інсцінктаў, аслабіў упругую сілу свайго жыцьцёвага *"тону"*ды пазбаўлен жыватворнае благадаці рэлігійна-радаснага ўняцьця сьвету, жыцьцярадаснага самаўстанаўленьня свайго *"Я"* як асабістага, так і нацыянальнага, — для народу, як народ беларускі, пазбаўленага неабходнае для духова-біялягічнае раўнавагі, для ўдачы ў жыцьцёвай барацьбе дозы жыцьцёвага оптымізму, — для такога народу, думаем мы, неабходны, калі можна гэтак сказаць, *лекцыі сьвядомага, крытычнага оптымізму*.

Гэтыя лекцыі оптымізму, крытычна абаснаванага ўласнаю маральнаю актыўнасьцяй народу, спраўджаныя на вяршынах навукова-філязофскае мысьлі і на дасьледах другіх народаў, калі будуць прыложаны да тых канкрэтных абставінаў, у якія пастаўлен беларускі народ у яго жыцьцёвай барацьбе, ня толькі выясьняць сцэптыкам[100] — няверучым пэсымістам, якіх многа сярод нас, ролю і значэньне гэтае найвялікшае цэннасьці для ўсяго жывога ў прыродзе, ня толькі выясьняць умовы, прычыны і магчымасьці захаваньня, узвышэньня і ўпадку гэтае цэннасьці, але і (адважаемся думаць на аснове прыкладаў другіх народаў) *памогуць уваскрасіць і адрадзіць* у беларуса вякамі тушаную ў ім, але вечна тлеючую ў кожным жывым стварэньні іскру жыцьцярадаснага оптымізму, без якога нямашака ні магчымасьці, ні сэнсу ані жыць, ані перамагаць у жыцьцёвай барацьбе...

Гэты жыцьцёвы оптымізм, як павінна навучаць і кожная праўдзівая Царква, прадстаўляе найглыбейшую біялягічную аснову

[100] Скептыкам.

рэлігіі, без якое ня можа жыць ніводзін народ. І толькі што на нашых вачах была спаралізована і разбурана расейская царква, якая забылася аб гэтай запраўднай аснове кожнае рэлігіі…

І калі беларускаму народу гэты жыцьцёвы оптымізм ня дадзены, так сказаць, *зьнізу — у* дзіцячыя гады яго — беднай і паняволенай Маткай-Зямліцай, дык няхай ён, бы прамень сонейка, прыйдзе *зьверху,* няхай жыватворная благадаць таго запраўднага Духа Божага агністымі языкамі зыйдзе на галовы беларускага народу, няхай раздзьмухае тлеючую ў нашых душах іскру ў незгараючую купіну аграваючага, асьвятляючага, перамагаючага акружаючы сьвет, творачага у ім нашае ўласнае, беларускае шчасьце, духовага агня, які і ёсьць запраўды жывучы ў чалавеку Бог!

Толькі гэты запраўдны Бог жывое актыўнасьці і творчага оптымізму, толькі гэтая праўдзівая рэлігія сьвятла і радасьці захаваюць беларусу яго асабістае і нацыянальнае *"Я"* ад тае хаотызацыі, ад таго расьцярушаньня і раскладу, якія гатуюць для яго — як навакол, так і ў самай душы яго, — ягоныя ворагі...

*"Я"* — гэта пачуцьцё сілы; пачуцьцё сілы — аснова ўсякага жыцьця. Так кажа Фіхтэ. У гэтым маім *"Я"* зьмяшчаецца для мяне ўсенькі сьвет.

Зьніштожце маё беларускае *"Я"*, пазбаўце мяне ўсялякага *"пачуцьця сілы"*, усялякага жыцьця, — і вы зьніштожыце і ўвесь мой беларускі і ўвесь мой агульны сусьвет.

І наадварот: зьніштожце мой беларускі сьвет, што акружае маё *"Я"* гэтым самым вы зьніштожыце маё *"Я"*, пазбавіце мяне самае крыніцы ўсялякае сілы, усялякага жыцьця... Усё гэта добра ведае сваім інстынктам жываеда, завостраным яшчэ сьвядомай нацыянальнай ідэалёгіяй, распрацаваным у цэлую праграму дэнацыяналізацыі, значыць, зьніштажэньня, асьвячоным рэлігійна-ізуверскай санкцыяй *"вышэйшае культуры"*, — той наш вораг, што тут ні на мамэнт не задрэмле...

Усё гэта павінен добра разумець і прысвоіць сабе беларускі народ, пастаўлены тутака ў палажэньне ахвяры гэнага жываеда…

Хто гэта сваячасна разумее, хто ў свой час асьцеражэцца гэтага жываеда-паралізатара, каршуна-хаотызатара, той жыць будзе.

Што спосабы дзеля самаабароны ёсьць, што гэтыя спосабы — пэўныя і нязводныя — істнуюць, за гэта ручаецца ўся гісторыя народаў, уся гісторыя выяўленьня Бога ў людзкасьці.

Бог ня здрадзіць!

Толькі трэба ўмець знайсьці гэтага праўдзівага Бога Волі, які дае вечнае жыцьцё, і, знайшоўшы, служыць Яму з усёй рэлігійнай энэргіяй сьвятое веры і дзел божых...

4.

Злом называе чалавек усё тое, што шкодзе ягонаму жыцьцю, з чым яго жыцьцёвая энэргія ня можа справіцца.

Але чалавечая энэргія мае здольнасьць расьці ў сваей сколькасьці і зьмяняцца ў сваей якасьці, прытарновываючыся да пастаўленых задач...

Значыцца, тое самае зло, якое было гібельным для слабай і няздольнай справіцца з ім энэргіі, лёгка можа быць пераможана гэтаю энэргіяй, калі яна ўзмацуецца і паразумнеець.

Значыцца, справа ня гэтулькі ў разьмерах таго ці іншага зла, сколькі ў распазнаньні яго прыроды і ў павялічэньні кіраванае проці яго разумнае энэргіі чалавека. Пытаньне разьвязуецца, так сказаць, матэматычна.

Гэты, на пагляд, такі просты вывад даўся, аднак, людзкасьці — лянівай і запужанай — вельмі цяжка.

Да самага апошняга часу сусьветнае зло — у тым ці другім, вонкавым ці ўнутраным аспэкце — выклікала ў чалавеку адно толькі жах, пужала яго і забівала ягоную энэргію. Памагалі гэтаму і тыя ўнасьледаваныя чалавекам ад першабытных часоў, ды так жорстка панаваўшыя ў сярэднія вякі, не пережытыя да канца яшчэ і намі, лжэ-рэлігійныя прадстаўленьні, што надавалі сусьветнаму злу постаць жывое істоты — Чарта...

І вось праблема барацьбы са злом, з чартом, вельмі доўга разьвязывалася зваротам аб ратунак да Бога, малітваю, мэтадамі сьляпое веры, рэлігійнаю пасыўнасьцяй.

Цяперака, як сказана, задача разьвязываецца мэтадамі прасьветленае навукай, разумнае волі, энэргіі,— матэматычна-актыўна.

Толькі адносна нядаўна, у пачатку 17 сталецьця, гэты новы просты і пэўны прынцып барацьбы са злом быў пакладзены англійскім філёзафам Бэконам[101] у аснову ўсяго навукова-філязофскага сьветапагляду новае Эўропы, і, пачынаючы ад гэнага часу, насьледавальнае прылажэньне сказанага прынцыпу да жыцьця давяло да нябывалага йшчэ у гісторыі разьвіцьця тэхнікі, заваяваўшае

[101] **Фрэнсіс Бэкан** (англ. *Francis Bacon*, 1561–1626), англійскі філосаф, гісторык, палітычны дзеяч, заснавальнік эмпірызму.

і прымусіўшае служыць чалавеку самыя варожыя, самыя пагібельныя датуль сілы прыроды…

У выніку падчыненьня чалавеку гэнага вонкавага *"чарта"* ў прыродзе — жыцьцё і праца людзей сталіся шмат лягчэйшымі, выгаднейшымі. Вызваліўшыся ад рабскае залежнасьці ад працы дзеля падтрыманьня жыцьця, чалавек пачаў свабадней працаваць дзеля паляпшэньня і прыхарошаньня свайго істнаваньня.

У выніку-ж гэтага палягчэла і змаганьне з тымі разнароднымі відамі ўнутранага *"чарта"*, што так страшэнна пужаў прымітыўна-рэлігійнае ваабражэньне вечна атручаванага ядамі сьмяротнае зьнямогі ад непасільнае працы сярэднявечнага чалавека, напалову раздаўленага непамерным цяжарам пабудаванага на ім фэадальнагатыцкага *"Сабору"*…

І гэнага ўнутранага *"чарта"* хворасьцей духа і цела стала ўсё лягчэй і лягчэй перамагаць тэй *"сыстэмай норм"*, што пакладзена сучаснай рэлігійна-філязофскай думкай у аснову ўсіх практычных дысцыплін, якія маюць на мэце фізычнае, эканамічнае і духовае здароўе чалавека.

У аснову-ж гэтае самае *"сыстэмы норм"*, гэтага асноўнага *"кодэксу"* законаў і правілаў нармальнае чалавечае сьвядомасьці і паступаньня, пакладзен зусім нядаўна выкрыты і точна сформуляваны філязофскай крытыкай найвышэйшы закон для чалавека — прынцып "*д у х о в а е  а к т ы ў н а с ь ц і*", які нармуецца ўніверсальным для ўсіх разнародных праяваў гэтае актыўнасьці *"прынцыпам эканоміі сілы"*.

Можна ўстанавіць, як агульны закон для ўсяго жывога сьвету, што ўсюды *ў  б а р а ц ь б е  п е р а м а г а ю ц ь  ф о р м ы  в ы ш э й ш а е  д у х о в а е  а к т ы ў н а с ь ц і*. Пры роўнасьці-ж апошняе — перамагае ў канкурэнцыі тая форма, у каторай гэтая актыўнасьць больш пасьледавальна падлягае закону эканоміі…

З гэтых двух законаў жывое прыроды няма і ня можа быць выключэньняў!

Так на нашых вачах, пасярод эканамічнага і палітычнага хаосу, пакінутага нам у спадчыну вайной і рэвалюцыяй, якія йшчэ далёка не закончылі свайго цыклю, родзіцца сярод бур і навальніц тая новая *"рэлігія радаснага і праведнага* (значыць, маральна-эканамічнага) *дзеяньня"*, аб якой сто гадоў таму назад, сярод падобнае-ж разрухі, прарочыў Фіхтэ...

*“Толькі той будзе спасён, хто, працуючы, ўсьцяж імкнецца ўпярод”*. Так пяюць анёлы ў Фаўсьце[102] Гетэ, што ранёй за Фіхтэ прадбачыў паэтычна тую Ідэю, якой пазьней ужо філёзаф даў точную формулу.

Вось як яшчэ аб гэтым новым разуменьні Эвангеліі паводле Яна ў сьвядомасьці новае людзкасьці гаварыў больш за сто гадоў таму назад той-жа Гетэ ў відзеньні Фауста:

*«Сам дух мне памагае: я разам здабываю здольнасьць бачаньня і бачу:*

*“У пачатку было ня Слова, а Дзеяньне!”»...*

Але, як мы сказалі, сучасны філязофскі аналіз выкрыў, што істотай праўдзівага Слова-Лёгоса, Разумнае Сьвядомасьці, Розуму Божага ў чалавеку ёсьць *“чыстая дзеяльнасьць”*, чыстая Духовая Актыўнасьць. Толькі тым, хто верыць у гэтага праўдзівага Бога, толькі гэтым *“новым хрысьціянам”* прыналежыць будучына, — толькі яны ўнасьледуюць жыцьцё вечнае…

Маліцца гэтаму Богу, упадабляючыся Яму сваёй жывой маральнай актыўнасьцяй, мы і клічам беларуса.

Толькі гэтым пераможаш!..

5.

Як толькі мы праз сказаныя вышэй *“паўторныя нарадзіны”* — гэтае запраўднае *“аб'яўленьне”* ў навальніцах і бурах духовае рэвалюцыі — выйдзем з мёртвага тупіка адарвана-контэмпляцыйнага маралізму ў жывы сьвет творчае актыўнасьці, мы, ня гледзячы на ўсё нашае жаданьне, пад найлепшым мікраскопам, у гэтым разам па-гэраклітаўску паімчаўшымся ў-ва мне і навакол мяне жыцьцёвым патоку ня знойдзем ніводнага з тых кусочкаў абсалютнага дабра і *“хімічна-чыстага”* зла, на якія пабілі сьвет маралісты. Перад намі — ў нас самых і па-за намі — зусім новае “цела”.

Гэтае новае цела і ёсьць *ж ы в о е  ж ы ц ь ц ё*.

*“Нњт худа безъ добра”* — кажа ўцяміўшая гэта народная мудрасьць вялікарусаў.

*“Niema tego złego, coby na dobre nie wyszło”* — паўтарае гэта йшчэ лепей другі народ.

[102] Трагедыя **“Фаўст”** — галоўны твор Ёгана Вольфганга Гётэ, дзе адлюстраваны філасофскія погляды аўтара на жыццё і прызначэнне чалавека.

Усё гэта — выяўленьні таго пачатнага оптымізму, які, як мы сказалі, заўсёды жыве ў народзе.

Запраўды, у жывым жыцьці ўсё плыве, усё жыве, усё зьмяняецца, і тое, што сягоньня ў маіх вачах мела ўсе адзнакі зла, заўтра робіцца ачывістым для мяне дабром, — і наадварот.

І, значыцца, усё найвялікшае, прынцыповае для мяне вагі, пытаньне зьмяшчаецца іменна ў тым, каб дастаць пэўны і точны адказ: ад чаго, ці ад каго залежыць гэнае ператварэньне зла ў дабро, — ад *мяне, ці не ад мяне,* ад маей волі, ад маіх высілкаў, — ці, наадварот, не ад маіх?..

Груба кажучы, Усход і Захад даюць на гэтае асноўнае пытаньне нашага жыцьця проста процілежныя адказы.

Усход кажа, што ўсе гэтыя ператварэньні жыцьця, якое жывым патокам працякае скрозь вашу выабражальную асобу, пранізываючы яе то ў аспекце зла, то ў аспэкце дабра, усе яны — Вытвар Прыпадку, Лёсу, Бога... ці то *"замясьціцяляў"* іх на зямлі — у пастаці тае або другое вонкавае ўлады, што *над намі* стаіць. Але яны не залежаць ад чалавека.

Захад навучае, што сам чалавек ня толькі можа ведаць напярод і *тварыць сам для сябе прыпадак,* ня толькі *носіць свой уласны лёс у сваей сьвядомай волі,* ня толькі сам зьяўляецца поўным сваім *"начальствам"*, але і што, сьцісла рэлігійна выпаўняючы сваёй воляй той закон, які дадзен яму Богам, зьліваючы гэтак сваю маральную волю з воляй Божай, *чалавек і па праву і па сваей сьвядомасьці стаецца сам як-быццам сваім уласным Богам...*

Вось гэтак іменна, кажучы каротка, і разьвязывае праблему прыпадку, лёсу, Бога нямецкая філязофія, пачынаючы ад Фіхтэ і канчаючы Марксам[103]...

Веданьне законаў вонкавае і ўнутранае прыроды і мая нічым непераможная маральная духовая актыўнасьць зусім вызваляюць мяне і мой сьвет ад сьляпога прыпадку, і для мяне "*зусім зьнішатажаецца Лёс*", як кажа Фіхтэ.

Сам Бог, аб якім мы можам ведаць ясна і точна адно *толькі яго маральныя наказы, загаданыя чалавеку праз голас яго ўласнага сумленьня,* ведаць закон любві і аба-

103 **Карл Маркс** (ням. *Karl Marx*, 1818–1893), філосаф, грамадскі дзеяч, палітычны журналіст, сацыёлаг, эканаміст, заснавальнік філасофіі дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму.

вязку, — сам Бог ператвараецца ў *"Сыстэму Норм"*, у *"Кодэкс"* гэтых Законаў; — Хрыстос абяртаецца ў любоў, у сабраньне *"Запаведзей Блажэнства"*, у Нагорную Пропаведзь. Выпаўняючы іх — гэты абавязак і гэтыя нормы блажэнства, — я *і* жыву запраўдным рэлігійным жыцьцём — працую ў Богу…

Гэта і ёсьць даслоўна і выключна тое, што даў і чаго вымагаў ад чалавека Хрыстос. Гэта і значыць *"пакланяцца Богу ў Духу і Праўдзе"*...

Гэтае *"новае хрысьціянства"* з такою ягонаю сьмеласьцю, з такою маральнаю паважнасьцю, уласьцівай нямецкаму генію, разам з самымі крайнімі, гэтак палохаючымі славяніна, вывадамі сваімі бязумоўна варта таго, каб з імі пазнаёміліся беларусы.

У папярэднім выкладзе нашым мы ад сабе дадалі адно слова: любоў.

Нямецкае філязофскае хрысьціянства мала гаворыць аб гэтым *зьмесьце* маральнага закону: яно гаворыць толькі аб *форме* яго, аб *бязумоўным абавязку бязспыннае духовае актыўнасьці*. Але якраз гэты фармальны абавязак адносна да самога сябе, абавязак бязспыннае духовае актыўнасьці — найлепшая школа для славяніна, які, захопліваючыся часта любоўю да бліжніх, мае гэткую склоннасьць забывацца аб строгай і маральна-вымагаючай любві да сябе самога…

Наша Беларусь знаходзіцца якраз на мяжы паміж Захадам і Усходам; Заходняя бліжэй да Захаду. І яна павінна ведаць заходнія мэтады барацьбы з злом, бо толькі імі пераможа тое зло, якое пагражае ёй з бліжэйшага да яе польскага Захаду.

Што-ж патрэбна перш за ўсё дзеля таго, каб я, выпаўняючы загады ясна і точна вядомае мне Вышэйшае Нормы, сам стаўся сваім Правідзеньнем — зусім выкінуў з свайго духовага жыцьця, з свайго сусьвету прыпадак і лёс, такія магутныя на Усходзе?!.

Перш за ўсё ў-ва мне павінна *быць* гэтае маё *"Я"*. Перш за ўсё патрэбна, каб мая *асоба* — з тае выабражальнае, нястойкае формы, што гэтак плястычна-слаба воляй, так маральна-бязьсільна ў барацьбе на Усходзе, — *сталася для мяне найпершай і найбольш бязспорнай рэальнасьцяй на сьвеце*. І мы ведаем, што іменна гэтым першым крокам у Духу і пачаўся на Захадзе той выхад з *"Усходу Сярэднявечча"*, які пачынае сабой новую гісторыю запраўднага Захаду.

Першае, што, абудзіўшыся, учыніла новая ў сьвеце людзей сіла — вышэйшая крытычна мысьлячая форма духовае актыўнасьці чалавека, увасобленая ў францускім філёзафе і матэматыку Дэкарце[104], — было адданьне пад сумліў усяго на сьвеце *і ўстанаўленьне таго, што адзінае зьяўляецца абсалютна бясспорным: майго мысьлячага, хоць і ў-ва ўсім сумляваючагася "Я"*.

Я сумляваюся ў-ва ўсім, — значыць, адно, у чым я не магу сумлявацца, — гэта маё *"Я"*.

*"Я думаю — значыць, я існую"* — гэтак кажа знамянітая формула Дэкарта. — І для кожнага з нас першы крок дзеля прынцыповае магчымасьці бароцца са злом дарогай ператвараньня ў дабро працякаючае міма нас і скрозь нас жывое, часта варожае нам многаабразнасьці сьвету — гэта *ўстанаўленьне і ўмацаваньне свайго духовага "Я", сваей маральна-актыўнай асабістасьці.*

Гэтае маё *"Я"* прадстаўляе самую істоту майго жыцьця.

Па форме гэтае *"Я"* ёсьць *абсалютная адзінасьць*, якая недаступным пазнаньню актам усьведамленьня злучае ў сабе, як у цэнтры, усю працякаючую многаабразнасьць сьвету.

Па зьместу гэтае *"Я"* ёсьць жывая, актыўна творачая сама сябе з гэтага сьвету *"монада"*[105] сусьветнае Разумнае Волі — значыць, Божства.

Гэтак навучае і запраўднае Хрысьціянства.

Гэтае жывое *"Я"*, якое ў-ва ўсенькім жывым сьвеце зьяўляецца нашэльнікам інстынктаў, забясьпечваючых вечнае захаваньне і прадоўжаньне жыцьця, — у чалавека, як сказана вышэй, узвышаецца да сьвядомасьці, да духоўнасьці, да самаўсьведамленьня і ўсьведамленьня Бога.

І вось першы інстынкт, які дайшоў у чалавека да сьвядомасьці, кажа нам: беражы адзінасьць свайго *"Я"* і будзь напагатові.

Усыпіце вечна насцярожанае вока гэтае сьвядомасьці, ап'яніце, прыпыніце гэтую *нармальна* вечна дзеяльную волю, падзяліце ў часе гэтую *нармальна* абсалютную адзінасьць (ёсьць такія спосабы ў ворага, ёсьць гэткія біялягічныя яды!..) — і вы зразу зруй-

[104] **Рэнэ Дэкарт** (фр. *René Descartes*, 1596–1650), французскі філосаф, матэматык і фізік, прыхільнік метаду радыкальнага сумнення ў філасофіі.

[105] **Манада** (ад грэцк. "адзінка", "адзіная сутнасць") — згодна з піфагарэйцамі, "боства", ці "першая істота", "адзінка як непадзельнае цэлае".

нуеце жывую сыстэму неабмыльных пачатных інстынктаў жывога твору, патрэбных яму дзеля неабмыльнага распазнаваньня дабра і зла, *друга і ворага,* — зруйнуеце жывы апарат яго пачатнае актыўнасьці, яго так-званую *"апэрцэпцыю"*[106], якая ёсьць самай істотай яго жыцьця, яго асабістасьці.

Гэткім расьцярушаньнем і расчыненьнем яго *"Я"* вы руйнуеце яго жыцьцё, зьніштажаеце яго асабістасьць...

Аб гэных біялягічных ядах, аб гэных *"расчынцах індывідуальнай і нацыянальнай асабістасьці"* мы будзем далей гаварыць падробна. Цяпер скажам толькі тое, што найстрашнейшым спаміж іх, — страшнейшым… за правакацыю, — зьяўляецца алькаголь... Тая самая, на жаль, так мілая беларускаму сэрцу, ад простага селяніна да... беларускага пасла ў польскім сойме, — на пагляд, зусім ня страшная, — гарэлка. І не здарма гэты найстрашнейшы духоўна-клетачны яд, гэты запраўдны *"чорт"* беларускага сьвету абраў такую мілую, прыемную форму — нездарма ўся Заходняя Беларусь напоўнена, наліта да краёў гэтым вырабам… *"вышэйшае культуры"*, гэтым, як быццам творачым так патрэбны беларусу оптымізм, *"узьвесяляючым ядам"*, — гэтым гістарычным бічом славянства…

6.

Вось, значыцца, бязспынная творчая актыўнасьць, якая чынна змагаецца з злом, ператвараючы яго ў дабро, магчыма толькі пастольку, паколькі ўва мне існуе стойкае, духова-адзінае, сьвядомае сябе, кіраванае законам абавязку маё *"Я"*.

І тагды, калі мы самі ўзмацуем у сабе гэтае нашае *"Я"*, перад ім адкрыецца магчымасьць ня толькі плыць па цячэньню гэнага жыцьцёвага патоку, што нясець нас мо да пагібелі, ня толькі *распазнаваць,* што дабро і што зло, але і *плыць проці цячэньня, сваею ўласнаю сілаю ісьці насустрэчу злу, ператвараючы яго* ў дабро — сілаю сваей божскай творчай актыўнасьці.

Іменна ператварэньне зла ў дабро і становіць запраўдную мэту ўсяго жывога, запраўднае прызваньне і найвышэйшае назначэньне чалавека.

Тады ўсё варожае нашаму жыцьцю, што акружае нас на сьвеце, усё тое зло, якое зьмяшчаецца ў нас самых, зьявіцца для нашае

[106] **Аперцэпцыя** (ад лац. "успрыманне") — абумоўленасць успрымання прадметаў і з'яваў знешняга свету досведам чалавека, яго псіхічнымі і асобаснымі характарыстыкамі, ведамі.

маральна-працоўнае, божска-творчае волі як-быццам *сыр'ём,* якое мы прызваны Богам ператвараць у тое, што можна — у шырокім рэлігійна-гаспадарчым значэньні — назваць д а б р о м, ператвараць ніжэйшыя формы жыцьця ў вышэйшыя. Гэта-ж і ёсьць высокае, вечнае, клічучае і ніколі нявычарпанае заданьне чалавека.

Тая сіла ў чалавеку, што, ніколі ня зьнікаючы, голасам самога Бога ў нас падбівае нас усьцяж займацца гэтым ператвараньнем зла ў дабро, і ёсьць разумная *энэргія.*

Гэтая разумная працоўная энэргія і ёсьць тое, што зьбліжае нас з Богам-Тварцом; яна зьяўляецца запраўдным божскім зачаткам у чалавеку. Усе рэлігіі абразова выражаюць гэта так, што сам Бог няўстанна змагаецца ў сусьвеце з чартом і канчальна пераможа яго толькі пры канцы сьвету. Дзеля гэтага кожная наша ўдача і перамога на гэтай дарозе, кожын, найменшы нават, раўнуючы да гэнае вечнасьці барацьбы, крок, усё-ж такі *об'ектыўна* набліжаючы нас да тае апошняе перамогі, мае ня толькі "маральнае", але і *спраўдзі-рэлігійнае,* як кажуць, "*онтолёгічнае*" значэньне і, як такі, дае нам, быццам самая шчырая малітва, такжа і *суб'ектыўную* радасьць...

Гэтая спраўдзі-рэлігійная радасьць зьяўляецца як-быццам бясплатным дадаткам да таго практычнага выніку, што дае кожная разумная праца гэткаму веручаму працаўніку ў абшырнай майстроўні Божае прыроды…

Гэтая радасьць, быццам ад малітвы, паказуе на тое, што мы гэтак запраўды выпаўняем закон і задачу нашага жыцьця, разьвіваем у сабе семя тае запраўднае божскае істнасьці, якая зьбліжае нас з Богам.

Найлепшае азначэньне і выясьненьне істоты радасьці даў слаўны філёзаф, жыд Барух Сьпіноза[107], што, разам з Бэконам, Дэкартам, Джордано Бруно[108] і другімі апосталамі новае Эвангэліі, жыў на рубяжы новых часоў, — Сьпінозаю, ня столькі сьветапагляд каторага, сколькі яго *сьветаадчуваньне* лягло ў аснову рэлігійнае, філязофскае і палітычнае сьвядомасьці новага чалавека. Сьпіноза

[107] **Барух (Бенедыкт) Спіноза** (лац. *Benedictus de Spinoza*, 1632–1677), нідэрландскі філосаф-рацыяналіст, адзін з галоўных прадстаўнікоў філасофii Новага часу.

[108] **Джардана Бруна** (італ. *Giordano Bruno*, 1548–1600), італьянскі філосаф-пантэіст і паэт.

кажа, што пачуцьцё радасьці ёсьць *суб'ектыўнае* адбіцьцё ў нашай сьвядомасьці об'ектыўнага факту росту і расшырэньня нашае душы, разьвіцьця ў нас нашае запраўднае істотнасьці — часткі жывога Божства.

*"Dusza rośnie"*, — вельмі пекна выражаюцца палякі.

Значыцца, наадварот, наш сум ёсьць адбіцьцё ў нашай сьвядомасьці адваротнага працэсу: абядненьня душы, скажэньня ў ёй запраўднага абраза Божага…

Не здарма і старыя, мудрыя ўсходнія багасловы лічылі "панурасьць" адным з сямёх сьмяротных грахоў, што напэўна губяць душы...

І мы бачым, што ўсё гэта зусім зыходзіцца з тым, што аб духовай актыўнасьці кажам мы.

Значыцца, тутака мы маем дзела з запраўды унівэрсальнай цэннасьцяй, супольнай для ўсіх часоў і народаў.

З азначэньня Сьпінозы мы бачым і тое, што *толькі тая радасьць запраўды апраўдана, якая зьяўляецца адбіцьцём об'ектыўнага факту росту нашае душы, значыць, росту дабра — Бога ў сусьвеце.*

З гэтага выцякае і той кардынальны для ўсяго нашага разважаньня адваротны вывад, што, *ня гледзячы на ўсе няпрыхільныя абставіны ў акружаючым нас сьвеце, душагубны сум можна перамагчы, а ўзбагачаючую душу радасьць можна выклікаць у сабе сьвядома — высілкам нашае разумнае творчае волі, накіраванае да ператвараньня ў сусьвеце зла ў дабро, — дзеяльным выяўленьнем у нас тае божскае актыўнасьці, якая, узбагачаючы сьвет дабром, гэтым самым узбагачае і нашу душу…*

Гэты вывад з вучэньня Сьпінозы і зроблены для нямецкага сьвету ўсей нямецкай "*практычнай* (значыць, маральнай) *філязофіяй*".

Гэта — тое, што ад жыдоўскага духа трэба ўзяць сабе на неад'ёмную ўласнасьць і беларускаму сьвету, каб ён, радуючыся сваім быцьцём, уцалеў у жыцьцёвай барацьбе.

Удумайцеся ў гэты цудоўны кругаварот актыўнага оптымізму Сьпінозы — Фіхтэ: душа радуецца затым, што яна расьце ў Богу-Прыродзе; ізноў-жа, ператвараючы сьвядомым высілкам сьвет і сябе ў вышэйшыя формы актыўнасьці, у дабро, яна спараджае

радасьць... Для гэтага працэсу радаснага росту душы і ператвараньня ў дабро ў сусьвеце няма рубяжоў! Адно памагае другому: радасьць — творчасьці і духоваму росту, і наадварот.

Усё гэта вынікае з тае асноўнае ідэі Сьпінозы, якая лягла ў аснову нашае сьвядомасьці: што *наша любоў да Бога, нашае дзеяльнае імкненьне да Яго ёсьць нішто іншае, як любоў і імкненьне Бога да самога сябе, бо наша душа і Бог — гэта адна і тая-ж самая Істота сусьвету...*

Кожнаму беларусу трэба крэпка сабе ўсвоіць гэта і крэпка верыць у гэтага вечна-творачага Бога, што жыве ў нас! Верыць і ведаць, што для гэтай, рэлігійна прызванай тварыць сьвет, актыўнай энэргіі чалавека няма і ня можа быць ніякіх перашкод і забаронаў у сусьвеце!

Гэтая энэргія, быццам чарадзействам, перамагаючы перашкоды, можа прымаць самыя неспадзеўныя формы, самыя нябывалыя дагэтуль трансфармацыі. Гляньце, як гэтая многаабразная энэргія нічым непераможнае жыцьцёвае актыўнасьці прабіваецца нават скрозь тыя перашкоды, што ёй так часта стаўляе прыпадак ці прырода: сьляпы ад ураджэньня навучаецца чытаць дотыкам; глухі разумее мову па руху вуснаў; нямы размаўляе знакамі — пры помачы пальцаў...

І ўсё гэта дзеля таго, каб забясьпечыць пабеду ў сусьвеце таму, хто запраўды служыць гэтаму праўдзіваму Богу.

Гэтая пачатная адзіная энэргія Духа ў чалавеку даўно ўжо — быццам упаўшая з неба зорка — разсыпалася на вечна паланеючыя ў чалавечым духу рознакалёрнымі агнямі *"другарадныя зоры"*, — кажучы філязофскім языком: *"дыфэрэнцыравалася на функцыі разумнае сьвядомасьці"*, — на навуковае мышленьне, на этычнае будаваньне і ўзгадаваньне грамадзянства людзей, на мастацкую творчасьць, на гаспадарчую рэарганізацыю сьвету, на рэлігійнае завяршэньне сусьветнае Сьвятыні… І ўсе гэтыя паасобныя функцыі служаць у чалавека дзеля аднае мэты: каб вызваліць яго дух, перамагчы ў сусьвеце зло, ператварыць яго ў дабро…

Вось тыя непераможныя для ворага дарогі і мэтады... І ўсе яны павінны быць ужываны паасобку і разам.

І той вораг, каторы будзе змагацца з Беларускім народам супраць гэтых мэтадаў Божых на зямлі, — той сам будзе пабіты Богам. — Для яго, ворага Беларусі, як для ворага самога Бога Жывога, няма і ня можа быць зьмілаваньня!..

І хто скажа нам, што, калі мы, беларусы, у саюзе з гэтым Богам пойдзем проці тых нашых ворагаў, што йдуць проці гэтага Бога, — дык мы будзем пераможаны?!.

7.

Магутным будзіцелем, пабудзіцелем і саюзьнікам падупаўшага або заснуўшага ў народзе пачатна-біалягічнага оптымізму зьяўляюцца нацыянальнае пачуцьцё і нацыянальная ідэя.

Дый гэта зразумела. І адзін, і другая, так сказаць, ператвараюць пачатны, “*натуральны*” оптымізм у вышэйшую — больш свядомую і трывалую, болей духовую форму яго. Яны твораць і ўскармліваюць “*нацыянальны оптымізм*” народу. Кожнае малое чалавечае “*я*”, пачуваючы сябо часткаю вялікага “*Я*” — нацыянальнага, набывае і больш “*пачуцьця сілы*”. Ад гэтага ўзрастае і пашыраецца само сабой гэтаё маё малое “*я*”, каторае, як мы ведаем, паводле Фіхтэ, і ёсьць маё “*пачуцьцё сілы*”, самы “*прынцып майго жыцьця*”.

Ясна, што нацыянальнае пачуцьцё дае асобнаму чалавеку шырэйшы “*прынцып жыцьця*”, дужэйшае “*пачуцьцё сілы*”, — узбагачывае ягоную душу.

Але мы ведаем, што, паводле Сьпінозы, побач з гэтым об’ектыўным ростам сілы маей душы, побач з узбагачаньнем яе, неабходна адбываецца і прапорцыянальнае нарастаньне ў-ва мне радасьці.

Гэтая радасьць, гэты нацыянальна абаснаваны оптымізм чалавека больш трывалы і больш стойкі, чым оптымізм натуральны, бо знаходзіць для сабе новыя, раней няведамыя, больш стойкія падставы ў нацыянальнай лучнасьці, у ўсенародным жыцьці.

Такім спосабам, ужо самым фактам нацыянальнага самапачуваньня, фактам усьведамленьня кожным асобным “*я*” сваей арганічнай адзінасьці з вялікім нацыянальным “*Я*” крытычна-трывала ўзвышаецца жыцьцёвы оптымізм ў загнаным, пануранымдагэтуль народзе.

Кожнаму ясна, што гэны рост народнага оптымізму — запраўды і практычна абаснаваны, бо точна *адпавядае росту рэальнае сілы* народу, аб’яднанага ў моцны, нацыянальна спаяны арганізм.

Такі спаяны сувязяй *нацыянальнага пачуцьця* народ прадстаўляе ў жыцьцёвай барацьбе непараўнана вялікшую сілу, чым народ, які зьяўляецца, паводле выражэньня біалёгаў, толькі “*калёніяй*” аднаго тыпу, толькі “*этнаграфічнай масай*” — нечым

кшталтам лесу, які можна ссячы дрэва за дрэвам, — лесу, у якім кожнаму асобнаму дрэву не баліць, калі сякуць яго суседа-адпапляменьніка.

Тое самае трэба сказаць і аб тым, што называецца "*нацыянальнай ідэяй*".

Канчальная мэта кожнае жыцьцёвае задачы ці то ў асобнага чалавека, ці то ў суцэльнага народу, прадстаўляецца ў пастаці тае ці іншае ідэі.

Ідэя як-быццам асьвятляе сьвятлом болей ці меней далёкае ад нас мэты ўсю дарогу для нашае энэргіі, што звычайна пачынае працаваць як-быццам упоцемках, кіруючыся болей ці меней "*няясным пачуцьцём*" "*цёмным*", ды заўсёды правільным інстынктам жыцьця.

Пакуль энэргія чалавека ці народу — яшчэ ў сфэры "*пачуцьця*", несьвядомага інстынкту — дзеець як-быццам упоцемках, яна, пры ўсёй сваей, так сказаць, "*тэхнічнай неабмыльнасьці*" прыроднага інстынкту, лёгка можа быць абаламучана, накіравана на фальшывую дарогу, — нават на дарогу самагубства...

З жыцьця кузулек мы ведаем, як часта іх несьвядомыя інстынкты, іх неасьветленая сьвятлом разумнае сьвядомасьці энэргія, нават неабмыльна правільна выпаўняючы закладзеную ў іх прыродай "*праграму*" дзейнасьці тае ці іншае сыстэмы органаў, вядуць кузульку ці асуджаюць яе патомства на пагібель.

Каб не рабіць больш зложных дасьледаў, даволі прыпомніць вядомы ўсім, асабліва яркі для нас, прыклад, як у начы лятуць на агонь матылькі, гінучы, як ахвяры ашукаўшага іх "*фальшывага сонца*".

Гэтак сама і чалавека, і цэлыя грамадзянствы можа загубіць пастаўленая перад імі — упоцемках несьвядомага інстынкту — *фальшывая ідэя*, якая паказуе фальшывую дарогу і разыходзіцца з запраўднай мэтай закладзеных у іх прыроду інстынктаў.

---

Асноўным зьместам нацыянальнае ідэі ў такіх паняволеных і падзеленых народах, як народ Беларускі, зьяўляецца *ВОЛЯ*.

Калі самы мэтад духовае актыўнасьці, які творыць бязвыключна ўсе матэрыяльныя і нематэрыяльныя цэннасьці ў сусьвеце, даючы мне ў дадатку пачуцьце рэлігійнае радасьці супрацоўніцтва з самым Богам-Тварцом, прынцыпова магчымы толькі ў залежнасьці ад маей свабоды; калі, як мы пабачым далей, асноўным сэнсам агульна-людзкае гісторыі зьяўляецца "*самавызваленьне Сусь-*

*ветнага Духа, што жыве ў людзкасьці”* — дык ня можа быць ніякага сумліву ў тым, пгго *ідэя нацыянальнага вызваленьня, ідэя незалежнасьці народу*, стварэньня ім для сябе і з сябе *свайго ўласнага гаспадарства — гэтая* ідэя правільная, справядлівая.

Гэтая ідэя, значыцца, ня можа быць у супярэчнасьці ані з заложаным у прыроду чалавека інстынктам, ані з маральным законам, каторы, як далей пабачым, ёсьць сама воля, ані з гістарычным прызваньнем народу, ані з агульнай задачай, інтарэсамі і рэлігійным назначэньнем усяе людзкасьці.

Вольная, незалежная, непадзельная Беларусь — гэтая ідэя, гэтая ідэальная мэта павінна крэпка ўкараніцца ў сьвядомасьці кожнага беларуса і павінна ўсьцерагчы яго ад усіх *“фальшывых сонцаў”*, якімі яго ворагі, удаўшы прыяцеляў, заманіваюць і баламуцяць яго *“цёмныя інстынкты”*, яго *“няясныя начуцьці”*. Пытаньне можа быць толькі аб тым, *якімі дарогамі найбліжэй і найпэўней дайсьці да гэтае мэты поўнага ўнутранага і вонкавага вызваленьня Беларускага народу.*

Вось аб гэтым і вядзецца наша гутарка.

---

Раз рост беларускае народнае сілы і народнае радасьці — гэта залог будучага народнага вызваленьня — магчымы, як і ў кожнага другога народу, толькі ў *арганічна аб’яднаным* нацыянальным *“Я”*, дык ясна, што першая задача абудзіўшагася зо-сну народу — гэта выкарыстаньне ўсіх мэтадаў і ўсіх способаў, якія вядуць да такога *нацыянальнага аб’яднаньня*...

І наадварот; дзеля тае-ж прычыны, наагул, найлепшым і унівэрсальным мэтадам паняволеньня і зьніштажэньня таго ці іншага народу зьяўляецца *мэтад падзелу*.

Ваенная акупацыя краю, як гэта беларусы ня раз ужо добра спазналі на сабе, заўсёды і пачынаецца з забароны фізычнага руху, нават пераходу з аднае вёскі ў другую, — з захопленьня акупантамі ўсіх прыладаў дзеля язды, з увядзеньня сыстэмы *“пшэпустэк”*[109] і г. п...

*Паралізацыя* ўсялякага руху ў народным арганізьме — першы крок ворага-жываеда дзеля пажраньня і спакойнага ператраўленьня ахвяры...

---

[109] ***Przepustka*** (польск.) — пропуск.

Дагэтуль беларускі народ ня вёў яшчэ актыўнае барацьбы з шкоднікамі сваёй актыўнай энэргіі, свайго беларускага *“абраза агульна-людзкага Бога”*, *мэтадамі аб’яднанага колектыву, сіламі і засобамі свайго нацыянальнага “Я”*. Ён толькі з уласьцівай яму, зьдзіўляючай сілай асыміляцыі глытаў у сваім жывым моры ўваходзіўшыя ў яго чужыя элемэнты, — як польскую шляхту, так і маскаля-старавера і другіх. Цяперака беларусы першы раз прымушаны хапіцца за гэты новы для іх спосаб барацьбы.

Оптымізм Беларускага народу доўгі час быў спаралізаваны якраз тым, што народ, быццам лес, быў пазбаўлены руху, быў пазбаўлены магчымасьці *актыўна* змагацца з асноўным злом свайго падзелу, сваёй штучна падрымліванай нярухомасьці і пасыўнасьці, што забівалі ў ім пачуцьцё сваей сілы і сьвядомасьць нацыянальнае адзінасьці.

І тутака, як мы ведаем, ратунак прыйшоў як-быццам зьверху — з Духа…

*Першаю сілай*, якая, яднаючы народ, узгадоўвае яго *“пачуцьцё сілы”*, творыць у ім неабходны дзеля далейшага росту, дзеля сьвядомае барацьбы за сваё вызваленьне, жыцьцёвы оптымізм, зьяўляецца *паэзія*.

Не здарма і самае слова *“паэзія”* значыць па грэцку *“дзеяньне”*, творчасьць,— г. ё. іменна тое самае божскае дзеяньне, тварэньне, якое выкрыта *“новым хрысьціянствам”* у *“Слове”* эвангеліста Яна, — тая самая *“духовая актыўнасьць”*, якую мы тутака прапаведуем.

Дый мы ведаем з уласнага прыкладу Беларусі, што першым выяўленьнем народнага прабуджэньня быў якраз магутны *расьцьвет паэзіі*, які і цяпер творыць і вырашчывае народную душу, выяўляе і творыць нацыянальнае аблічча беларускага зборнага *“Я”*.

Кожын Беларус ведае, якая бадзёрая, амалажаючая, пабуджаючая жыцьцё і веру ў сябе сіла плыве ў ягоную душу з жывых крыніц яго *нацыянальнай паэзіі*.

І мы, калі-б нават ня былі знаёмы з новай беларускай паэзіяй, загадзя неабмыльна маглі-бы сказаць, што паўтараныя паводле народнае традыцыі (якая, на жаль, падтрымліваецца і сучаснымі абставінамі народнага жыцьця) нязьменныя жальбы на *“долю”* і *“няволю”* зьліваюцца тэй магутнай стыхіяй новага, *паэтычна, значыцца, духова-дзеяльна апраўданага нацыя-*

*нальнага оптымізму,* якім гэтая паэзія пранікнута ў самай істоце свайго жыцьцёвага “*тону*”.

Адзінокія, чуць тлеўшыя ў душах іскры разгарэліся першы раз у вялікі пажар ад гэтага жыватворнага *полымя паэзіі...* І гэта зразумела.

Паміма таго, што загаварыла маўчаўшае дагэтуль вялікае народнае “*Я*”, якое *пашырыла і ўзбагаціла* асобныя душы, сплавіўшы агнём паэзіі паадзінокія “*я*” ў вялізарную нацыянальную суцэльнасьць, — ня менш важна і тое, што, як кожнае асобнае “*я*”, так і вялікае “*Я*” народу, першы раз пачулі сябе, прайшоўшы “*скрозь полымя паэзіі*”, ня толькі “*паэтамі вершаў*”, але і “*паэтамі жыцьця*”, паэтамі ўласнае душы, — адчулі *ў сабе магчымасьць і волю стацца актыўнымі творцамі свайго ўласнага лёсу*, сваёй “*долі*” і сваёй “*волі*”.

Гэта новая радасьць, новы паэтычны оптымізм об’ектыўна і апраўдываецца тым, што тут, у паэзіі, *знойдзены ўрэшце той новы правільны мэтад духовае актыўнасьці,* новая правільная дарога дзеля *выхаду з рабства ў прыроды і ў “пана”, выхаду з таго “кола вечных паўтарэньняў” — “Адвечнае песьні” расьліннага, несьвядома-працоўнага жыцьця, з якіх, здавалася, ня было ніякага выхаду...*

Гэтая новая, запраўды людзкая радасьць нарадзілася пачаткова з таго, што зьліцьцё ў паэзіі паадзінокіх “*я*” ў вялікае нацыянальнае “*Я*” народу скранула ўрэшце народ з мёртвага пункту, раскрыла “*выхад з прыроды ў гісторыю*”, — інакш кажучы, адкрыла дарогу да духовага росту, разьвіцьця і, значыцца, да самавызваленьня, да спаўненьня народам свайго божскага прызваньня ў сусьвеце.

Гэты новы, выкрыты ў паэзіі, мэтад ня толькі самаўсьведамленьня, але і *саматварэньня* і ёсьць той найпраўдзівейшы, непераможны, але ўсё перамагаючы мэтад духовае актыўнасьці, аб якім і ідзе ў нас гутарка.

---

Мы бачым, наколькі об’ектыўна і маральна абаснаваным зьяўляецца той сьветлы оптымізм, каторы, як жывая благадаць запраўднага Бога Жыцьця, Сьвятла і Радасьці, сплывае ў душы Беларускага народу ад яго паэзіі.

Але нацыянальная паэзія робіць толькі *першы крок* на дарозе да народнага саматварэньня, даючы народу першы раз пачуць сябе сваім уласным тварцом, — яна дае чалавеку і народу толькі пачатак заўладаньня акружаючым іх, іх *уласным,* па праву ім прыналежным, ды, на жаль, *захопленым другімі,* сьветам — правільна паказуючы мэтад заўладаньня перш за ўсё сваімі ўласнымі сіламі, мэтад бязьмежнага росту апошніх — у нацыянальнай адзінасьці і разьвіцьці.

Другі крок на гэтай дарозе робіць *крытычнае самаўсьведамленьне* народу.

У паэзіі выяўляецца, заражае і будзіць прыспаныя *душы душэўная актыўнасьць* народу; у новай задачы крытычнага маральнага самаааздараўленьня народу выступае, як магутны дзеяч, *духовая актыўнасьць* апошняга.

Народ, які зрабіў хоць адзін крок на гэтай новай дарозе маральнага саматварэньня, ужо ніякімі сіламі — ні ўплывамі, ні гвалтам — ня можа быць забіты, паняволены ці дэнацыяналізаваны. Як толькі ён стаўся сваім уласным сьвядомым духовым тварцом, дык ужо ніякая вонкавая сіла на сьвеце ня здолее перарабіць яго на свой капыл, скажаючы ў ім яго ўласны, індывідуальны абраз Божы.

Наадварот: ад гэтага іменна мамэнту, чым цяжэйшымі робяцца зьдзекі і гвалты, тым мацнейшы адпор яны выклікаюць, тым шыбчэй расьце нацыянальная сьвядомасьць. Гэта і знача, што ўся справа, уся барацьба перайшла ў краіну Духа, дзе мэтады гвалту зусім бязьсільны...

Гэта — затым, што такі народ — нават у рабстве — стаецца ўжо вольным у духу...

Ад гэтага мамэнту для яго канчаецца пэрыяд падчыненьня і дрэсіроўкі, а наступае час *культуры і фармаваньня.*

Першы раз пачуўшы сябе вольным інструмэнтам Божскае волі, народ пачуе нешта вышэйшае, чым *“натуральны”*, чым збуджаны паэзіяй нацыянальны оптымізм, нешта вышэйшае і мацнейшае за гэнае *“адбітае”* пачуцьцё радасьці пашырэньня душы; ён пачуе ў сабе *чалавечую годнасьць і пашану да сябе, як* да вольнага, сьвята выпаўняючага маральны абавязак супрацоўніка самога Божства ў сусьвеце.

Аглядзеўшыся навакол сябе і заглянуўшы ў сябе, ён першы раз убачыць усю тую агіду, у якой ён жыве, і — пасьля такога маральна-

га перараджэньня — пачне з усей энэргіяй перараджаць на новых асновах усё сваё ўнутранае і вонкавае жыцьцё...

*“Інстынкт самапаважаньня — вагар маральнасьці”. “Разьвіцьцё самапашаны — першая ступень маральнага ўзгадаваньня”.* Чалавек, які пачуў пашану да сябе, стаецца, паводле вельмі пекнага выражэньня расейскага пісьменьніка Герцэна[110], *“непапраўна чалавекам”.* Ён будзе рабіць дабро ня дзеля нейкіх староньніх меркаваньняў, а толькі дзеля пашаны да дабра і паважаньня самога сябе.

Як толькі народ пачынае *вытвараць з сябе* такіх маральна перарадзіўшыхся, дайшоўшых самапашаны дзеячоў, дык толькі тады пачынаецца і новае духовае, праўдзіва маральнае *фармаваньне* яго. Той стан самапагарды, якім пачынаецца гэтая новая маральная эра ў разьвіцьці прывыкшага да нявbooлі народу, — пры сьвятле збудзіўшагася да *ўлады* ў чалавеку *сумленьня,* збудзіўшагася ў ім імкненьня да самапашаны, — робіцца так бязьмерна цяжкім, што аставацца далей у ранейшым стане маральнага *застою* для яго ўжо немагчыма...

Пачынаецца *ўзгадаваньне народу прыкладам* тых выйшаўшых з яго лепшых яго прадстаўнікоў, якія самым *сваім жыцьцём*, а ня толькі сваімі прамовамі і пісаньнямі навучаюць народ…

У жыцьці такога народу пачынае тварыцца тое, без чаго няма і ня можа быць ні запраўднага агульна-нацыянальнага жыцьця, ні запраўднага духовага аб’яднаньня, ні запраўдных народных дзеячоў, — пачынае тварыцца *публічнасьць* народнага жыцьця, яго *грамадзкасьць.*

Поўная публічнасьць ёсьць той варунак, адкрытая грамадзкасьць ёсьць тая асярэдзіна, якія і робяць магчымым *уплыў маральнага прыкладу* правадыроў народных, а гэтым і пачынаецца *самаўзгадаваньне* народу. Толькі тады, як у народзе пачалося гэтае грамадзкае самаўзгадаваньне ў атмасфэры поўнае публічнасьці, ён, народ, як Натан Мудры[111] ў вядомай драме нямецкага пісьменьніка Лесінга[112], здабыў права сказаць: *“Няхай нас чуе ўвесь сьвет!”*

---

[110] **Аляксандр Герцэн** (рус. *Александр Герцен*, 1812–1870), рускі пісьменнік, публіцыст, філосаф, рэвалюцыянер.

[111] **Натан Мудры** — галоўны герой аднайменнай драмы Готхальда Эфраіма Лесінга, напісанай у 1778 г.

[112] **Готхальд Эфраім Лесінг** (ням. *Gotthold Ephraim Lessing*, 1729–1781), нямецкі драматург, тэарэтык мастацтва, адзін з заснавальнікаў нямецкай класічнай літаратуры.

І такі народ можа быць пэўны, што ўвесь сьвет яго пачуе, ня гледзячы па тыя паліцэйскія жывадзёрні, у якіх заглушаецца голас яго прадстаўнікоў...

Наш народ, у асобах сваіх найлепшых прадстаўнікоў, ужо пачуў у сабе гэту самапашану, і іх вустамі ён ня будзе паўтараць гадкія і надаеўшыя *"жаласьцівыя"* словы аб тым, што *"вось Пілсудскі*[113] *абяцаў, казаў: роўны з роўнымі, вольны з вольнымі*[114]*... а цяпер..."*.

Ён зразумеў усю пустату і дарэмнасьць гэтых слоў, і самапашана не пазволіць яму паўтараць іх…

---

Але дарога, што павінна давесьці да перамогі *ўсяе сумы беларускага нацыяльнага зла*, да дасяжэньня нацыянальнага ідэалу, — даўгая і цяжкая.

Удача на гэтай дарозе цалком будзе залежаць ад таго, *якімі мэтадамі* Беларускі народ будзе змагацца з акружаючым яго злом, творачы навакол сябе свой нацыянальны сусьвет і гэтым самым падчыняючы сабе тое, што прыналежыць яму *па праву прыроды, па Божым і людзкім законам,* ды што, на жаль, яму, як і кожнаму паняволенаму народу, прыходзіцца *заваёвываць нанова...*

У новым, "надпрыродным" сьвеце, які на нашых вачах будуецца грамадзянствамі людзей, у іх канкурэнцыі, няма і ня можа быць тае вечнае і *"сьвятое ўласнасьці"*, на якое апіралася даўнейшае грамадзянства старога ладу. І гэта адносіцца ня толькі да ўсіх відаў *"капіталу"*, але, на жаль, і да ўсіх відаў *"найсьвяцейшых"* і *"неад'емных" "правоў чалавека і грамадзяніна"*. *Кожную сваю ўласнасьць, кожнае сваё права прыходзіцца як-быццам што-дня заваёвываць сабе нанова…*

Тое-ж трэба сказаць і аб так-званых *"правох народных"*. Права на народную зямлю, на *сваю бацькаўшчыну, на сваю мову, культуру,* — на самавызначэньне, на вольнае развіцьцё, нацыянальнае аблічча і г. д — усе гэтыя правы цяпер ня толькі *"бяруцца*

---

[113] **Юзаф Пілсудскі** (польск. *Józef Klemens Piłsudski*, 1867–1935), вайсковы і палітычны дзеяч, прэзідэнт Польскай Рэспублікі (1918–1922), двойчы прэм'ер Польшчы (1926–1928, 1930).

[114] Напэўна, маюцца на ўвазе словы Юзафа Пілсудскага пасля захопу Гродна ў 1919 г. адносна прынцыпаў будучых дачыненняў палякаў з беларусамі і іншымі народамі былога Вялікага Княства Літоўскага.

*з бою"*, але і *валаданьне* імі ўсьцяж *трэба падтрымліваць* заўсёды напружанай энэргіяй, вечнай духовай актыўнасьцяй, якбыццам запраўды кожную часіну заваёвываць нанова — пасярод вечнае канкурэнцыі народаў.

Як толькі народ, нават той, які мае так званую *"сувэрэннасьць"*, пачынае адставаць, духова абленівацца, як толькі ён губляе сваю творчую, працоўную актыўнасьць, — дык ўраз-жа пачынае губляць часткамі сьпярша фактычную, а пасьля і юрыдычную *"ўласнасьць"* нават на сваю ўласную дзяржаву… Яго тэрыторыя, яго натуральныя багацьці пераходзяць да дужэйшых канкурэнтаў, якія маюць вышэйшую духовую актыўнасьць і ўлажылі ў яго зямлю *капітал* сваей энэргіі. Народ пападае перш у эканамічнае, а пасьля і ў палітычнае рабства ў народаў з вышэйшай актыўнасьцяй... І гэтага закону ня спыніш, ня зьменіш ніякімі *"пунктамі Вільсона"*[115], не затрымаеш на'т прызнанымі *"de iure"* граніцамі!..

У гэтай канкурэнцыі найстрашней тое, што, як гэта ні дзіўна і ні крыўдна, — ані для чалавека, ані для цэлага народу не зьяўляюцца *"сьвятой"* і нязьменнай уласнасьцяй *ані самі яны, ані іх уласная духовая — індывідуальная, нацыянальная, — асабістасьц*ь, калі яе, як і кожную іншую ўласнасьць, ня будзем штодня заваёвываць нанова сваёй уласнай творчай працай. І кожын з нас у кожную часіну можа папасьці ў такое ці іншае рабства.

Ведама, свая дзяржава — гэта вялізарная сіла, вялізарнае дабро для народу. На жаль, і гэту ўласнасьць — гэту найвялікшую ўласнасьць народную — ня толькі трэ' ўмець удзяржаць у сваіх руках, але яе ўдзяржаць якраз і найцяжэй за ўсё на сьвеце.

Перад нашымі вачыма — найбольш пераконываючы доказ таго, як мала аднаго толькі акту *"ўваскрасеньня з мертвых"*, як нястачны нават найшчасьлівейшыя, казачныя вонкавыя варункі, як не ратуе палажэньня нават пераграэты містыцызмам і мэсіянізмам, але ня

---

[115] Маюцца на ўвазе так званыя **"Чатырнаццаць пунктаў Вільсана"** (англ. *The Fourteen Points*) — распрацаваны амерыканскім прэзідэнтам Вудра Вільсанам (1856–1924) праект мірнай дамовы, што мелася скончыць Першую сусветную вайну. Гэты праект быў пакладзены ў аснову Версальскай мірнай дамовы. Адным з пунктаў было стварэнне незалежнай Польскай дзяржавы на тэрыторыі з польскім насельніцтвам, з гарантаваным выхадам да мора, палітычнай і эканамічнай незалежнасцю і тэрытарыяльнай цэласнасцю.

маючы маральнага абаснаваньня, нацыянальны оптымізм, — тады, калі йшчэ трэба дабіцца, каб падараваная ці верненая дзякуючы гістарычнаму крызісу свая ўласная дзяржава сталася запраўды трывалым нацыянальна-палітычным фактам...

Як у прыродзе наагул, так і ў *"другой прыродзе"* — у грамадзянстве людзей — няма і ня можа быць ніякіх *"купчых крэпасьцяў"*[116], ніякіх *"даравізнаў"*[117], ніякае *"статычнае раўнавагі"*[118]... Раўнавага ў іх — заўсёды рухомая, — *"кінэтычная"*, як кажуць фізыкі. Гэта значыць, што — пачынаючы ад найпрасьцейшых целаў неарганічнае прыроды і канчаючы найвышэйшымі і найбольш зложнымі сацыяльнымі арганізмамі, — усюды йдзе барацьба і канкурэнцыя жывых сіл, і кожнае дадзенае цела — гэта істнуючая *толькі ў дадзены мамэнт* іх рухомая раўнавага.

У гэтай барацьбе перамагаюць, як мы ўжо ведаем, толькі сілы вышэйшага напружаньня, толькі энэргія вышэйшае актыўнасьці. У-ва ўсей прыродзе няма нічога раз назаўсёды дадзенага, устаноўленага…Усё толькі *зададзена, як задачы*, якія трэба ўсьцяж разьвязываць… Нават самая *"нацыянальнасьць"*, нават *"нацыя"*, — як гэта на першы пагляд ні дзіўна, — ня ёсьць ані поўная ўласнасьць, ані раз назаўсёды дадзены натуральна-гістарычны факт, а ёсьць вечна творанае духовай актыўнасьцяй грамадскае зьявішча.

Адзін з найсьвятлейшых і найдасьціпнейшых геніяў Францыі, Рэнан[119], у вядомай сваей публічнай лекцыі на тэму: "Што такое нацыя?" — зусім справядліва кажа, што нельга знайсьці ніводнае сталае і істотнае адзнакі, каб даць азначэньне *"нацыі"*. Як толькі народ уваходзіць у вышэй сказаны працэс разьвіцьця паводле закону канкурэнцыі, дык ураз-жа ўсе геаграфічныя, расавыя, этнаграфічныя, дзяржаўнын адзнакі, выдзяляўшыя яго датуль спаміж другіх народаў, стаюцца плыўкімі, зьменнымі... *Народ стаецца тым, чым ён сам сябе штодзённа робіць.* І Рэнан лічыць магчымым даць толькі гэткае фармальнае азначэньне нацыі: *"Нацыя — гэта штодзённы плебісцыт"*, — кажа Рэнан.

---

116 **Купчая крэпасць** — у дарэвалюцыйнай Расіі акт аб набыцці ва ўласнасць маёмасці.

117 **Даравізна** — падарунак, дарчы запіс.

118 **Статычная раўнавага** — тут: устойлівы, нязменны стан.

119 **Жазэф Эрнэст Рэнан** (фр. *Joseph Ernest Renan*, 1823–1892), французскі філосаф, пісьменнік, гісторык, семіёлаг.

Прынадлежнасьць да тае ці іншае нацыі, маё *“вольнае”* самавызначэньне — гэта просты і нямінучы *вынік сталых уплываў*, якія маё *“я”* штодня прыймае ў сябе ад тае асярэдзіны, дзе я жыву, ад таго грамадскага колектыву — таго вялікага *“Я”*, да якога я прыналежу,— зусім не абавязкова ад гаспадарства!.. Газэта і кніга, абставіны жыцьця, вышыня падаткаў, грашовыя знакі (марка!), абвяшчэньне таго ці іншага новага закону, загад адміністрацыі, тэатральная навінка, дыпляматычная ўдача ці няўдача, трываласьць і бясьпечнасьць вонкавых граніц, — *уся многаабразнасьць штодзённага ўплыву на мяне паадзінокіх праяваў агульнага жыцьця ў дадзеным колектыве і выклікае ў-ва мне “штодзённы плебісцыт”, штомінутнае маё “самавызначаньне”, у выніку каторых у тысячах такіх-жа адзінак, як я, і складаецца тое, што называюць цяпер “нацыянальнасьцяй”*. А з гэных адзінак фармуюцца сучасныя *“нацыі”*.

Зьмяніце агульную сыстэму гэтых уплываў, замяніце адну іх *“сымфонію”* другою — і ўся мая *“нацыянальнасьць”* дадзенага мамэнту перацерпіць сур’ёзную спробу…

Ясна, што і тут закон канкурэнцыі, адносная цэннасьць гэтых *“сымфоній”* і трываласьць гэтых *“нацыянальных сыстэм”*, іх здольнасьць выклікаць у сваіх грамадзян *“штодзённы плебісцыт”* наагул на іх *карысьць* — іграюць шмат вялікшую ролю, чымся геаграфічныя, пачатна-біалягічныя, нават рэлігійныя адзнакі і розьніцы, што сьпярша вытваралі тыя ці другія колектывы людзей — *“нацыянальнасьці”*.

Беларускі сьвет, адраджаючыся дзеля гістарычнага жыцьця, таксама падпадае пад дзейнасьць гэтага неўмалімага закону *“штодзённага плебісцыту”*.

Дзеля таго, каб стацца *“нацыяй”*, — значыць, тым, што французы называюць *“nation”*, каб стацца самастойным, грамадзка арганізаваным, дзяржаўна незалежным народам, беларусы *павінны самі тварыць свой сусьвет, сваю ўласную “сыстэму ўплываў”, усьцяж тварыць сваю няўстанна канкуруючую з другімі — “дэнацыяналізуючымі” — уплывамі “нацыянальную сымфонію”, свой “штодзённы плебісцыт”,— павінны самі тварыць беларускую “нацыю”*.

Можна сказаць, што, пры ўсім жаданьні і імкненьні раздавіць і рабурыць нацыянальнае саматварэньне беларускага сьвету,

акружаючы яго польскі сьвет, з уласьцівым яму нацыянальным самаасьляпленьнем і маральна неабаснаваным оптымізмам, ня гледзячы на ўсе вялізарныя плюсы, якія дае яму адносна высокая культура і апарат яго *"ўласнага"* гаспадарства, наагул, на зьдзіў няўдачна, проста фатальна і самагубна карыстаецца гэтымі сваімі перавагамі, *дасягаючы адваротных вынікаў...*

*Нястача*, далікатна кажучы, *маральна-дзяржаўнага "самаагранічэньня"* і тутака імсьціцца за сябе, як у-ва ўсім другім...

Мы ня будзем тутака драбязова затрымлівацца над гэтым пытаньнем, але з поўным правам можам сказаць, карыстаючыся тэрміналогіяй Рэнана, што *"штодзённы плебісцыт"* сярод беларускага насяленьня нашае Заходняе Беларусі адбываецца *не на карысьць польскае нацыі...*

Вось-жа для беларускага *"нацыяналіста"*, ня гледзячы на ўвесь той уціск, які цяпер церпіць Беларускі народ у Польскай Рэспубліцы, няма ніякае прычыны дзеля безнадзейнасьці: варункі тэй канкурэнцыі, што йдзе паміж бедным беларускім сьветам і *"багатым"* польскім за душу беларускага селяніна, выраўніваюцца...

Польская ўлада ў фатальным асьляпленьні маніцца *сама разьвязаць — і то раз назаўсёды — справу "нацыянальнага плебісцыту" ў Краю, "сыстэму ўплываў" замяніўшы тут "сыстэмай прымусу"*... *"Удача"* так-званага *"віленскага плебісцыту"* надае і тут ей надзеі... Толькі-ж яна забываецца, што, згодна з Рэнанам, аднаразовых *плебісцытаў* цяпер больш ня бывае, што *"нацыя"* вызначаецца толькі ў *"штодзённым плебісцыце"*... А гэты апошні, як ужо сказана, з кожным днём лішніх гвалтаў, з кожным... *"новым курсам"* польскае маркі ўсё *больш рашуча высказываецца проці польскага сьвету і за свой — беларускі...*

Польская ўлада тут даўно ўжо сама сябе завяла ў тупік, ці ў зачарованае кола, з якога і нядольна і ня хоча выйсьці; далейшая палітыка рэпрэсій, праўда, стрымлівае тварэньне і рост беларускага сьвету, але затое ўсё больш рэзка той *"штодзённы плебісцыт"* беларускага насяленьня высказываецца проці польскага сьвету, ізноў-жа спыненьне ці аслабленьне палітыкі нацыянальнага ўціску ўраз-жа ўзмацуе і прысьпешыць рост самастойнага беларускага сьвету... Нягодны мэтад заўсёды, як пабачым і далей, заводзіць у падобнае *"кола"*.

Усё гэта служыць за падставу дзеля *“нэгатыўнага”* оптымізму беларусаў: з жывым народам *“сыстэмай гвалтаў”* нічога нельга зрабіць...

Але сам *народ павінен быць жывым* дзеля таго, каб далей расьці і разьвівацца. Жывых мы клічам да будаваньня *новых вышэйшых непераможных форм жыцьця.*

*“Vivos voco!”*[120].

8.

Возьмем найпрасьцейшыя прыклады, — паглядзімо, якімі мэтадамі можна наагул змагацца з злом, і выкрыем з поўнай ачывістасьцяй усю перавагу мэтаду маральна-працоўнае актыўнасьці, які мы тутака радзім прысвоіць сабе Беларускаму народу.

Холад — найбольш бязспрэчнае зло спаміж усяго таго, што пагражае жыцьцю чалавека.

Каб не цярпець ад холаду, можна перш за ўсё і найпрасьцей за ўсё — *фізычна* ўхіліць, *“зьніштожыць”* гэтае зло вонках: напаліць у печы і ня выходзіць з цёплае хаты, саграваючыся звонку.

Але можна сагрэцца і інакш: рухам, працай, вытвараючы цяплыню ў самым сябе. Можна выпрацаваць у сваім арганізьме сталую процідзейнасьць вонкаваму холаду, перамагчы гэтае зло, — ня пускаючы яго ў сябе, прымусіўшы яго аставацца вонках і зрабіўшы яго нястрашным: можна, як кажуць, загартавацца, закаліцца ад холаду.

Можна, урэшце, угрэцца яшчэ прасьцей: выпіць гарэлкі...

Найбліжэйшы вынік усіх трох спосабаў змаганьня з злом холаду — як-быццам той самы: холад пераможаны, і я ўгрэўся. Але разгледзім кожын з гэтых спосабаў асобна.

Першы спосаб — спосаб фізычнага зьніштажэньня зла вонках мяне, на пагляд, — самы радыкальны. Скажам яму нават модны камплімэнт: назавем яго — *“рэвалюцыйным”*!..

Аднак, аказваецца, што спосаб гэты — каштоўны, бо вымагае, каб загадзя быў прыгатаваны запас гаручага матэрыялу, запас загадзя змагазынаванае ў паліве працы, і з гэтае прычыны ён даступны ня кожнаму, асабліва цяпер, калі сажань дроў каштуе міліёны марак...

Гэты *спосаб* — рэвалюцыйна-каштоўны ня толькі затым, што *фізычна* зьніштажае зло холаду, зужываючы пры гэтым

---

[120] ***Vivos voco!*** (лац.) — Заклікаю жыць!

эквівалентныя сколькасьці запасу *гатовага* дабра і *ня твора-чы* нічога новага, але і затым, што родзіць у чалавеку прывычкі, якія могуць давясьці проста да рэвалюцыі.

Бо, калі мой запас дроў скончыцца, дык гэты спосаб прымусіць мяне і далей паліць усё, што можа гарэць: спачатку свае мэблі, пасьля... чужыя дровы, чужую, а то і сваю хату...

І мы ведаем, што якраз гэтак пачынаюцца і гэтак працякаюць усе рэвалюцыі...

Спачатку чужую хату — мужыка ці работніка — руйнуе на *“апал”* сабе той ці гэны, прызвычаіўшыся да дармовага цяпла, *“пан”*.

Пасьля... ролі мужыка і пана зьмяняюцца!

І чым больш руйнаваў хаты *“пан”*, тым *“дасканальшая”*, тым *“глыбейшая”* выходзіць рэвалюцыя...

Ясна, што мы тут папалі ў кола ад’ёмных цэннасьцей, што ў гэтым коле немагчыма, без маральных супярэчнасьцей, устанавіць *ніякіх практычных* норм, ніякіх *правілаў пастунаньня.*

Гэты спосаб — нягодны, бо толькі часова ўхіляе вонкавае зло, зусім без карысьці зьніштажаючы пры гэтым, — калі будзем выключна, ці пераважна карыстацца ім, — вялізарную сколькасьць дабра, не раўнаважную пастаўленай мэце і атрыманым рэзультатам...

Але гэты мэтад яшчэ больш небясьпечны затым, што, паміма вонкавых цэннасьцей, руйнуе ў чалавеку вялізарную сколькасьць так сама вякамі прызапашаных *унутраных цэннасьцей, духовага дабра, абніжаючы духовы тып чалавека, пераводзячы грамадзянства на некалькі вякоў* узад...

Ясна згэтуль, што такім мэтадам, угрунтаваным на выніках чужое працы, змагацца з злом холаду ня толькі неэканамічна, але — *à 1a longue*[121] — і немагчыма.

---

Якраз паводле такога мэтаду, у вядомым апавяданьні расейскага мастака Буніна, палілі печы мэблямі і самым домам у пакінутым *“панам”* двары — *“Байбакі”*...

Іменна такім спосабам, паводле гэтага мастацкага *“пралёгу”*, ужо ў працягу шасьцёх гадоў *“байбакі”* расейскае рэвалюцыі апаліваюць Маскву, Петраград і блізу ўсе другія месты Савецкае Рэвалюцыйнае Расеі...

[121] ***À 1a longue*** (фр.) — тут: урэшце.

І мы маем поўнае права сказаць, што край у канцы канцоў вельмі мала выіграе нават ад Рэвалюцыі, калі апошняя, не перамяніўшы панаваўшых раней у краю мэтадаў барацьбы са злом, толькі замяняе адных *“байбакоў”* другімі, звычайна яшчэ горшымі...

Такім вось нягодным мэтадам Францыя хоча цяпер *“фізычна зьніштожыць”*, рэвалюцыйна *“выкараніць”* з вонкавага сьвету тое *“зло”*, што няўстанна пагражае яе істнаваньню, ды з якім яна *нармальнымі* мэтадамі няздольна справіцца: *“зло”* Нямеччыны...

На гэтай блуднай дарозе Францыя дайшла ўжо да таго, што, каб “сагрэцца”, паліць у Рурскіх печах ня толькі чужое паліва, ня толькі нямецкія *“хаты”*, але і свае — францускія... А разам з апошнімі, як гэта пачынаюць ужо разумець нават самыя тупыя галовы, — паліць нават і польскія, нават і беларускія *“хаты”*, падпаліваючы апошнія палаючымі нездаровым агнём нацыянальнага максымалізму галовамі польскіх палітыкаў і згараючай на нашых вачах да тла паперай польскае валюты...

За заражаюча-благім прыкладам францускае ўлады гэтым нягодным, бясплодным і шкодным мэтадам хоча і польская ўлада фізычна *“зьніштожыць” — “у сябе, у Польшчы”* беларусаў, *“выкараніць”* з вонкавага сьвету тое *“зло”*, з якім польскае грамадзянства бязьсільна справіцца *нармальнымі* мэтадамі ператвараньня яго ў дабро...

Але мы ведаем, што гэты рэвалюцыйны мэтад, — хай ён нават не затрымліваецца перад самымі *“студніцка-турэцкімі”* крокамі, — найбольш бясплодны!

І кожын немец, і кожын беларус, хоць яны і пакутуюць цяпер, могуць быць зусім спакойны за будучыну: мэтады як прырэйнскіх, так і прывялейскіх *“рэвалюцыянераў”* носяць у самых сабе сваё фатум... *Гэтымі* мэтадамі ня толькі ніколі і нічога з *“заваяваньняў”* ня ўтрымаеш, але больш таго: кожын сьвет, гдзе пануюць гэтыя нягодныя, *“простыя”*, сярэднявечныя мэтады *“зьніштажаньня”* зла — *“агнём і мячом”*, ці магіяй слова ненавісьці, — сьвет, у якім ня ўмеюць і ня хочуць карыстацца новымі мэтадамі перамаганьня зла, ператвараючы яго ў дабро, — кожын такі сьвет, як мы бачылі з нашага простага прыкладу і як мы ведаем з усяго ходу гісторыі, раней ці пазьней засуджаны згінуць...

Няхай памятаюць і над Рурай, і над Вяльлёй, што гэтым іменна мэтадам і Вільгэльм II[122] маніўся заваяваць усенькі сьвет…

Але, як нам ведама і як навучаюць усё рэлігіі, нават і сам Бог *“ня можа” “фізычна зьніштожыць”* і зразу выкараніць у сьвеце зло, а можа толькі парамагчы Яго ў безканечнасьці — *“у канцы сьвету”*, ператвараючы зло — усімі сіламі сваіх супрацоўнікаў у сусьвеце — у дабро... І гожа думаць, што тое, на што ня дуж сам Бог, ня ўдасца і… п. п. Пуанкарэ[123], Скульскаму, або Студніцкаму...

---

Цяпер разгледзім, што нам дае другі мэтад барацьбы з злом холаду.

Другі спосаб сагрэцца, апрача свайго безпасярэдняга рэзультату, даець мне яшчэ два важныя плюсы, якія далёка пакідаюць за сабой бліжэйшую мэту прылажэньня яго.

Першы плюс — у тым, што я, саграваючыся рухам, магу пры гэтым рабіць тую ці другую карысную работу, магу, паміма бліжэйшага ператварэньня зла холаду ў дабро цяплыні, тварыць з сусьветнага *“сыр’я”* тыя ці другія цэннасьці на запас. Магу — на прынадак вялікіх марозаў — прызапасіць тых-жа дроў, якімі пасьля здолею падзяліцца з бедным, прыдбаўшы ў ім сабе лепшага прыяцеля на сьвеце...

Ясна, што іменна гэтай — і толькі гэтай дарогай нарастаюць цэннасьці і ўзьвялічываецца дабро ў вонкавым, акружаючым мяне сьвеце, і я сам узьвялічываю багацьце і дасканаласьць гэтага сьвету.

Усё гэта ня можа не падтрымліваць у-ва мне маральна абснаванага оптымізму, — як кажуць, маральнага здаваленьня і найвышэйшае безкарыснае радасьці, незалежна ад асабістага дабра ад гэтага для мяне.

Другі-ж плюс — яшчэ важней.

---

[122] **Вільгельм II** (ням. *Wilhelm II*, 1859–1941), імператар Германіі і кароль Прусіі (1888–1918). Ягоная актыўная знешняя палітыка, скіраваная на рост уплыву Германіі ў свеце, стала прычынай Першай сусветнай вайны.

[123] Маецца на ўвазе **Раймон Пуанкарэ** (фр. *Raymond Poincaré*, 1860–1934), французскі дзяржаўны дзеяч, прэзідэнт Францыі (1913–1920), прэм’ер-міністр (1912–1913, 1922–1924, 1926–1929). Праводзіў актыўную антынямецкую палітыку, у 1923 г. ажыццявіў паўторную акупацыю Рэйнскай вобласці.

Гэты ўнутрана актыўны мэтад барацьбы з холадам, гартуючы *мяне, узвышае мой жыцьцёвы тып,* робіць мяне дужэйшым, больш адпорным для *данага* аспэкту сусьветнага зла, больш незалежным ад акружаючых мяне, часта варожых, абставінаў, — *фізычна і духова вальнейшым наагул…*

Як добра кажа той самы Фіхтэ: *"Вызваленьне Духа ў вадным напрамку вызваляе і ў-ва ўсіх іншых".*

Мая маральная актыўнасьць, мае перакананьні стаюцца ў-ва мне ўсё больш і больш вольным і рашаючым фактарам майго паступаньня…

Мая духовая істота ўзрастае, а гэта, як мы ведаем, дае мне новую радасьць...

Гэты мэтад дае мне, апрача перамогі пад холадам, непараўнана больш важнае. Ён творыць у-ва мне *вышэйшую актыўнасьць,* раўнуючы да майго таварыша-канкурэнта ў жыцьцёвай барацьбе, каторы, так-сказаць, *"рэвалюцыйна"* сядзіць у цёплай хаце і шчасьліў толькі да таго мамэнту, пакуль у яго ёсьць гатовыя дровы: ратуючыся чужой энэргіяй ад аднаго зла — холаду, ён пападае ў кіпці другога — яшчэ вялікшага, робіцца рабом вонкавых абставінаў — цяплыні і камфорту — і ў канцы канцоў выраджаецца, як паразіт... І які-б капітал ён ні сабраў, якую-б *"вечную"* рэнту ні *"забяспечыў"* сабе на зямлі, ён, як растаўсьцеўшы цераз меру, абязьсілеўшы паразіт, заўсёды будзе ў канцы канцоў пераможаны тым, хто праз ўсе жыцьцё зьбіраў і зьберагаў у сабе запраўдны — непераможны, бязьмежна ўрастаючы ў ім і ў яго патомстве — *духовы капітал вышэйшае працоўнае актыўнасьці, вышэйшага чалавечага тыпу.*

І мы добра ведаем з практыкі гісторыі і з відавочных навук сучаснасьці, што запраўды, калі прыходзіць мамэнт памерацца сіламі гэтым двум тыпам чалавека адзін на адзін, хаця-бы пры помачы ўсіх тых штучных *"крэпасьцяў"*, якімі ў мірны час так добра бароняць сваю фізычную і духовую слабасьць людзі першага тыпу, — дык вынік заўсёды і нязьменна бывае той самы: тып *"буржуазны"*, які носіць у сабе *"фатум"* рэвалюцыі, аказываецца пераможаным, якіх-бы магутных *"крэпасьцяў"* у вонкавым сьвеце ён ні пастроіў... Усе гэныя *"крэпасьці"* разваліваюцца ад аднае — духовае *"крэпасьці"*, ці самі сабой перадаюцца пераможцу...

Бо — скажам яшчэ раз: няма і ня можа быць ніякіх выняткаў з найвышэйшага закону, дадзенага Богам усяму сьвету: перамагаюць у ім формы вышэйшае духовае актыўнасьці.

---

Цяпер, калі мы гэтак-жа спакойна і об'ектыўна разгледзім *"трэці мэтад"* барацьбы з злом холаду — *"мэтад алькагольны"*, дык убачым, што і ён *"фізычна"* зьнішчае ад холаду, толькі ня ў вонкавым сьвеце, а *ў-ва мне самым,* але *"зьнішчае"* яго таксама ілюзорна, выабражальна і на вельмі кароткі час, ды робячы ў-ва мне *такія-ж спусташэньні,* як і першы мэтад, вонкава-рэвалюцыйны, навакол мяне. Дзеля гэтага з поўным правам можам назваць гэты *алькагольны* мэтад *"зьнішчэньня зла"* — *суб'ектыўна-рэвалюцыйным.*

Пры карыстаньні ім зло об'ектыўна астаецца зусім незакранутым у акружаючым мяне сьвеце, і цераз некалькі мінут я буду цярпець ад яго яшчэ больш… Патрэбна будзе йшчэ новая, згодна з вядомым фізыялягічным законам, ужо *павялічаная* порцыя *"барацьбы са злом"*… І гэтак без канца.

Ужо з гэтага павялічаньня "порцыяў" ясна, што зло не зьмяншаецца, а ўзрастае нават у-ва мне ў меру *"змаганьня"* з ім алькагольна-рэвалюцыйным метадам.

У гэтым і заключаецца *"благая бесканечнасьць"* апошняга мэтаду барацьбы, *барацьбы зла са злом.*

Гэты *"трэці спосаб"* да таго-ж і роўна каштоўны, як першы, калі яшчэ не даражэй за яго: *"унутранае паліва"* ў благаслаўлёнай *"Алькагольнай Імпэрыі"* Каспровіча[124] і Бачэвскага[125] каштуе не таньней за вонкавае — нават у самай сталіцы *"ляснога басэйну"* Беларусі…

Але гэты спосаб, ня кажучы ўжо аб даражыні яго, мае яшчэ вялізарнай вагі мінусы. Ён ня толькі ашуківае мяне адносна да об'ектыўна астаўшагася цэлым зла, суб'ектыўна нішчучы ў-ва мне холад

---

[124] **Баляслаў Міхал Каспровіч** (польск. *Bolesław Michał Kasprowicz*, 1859–1943), польскі прамысловец, у 1888 г. заснаваў адну з першых фабрык па вытворчасці гарэлкі і іншых алкагольных напояў на польскім Памор'і. Прадукцыя вытворчасці Каспровіча экспартавалася ў розныя краіны свету.

[125] **Юзаф Адам Бачэўскі** (польск. *Józef Adam Baczewski*, 1829–1911), польскі прамысловец, ад 1856 г. уласнік лікёра-гарэлачнай фабрыкі ў Львове, якая стала найбуйнейшым вытворцам алкаголю ў Польшчы і адным з найбуйнейшых — у Сярэдняй Еўропе.

толькі ў маей сьвядомасьці і пакідаючы пад уладай гэтага зла, прыкладам, маіх дзяцей, або — адмаражываючы мне самому ў *п'яным* упаеньні *"перамогай"* мае ўласныя ногі, — ня толькі ня робіць мяне больш адпорным на гэтае зло, але якраз наадварот: робіць мяне *рабом — і* то ня *толькі гэтага аспэкту зла*, але і таго *паганага спосабу,* каторым я пробаваў змагацца з ім, — творыць у-ва мне *новае зло*.

Гэты праўдзі *"рэвалюцыйны"* спосаб руйнуе ўвесь мой арганізм, абніжае мой духовы і жыцьцёвы тып, — дый ня толькі ў-ва мне адным, але і ў закладзеных у-ва мне пакаленьнях, — робіць мяне слабейшым і больш бязрадным у барацьбе са злом наагул...

На вялікі жаль і ганьбу для Беларусі, гэты апошні, найгоршы і найбольш шкодны мэтад барацьбы з злом холаду — як раз самы папулярны ў нашай бацькаўшчыне...

Як гэта ні горка, але трэба прызнацца, што гэты алькагольны мэтад зьяўляецца запраўды *"ўсеславянскім"*, часткова — *"нацыянальна-беларускім"* мэтадам барацьбы са злом наагул...

З усімі многаабразнымі аспэктамі аблажыўшага народ з усіх бакоў страхацьця сусьветнага Зла: рабствам, холадам, голадам, цемрай, нявуцтвам, падзелам, распыленьнем, зьнямогай, апатыяй і ленасьцяй — беларускі сусьвет дагэтуль *"змагаецца"* бадай выключна гэтым *"трэцім"* мэтадам...

І толькі гэтым мэтадам загнаны ў бязвыхадны тупік, зьнямогшы ад нерацыянальнае працы, незнаёмы з найважнейшымі правіламі гыгіены духа беларускі народ *штучна* і са шкодай для сябе пабудаваў у сабе той ледзьве тлеючы ў ім пачатны натуральны оптымізм, без каторага, як мы ўжо казалі, нямашака ні магчымасьці, ні сэнсу жыць...

Гэты *"нацыянальны мэтад"* прадстаўлены — мабыць дзеля прынцыпу *"запраўднага народнага прадстаўніцтва"*, — на жаль, ажно залішне багата, — нават у Беларускім Соймавым Клюбе[126]...

І не здарма ўвесь наш Край, гэты праўдзівы *"лясны басэйн"* для ўсяе Сярэдняе Эўропы, сам церпіць ад нястачы паліва і мерзьне ад холаду, але *"вывозіць"* свой лес загранiцу: за яго ён атрымлівае на зьмену другое — плыўкае паліва, што ператварае наш *"лясны басэйн"* у алькагольны...

---

126 **Беларускі пасольскі клуб** — фракцыя ў польскім Сейме ў 1922–1927 і 1928–1930 гг.

У гэтым-то алькагольным басэйне, у гэтым п'яным *"моры зла"* тыя, што прадстаўляюць у нас *"вышэйшую культуру"* і спадзяюцца напэўна расчыніць без астачы ўсё ненавіснае ім *"беларускае зло"*.

Дый можна з *пэўнасьцяй* сказаць, што, калі абодва мэтады: вонкава-рэвлюцыйны ў руках забойцы-ворага і ўнутрана-рэвалюцыйны, алькагольны — у руках самагубцы-беларуса — зьліюцца ў вадно, дык уся праграма паноў Скульскага і Студніцкага будзе праведзена да канца: *ад беларусаў цераз паўвеку ў Заходняй Беларусі не астанецца і духу...*

За гэтым прамаўляе гісторыя.

Алькаголь і *"хрысьціянства"* (ведама, лжывае, пасыўнае) — вось тое, што насамперш прывозілі ў краіны больш маладых народаў, болей слабых, адсталых расаў тыя *"нашэльнікі культуры"*, якія, пад прыкрыцьцем сваіх місіянерскіх сутанаў, стаўлялі сябе беспасярэдняй задачай канчальнае і найпэўнейшае зьніштажэньне гэных народаў....

А вось у № 1 беларускага ковенскага "Крывіча" вядомы беларускі дзеяч, наймілейшы пан Душэўскі[127], ня толькі ня сумуе з прычыны таго, што Беларускі народ п'ець сваю *"нацыянальную"* гарэлку, але пацяшае тых, хто сумуе, кажучы, што беларусы п'юць *толькі* гэтулькі, як і... палякі!

Пасьля ўсяго што мы вышэй гаварылі, можам толькі зьвярнуць паважанаму *"правадыру Беларускага народу"* ўвагу на тое, што *"алькагольны"* оптымізм яго, так сказаць, някрытычнага тыпу, і што ягоная адзінка мераньня, яго *"норма цьвярозасьці"* для беларуса, выбрана ім, мякка выражаючыся, няўдачна...

На ўсе гэтыя пацяшаньні і самапацяшаньні трэба адказаць проста, і гэта павінна быць зроблена тут — у першай спробе крытычнага аналізу падставаў беларускага народнага Адраджэньня, пры аглядзе і выбары адзіных правільных яго мэтадаў, — трэба адказаць, што *ніколі не дажджэцца Беларускі народ свайго Сьветлага — "прыадзетага ў Сонца" — Сьвята Ўваскрасеньня з мёртвых, аб якім лятуцяць цяпер лепшыя сыны Беларусі, калі ня выжане з свайго жыцьця гэнага блуднага мэтаду "барацьбы з злом" — мэтаду самаашуканства, самаруйнаваньня, самапрадаваньня, мэтаду, што творыць лжывы, нічым не абаснаваны, паталягічны, раскладаючы душу оп-*

[127] Маецца на ўвазе Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

*тымізм*, — мэтаду, што заціраe ў сьвядомасьці народу прынцыпова важную *граніцу паміж ворагам і другам,* што расчыняе гэты *асноўны зьмест найглыбейшага біалягічнага інстынкту самазахаваньня і самаабароны,* што раскрывае для ворага дзьверы духовае і кожнае іншае, малое і вялікае, хаты беларуса, што атручывае дух народны і марнуе яго энэргію, робячы Беларускі народ вечна малалетнім, вечным прыганятым...

Трэба проста сказаць, што, калі з вяршынаў беларускага Духа, ад вярхоў беларускае Інтэлігенцыі ня прыйдзе ў беларускі сялянскі сьвет *працьвярожаньне яго мэтадаў барацьбы* з нясчысьлёнымі аспэктамі яго адвечнага зла, дык ня ўбачыць ён свайго Адраджэньня, як сваіх вушэй!..

І той беларускі правадыр, што дазваляе народу *"піць гэтулькі-ж, сколькі п'юць палякі"*, і той *"запраўдны правадыр Беларускага народу"*, што, паводле рэцэпту пана Душэўскага, заховывае ў *"усеславянскім"* мэтадзе *"парытэт"* з калегай-палякам, зьяўляюцца, паводле нашага глыбокага пераканаць ня, *горшымі ворагамі Беларускага народу,* чым які-хоч эндэк-жываед, чым нават сам обэр-жываед над жываедамі — пан Владыслав Студніцкі!..

9.

Возьмем другі, яшчэ больш яркі прыклад.

Што можна сабе прадставіць больш страшнога, больш руйнуючага і неперыможнага, чым зло ўзбуранае марское стыхіі?

Мы, спакойныя жыхары кантынэнтальных раўнін, дзякуй Богу, нават і не прадстаўляем сабе гэтага зла.

А вось народы, што жывуць на астравох, як англійцы або японцы, дык тыя ня толькі ня пужаюцца гэтага страшнога зла, але якраз у змаганьні з ім выпрацавалі ў сабе той *вышэйшы тып* жыцьцёвае энэргіі, які дае ім такую велізарную перавагу — у-ва ўсіх галінах жыцьцёвае канкурэнцыі — над тымі кантынэнтальнымі народамі, што нічога ня церпяць ад гэтага аспэкту зла.

Можна далей сьмела сказаць, — і гэта будзе зусім точнае, бяз ніякае нацяжкі, выражэньне факту, — што якраз мора, якраз гэтае страхацьцё сусьветнага зла і даравала сваім пераможцам, народам-мараплавальнікам, той бязцэнны скарб, які яно ў сабе хавала, і за які на ўсенькім працягу гісторыі йдзе паміж народамі барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць: даравала ім *уладу над сьветам...*

І нам цяпер ясна, што гэтая ўлада над сьветам ёсьць просты вынік тае паўнаты ўлады, якой тыя народы дабіліся — над самімі сабою!...

І тут, як і ў першым прыкладзе, жыцьцёвая актыўнасьць адважнага чалавека не спалохалася вялізарных, раўнуючы да яе самае, разьмераў страшэннага зла, наадварот, сама, як кажуць немцы, *"пайшла чорту насустрэчу"* і, пазнаўшы гэтае зло і ўзброіўшыся дзеля барацьбы з ім адпаведным аружжам — перамогшы яго *ўзвышэньнем свайго духовага тыпу,*ператварыла гэтае зло ў двайное, трайное дабро, — у такое дабро, каторае патэнцыяльна зьмяшчае ў сабе ўсю рэшту сусьветнага дабра!..

І мы ведаем, — як гэта ні дзіўна з нашага кантынэнтальна-мірнага, *"хатняга"* пункту гледжаньня, — што іменна за *мора,* за гэтае зло, як за *адзіную дарогу* на зямлі да вытвараньня ў чалавеку і ў народах *найвышэйшага тыпу актыўнасьці,* якая вядзе да запаведнае мэты ўсіх вялікіх народаў: да панаваньня над сьветам, — і адбываецца сусьветная канкурэнцыя народаў; узьнялася за яго і апошняя Вялікая вайна...

Калі цяпер мы кінем вокам на ўсе тры паказаныя вышэй мэтады барацьбы і з гэтым злом, ды прыраўнуем іх адзін да аднаго, дык сама сабой кідаецца ў вочы перавага *актыўна-эвалюцыйнага* мэтаду.

*Актыўна-рэвалюцыйны* мэтад, — мэтад фізычнага зьнішчэньня зла, — тутака зусім няпрыгодны: мора ня зьнішчыш, а вядомы ўсім прыклад Ксэркса[128], што, узлаваўшыся, загадаў высьцябаць мора, ведама, для ўсіх нас — сьмешны! Народ, ці то чалавек, які палахліва ненавідзіць марскую стыхію, можа вызваліцца ад яе толькі *пасыўна*: ня пускацца ў падарож па мору, — асуджаючы сябе на той ці другі род няволі ў валадароў мораў і сусьвету...

Урэшце, для трэцяга мэтаду — мэтаду алькагольна-бязкрытычнага оптымізму, няўзброенага ведай і воляй, — кожнае мора — паводле ўдачнае народнае прыказкі — будзе *"па калена"*... Толькі-ж, ведама, выабражальна, *"суб'ектыўна зьнішчыўшы"* ў сабе, — *"у сваей п'янай галаве"* — непераможнае для яго і поўнасьцю захаваўшаеся ў вонкавым сьвеце страшное зло, адэпт гэтага мэтаду тым лягчэй дасьць гэтаму злу магчымасьць зьніштожыць яго самога...

[128] **Ксеркс I** (518–465 да н. э.), персідскі цар (485–465 да н. э.). Паводле легенды, напярэдадні бітвы пры Саламіне загадаў падначаленым высцебаць марскую ваду, якая разбурыла пабудаваны для ягоных войскаў пантонны мост.

Гэтак і толькі гэтак стаўляе пытаньне ня толькі добрая практычная філязофія, але і ўвесь поступ як вечнае прыроды, так і сучаснае культуры, ды і самая эвалюцыя ў іх тыпу чалавека, залежная ад сусьветнага закону канкурэнцыі.

Але-ж і канкурэнцыя, з пункту гледжаньня старога пасыўнага маралізму, ёсьць найвялікшае ў сьвеце зло *"зьвярынага эгоізму"*, якое жыве ў чалавеку. І гэтага *"найстрашнейшага"*, *"найпраўдзівейшага"* *"чарта"* ў чалавеку маралісты, гэныя найбольш перакананыя і пасьледавальныя рэвалюцыянеры, пробуюць перамагаць рэвалюцыйным мэтадам — мэтадам фізычнага зьніштажэньня: *"эгоізм у чалавеку або ў народзе трэба выкараніць"* — кажуць яны, апіраючыся на няправільна тлумачаным "Слове" Хрыста...

Але зьніштожыць эгоізм, фізычнага нашэльніка нашага духовага *"Я"*, — *значыць атруціць у-ва мне пачатны оптымізм,* зьніштожыць гэтае маё *"Я"*, маё *"пачуцьцё сілы"*, — самае ядро майго жыцьця. І на гэту спробу маё жывое *"Я"*, як і жывое *"Я"* цэлага народу, раней ці пазьней адкажа, як і на духовы ўціск, тым, што Фіхтэ называе *"абсалютнай вайной"*, *"праведнай вайной"* — *"змаганьнем не на жыцьцё, а на сьмерць"*... Гэты мэтад затым і павінен быць названы *"рэвалюцыйным"*, што ён носіць у самым сабе нямінучую будучую рэвалюцыю, у крыві якое народ топіць насамперш вучыцялёў такое маралі... Ясна, што гэты найбольш пануры спосаб не павялічывае ані скольксасьці дабра ў сусьвеце, ані адпавядаючага яму запраўднага оптымізму.

Алькагольны спосаб разьвязывае праблему эгоізму і канкурэнцыі з тым-жа бязкрытычным оптымізмам, з якім разьвязывае і ўсе другія праблемы: на час п'яна-альтруістычнага трансу эгоізм і канкурэнцыя аказваюцца як-быццам растаяўшымі ў віне і запраўды *выкінутымі, толькі не з сусьвету, а з маёй сьвядомасьці,* дый то толькі часова... Дэкрэтамі алькагольна-оптымістычнае вялікадушнасьці, абвяшчаецца ўсяму сьвету, — як запраўдным прыяцелям, так і заклятым ворагам *"брудэршафт"*...

Ведама, як працьвярэзішся, дык гэты мэтад пакідае ня толькі ўсё ў-ва мне, але і ўсё навакол мяне пастараму, у нязьменным стане, — дый горш таго: мае прыяцелі стаюцца менш пэўнымі, ворагі — больш цынічнымі, канкурэнцыя — маральна-бруднейшай... Я і мой сьвет стаюцца з усіх паглядаў больш *беднымі,* а значыцца, і больш сумнымі... Аб узвышэньні і ўзмацаваньні гэтым мэтадам жыцьцёвага оптымізму і гаварыць нельга, бо маё *"Я"* ад гэтага не

расьце, душа мая, як і ўсё маё багацьце, не ўзрастае, мой чалавечы, жыцьцёвы тып паніжаецца...

Няхай-жа кожны беларус, разьменіваючы атрыманы з-за акіяну доляр на польскія маркі, добра зразумее і перачуець гэты, укрыты ў такой высокай валюце, *вышэйшы* тып — як-быццам улітае і захаванае ў гэнай, затым і вызываючай мімаволі пашану да сябе, друкаванай паперыне — *духова-працоўнае актыўнасьці* англа-сакса, каторы заўсёды такім бэконаўска-марскім, крытычна-актыўным, цьвярозым мэтадам абаснаванага оптымізму разьвязываў праблему барацьбы са злом...

Няхай беларус добра паймець і гэтую абясцэненую марку, як самае яскравае і сумнае адбіцьцё пануючых у акружаючым яго сьвеце бязкрытычных, блудна-рэвалюцыйных, алькагольна-оптымістычных мэтадаў барацьбы са злом, і няхай, і тут знаходзячы некаторую аснову дзеля, так-сказаць, адʼёмнага оптымізму, заўсёды і ў-ва ўсім паступае паводле мэтадаў англа-нямецкіх ды сьцеражэцца мэтадаў польска-францускіх, бачучы з поўнай ачывістасьцяй, што першыя твораць даляры, другія — маркі…

Гэтак і ў-ва ўсім.

І калі беларусы самі навучацца і самі будуць тварыць свае *"даляры"*, — значыць, свае паўнаважныя цэннасьці ў-ва ўсіх галінах свайго нацыянальнага жыцьця, — дык няўжож тады *"купіш"* Беларусь за польскія маркі, як прапануюць гэтае Студніцкія?!.

10.

Возьмем яшчэ агульнейшы прыклад.

Самае страшное зло для чалавека, які найвышэйшую радасьць свайго запраўднага назначэньня знаходзіць у вольным самаразьвіцьці, у свабодным выпаўненьні закону сваей фізычнай і духовай прыроды, — гэта няволя, рабства.

Якімі-ж дарогамі і спосабамі даходзіць чалавек і цэлы народ да волі?

Кожнаму ясна, якой вялізарнай вагі для чалавека і народу пытаньне мы тутака падымаем.

Каб ня выклікаць спрэчак, мы і тут, па магчымасьці, каротка разгледзім тыя-ж мэтады барацьбы з гэтым злом, аб якіх ішла гутарка ў папярэдніх прыкладах. Мы каротка дамо выклад тых схэм вызваленьня ад рабства ў тым ці іншым яго аспэкце, якія нам дадзены *як нармальныя і правільныя мэтады вольна-*

*га* і сьвядомага змаганьня за свабоду, найвялікшымі геніямі нашых часоў — кожным у ягонай галіне. А пасьля пакажам і тыя мэтады гвалту, з якіх народы *ходам выпадкаў* і як-быццам пад *прынукай* з боку апошніх бывалі *прымушаны* карыстаць на працягу ўсяе гісторыі дзеля свайго вызваленьня. І ацэнім вынікі адных і другіх…

---

Успамянуты ўжо намі Бэкон аддаўся пазнаньню мэтадаў вызваленьня чалавека ад *паняволеньня прыродай* і даў мэтад падчыненьня чалавеку сілаў прыроды.

Схэма Бэкона і вынікі карыстаньня з яе нам ужо вядомы. Паўторым яе толькі славамі самога гэтага закладчыка сучаснае магутнае *"Імпэрыі Чалавека"* ў заваяванай прыродзе.

*"Natura vincitur parendo"*, гэта значыць: *"Прырода перамагаецца толькі паслухмянасьцяй ей" — над* прыродай можна панаваць, толькі ведаючы і спаўняючы яе загады, яе з а к о н ы.

Такім дасьціпным парадоксам Бэкон высказывае асноўны прынцып кіраваньня гэтай *"Тэхнічнай Імпэрыяй"* у прыродзе.

Толькі тады, калі мы пазналі *"звычаі і прывычкі"* гэтае, на першы пагляд, капрыснае красуні — Прыроды, калі пазналі яе законы, на дзеле аднаабразныя ўсюды і заўсёды, і ім падлягаем самі, — толькі тады чалавек здабывае над ёй, як-быццам на правох законнага мужа, уладу загадываць ей імем Духа.

Гэтак улада чалавека над прыродай ня ёсьць улада *"абсалютнага манарха"*, але абмяжована, так сказаць, *"канстытуцыяй"* самае Прыроды, — яе законамі.

Значыць, толькі пазнаючы сьвет прыроды сіламі сваей духовай актыўнасьці, усё ўзвышаючай у тыпе, я ня толькі вызваляюся ад страху перад гнеўнымі капрысамі стыхіяў тае прыроды, ня толькі скідаю з сябе паняволеньне гэтымі капрысамі, але і сам раблюся панам прыроды і рэфарматарам яе, прадаўжаючы ў ёй працу Бога-Тварца.

---

Вялікі Кант і яго найлепшы вучань, Фіхтэ, карысталіся тэй-жа схэмай Бэкона дзеля заваяваньня ўнутранае прыроды чалавека, дзеля падчыненьня яго жаноцка-капрыснае душы ягонаму суроваму мужчынскаму Духу.

Трэба пазнаць усю будоўлю нашага ўнутранага *"Я"*, усю гэту вечна бунтуючуюся, сваявольную *"рэспубліку"* пачатных стыхіяў душы, дзе ўсе вольныя, апрача мяне самога, апрача майго істотнага *"Я"*, — перш, чым выступіць у паход дзеля далейшага заваяваньня сьвету, трэба перадусім *зьвясьці да адзінасьці,* падчыніць аднэй цэнтральнай уладзе, аднаму правадыру, ператварыць у запраўдную, правільна арганізаваную *армію Духа.* І дзеля гэтага, паводле правіла Бэкона, трэба таксама пазнаць законы маей унутранай прыроды, *сілы, магчымасьці, межы і мэты* чалавечага *"Я"*.

Гэта і зроблена Кантам і Фіхтэ. У гэтым уся — важная тут для нас — істота іх *"Крытыкі"*.

І выявілася, што найвышэйшым і найагульнейшым законам, які мае *"Я"* павінна споўніць, каб першы раз стацца запраўды вольным і загадываць як самому сабе, так і ўсякаму другому, як індывідуальнаму, так і колектыўнаму *"Я"*, — зьяўляецца *закон паслухмянасьці, — закон абавязку.*

У аналягічным бэконаўскаму парадоксе і Кант фармулюе свой асноўны мэтад вызваленьня ад унутранага паняволеньня чалавека, сваявольнай *"рэспублікай" "натуральных склоннасьцей"*, наравістай *"рапсодыяй прадстаўленьняў"* і жаданьняў маёй *"эмпірычнай асобы"* — дарогай усьведамлення і вытварэньня ў сабе непераможнага для гэтага зла духовага *"Я"*, *"панадпрыроднага"*, пазнавальнага розумам *характару.*

Кант гаворыць, што *воля і маральны закон — абсалютна тое самае,* з тэй толькі розьніцай, што наша воля абаснавана на беспасярэдна ясным для мяне, жывучым у-ва мне, маральным законе, а не наадварот.

Я вольны, бо ў-ва мне ёсьць закон абавязку.

*"Я павінен — значыць, а магу, значыць, я — вольны!"* — так кажа ўславіўшаяся формула Канта.

Калі беспасярэдні голас Бога ў-ва мне, голас найвышэйшага для мяне закону: майго сумленьня — кажа мне: ты павінен... і я слухаюся гэтага голасу абавязку, ня гледзячы ні на якія перашкоды ў-ва мне самым і вонках мяне, дык гэта і паказуе, што я вольны.

Мы бачым, што ў гэтай асноўнай формуле так-жа мала супярэчнасьці, як і ў выдаваўшайся на першы пагляд парадоксам формуле Бэкона.

І лёгка зразумець, у якой меры запраўды вольным, а значыць, і дужым зьяўляецца суцэльны, зьвязаны адзіным нацыянальным духам, народ, калі ўсе ў ім, як адзін, скажуць: мы павінны — значыць, мы можам!..

Нямецкі народ, які ў свой час добра прысвоіў сабе гэту формулу абмяжованае маральлю абавязку волі, дадзеную яму яго вялікім вучыцелем, на дзеле паказаў сьвету, мо' нават з лішкам (у якім ужо вінаваты ня Кант, а другія), — да чаго ён здольны, калі стаўляе сабе і разьвязуе гэтым мэтадам тую ці другую канкрэтную нацыянальную задачу...

Закон вольнага абавязку — маральная *"аўтаномія волі"* — вось асноўны закон грамадзянства людзей, гэтай — паводле выражэньня другога нямецкага філёзафа, Шельлінга[129], — *"другой прыроды"*.

Кожнаму ясна, што бяз гэтага вольнага, сьвядомага выпаўненьня маіх абавязкаў адносна да самога сябе, да другіх, да таго ці іншага цэлага нельга ня толькі будаваць дзяржаву, ці тварыць болей-меней арганізаванае грамадзянства, але нельга залажыць нават найменшы гурток ці хаўрус дзеля выпаўненьня якое-хоч супольнае работы. Бяз гэтага закону абавязку нельга зглажыць з асобных адзінак *суцэльнага народу — нацыі.*

Вось, значыцца, незалежна ад таго, ці барацьба за вызваленне вядзецца сіламі адзінкі, ці супольнымі высілкамі таго або іншага колектыву, — першай і неабходнай умовай вонкавага заваяваньня волі зьяўляецца перш за ўсё заваяваньне ў самым сабе такое духовае волі, якая, паводле Канта, ёсць тое-ж, што і маральны закон, закон абавязку, аўтаномія маральнае волі, а паводле Фіхтэ — прынцыповая маральная актыўнасьць нашага *"Я"*.

Мы бачым, наскolькі глыбокім і сур'ёзным зьяўляецца *"крытычны маралізм"* Канта і Фіхтэ, наскolькі важна, няўхільна і агульна іх *"ідэалістычная"* схэма самавызваленьня чалавека з няволі — у кожным аспэкце.

---

[129] **Фрыдрых Вільгельм Ёзеф фон Шэлінг** (ням. *Friedrich Wilhelm Joseph von Schelling*, 1775–1854), нямецкі філосаф, прадстаўнік нямецкай класічнай філасофіі, прыхільнік ідэалізму.

Гэгель[130], таксама нямецкі філёзаф, адзін з найбольш уплывовых тварцоў нямецкага *нацыянальна-дзяржаўнага духа*, даў нам вялізарны абраз самавызваленьня жывучага ў людзкасьці *"Сусьветнага Духа"* — Бога на працягу ўсяе сусьветнае гісторыі высілкамі не паасобных людзей, а вялікшых іх груп — *"гістарычных народаў"*.

Істота гісторыі, паводле Гэгеля, і ёсьць нічым нястрыманы, непераможны *"поступ у разьвіцьці волі"*.

Істота гістарычнага разьвіцьця і ёсьць гэнае самавызваленьне, самараскрыцьцё ўтаёнага ў сьвеце, вечна актыўнага божскага Духа, і сусьветна-гістарычныя нацыі адна за аднэй стаюцца радзіцелькамі яго — у ўсё болей вольных і дасканалых аспэктах.

Гэгель дае нам агульную схему таго, як у гісторыі людзкасьці запраўды адбываецца працэс упадку рабства, працэс запраўднага вызваленьня чалавека і груп людзей з путаў няволі.

Ён кажа, што той, хто паняволіў чалавека або цэлы народ — скажам па нашаму: той ці іншы *"пан"*, — той і прымушае іх *працаваць замест сябе,* ды замест яго, пана, здабываць у прыроды для яго-ж тыя ці другія цэннасьці.

Пан стаўляе паміж сабой і прыродай — раба... І так толькі раб стаіць у беспасярэдняй блізкасьці да прыроды, толькі раб можа выкрыць яе законы, яе тайны, закрываючы іх сабою ад пана...

Толькі раб можа, паводле Бэкона, пазнаць і заўладаць сіламі прыроды, яе *"любоўю"*. А згэтуль ясна, якую сілу сам проці сябе творыць бязьдзейны, лянівы, расьпешчаны паразіт...

У адпаведны мамэнт, правацыраваць каторы перш, чым ён насьпее, значыць толькі марнаваць недасьпелую яшчэ барацьбяную энэргію (а гэта вельмі добра ўмеюць рабіць цяпер розныя *"паны"* дзеля ўмацаваньня свайго панаваньня!), — нявольнік робіць *"бэконаўскі саюз"* з паслухмянай яму і непераможнай для лянівага паразіта Прыродай і, даўно ўжо духова вольны ад свайго ўяўнага рабства, скідае з сваей дарогі — дарогі Сусьветнага Духа — непатрэбнага і шкоднага для яго *"пана"*.

Такім саюзам работніка з навукай, з прыродай, такім *"супружствам Духа з Рэальнасьцяй"*, як прыгожа выразіўся Лясаль[131], пачынаецца і завяршаецца праўдзівая перамога рабачаяў...

---

[130] **Георг Вільгельм Фрыдрых Гегель** (ням. *Georg Wilhelm Friedrich Hegel*, 1770–1831), нямецкі філосаф, адзін з заснавальнікаў класічнай нямецкай філасофіі, стваральнік сістэматычнай тэорыі дыялектыкі.

[131] **Фердынанд Ласаль** (фр. *Ferdinand Lassalle*, 1825–1864), нямецкі філосаф, юрыст, эканаміст, палітычны дзеяч. Выступаў за ўсеагульнае і роўнае вы-

Як мы ўжо ведаем, на сьвеце няма нічога дужэйшага за гэту вечна маладую пару! Няхай-жа сьмела і радасна верыць у гэта мaлады беларускі народ!

Так было, так ёсьць і — так будзе вечна!

---

Мала хто з так распладзіўшыхся цяпер *“марксістаў”* ведае, што філязофская схэма ўсяе сыстэмы Маркса ўзята тварцом яе ўся, як ёсьць, у Гэгеля.

Сам Маркс парой пасярэдна прызнаваў гэта, дасьціпна кажучы, што ён толькі паставіў на ногі стаяўшага ўніз галавой, а нагамі ўверх Гэгеля...

Гэта значыць, што той Дух, каторы, паводле Гэгеля, дае пачатак усёй сусьветнай эвалюцыі, паводле Маркса зьяўляецца другарадным, вывадным мамэнтам гаспадарчае эвалюцыі чыста матэрыяльнага сьвету.

І праўды, ці-ж трудна ў тым, што мы сказалі аб гэгалеўскай схэме самавызваленьня Духа и ўпадку рабства, пазнаць тую самую стройную, прадуманую да найменшых драбніц, абаснаваную навуковым пазнаньнем гаспадарчага арганізму грамадзянства людзей, распрацаваную ў цэлую праграму работніцкае клясы, завершаную элемэнтамі запраўды рэлігійнае веры — тэорыю самавызваленьня паняволенае Капіталам Працы, якую даў Маркс і якая на нашых вачах робіць такія нябывалыя заваяваньні ўсюдых на сьвеце?!

Замяніце толькі рэлігійна-філязофскі абраз вечна актыўнага Сусьветнага Духа канкрэтным выяўленьнем Яго ў жывым нашэльніку гэтае божска-творчае, працоўнае актыўнасьці — самавызваляючымся сусьветным пралетарыяце, — і вы ў істоце ня знойдзеце розьніцы ў гэтым паміж Гэгелем і Марксам.

Цяпер для кожнага ясна, што самае істотнае ядро марксаўскае сыстэмы: асноўная схема вызваленьня з рабства, ператварэньня гэтага зла ў дабро — тыя самыя і ў Маркса, і ў Гэгеля, —у Фіхтэ, Канта, Бэкона…

Усё гэта — той-жа праўдзівы мэтад узвышэньня насамперш у самым сабе — усемі спосабамі навуковае веды, маральнае дысцыпліны, і працоўнае энэргіі і практыкі, колектыўнае салідарнасьці, рэлігійнага энтузіязму — усё тэй-жа духовае актыўнасьці, што

---

барчае права, стварэнне з дзяржаўнай дапамогай асацыяцый рабочых, дасягненне бяскласавага грамадства шляхам рэформаў і інш.

прызвана перамагчы ўсялякае зло,ператварыць усенькае *“сыр’ё”* сусьветнага зла ў патрэбныя чалавеку цэннасьці і дабро.

І мы бачым, як важна знаць, апрача Маркса, таксама добра і яго папярэднікаў — і гэта ня толькі дзеля таго, каб ведаць, чым ён абяганы сваім вучыцялём, але і дзеля таго, каб *умець* адрозьніваць і аддзяляць тое бязспрэчна цэннае, што ёсьць у сыстэме Маркса, адкідаючы бяз жалю, як няправільныя і небясьпечныя, тыя скажэньні адзінага мэтаду маральна абаснаванае духовае актыўнасьці, якія Маркс, захопліваючыся рэвалюцыйным мэтадам, часта дапускае.

Найлепш зьбівае гэныя скажэньні той *“рэвалюцыйны камунізм”*, які пануе цяпер на Усходзе, які з усяе сыстэмы Маркса прысвоіў сабе выключна і якраз *гэтыя скажэньні і* зусім адкінуў адзіны цэнны асноўны мэтад маральнае актыўнасьці, што адзін толькі і дае *трывалыя* заваяваньні ў сьвеце, адзін толькі і робіць чалавека і цэлыя народы вольнымі ад усіх родаў і відаў паняволеньня...

Вось у найагульнейшым схэматычным выражаньні тыя *нармальныя* мэтады, якія заўсёды і ўсюды, у-ва ўсіх, нават найцяжэйшых абставінах і палажэньнях, *можна радзіць* чалавеку і народу, якіх апошнія і *павінны* дзяржацца, калі хочуць запраўды стацца *вольнымі*.

Гэта — тое найвышэйшае і самае цэннае, што заходні Дух даў, як вынік усяе свае векавое эвалюцыі.

Імі заваявана, імі дзержыцца воля на Захадзе.

Гэтыя мэтады, хаця яны, так сказаць, пасярэднія, вядуць да мэты найпрасьцейшай і найбліжэйшай дарогай.

11.

Але іншыя вучыцялі навучаюць народ, што ёсьць больш простыя і больш шыбкія мэтады вызваленьня яго з рабства.

Ідэалёгі рэвалюцыі, староньнікі *“рэвалюцыйнага”* мэтаду — беспасярэдняга фізычнага зьніштажэньня зла — і тутака прапануюць проста *“ўхіліць”* вонкавую прычыну рабства: таго *“пана”*, які знаходзіцца вонках мяне, з усімі зьвязанымі з ягоным *“панаваньнем”* установамі...

Яны кажуць: *“Ведама, мэтады духовае актыўнасьці, мэтады самаўзгадаваньня — вельмі добрыя, толькі лішне павольныя... Пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесьць!... Каб зразу зрабілася відна і цёпла, можна — замест сонца — запаліць вогнішча Рэвалюцыі, ды на ім і спаліць рабства”*.

*«Тыя павольныя мэтады — кажуць яны — да таго-ж і лішне тэарэтычныя: на дзеле ў гісторыі заўсёды бывае інакш, прасьцей: стары, абаперты на рабстве лад зразу “зьмятаецца” Рэвалюцыяй, якая іменна фізычна нішчыць усё, што зьвязана з гэтым ладам, пачынаючы з самых “паноў”».*

Так пішуць гісторыю і праграму рэвалюцыі яе староньнікі.

А мы зусім і ня кажам, што гэтак ня бывае, — хоць, як пабачым далей, бывае ня *зусім так.*

Перад усім мы і далей кажам, што так *можа і ня быць і так не павінна быць.*

Ніколі ня трэба мяшаць два прынцыпова розныя парадкі зьявішч: натуральны, *прычынна-абаснаваны, неабходны* і маральна павінны, *уварункаваны мэтай, вольны.*

Сказаць: так *павінна* быць, бо так *бывае,* — гэта значыць зрабіць самую грубую лягічную абмылку: бывае і *павіннае і непавіннае,* і, як мы і стараліся даказаць раней, *выбіраць* з усяго, што *бывае,* толькі тое, што *патрэбна* для майго духовага росту і разьвіцьця, ператвараючы тое, што *бывае* ў-ва мне і навакол мяне, усё гэнае *“сыр’ё”* многаабразнага сьвету, у прадукты дабра, у тое, што *павінна быць, — гэта* і ёсьць справа іменна нашага свабоднага, духова-актыўнага, маральна абаснаванага *“Я”.*

Мы казалі далей, што *“беспасярэдні”*, *“рэвалюцыйны”* мэтад, — мэтад, які ня творыць цэннасьцей, не ператварае зла ў дабро, а стараецца фізычна зьніштожыць зло, — ня толькі самы каштоўны, самы далёкі, самы неэканомны, але, як агульнае правіла, якраз зусім і не вядзе да тае мэты, якую сабе беспасярэдна стаўляе, — не вядзе да зьніштажэньня, ані нават да зьмяншэньня зла, а, наадварот, няўхільна вядзе да об’ектыўнага *зьвялічэньня* гэтага зла ў сусьвеце...

Апрача таго мы казалі, давеўшы гэта на ўсіх узятых прыкладах, што, нават *“зьніштожыўшы”* тое ці другое зло вонках, гэты мэтад не зьніштажае *самае крыніцы* гэтага зла, якое караніцца ў-ва мне самым, ня кажучы ўжо аб тым, што ён ня ўзвышае майго жыцьцёвага тыпу, маей духовай актыўнасьці, а, наадварот, як агульнае правіла, абніжае іх.

Ці трэба давадзіць, што якраз гэтак — точка ў точку — і *бывала* пры ўсіх вядомых нам рэвалюцыях, і то ў тым вялікшай меры, чым *менш* даная рэвалюцыя *была падгатавана знутра* — нашымі творчымі мэтадамі духовае актыўнасьці...

З апошняга вынікае, што толькі гэная *падгатоўка,* толькі прысутнасьць гэнага *“абаснаваньня”* і *“апраўданьня”* рэвалюцыі, мера яе *“дасьпеласьці”* — робяць яе адпавядаючай мэце…

Значыцца, чым больш падгатавана рэвалюцыя мэтадамі маральна-працоўнае актыўнасьці, якія паднялі мой духовы тып да вядомай ступені запраўднае волі, тым больш трывалымі зьяўляюцца рэзультаты рэвалюцыі і яе заваяваньняў...

Інакш кажучы, чым менш у рэвалюцыі патрэбен уласьціва-*“рэвалюцыйны”* мэтад дзеля *“фізычнага зьніштажэньня”* рабства, тым больш гэтае зло ўжо пераможана, тым больш *“удалася”* самая рэвалюцыя...

Але кожнаму ясна, што якраз тады і найменш патрэбна самая рэвалюцыя…

І ў канцы канцоў найбольш адпавядаючай сваей мэце і найбольш *“удачнай”*, найлепш дасягаючай пажаданых вынікаў, рэвалюцыя бывае тады, калі ў ёй зусім ня ўжываецца... *“рэвалюцыйны”* мэтад, калі ня трэба і не бывае... самае рэвалюцыі!

І гэта зусім не софізм, не лягічнае штукарства: гэта няміnуча вынікае з самога прынцыпу Рэвалюцыі, з таго *“зачараванага кола” ад’ёмных цэннасьцей,* у якое мы пры тым няўхільна пападаем.

Выхад як з лягічнага, так і з практычнага *“зачараванага кола”* дае выключна мэтад, што творыць дадатныя цэннасьці, ператварае зло ў дабро і не вымагае *“фізычнага зьніштажэньня”* апошняга.

Як бачым, самае паняцьце Рэвалюцыі — унутрана супярэчнае, крые ў самым сабе рэвалюцыю...

Не здарма рад аўтараў англічан, а сьледам за імі і слаўны Лясаль, лічаць запраўды рэвалюцыйнымі толькі *“новыя прынцыпы”*, новыя мэтады ў навуцы і тэхніцы, новыя адкрыцьці і вынаходы, якія даюць чалавеку магчымасьць больш эканомна, з вялікшай карысьцяй зужываць сваю працоўную энэргію, вызваляюць з рабства ў прыроды.

Гэткай запраўднай рэвалюцыяй Лясаль лічыў, прыкладам, вынаход прасьнічна-ткальнае машыны. Такой запраўднай сацыяльнай рэвалюцыяй быў у свой час вынаход млына, што вызваліў з праўдзівага рабства кабету, якая перад тым палавіну жыцьця аддавала на расьціраньне ручнымі жорнамі зярнят ва муку...

Ведама, такое разуменьне рэвалюцыі зусім зьмяняе ўсю нашу тэрміналёгію.

Цяперака, калі паглядзімо, як адбываліся вядомыя нам рэвалюцыі, дык дастанем поўнае пацьверджаньне таго, што мы кажам.

Ня будзем лішне затрымлівацца на гэтым. Адзначым толькі, што ніводная рэвалюцыя не разьвязала *чыста рэвалюцыйным мэтадам* тыя задачы, якія сабе стаўляла.

Вось-жа ўсе гісторыкі, якія рабілі навуковыя дасьледы аб рэвалюцыях, паказалі, што ўсе рэвалюцыі беспасярэдна давадзілі да нябывалага *ўзмацаваньня ўлады ўраду, да неабмяжованага дэспатызму* аднае ці некалькіх асоб, — вялі проста да *ўзьвялічэньня* рабства...

Вядомы знаўца Вялікае Францускае рэвалюцыі, *Токвіль*[132] у сваёй клясычнай працы "Рэвалюцыя і Стары Лад" кажа, што "*Рэвалюцыя ў Францыі стварыла ўладу, якое сьвет ня бачыў ад часоў упадку Рымскае Імпэрыі... Створаныя Рэвалюцыяй урады, праўда, больш хрупкія, але яны ў сто разоў больш магутныя, чым тыя, якія былі скінуты Рэвалюцыяй*". З Францускае Рэвалюцыі выйшаў дэспат, якога Эўропа ня бачыла ад часоў Атыльлі[133], ды ягоны дэспатызм не абмяжоўваўся Францыяй, а імкнуўся паняволіць увесь сьвет...

Ды гэта йшчэ ня ўсё.

Французы да Рэвалюцыі былі *ворагамі свайго рабства,* а пасьля Рэвалюцыі сталіся *дабравольнымі рабамі* Напалеона... Рэвалюцыя, скінуўшы ненавіснае "*рабства каралю*", давяла да дабравольнага "*рабства імпэратару*".

Той-жа Токвіль кажа, што ўсе ўстановы, якія быццам-то разбурыла Рэвалюцыя, запраўды былі ўжо даўно разбураны ў нетрах старога ладу. Гэныя ўстановы былі разбураны *бяз помачы Рэвалюцыі* і — якраз тым новым "*трэцім станам*" — мястовым, які аказаўся *адзіным нашэльнікам вышэйшае працоўнае духовае актыўнасьці і* ўжо ў нетрах старога ладу здабыў сілу, багацьце, арганізаванасьць, новую ідэалёгію і... фактычнае права на ўладу. Гэты новы нашэльнік вышэйшага тыпу эканамічна, маральна і дзяржаўна абаснаванае вышэйшае актыўнасьці — сярэдні стан — перамог ужо папраўдзі да і без Рэвалюцыі. Ды ён і не *хацеў* тае Рэвалюцыі, якая фактычна адбылася. І хаця Рэвалюцыя, ім пачатая, ішла далей міма і супраць яго волі, аднак калі яна прайшла, дык

[132] **Алексіс дэ Таквіль** (фр. *Alexis-Charles-Henri Clérel de Tocqueville*, 1805–1859), французскі палітычны дзеяч, кансерватар, аўтар прац "Дэмакратыя ў Амерыцы" (1835–1840), "Стары рэжым і рэвалюцыя" (1856) і інш.

[133] **Атыла** (лац. *Attila*, пам. 453), правадыр гунаў (434–453), які аб'яднаў пад сваёй уладай плямёны ад Рэйна да Паўночнага Прычарнамор'я.

аказалася, што *перамог* і найбольш, калі ня выключна, *выіграў* якраз *гэты самы трэці стан*...

А Рэвалюцыю, як гэта і заўсёды бывае, *вызвалі* ня гэтыя творчыя, працоўныя клясы, а тыя *запраўдныя "рэвалюцыянеры"*, у руках каторых знаходзілася ўлада да Рэвалюцыі...

Вось як разьвязала Рэвалюцыя праблему волі...

Цяпер паглядзімо, як стаяла справа праблемы *роўнасьці*.

Гэтай праблеме, на пагляд, пашчасьціла больш, мо' нават залішне... Прынамся Токвіль кажа, што мэтадам рэвалюцыйнае роўнасьці карысталіся, пасьля Рэвалюцыі... усе манархі Эўропы, — ведама, дзеля таго, каб узмацаваць сваю ўладу...

*"Яны (манархі) перамешываюць станы, раўняюць тытулы, на месца арыстакратыі стаўляюць чыноўнікаў, на месца краінных вольнасьцей — адзінасьць дзяржаўных законаў, на месца рознароднае ўлады — адзінасьць цэнтральнае ўлады. Гэтай рэвалюцыйнай работай яны (манархі!) займаюцца з неаслабнай энэргіяй, а, сустракаючы на сваей дарозе перашкоды, часамі пазычаюць у Рэвалюцыі і яе спосабы і прынцыпы. Калі гэта патрэбна, дык яны (...манархі!) ня спыняюцца перад тым, каб падняць беднага проці багатага, чыноўніка проці шляхціца, сялян проці іх паноў... Француская рэвалюцыя была для іх (...манархаў!) адначасна і бічом і... вучыцелем"*...

Француская Рэвалюцыя — выводзіць Токвіль — дала гэтым манархам Эўропы *роўнасьць* усіх перад іх дэспатызмам, але... Але не дала *свабоды*.

Не дала затым, што... ня мела сама.

А тыя-ж французы кажуць, што найхарэйшая дзяўчына ня можа даць больш таго, што сама мае...

---

Ці трэба давадзіць, што Рэвалюцыя — найкаштаўнейшы і самы неэкономны з кожнага пагляду мэтад вызваленьня, нават калі-б яна і вяла да мэты?

Рэвалюцыя адзначаецца так-званай *"інэрцыяй руху"*, яна шыбка губляе панаваньне над сабой і над сваей *"воляй зьніштажэньня"*, зара ператвараецца ў сьляпую і глухую стыхію, што на сваей дарозе *зьніштажае нязвычайна многа гатовых цэннасьцей, якія* маніцца справядліва падзяліць, — і ўсё гэта дзеля таго, каб у канцы дабіцца такіх сумліўных вынікаў — *"волі і роўнасьці"*. Аб *"брацтве"* найбольш красамоўна гаварылі... набудаваныя на плошчах гільятыны!

І нават з пагляду *"эканамічнага матэрыялізму"*, які суму вольнасьці ў грамадзянстве стаўляе, у канцы канцоў, у залежнасьць ад сколькасьці яго матэрыяльных цэннасьцей, — гэнае страшэннае самаабрабленьне, якое робіць кожная рэвалюцыя, палючы цэлы дом, каб зьніштожыць засеўшага ў шчыліне клапа, ня можа вясьці да вызваленьня грамадзянства.

Ці трэба казаць, што Рэвалюцыя сама па сабе не ўзвышае, а, наадварот, абніжае ў старане ровень людзкага тыпу, абніжае ў масах і інтэлігенцыі духовую актыўнасьць, чым і карыстаюцца адзінкі, мякка кажучы, з *"неабаснаванай маральна"* актыўнасьцяй, пгго ў часе Рэвалюцыі захопліваюць уладу?!.

Гэта, бадай, прызнаюць і самі ідэалёгі Рэвалюцыі, якія кажуць, што пасьля Рэвалюцыі заўсёды настае *рэакцыя*.

На гэтай рэакцыі, на гэтым узросьце народнае і грамадзкае бязьдзейнасьці і грунтуецца ўзмацаваньне ў старане дэспатызму.

Рэвалюцыя выклікаецца і ў вядомай меры апраўдываецца тымі перашкодамі, якія дэспатызм старога рэжыму стаўляе прылажэньню ў старане мэтадаў творчае актыўнасьці, і яна бывае акуплена пастольку, паскольку народ выкарыстаў рэвалюцыю дзеля ўзвышэньня ў сабе гэнымі мэтадамі жыцьцёвага тыпу.

Але гэта ўжо *новая задача*, якая ў роўнай меры трудная дзеля выпаўненьня, як і няўхільная: задача *маральнага перамажэньня народам Рэвалюцыі, акупленьня яе*.

Аднак самым забойчым для ідэалёгаў Рэвалюцыі зьяўляецца тое, што запраўды найвялікшае дабро Рэвалюцыя дае, на жаль, ня тэй старонцы, гдзе яна адбываецца, а *народам суседнім, якія ад* гэтае *"чужое бяды"* маюць і добрую навуку і вялізарныя карысьці...

Тутака тое дабро актывізацыі, якое Рэвалюцыя можа даць разумным суседзям, здольным вучыцца на чужых абмылках, — абсалютна бязспрэчнае...

Такі актывізуючы ўплыў аказала Француская Рэвалюцыя на разьвіцьцё нямецкага народнага духа. Нямецкая філязофія, якая аказала такі вялізарны ўплыў на фармаваньне лепшых бакоў нямецкага народнага духа і нязвычайна ўзвысіла тып яго маральнае актыўнасьці, ня толькі ў найвялікшай меры абязана гэтаму, так дорага абыйшоўшамуся Францыі, *"дасьледу"* Рэвалюцыі, але і самі немцы (Гэйнэ і інш.) з поўным правам і вельмі дасьціпна называюць яе запраўднай *"францускай рэвалюцыяй у краіне нямецкага духа"*...

Трэба згадзіцца, што знаць і рабіць над самым сабой за гэткую цану "дасьледы" дзеля таго, каб з іх найбольш скарыстаў нехта другі, зьвясьці сваё істнаваньне на сьвеце да *"маральнае навукі"* для другіх, да нейкае вялізарнае крылоўскае байкі аб дурным млынару[134], — ці ж можа быць нешта больш забойчае для тых, хто лічыць, што Рэвалюцыя сама ў сабе мае нейкую творчую сілу і прадстаўляе самацэннасьць?!.

Адзін з першых твораў Фіхтэ і стараўся выясьніць *"правамернасьць Рэвалюцыі з пункту гледжаньня маральнага закону"*.

Фіхтэ, як гэта нам цяпер, цераз сто гадоў пасьля яго, само сабой панятна і бязспрэчна, прызнаў за народам прынцыповае *"права на Рэвалюцыю"*.

Карыстаньне з гэтага права на дзеле *маральна апраўдана*, паскольку той ці другі дзяржаўны або грамадзкі лад *пярэчыць маральнаму закону і вечна паступовай творчай актыўнасьці нар*оду.

Фіхтэ прызнаў некаторую *"карыснасьць руйнаваньня"* ў тым, што апошняе паказуе, што *ёсьць у грамадзянстве непераможнага, непрахадзячага, непарушнага*. Страшэнствы і руіны ад Рэвалюцыі паказуюць, што іменна на тое, чаго *Рэвалюцыя не магла зруйнаваць і перамагчы,* на гэткія *"вечныя цэннасьці"* грамадзянства і павінна зьвярнуць сваю ўвагу, на гэткай *непарушнай аснове абаперці перастройку самога сябе.*

І нямецкае грамадзянства, па пачыну Канта і Фіхтэ, усвоіла гэту навуку, зьвярнула ўвагу на свае *"вечныя цэннасьці"* і пачало і іх разьвіваць у сябе, абыйшоўшыся без Рэвалюцыі...

Што-ж гэта за цэннасьці, перад якімі аказалася бязьсільнай нават уся руйнуючая сіла рэвалюцыйнае стыхіі?

Даволі прыпомніць, хто ў канцы канцоў выйшаў *пераможцам* з крывавага полымя Рэвалюцыі, каб даць адказ на гэтае цэнтральнае для нас пытаньне.

Як вядома, ды як мы гэта маглі прадказаць *a priori*, перамога Рэвалюцыі дасталася зусім ня тым, хто паліў дамы, хто праліваў кроў — не *"чырвоным героям"*, *"красе і гордасьці Рэвалюцыі"*, — а тэй *клясе грамадзянства, якая ў той час аказалася*

[134] Маецца на ўвазе байка Івана Крылова *"Мельник"*, герой якой наўмысна не зважаў на пашкоджанне плаціны, пакуль вада яе не разбурыла.

*нашэльнікам вышэйшае духовае працоўнае актыўнасьці, дасталася багатаму, духова вольнаму, маральна-працоўна дысцыплінаванаму “трэцяму стану”,* — хаця, натуральна, і той пацярпеў і асабіста, і матэрыяльна.

*Неператожнай,* як *мы* ведалі напярод, *абсалютна стойкай нават перад Рэвалюцыяй аказалася іменна тая “вышэйшая духовая актыўнасьць”, якая існавала ўжо да Рэвалюцыі.* Яна — гэтая духовая актыўнасьць — запраўды заўсёды аказываецца *“вечнай”*...

Ня можа быць ніякае спрэчкі аб тым, што для нямецкага сьвету Француская Рэвалюцыя аказалася чыстым дабром грознага, аканчальна пераконываючага нагляднага павучэньня унівэрсальнае духова-грамадзкае мудрасьці... Гэтае павучэньне і сталося зьместам усяе нямецкае філязофіі, пакладзенае ў аснову *ўзгадаваньня* нямецкага народу.

Сам Фіхтэ назваў сваю філязофію *“Філязофіяй Свабоды”*…

Паглядзіце, якую вялізарную ролю запраўды іграе паняцьце волі ў навуцы Фіхтэ, дый не аднаго толькі Фіхтэ…

Бог — гэта *“Абсалютная Воля”*. *“Я”* — воля! Маральны закон — воля! Нармальнае грамадзянства — арганізацыя волі! Гісторыя людзкасьці — разьвіцьцё, поступ волі!..

І ўсё гэта ўдыхнула ў нямецкі сьвет Француская Рэвалюцыя — зусім, так сказаць, бясплатна. Так разумны бясплатна вучыцца на абмылках дурнога...

Але мала таго, што немцы нічога не заплацілі французам за навуку: дзякуючы ёй, немцы здабылі над французамі вялізарную перавагу. І — каму гэта ня ясна?! — у канцы канцоў аканчальна іх перамогуць…

За гэтае навучаньне эўрапэйскіх грамадзянстваў палітычнае мудрасьці французы плацілі сваей Францыяй. Усё роўна, як цяпер расейцы — сваей Расеяй...

Француская Рэвалюцыя, прайшоўшы праз горан нямецкага духа, асталася ў нямецкім Сусьвеце ў божска харошым, незалітым крывёй обліку *“Чыстае Волі”*. І гэтае Божства пачало памалу, але трывала ўвасабляецца ў тым тыпе высокае духовае актыўнасьці, які характэрызуе немца.

Яно пачало ажыўляць і амалажываць, ды гэтым і вызваляць усе грамадзкія ўстановы, нават не ламаючы дзяржаўнага ладу.

Кожнаму ясна, што гэтае фіхтаўскае *“права на Рэвалюцыю”*, якое немцы ўзялі, так сказаць, у арсэнал свайго грамадзкага духа, адыграла вялізарную ролю ў аздараўленьні як нямецкага грамадзянства, так і ўлады — нават без Рэвалюцыі...

Жывая пагроза народным судом, вечна стоючы перад уладай, — тое, да чаго ў канцы канцоў давяла Францускае Рэвалюцыя, як да звычайнае цяпер бадай усюды нормы Канстытуцыі, — зусім без затраты энэргіі і праліваньня крыві амаладзіла і ажывіла нямецкія ўстановы, ня руйнуючы іх.

*“Рэвалюцыя духу!”* — але гэта якраз тое, што мы тутака прапаведываем, бо з гэтае запраўднае крыніцы волі апошняя рэалізуецца ў установах. *“Рэвалюцыя ў запасе”*, — так сказаць, *“за пазухай”*... Ды чы-ж можа які-колечы жывы народ, якому не даюць жыць, зрачыся леку ддя свайго арганізму, леку ад ці для дурных мазгоў улады, што не дае яму разьвівацца, — зрачыся мятлы, каб вымясьці ня толькі сьмяцьцё з сваей хаты, але і тых, хто ўпорліва ў ёй брудзіць?!.

І мы тутака зусім ня клічам Беларускі народ да нейкага лжэхрысьціянскага разаружэньня, памятаючы, што сам Хрыстос бічом выгнаў гандляроў з Храму...

Мы толькі хочам, каб Беларускі народ *ведаў усю праўду аб Рэвалюцыі, ведаў усе магчымасьці і об'ектыўныя межы “рэвалюцыйнага” мэтаду, яго страшэнную каштоўнасьць, — ведаў усю небясьпечнасьць — унутраную і вонкавую...*

З тэй-жа неўмалімай лёгікай і пасьледавальнасьцяй літэральна тое самае трэба сказаць і *“направа”* — па адрасу так-званае *контр-рэвалюцыі.*

Кожная контр-рэвалюцыя, якая дзеля *“павароту ладу”* мае і ўжывае *толькі* тыя-ж *“рэвалюцыйныя мэтады”*, што і рэвалюцыя, так-сама, як і апошняя, не дасягае мэты.

І гэта — зусім зразумела: бо з нашага пункту гледжаньня яна абсалютна *нічым,* апрача кірунку, ня розьніцца ад рэвалюцыі. Розьніца між імі — у тым, што Рэвалюцыя глядзіць *упярод,* контр-рэвалюцыя — *назад.*

Звычайна ў гісторыі ўсіх рэвалюцый бывае гэтак: *“рэвалюцыйным мэтадам”*, ужываным як рэвалюцыяй, так і контррэвалюцыяй, яны толькі адна адну ўзаемна зьніштажаюць... Тады руйнуючы, заалягічны антракт гісторыі канчаецца, і жыцьцё варочаецца ў ста-

рое гістарычнае русло, прадаўжаючы творчыя працэсы выключна-творачымі *нармальнымі* мэтадамі.

Толькі карыстаньне апошнімі дае тэй ці другой сацыяльнай групе рашучую перамогу.

Ніколі ніводзін народ і ніводнае грамадзянства ня кідаюцца ў рэвалюцыю *сваей* ахвотай, *сваім адумам і бяз прынукі.* На гэты апошні спосаб вызваленьня *"прыгонам"* гоніць, *бы на апошнюю "паншчыну", сам "пан"* — гоніць у асобе апошняга самае Фатум засуджанай на пагібель, утраціўшае розум, асьлепнуўшае і аглухшае ўлады…

Вялікая Француская Рэвалюцыя вяліка тым, што яна першы раз на кантынэньце зроблена *проці самае ідэі "абсалютнае ўлады", якая стаяла па-над народам.*

Цяпер, цераз сто з лішкам гадоў пасьля яе, гэтых тэзісаў Вялікае Францускае Рэвалюцыі даказываць, сьледам за Фіхтэ, няма ніякае патрэбы. Цяпер рэвалюцыя магчыма толькі проці *"абсалютна дурное", ці "абсалютна подлае"* ўлады...

Для вольнае волі чалавека, над якой пануе яго розум, пануе сам Розум Божы, рэкамандаваць Рэвалюцыю, як *мэтад барацьбы з злом, як норму паступаньня,* — немагчыма! Гэта былобы *абсалютным руйнаваньнем духа…*

Толькі гэта мы і стараліся паказаць.

12.

Вось, не заплюшчываючы вачэй на тое, што *"бывае"* і зусім не выракаючыся раз на заўсёды, падобна нейкім *"сацыяльным вэгетэрыянцам"*, або *"палітычным талстоўцам-непраціўленцам"*, рэвалюцыйнага мэтаду— *"праведнае вайны"* за паруханыя мае правы, за патаптанае права наагул, — вайны, якая можа быць *"накінута"* маей волі ворагам майго жыцьця і свайго розуму, — не выракаючыся гэтага *"запаснага аружжа"*, якое ў канцы канцоў павінна заўсёды мець пры сабе кожны спакойны і ляяльны, але паважаючы сябе і цэнячы сваё жыцьцё і сваю чэсьць чалавек і грамадзянін, — мы толькі даводзім, што, ці то будзем глядзець з маральнага, ці з чыста практычнага боку, нельга гэты рэвалюцыйны мэтад, гэту *"вайну"* лічыць *нармальнымі*, нельга ні вучыцелю, ні ўзгадавальніку народу і яго маладых пакаленьняў прапаведываць іх апошнім, як *максіму і норму паступаньня, дзеяльнасьці і барацьбы з злом* у якой-хоч галіне вонкавага і ўнутранага сьвету.

Барацьба і вайна, як мы ўсе, хто мае вочы, каб бачыць, і розум каб разумець, пераканаліся аб гэтым з цяжкіх, крывавых спроб нашых дзён, — гэта рэчы такія розныя як сваімі мэтадамі, так і сваімі вынікамі, што трэба раз на заўсёды ў-ва ўсе слоўнікі і ў-ва ўсе безталковыя галовы ўнясьці, наканец, точнае разьмежаваньне гэтых узаемна выключаючых сябе *"сынанімаў"*. Барацьба — зьявішча творчае; вайна — чыста і выключна руйнуючае. Элемэнт барацьбы апраўдывае вайну; элемэнт вайны зводзіць да нуля ўсе вынікі барацьбы.

Цяперака папрабуем разьвязаць нашу задачу аб запраўды нармальным мэтадзе барацьбы, як кажуць матэматыкі, у агульным відзе.

---

Часта ўжываны намі тэрмін *"норма"*, які абыймае паняцьце што мае гэткае важнае значэньне ў сучаснай філязофіі наагул, у *"навуках аб культуры"*, *"навуках аб духу"*, — запазычаны ад юрыстаў.

Юрысты *"нормай"* называюць тую формулу загаду ці забароны, у якой выражаецца кожын закон.

У законе юрысты, апрача нормы, адрозьніваюць і так-званую *"санкцыю"*. *"Санкцыяй"* называюцца тыя, паказаныя ў законе, *юрыдычныя пасьледзтвы*, якія выклікае нарушэньне нормы закону. Кажучы прасьцей, паказаная ў законе кара: штраф, арышт, сьмерць і г. д., якая накладаецца за праціўленьне загадам закону, наагул называецца санкцыяй.

Норма і санкцыя закону прадстаўляюць выражэньне волі законадаўцы, які хоча рэгуляваць волю паадзінокіх людзей у грамадзянстве або цэлых грамадзкіх груп у іх дзейнасьці на груньце *"выпаўненьня грамадзкіх задачаў у рамках права"*.

Як норма, так і санкцыя маюць на мэце кіраваць і *ўзгадовываць нармальную волю* чалавека ў грамадзянстве.

Воля чалавека — свабодная: ён можа споўніць загад закону ці нарушыць яго.

У першым прыпадку ўсё, так сказаць, у парадку: маё жыцьцё вонках цячэ спакойна, і, залежна ад нормы, я маю вялікшае ці меншае ўнутранае здаваленьне. Мая свабодная энэргія належыць да мяне самога і можа быць ужыта на тую ці другую работу.

Калі-ж закон парушаецца, дык, залежна ад важнасьці яго, мяне ў тэй ці іншай меры пазбаўляюць свабоды, і я пападаю ў распараджэньне так-званага *"апарату санкцыяў"*.

Кожнаму, нават і таму, хто ніколі не нарушаў закону, добра ведама, што крыецца пад гэтым навуковым тэрмінам: паліцыя — яўная і тайная, жандармэрыя, *"дэфэнзыва"*[135], суд, — урэшце войска, — вось паасобныя, але зьвязаныя ў вадно, часьціны зложнага апарату *"санкцыяў"*, якім карыстаецца дзяржава.

На ўтрыманьне гэтага апарату дзяржава аддае запраўды *"львіную"* долю свайго бюджэту, часта вытрачываючы на гэта тое, што павінна ісьці на падтрыманьне вытворчых сіл народу.

Гляньце, сколькі часу, энэргіі, грошы і гатовых прадуктаў працы вытрачываецца на работу гэтага зложнага апарату санкцыяў, калі ён пушчаны ў ход з прычыны часта зусім, здавалася-бы, дробнага, мяркуючы паводле часу і затрачанай на гэта энэргіі, нарушэньня закону.

Возьмем просты прыклад. Сьпяшаючыся ў важнай справе, я на мінуту спыніўся каля вітрыны з газэтай, каб прачытаць тамака таблічку валют з апошнім курсам маркі і... у мяне мімаволі вырываецца голасна няўдачна сфармуляваны ўздох аб *"лепшых часох"* — усё роўна, мінулых ці будучых... *"Прыпадкам"*[136] ззаду за мной аказаўся адзін з *"агентаў"*, якія ўваходзяць у склад *"апарату санкцыяў"*, і вось вялізарны і зложны грозны апарат об'ектыўна пускаецца ў рух... Гэтак здараецца, што рэзкае, але нічога на сьвеце не зьмяніўшае слова, на якое ўжыта сэкунда часу і дробная сколькасьць энэргіі, цягне за сабою, як юрыдычнае пасьледзтва нарушэньня нормы, як санкцыю, ублутаньне ў *"справу"* масы новых людзей, цэлыя месяцы паліцэйскага і судовага даходжаньня, годы сьледчага арышту і судовага працэсу ў розных інстанцыях, урэшце — цягне за сабою тую ці іншую кару, пазбаўляючы *"майстроўню"* грамадзянства карысных працаўнікоў… А сколькі часу, працы, паперы, грошы, здароўя, душэўнага спакою, грамадзкага міру пайшло на дзейнасьць самога апарату санкцыяў — часта дзеля такое дробнае справы!

---

135 **"Дэфензіва"** (польск. *defenzywa* — ахова) — у міжваеннай Рэчы Паспалітай так называлі II аддзел Генеральнага (Галоўнага) штаба Польскага войска, які займаўся выведкай і контрвыведкай.

136 ***Прыпадкам*** (ад польск. *przypadek* — выпадак) — выпадкова.

Ясна, што ўся гэта дзейнасьць павінна быць прызнана перш за ўсё неэканомнай. Калі-ж мы спытаемся, які практычны вынік такое барацьбы з злом — мэтадам санкцыяў — з пагляду на дасяганьне мэты кампэнсацыі дзяржавы за шкоду, якую зрабіла маё лёгкамысна-праступнае слова, вызванае курсам маркі, — калі спытаемся, ці ўся гэтая рэакцыя грознага дзяржаўнага апарату санкцыяў падняла курс маркі, ці ўхіліла магчымасьць паўтарэньня ўздохаў, падобных майму, дык адказ будзе кароткі: бязумоўна не! Наадварот: кожнаму ясна, што вялізарныя сумы зусім безкарысна вытрачаных з прычыны такой і падобных *"спраў"* польскіх марак — ці то ў пастаці службовага часу, ці другіх цэннасьцей, — дзеюць у кірунку новых эмісій і, ведама, не павышаюць, а паніжаюць курс маркі. А разам з гэтым павялічываецца магчымасьць паўтарэньня перад газэтнымі вітрынамі такіх самых *"уздыханьняў"*, якія ізноў пусьцяць у ход апарат санкцыяў — і г. д. да безканечнасьці…

Ясна, што мы і тут папалі ў блуднае кола благога мэтаду барацьбы з злом.

Ясна, што абмылка зроблена абема старонамі: ясна і тое, што мая абмылка шмат меншая за абмылку дзяржавы…

Мы ўзялі крайні прыклад дзяржавы, якая сваю ўладу і ўпраўленьне грунтуе пераважна на *"сыстэме санкцыяў"*. Такая дзяржава ў дзяржаўным праве мае назоў *паліцэйскае,* і *як* паказуе гісторыя, ды як можна вывясьці і з нашага аналізу, гэткая форма дзяржаўнасьці бывае найменш трывалай.

Можна прывясьці многа прыкладаў нарушэньня запраўды важных норм права, як-то запраўдныя праступленьні — прыкладам, забойства, — калі ўжываньне грознага апарату санкцыяў бывае ў значнай меры апраўдана. Але адно бязспрэчна: мэтад санкцыяў, вымагаючы ўтрыманьня ў дзяржаве каштоўнага апарату санкцыяў, перш за ўсё вельмі неэканомны, а значыць вядзе *à la longue* да банкруцтва тую дзяржаву, якая ім цераз меру карыстаецца.

---

Тое самае трэба сказаць і аб мэтадзе барацьбы з злом *нарушэньнямі норм закону.*

Што-ж гэта за мэтад? У ім, у гэтым мэтадзе барацьбы з нарушэньнямі норм законаў, так сама, як і ў карыстаньні санкцыямі, ня трудна пазнаць вядомы ўжо нам *"рэвалюцыйны"* мэтад…

Далейшы аналіз яго толькі пацьвярджае гэта.

Кожнаму ясна, што чым больш мірна і спакойна жывецца ў гаспадарстве, тым больш трывалы ў ім так-званы парадак, чым менш у ім нарушаецца закон, чым менш бывае праступленьняў, — тым менш у ім патрэбна паліцыі. Такой-жа таўталёгіяй будзе, калі мы скажам, што грамадзянства жыве тым больш нармальна, чым менш павага ўлады і сіла закону грунтуюцца на *санкцыі* закону, на страху перад судом і паліцыяй, — а больш на *пашане да нормы закону.* У такім грамадзянстве працоўная энэргія народу з вялікшай карысьцяй зужываецца на карысную работу, а свабодная, кіраваная нормамі, духовая актыўнасьць народу спакойна і мірна ўзвышаецца як у сваей сколькасьці, так і ў сваім тыпе.

Гэтак бывае ў нармальных грамадзянствах.

Такія гаспадарствы, у аснове якіх ляжыць воля і пашана да закону, маюць тое, што Фіхтэ называў *"унутраным прынцыпам поступу"*: яны, у патрэбе, свабодна і лёгка зьмяняюць, дасканаляць свой дзяржаўны лад; яны ў точным значэньні гэтага слова *нармальна* разьвіваюцца.

Думаць аб магчымасьці ў такіх нармальных гаспадарствах рэвалюцыі — лягічна немагчыма, ёсьць унутраная супярэчнасьць. Асьвяжаючую, амалажаючую дзяржаўны арганізм ролю рэвалюцыі іграюць тутака выбары — гэтыя запраўдныя маленькія, прадугледжаныя канстытуцыяй гаспадарства, пэрыядычныя рэвалюцыі, якія народ робіць не *мячом,* а ня менш забойчым для дрэннае ўлады, хаця бязкроўным аружжам: *выбарнай картачкай...*

Але кожнаму ясна, што абаперці дзяржаўны лад у гаспадарстве на пашане нормы закону, не карыстаючыся каштоўным і неэканомным мэтадам санкцыяў, не абудзіць гэту пашану да закону, ня пужаючы грозным караючым апаратам, можна толькі тады, калі істнуючыя законы запраўды *заслугуюць* на пашану, калі іх загады, іх нормы запраўды *карысны для грамадзянства,* запраўды *нармуюць,* а не забіваюць энэргію людзей, калі забясьпечываюць лад, мір і разьвіцьцё грамадзянства, ды гэтым усім узвышаюць, а не абніжаюць тып яго духовае актыўнасьці.

У такім прыпадку руйнуючы дзяржаву апарат санкцыяў абмяжовываецца і ў канцы канцоў можа быць зьведзены да нуля...

Тады ў ідэале мы будзем мець грамадзянства абсалютна *нармальнае,* значыць, пабудаванае на чыстай пашане да норм закону.

Але, калі насяленьне ня можа шанаваць законаў гаспадарства, калі тыя законы *об'ектыўна* не забясьпечываюць насяленьню

мірнага выяўленьня і ўзвышэньня яго духовае актыўнасьці ў-ва ўсіх галінах жыцьця, дык ясна, што ў такім грамадзянстве "лад" і *"законнасьць"* будуць падтрымліваца сілай — пры падмозе вышэй апісанага апарату санкцыяў.

Кожнаму ясна, што такі лад і такая законнасьць — толькі *фармальныя* і ня маюць ні маральнага і ні практычнага апраўданьня з пагляду на інтарэсы дадзенага грамадзянства.

У такім грамадзянстве, пры нязьменнасьці дадзенага *"законнага ладу"*, пачынаюцца дужа цікавыя праявы: у грамадзкай сьвядомасьці ўсё больш губляе пашану норма закону, і адначасна ўзрастае ўжываньне санкцыі, — ды гэтак нарастае, як кажуць, *"рэвалюцыйны рух"*...

Як кожнаму ясна, гэта значыць, што фармальная праступнасьць у грамадзянстве ўзрастае. Грамадзянства пападае ў гэнае самае блуднае кола, аб якім мы казалі раней, пападае — кажучы языком Гэгеля — пад дзейнасьць закону *"благое безканечнасьці"* ўзрастаючага ў грамадзянстве зла. Грамадзянства, як мы кажам, *упадае*... Грамадзянства няўхільна йдзе да тае ці іншае катастрофы, — да ўтраты волі, ці да Рэвалюцыі.

Запраўды, у канцы канцоў норма закону, аб абсалютнай шкоднасьці якое пераканаўся ўвесь народ, будзе *масава* парушацца, будзе патаптана; марнатратны апарат санкцыяў аканчальна *скампрамітуе* ўладу і зруйнуе дзяржаву, ды ўтраціць сваю сілу і лёгка будзе разьбіты і фізычна зьніштожаны тым-жа самым рэвалюцыйным мэтадам, якім і сам ён увесь час змагаўся з злом *"праступнасьці"*...

А гэта-ж і ёсьць знаёмы ўжо нам абраз кожнае рэвалюцыі. Як разьвязывае свае задачы Рэвалюцыя, мы ўжо ведаем. Дык ізноў мы даходзім да тых-жа вывадаў, што кожную рэвалюцыю пачынаюць не *"рэвалюцыянеры"*, *не* народ, а дзяржаўная ўлада, і што рэвалюцыйны мэтад барацьбы з злом дарогай фізычнага зьніштажэньня яго, дарогай гвалту, аказваецца бязьсільным; інакш кажучы, *"мэтад санкцыі"*, стары *"біблейны"*, сярэднявечны мэтад барацьбы з злом толькі плодзіць і памнажае ў сусьвеце гэтае зло, ад масы якога ў канцы канцоў гібее ўвесь гэты сьвет...

У такім блудным і ненармальным, пабудаваным на безканечным узмацовываньні ўладай санкцыі, сьвеце няўхільная ў канцы яго разьвіцьця Рэвалюцыя зьяўляецца тэй аканчальнай, узросшай да апошняга рубяжу, санкцыяй, што нясе ўладзе, калі не юрыдычна,

дык фактычна і *маральна* заслужоную помсту за нарушэньне ею самай запраўдных норм народна-грамадзкага разьвіцьця...

---

Як мы ўжо казалі, пазнаньне прыроды нашага духа сучаснай філязофіяй выкрыла ў кожнай з разнародных функцыяў нашае разумнае сьвядомасьці, як найглыбейшую іх аснову, *волю,* прымаючую розныя аспэкты, але, мабыць, адзіную ў сваей істоце.

Нашае слова "*воля*" дужа добра выражае адначасна і яе актыўнасьць, і яе свабоду.

Каб выпаўняць свае align разнародныя, болей ці меней сьвядомыя, заданьні, гэтая воля павінна таксама свабодна падчыняцца закладзеным у яе Найвышнім Законадаўцам *правілам*, якія па аналёгіі былі названы пазычаным у юрыстаў тэрмінам *норма*.

Паміж законадаўствам Духа і законадаўствам прыроды — істнуе вялізарная розьніца.

Нормы свабоднае волі і законы натуральнае неабходнасьці розьняцца тым, што ў апошніх няма і ня можа быць *санкцыі*.

Норму волі апошняя, дзякуючы сваей свабодзе, можа нарушыць; закон-жа прыроды, які дапускаў-бы нарушэньне і цярпеў нейкія выняткі, — гэта абсурд, унутрана супярэчнае паняцьце.

Гэтая санкцыя і тут, як у законах дзяржаўных, *узгадовывае волю* і, маючы ў сабе сілу *прынукі,* прымушае волю выпаўняць норму.

Тыя ідэальныя мэты, дапяць якіх чалавек лічыць сябе прызваным, як-то: Праўда, Дабро, Краса і адняючая іх Сьвятыня, — дасягаюцца болей ці меней усьвядоміўшай сабе сваю свабоду, разумнай, значыць Падлягаючай законадаўству так-званай "*сыстэмы нармальнае сьвядомасьці*", *воляй*.

Чалавек у сваей нармальнай сьвядомасьці пачувае, як цяпер кажуць, "*волю к Праўдзе*", "*волю к Дабру*", "*волю к Красе*" — "*волю к Сьвятыні*"...

Гэтая воля і *нармуецца* лягічнымі, этычнымі, эстэтычнымі — рэлігійнымі нормамі — кожнымі ў сваей галіне.

Разьвіты духова чалавек, які мае, так сказаць, *добрую волю* ў-ва ўсіх сказаных галінах разумнае сьвядомасьці, ня толькі пачувае ў сабе — у сваім лягічным, этычным, эстэтычным, рэлігійным сумленьні — патрэбнасьць падлягаць гэтаму *нармальнаму законадаўству,* але і набывае ператвараючуюся ў *другую*

*натуру* прывычку акуратна выпаўняць усе загады яго. Вытварэньне такое добрае волі, такое духовае *"другое натуры"*, набыцьцё лягічнага (у шырокім значэньні слова) сэнсу, этычнага характару, эстэтычнага смаку, рэлігійнага настрою, цноты любоўнасьці — вось апошняя мэта ўзгадаваньня і фармаваньня чалавека.

Як глыбока закладзенае ў прыроду нашае разумнае сьвядомасьці законадаўства Божскага Духа, гэтыя нормы адзначаюцца тым, што, пры іх выпаўненьні, яны даюць нам найвышэйшае здаваленьне, паміма дасяжэньня тых практычных мэтаў, якія дасягаюцца пры гэтым у розных галінах нашага жыцьця нашай нармальнай духовай актыўнасьцяй.

Наадварот, нарушэньне гэтых норм, гэтых загадаў нашае духовае прыроды, паміма недасяжэньня нашай воляй пастаўленае мэты ў тэй ці іншай галіне — у сферы Праўды, Дабра, Красы — прыносіць нам больш ці менш цяжкія мукі.

Як і ў сфэры об'ектыўнага права, тут нарушэньне нормы вядзе да падвойнае санкцыі: вонкавае і ўнутранае.

Нарушэньне *лягічнае* нормы даводзіць нас да таго, што агулам называецца *абмылкай*, — да абсурду, да лжы — замест праўды: няправільна пабудаванае *паняцьце*, якое наагул, на свайму замыслу і назначэньні, павінна *"няць"*, *"схапіць"*, перамагчы і, па мэтаду Бэкона, прымусіць прыроду да служэньня чалавеку, — раз у гэтым паняцьці крыецца лягічная абмылка, — аказваецца бязьсільным... Фальшывая ідэя, як мы ведаем, не толькі лёгка можа загубіць чалавека, але і давясьці да самагубства цэлы народ, цэлыя гаспадарствы...

Нарушэньне *этычнае* нормы ў шырокім значэньні слова, абыймаючым і галіну праўных норм, і грамадзкага жыцьця, і эканамічнага супрацоўніцтва, і г. д., — вядзе, як мы паказалі вышэй, да больш ці менш цяжкіх няўдач, ды можа лёгка давясьці і да асабістых і грамадзкіх катастроф.

На этычнай абмылцы, галоўным чынам, і апіраецца, як раней было паказана, *"рэвалюцыйны"* мэтад барацьбы з злом, — мэтад, які пры гэтым робіць і прынцыповую рэлігійную абмылку, бо нарушае запаведзь любві.

Парушэньні этычных норм, маральнага абавязку, які, як мы ведаем, ёсьць *воля*, вядуць да разнародных відаў *няволі*.

*Эстэтычныя* абмылкі вядуць да ўтраты смаку, да брыдоты, — да абядненьня нашага жыцьця красой, да агрубеньня абы-

чаяў, — да *нарушэньня* гармоніі як у нашай душы, так і ў грамадзянстве.

Нарушэньне асноўнае *рэлігійнае* нормы — любві, любві да сабе падобных, да прыроды, да свайго народу, да людзкасьці, да сусьвету — да Бога, больш за ўсё пустошыць душу, пазбаўляе нас найвышэйшае радасьці, якую дае сьвядомасьць нашага адзінства з прыродай, сувязі з сваім народам і з усей людзкасьцяй, блізкасьці да Бога...

Нарушэньне рэлігійнае нормы называецца грэхам. Цяжкія формы нарушэньня закону любві, як, да прыкладу, душагубства, аддаюць чалавека пад уладу найстрашнейшае санкцыі — рэлігійнае. Чалавек пачувае сябе як-быццам выклятым Богам, прыродай, людзьмі, — перажывае страшэнныя мукі сумленьня, ня кажучы ўжо аб тэй вонкавай санкцыі — угалоўнай кары, што яго чакае...

---

*“Нямашака такога закону прыроды* — кажа, завяршаючы канта-фіхтаўскі кірунак нямецкае філязофіі, нямецкі мысьліцель Віндэльбанд[137], — *які ўсьцяж прымушаў-бы чалавека думаць, жадаць і чуць так, як — паводле лягічнае, этычнае і эстэтычнае неабходнасьці — ён павінен думаць, жадаць і чуць”*.

Значыць, усяго гэтага чалавек павінен навучыцца.

Гэтыя нормы трэба абярнуць як-быццам у другую натуру чалавека; гэту лягічную, этычную і эстэтычную неабходнасьць трэба зрабіць як-бы роўнай закону прыроды па яе прымусовай сіле.

Усё гэта дасягаецца сыстэматычным узгадовываньнем волі чалавека ад дзіцячых гадоў у *нармальнай* сямейнай і грамадзкай асярэдзіне.

Узгадаваньне вядзецца як уплывам унутранае праўды і заражаючае красы самых норм, карыснасьцяй і радаснасьцяй іх выпаўненьня, так і разумным карыстаньнем з санкцыяў за нарушэньне гэтых норм.

Узгадаваньне як-быццам коратка паўтарае эвалюцыю людзкасьці. І для нас цяперака зразумела тая *асноўная схэма,* па якой у людзкасьці ў працягу тысячалецьцяў ішло выкрываньне, разьвіцьцё і ўзвышэньне духовае актыўнасьці чалавека згодна з вялікім прынцыпам эканоміі энэргіі.

---

[137] **Вільгельм Віндэльбанд** (ням. *Wilhelm Windelband*, 1848–1915), нямецкі філосаф-ідэаліст, кіраўнік Бадэнскай школы неакантыянства.

Як выкрыла сучасная філязофія, гэтае *“нармальнае законадаўства”* і забясьпечывае *захаваньне і найбольш эканомнае выкарыстаньне духовае энэргіі* чалавека ў кожнай з функцыяў яго арганізму і яго разумнае сьвядомасьці, — як у асабістым, так і ў колектыўным жыцьці.

Чым менш энэргіі марнуецца на безкарысную работу, тым больш і лепш выкарыстываюцца сілы на карысную, тым больш стойкім робіцца чалавечы тып у прыродзе і ў грамадзянстве, тым вышэйшая форма яго жыцьцёвае актыўнасьці, тым больш у яго магчымасьцей на перамогу ў жыцьцёвай барацьбе.

Найнавейшая філязофія выкрыла двойнасьць вялікага агульнага *закону* эканоміі і ў дзеяльнасьці нашае разумнае сьвядомасьці. Лягічнае, навуковае мышленьне яна называе *найбольш эканамічным мышленьнем*. І для нас цяпер гэта зусім зразумела: бо і тут нарушэньне лягічных норм, абмылкі, часта марнуюць вельмі многа часу, а зьвязаная з імі санкцыя можа абыйсьціся дужа дорага...

Прынцып эканоміі тутака лёгка пайме кожын вучань, які разьвязывае на экзамене задачу і за ненавуковае мышленьне, за *“неэканомны”* спосаб разьвязкі задачы атрымлівае адзнаку *“два”*, вынікам чаго зьяўляецца страта цэлага году... Гэта дужа добра разумее і кожын архітэктар або інжэнер, які ведае, што навукова правільны плян і абрахунак будоўлі забясьпечывае ад вельмі прыкрых вынікаў, як абвалы, трэсканьне сьцен і г. п.

На нашых прыкладах мы бачылі, што найбольш эканомным спосабам паступаньня будзе той, каторы сьцісла выпаўняе этычныя і праўныя нормы.

Лёгка такжа зразумець, што і эстэтычныя нормы, як мы бачылі на прыкладзе нацыянальнае паэзіі, будзячы і зьбіраючы душу, асьвяжаючы яе струямі лірычнае эмоцыі, узвышаючы наш жыцьцёвы тон, даючы нам радасьць новага росту душы, праганяючы зьнямогу, прабуджаючы новае *“пачуцьцё сілы”*, — іграюць так сама нязвычайна важную ролю ў агульнай эканоміі нашае істоты, нашае духовае прыроды, узвышаюць тып нашае жыцьцёвае актыўнасьці. *Мастацкая прастата*, значыць эканомія матэрыялу і формы, — вось найвышэйшы прынцып як мастацтва, так і жыцьця.

Пазнаваньне чалавекам сілы і значэньня нормы наагул адбывалася ў гісторыі разьвіцьця людзкасьці мэтадам нарушаньня нормы, мэтадам санкцыяў.

Як часта кажуць, гісторыя людзкасьці — гэта *"гісторыя абмылак і ўпаданьня чалавека"*.

На сваіх уласных горкіх спробах людзкасьць пераконываецца аб значэньні і важнасьці норм — гэтых запраўдных *"запаведзяў Божых"*.

Сіла і мудрасьць усіх рэлігій — у тым, што яны гэтым нормам надаюць божскае паходжаньне — праз *"Аб'яўленьне"*, надаюць характар загадаў самога Бога.

Як мы бачылі, з гэтымі пачатнымі рэлігіямі ў гэтым асноўным пункце зусім зыходзяцца найнавейшыя дасяжэньні сучаснае філязофіі, якая самога Бога называе "Сыстэмай Норм", "Рэальнай Нармальнай Сьвядомасьцяй".

Першая легенда Бібліі аб упадку першага чалавека якраз і дае асноўную схэму ўкараненьня і ўзмацаваньня ў чалавеку нормы.

Легенда аб першым нарушэньні чалавекам нормы зьяўляецца як-быццам пралёгам і лейтматывам усяе гісторыі людзкасьці.

Схэма — у "Праступленьні і Кары" — уразуменьня сілы і значэньня тае ці іншае нормы дагэтуль заховывае сваю грозную біблейную сілу ў народаў, у якіх гістарычнае дазнаньне невялікае, а культурнае ўзгадаваньне не ўзмацавала нормы, як другое прыроды.

Гэта геніяльна паказаў расейскі раманіст Дастаеўскі[138] ў сваім вядомым рамане пад гэтым самым загалоўкам.

Але згэтуль ясна, што гэная грозная старазаветная біблейная схэма прысваеньня нормы мэтадам санкцыі — ня толькі не унівэрсальна, а якраз наадварот: яна паступова занікае ў жыцьці нармальна разьвіваючыхся грамадзянстваў і замяняецца *"новазаветнай"*, абапертай на волі і пашане да норм. У меру ўзьвялічэньня запасу свайго ўласнага дазнаньня і прысваеньня чужога, сыстэма норм, якія рэгулююць усё духова-грамадзкае жыцьце народу, стаецца *сама сабой* дадатна дзеючай сілай, як дасягнутае і замацаванае, усім відочнае з боку сваей цэннасьці, дабро.

Гэта і дасягаецца тым, што ў шырокім значэньні слова называецца *ўзгадаваньнем,* якое і прадстаўляе скарочаную, вольную

[138] **Фёдар Дастаеўскі** (рус. *Федор Достоевский*, 1821–1881), расійскі пісьменнік і філёсаф.

ад абмылак, блуканьняў і праступкаў — ад нарушэньняў норм, гісторыю разьвіцьця людзкасьці, каторае, як ужо сказана вышэй, ішло іменна дарогай гэтых нарушэньняў.

Ясна, што гэты *ўзгадаваўчы мэтад* прысваеньня норм шмат больш эканомны за біблейную схэму ўкараненьня апошніх.

У нармальным грамадзянстве пашана да нормаў узгадовываецца з дзіцячых гадоў верай у ўзгадавальніка, павагай Божага Слова, ростам душы і радасьцяй ад свабоднага падчыненьня нормам, *"дазнаньнем у духу"*, а не *"дазнаньнем на карку"*, — іх дадатнай праверкай на дзеле, як кажуць, *"дадатнай санкцыяй"*, — благаслаўленьнем і благадацьцю, якія даруюцца імі нашай духовай істоце…

Гэтыя нормы і прадстаўляюць тое, што можна назваць наагул ФОРМАЮ духовага жыцьця і духовае актыўнасьці чалавека. Не здарма (— І нам цяпер ясна, чаму!) найвялікшы грэцкі філёзаф, Арыстотэль[139], называў Бога *"Найвышэйшай Формай"*.

Гэта правільна знойдзеная, як-быццам прадказаная самым Боўствам, форма, быццам ідэальная судзіна, і зьберагае нашу духовую энэргію ад марнатрацтва, кіруючы яе на праведныя, правільныя, супольныя для ўсіх людзей дарогі (— *"мэтад"* і значыць па грэцку *"агульная дарога"*).

У гэтым-то і зьмяшчаецца той *прынцып эканоміі*, аб якім у нас ідзе гутарка.

---

Цяпер, калі мы з гэтага новага агульнага пункту гледжаньня Нормы глянем на нашы тры мэтады барацьбы з злом і на праблему запраўднага оптымізму, дык убачым, што толькі наш мэтад *"эканамічна абаснаванае духовае актыўнасьці"* зьяўляецца нармальным.

Толькі гэты мэтад мы можам радзіць як агульную і неабходную *норму паступаньня,* толькі ён адзін павінен быць пакладзены ў аснову народнага ўзгадаваньня.

Ясна, што толькі гэты мэтад робіць як адзінокага чалавека, так і цэлы народ пэўным сябе і заўсягдышнім пераможцам у жыцьцёвай барацьбе, толькі ён дае ім бязьмежнае ўзвышэньне іх жыцьцёвага *тыпу* і, як вынік усяго гэтага, максімум стойкага, крытычна абаснаванага, оптымізму.

[139] **Арыстоцель** (стар. грэч. *Aristotelēs*, 384–322 да н. э.), старажытнагрэцкі філосаф, вучоны-энцыклапедыст, заснавальнік фармальнай логікі.

Хто прыходзе ў сьвет так-сказаць “на ўсе гатовае”, той будзе оптымістам або пэсымістам, залежна ад таго, што прыгатаваў для яго прыпадак, доля. Але гэткі *“догматычны оптымізм” — ня* трывалы і звычайна лёгка пераходзе ў пэсымізм — ці то з прычыны няўдач, недасканаласьці сьвету, ці з прычыны перасычаньня яго дасканаласьцяй, яго дарма дастанымі цэннасьцямі… *“Крытычны оптымізм”, “крытычны ідэалізм”*, як называюць гэтае ўняцьце сусьвету, прыходзе ў сьвет дзеля таго, каб сваей духовай сілай дасканаліць яго, і сваю моц і трываласьць апірае не на тых цэннасьцях, якія зужывае, а на тым тварэньні цэннасьцей, якое нясе з сабой, — на тэй творчай сіле, якую ён пачувае ў сабе, узрашчывае і дасканаліць, якое ў яго не забярэ ніякая моц на сьвеце.

Гэты наш мэтад, як з усяго вышэй сказанага вынікае, можа быць з поўным правам названы *праўдзіва рэлігійным*.

*“Культура есть система благоговений”*, вельмі ўдачна сказаў адзін з найбольш нармальных мысьліцеляў ненармальнага, насіўшага ў сабе Рэвалюцыю, Расейскага сьвету, Сяргей Булгакоў[140]... Рэлігійная пашана да ўсяе *“Сыстэмы Норм”*, да *“Рэальнае Нармальнае Сьвядомасьці”*, якая і ёсьць даступнае нашаму разуменьню і насьледаваньню Божства, ляжыць у аснове ўсіх запраўдных перамогаў і заваяваньняў людзкасьці.

Ясна, што рэвалюцыйны мэтад, пабудованы на самай пачатнай, біблейнай схэме ўкараненьня нормы дарогай яе нарушэньня, ёсьць самы неэкономны, някультурны, ненармальны — нерэлігійны.

Ясна, што ён грунтуецца на адсутнасьці ў народзе нармальна перамагаючае зло духовае актыўнасьці, на пасыўнасьці і бязьсільлі народу.

Бязьмежна нарастаючы ў такім блудным, ненармальным сьвеце і не ператваранае ў дабро, Зло набывае сілу стыхіі, ператвараецца ў нейкую вечную, нязьнішчальную катэгорыю, у запраўднага *“Чарта”*, які напраўдзі стаецца як-быццам дужэйшым за Бога ў гэтым сьвеце, засуджаным на пагібель.

Такі стан і такое *“разьвіцьцё”* сусьвету прадстаўлена ў тым кірунку расейскае літэратуры, які йдзе ад Гогаля[141] да Дастаеўскага і Андрэева[142] і… да Рэвалюцыі…

[140] **Сяргей Булгакаў** (рус. *Сергей Булгаков*, 1871–1944), рускі філосаф, багаслоў, праваслаўны святар, стваральнік вучэння аб Сафіі Мудрасці Божай.

[141] **Мікалай Гогаль** (рус. *Николай Гоголь*, 1809–1852), рускі і ўкраінскі пісьменнік.

[142] **Леанід Андрэеў** (рус. *Леонид Андреев*, 1871–1919), рускі пісьменнік, прадстаўнік літаратуры Сярэбранага веку, пачынальнік рускага экспрэсіянізму.

Як ведама, Гогаль даслоўна памёр ад страху, ад бязьсільля перад гэтым усясільным *“Чартом”* расейскага сьвету...

Канчальнае самаруйнаваньне ненармальнага сьвету, вынікаючае з няздольнасьці яго ператварацца ў нармальны, з бязьсільля і няўменьня змагацца з злом мэтадамі духовае актыўнасьці, і ёсьць тое, што называецца Рэвалюцыяй, дзеля чаго англійскі мысьліцель Спэнсэр[143] прапануе ўжываць больш правільны тэрмін *“дісcолюцыя”*.

Ясна, што ўзірацца на гэтае сьляпое Фатум блуднага сьвету, як на фэтыша, лічыць Рэвалюцыю наагул нейкім сьветлым боствам, а рэвалюцыйны мэтад — тым, што можа быць пакладзена ў аснову пастунаньня людзей, як правіла, як норма, лічыць, што гэты мэтад можа быць распрацаваны ў цэлую праграму, у стройную тактыку таго ці іншага груповага, партыйнага аб’яднаньня ў грамадзянстве, якое мае сілу і ўменьне бароцца з злом мэтадам духовае актыўнасьці, якое ўжо ўзыйшло на дарогу нармальнага разьвіцьця, — ясна, што ўсё гэта — адна з тых фатальных абмылак ненармальнае сьвядомасьці, якія ня толькі магчымы, але і няўхільны ў ненармальным, засуджаным, крыючым у сваім улоньні Рэвалюцыю, сьвеце...

*Пасьля* Рэвалюцыі можна заўсёды давясьці, што яна была абсалютна неабходна і няўхільна, што ратаваць дадзены сьвет нельга ўжо было мэтадамі духовае актыўнасьці.

Але гэта — справа гісторыкаў.

А практычны, жывы, дасьпелы, маральна-актыўны дзеяч у такім сьвеце ня можа і ня мае права рашаць, што сіла зла ў ім ня можа быць пераможана сіламі дабра. Ён павінен верыць у праціўнае: ён ня мае права сам адракацца ад задачы ратаваньня гэтага сьвету.

Інакш ён браў-бы на сябе той суд, на які мае права толькі адзін Бог, стаючыся пры гэтым супрацоўнікам ня Бога ў гэтым сьвеце, а таго самага, толькі ад гэткае помачы яшчэ больш узмацаваўшагася, Чарта…

Як мы стараліся давясьці, для такога супрацоўніка Божага ў сьвеце ня можа, не павінна быць абсалютна неперaможнага Зла!

Кожын аспэкт гэтага Зла можна ня толькі перамагчы, але і ператварыць у абсалютна бязспрэчнае дабро божскай актыўнасьцяй разумнае людзкае волі.

---

[143] **Герберт Спэнсэр** (англ. *Herbert Spencer*, 1820–1903), англійскі філосаф і сацыёлаг, адзін з пачынальнікаў эвалюцыянізму.

У сусьвеце існуе толькі адно *“абсалютнае зло”*, *“радыкальнае зло”*, паводле выражэньня Канта...

Гэта — *“ленасьць волі”*, як кажа Фіхтэ.

Гэтае радыкальнае зло — адсутнасьць у нас ня толькі сілы, але і жаданьня быць тварцамі самых сябе, свайго духа і свайго лёсу на сьвеце, — нашая неахвота быць супрацоўнікамі Бога ў сусьвеце...

Гэтае зло — нашае падчыненьне таму, што *“бывае”*, а ня вольнае падляганьне таму, што *“павінна быць”*, што гаворыць у-ва мне голас Бога — маё сумленьне.

Абсалютнае зло — гэта нашае рабства закону так-званае *“натуральнае неабходнасьці”*, нашае рабскае падляганьне векавітай *“інэрцыі быту”*, нязьменнаму кругавароту, бязвыхаднаму колу *“ўстаноўленага ладу”*, *“адвечнай песьні”* невядомае прыроды.

Абсалютнае зло — гэта дабравольнае рабства чалавека і народу, падчыненьне *чужой волі*, Прыпадку, Лёсу, — тэй ці іншай *не маей, не свабодна прызнанай маім сумленьнем сіле, звонкавай і затым заўсёды варожай і раскладаючай мой дух Сіле...*

Народ, які ня ўмее і ня хоча быць вольным, ня шукае разьвіцьця, радасьці і шчасьця ў сваім уласным росьце і творчасьці, — такі народ і не заслугуе на тое, каб ўсё гэта атрымаць у жыцьці.

І такога народу няма што шкадаваць...

Ён станецца — і мусіць стацца — *“навозам”* для другіх народаў, як некалі немцы казалі аб славянах...

13.

Гэтак апошнім практычным вывадам з усяго вышэй сказанага павінна быць цэлая сыстэма новага *нацыянальнага ўзгадаваньня* Беларускага народу.

Гэты вывад для Нямецкага народу зрабіў некалі Фіхтэ з сваей *“Філязофіі свабоды”*, з сваей новай навукі аб *“малым”* і *“вялікім”* *“Я”* — у часіну поўнага разгрому і паняволеньня Нямеччыны.

Фіхтэ паставіў нямецкаму грамадзянству, як заданьне, *“аднова стварыць нацыю”* дарогай новага ўзгадаваньня.

Новае ўзгадаваньне павінна стацца запраўды ўсенародным.

Апошняе зьдзейсьніць у напалову-фэадальнай Нямеччыне таго часу было вельмі трудна; затое гэта лёгка і проста, як адзінае магчымае, для Беларусі, у якой увесь народ прадстаўляе бадай выключна сялянскую масу.

Як мы ўжо казалі, даўнейшая спайка, даўнейшыя сувязі, даўнейшая адзінасьць — пляменная, этнаграфічная — цяпер ужо недастатачны.

Проці новых мэтадаў падзелу трэба ўжыць новых мэтадаў аб’яднаньня — *“у Духу”*, у вялікім нацыянальным *“Я”*.

Прыватныя эгаізмы павінны быць ператвораны ў вышэйшыя інтарэсы самазахаваньня і самаразьвіцьця народу як арганічнага цэлага.

Духовая актыўнасьць народу павінна быць паднята на вышэйшую па сваёй сколькасьці і па сваёй якасьці ступеню.

Новая барацьба вымагае і новае сьвядомасьці, *новае асабістасьці,* новага, больш моцнага і стойкага, жыцьцёвага тыпу.

Страшэнная небясьпека абвешчанае беларусам вайны *“да поўнага зьніштажэньня”* вымагае ўсенароднага гэраізму.

Нас запытаюцца няверучыя: ці магчыма гэта барацьба пры такой няроўнасьці сіл? Зажадаюць, як малаверныя патрыархі Бібліі, *“знакаў ад Бога”*, *“залогаў перамогі”* — хаця-бы ў далёкай будучыні.

І беларускі народ можа быць пэўным, што такіх залогаў і знакоў у Таго Бога, імем каторага адважаецца прамаўляць аўтар гэтых радкоў, — нялічанае множства!...

Аб гэтых залогах шмат ужо сказана вышэй.

Ня будзем тут давадзіць, што — у нашы дні — дэмакратызм, народапраўства, нармальнае разьвіцьцё народных масаў — гэта-ж і ёсьць той *“знак часу”*, той неабходны варунак, без якога нямінуча гінуць блудныя дзяржавы, пабудаваныя на патаптаньні народных правоў і інтарэсаў. Мы толькі коратка пералічым тыя *“залогі”*, якія ў сваім часе знайшоў быў у Нямецкім народзе той самы Фіхтэ і выявіў іх у сваіх уславіўшыхся “Прамовах да Нямецкага народу”.

Галоўную падставу для нашага оптымізму і для нашае веры ў сьветлую будучыну Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня мы, падобна Фіхтэ, знойдзем у *“нацыянальнай самабытнасьці”* Беларускага народу.

Беларускі народ, як гэтага і вымагае Фіхтэ, зьяўляецца іменна тым *“пачатным народам”*, *“чыстым народам”*, які пры ўсіх пераменах, пры ўсялякіх адносінах і зьмешываньні з другімі народамі захоўвае свой *“пачатны духовы ўклад”*.

Фіхтэ кажа, што існуе адзін бязспрэчны знак дзеля разьвязаньня пытаньня аб тым, ці дадзены народ — духова самабытны.

Гэта — *самабытнасьць мовы*.

Калі Беларускі народ гаворыць самабытнай мовай, дык у яго і ёсьць усе ўнутраныя варункі дзеля маральнага адражэньня дарогай новага ўзгадаваньня.

І аўтар гэтых радкоў, філялёг-славіст, можа з поўным правам паўтарыць, *mutato mutando*[144], сьледам за Фіхтэ яго вядомую формулу *“залогу Перамогі”*:

*“БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЬВЕДЧЫЦЬ ЗА БЕЛАРУСКІ НАРОД”*.

Гэтае пачуцьцё духовае самабытнасьці і яго маральнае абаснаваньне духова-працоўнай, сьвядома-творчай актыўнасьцяй Беларускага народу і павінна быць пакладзена ў аснову новага ўсенароднага нацыянальнага ўзгадаваньня.

Стварэньне такое народнае школы дзеля ўзгадаваньня і сфармаваньня Беларускага народу — вось першая задача для беларускага грамадзянства.

І гэта магчыма — павінна быць і будзе магчыма! — незалежна ад таго, які ўрад ці якое гаспадарства, — сваё *“самаўладзтва”*, ці яшчэ горшае зло: чужая ўлада, — будзе панаваць над нашым народам.

Гэта затым, што, як казаў і Фіхтэ, знаходзячыся над францускай окупацыяй, *“школа пераносіць самастойнасьць народу ў другую жыцьцёвую сфэру, незалежную ад урадовае ўлады і палітычнае барацьбы: у сфэру грамадзкае самадзейнасьці”*.

І можам сьмела сказаць, што тое, што было магчыма і было жывым дамаганьнем маральнае сьвядомасьці ў Эўропе больш за сто гадоў таму назад, тое — не сягоньня, дык заўтра, — станецца магчымым і зьдзейсьніцца пад націскам новае сілы дэмакратычнага духа сучаснасьці нават у Польшчы п. п. Гломбіньскага[145] і Вітаса[146]!..

Беларусы перш за ўсё і дамагаюцца ад польскае ўлады гэтае *“незалежнасьці нацыянальна-грамадскае самадзейнасьці”*, — таго, што цяпер мае назоў *“культурна-нацыянальнае аўтаноміі”*.

Рэалізоўвацца гэта пачне ў меру таго, як паваенная барбарызацыя эўрапэйскага грамадзянства, гэткая сільная і ў Польшчы, будзе

[144] ***Mutato mutando*** (лац.) — з улікам адпаведных зменаў.

[145] **Станіслаў Гламбіньскі** (польск. *Stanisław Głąbiński*, 1862–1941), польскі эканаміст, юрыст, педагог, грамадскі і дзяржаўны дзеяч, ад 1919 г. адзін з кіраўнікоў Нацыянальна-дэмакратычнага саюза. У 1923 г. міністр веравызнанняў і грамадскай асветы, у 1922–1927 гг. дэпутат Польскага Сейма, а ў 1928–1935 гг. сенатар.

[146] **Вінцэнт Вітас** (польск. *Wincenty Witos*, 1874–1945), польскі палітык, прэм’ер-міністр Польшчы ў 1920–1921, 1923 і 1926 гг.

занікаць і зжывацца, а з другога боку будзе расьці і ўзмацовывацца нацыянальная сьвядомасьць і жывая энэргія Беларускага народу, арганізаванае дамаганьне беларускага грамадзянства.

Тое, чаго, апіраючыся на сваю фактычную сілу і на *“турэцкае”* паняцьце аб сваім неабмяжованым *“сувэрэнітэце”*, сучасныя паны палажэньня не дадуць беларускаму грамадзянству сягоньня, — тое заўтра будзе *“заваявана”* самымі мірнымі, *нармальнымі* мэтадамі нашае непераможнае духовае актыўнасьці.

Такая *нармальная школа* з найвялікшай для абедзьвюх старон карысьцяй разьвяжа гэткае балючае з прычыны ўжываньня імі *“ненармальных”* — *“рэвалюцыйных”* мэтадаў пытаньне аб таксванай *“ляяльнасьці”*...

Маючы на ўвеце толькі і выключна фізычнае і душэўнае здароўе беларускага дзіцяці, разьвіцьцё яго асабістасьці, узвышэньне ў ім яго працоўнае актыўнасьці, узвышэньне яго цэннасьці для грамадзянства і гаспадарства — усё роўна якога, — такая нармальная школа павінна будзе — дзеля пэдагагічнае неабходнасьці — выключыць з свайго арсэналу ўсялякае палітычнае аружжа, адкінуць усе атручаючыя гэтае здароўе *“ад’ёмныя мэтады”* барацьбы з злом палітычнага паняволеньня, а ўсю сілу ўзгадаваўчага ўплыву сканцэнтраваць *на дадатных мэтадах*, што робяць беларуса больш дасканалым чалавекам, больш *неабходным* дзеячом, здольным перамагаць зло акружаючага яго сьвету дарогайператвараньня яго ў дабро.

І няхай тады, калі мінецца барбарызованы стан эўрапэйскага грамадзянства, — няхай тады Польшча — вустамі свайго першага міністра — паўторыць перад усім сьветам, што ей не патрэбна гэнае дабро, творанае ў яе межах трыма мільёнамі яе грамадзян, што для польскага гаспадарства ўсё роўна, *“злая ці добрая воля”* кіруе трацінай насяленьня яго, як гэта нядаўна сказаў цяперашні прэм’ер Вітас!..

Ведама, гэтым Польшча выносіла-бы сьмяротны прыгавор толькі не Беларусі, а самай сабе...

А пытаньне аб выпаўненьні гэтага прыгавору было-бы толькі справай часу...

Беларускі народ павінен толькі — цераз пасрэдніцтва сваей новай нацыянальнай інтэлігенцыі — прысвоіць сабе тую вечную праўду, што няма такога зла, якое было-б дужэй за дабро, і чым дужэй і страшней зло, чым цяжэйшыя акружаючыя нас вонкавыя

абставіны жыцьця, тым вялікшую сілу перамагаючае гэтае зло духовае актыўнасьці павінны мы разьвіць у сабе, тым мацней і цясьней павінны мы спаяцца ў непераможны, як для вонкавага, так і для ўнутранага зла, нацыянальны арганізм.

---

Чародным аспэктам сусьветнага Зла, што паўстала перад заходня-беларускім сьветам у Польшчы з усей сваей сілай гвалту і *спакусы*, зьяўляецца *дэнацыяналізацыя*.

Дэнацыяналізацыя і ёсьць расклад і руйнаваньне вялікага нацыянальнага *"Я"*, у жывой арганічнай адзінасьці якога, як мы вышэй выясьнілі, толькі і магчымы далейшы нармальны рост і разьвіцьцё як кожнага асобнага беларуса, так і ўсяго Беларускага народу ў цэлым.

Дэнацыяналізацыя замест жывога разьвіцьця народнае душы дае прышчэпленую на жывым карані народу, у якога зрэзана, як у дрэва, яго духовая карона — верхавіна, *"плоскую і мёртвую гісторыю чужога разьвіцьця"*, як выразіўся Фіхтэ.

У выніку гэтага з часам замірае і самы той карэнь...

Замірае ўся свая, кроўна-прыражоная *"жывая чуцьцёвая абразнасьць"* жывое мовы, адбіцьцё і выражэньне таксама жывога духа...

Але ня робіцца пры гэтым жывою і чужая мова, прынамся ніколі яна не стаецца настолькі жывою, каб далей магла самастойна разьвівацца.

Жывая мова — гэта прадоўжаньне жывое прыроды чалавека, тае яго пачатнае сілы, што творыць сябе з самае сябе, — жывы мост для народу ад яго прыроды — цераз народную душу — у вышэйшыя краіны Духа.

*"Розум можна мець пры якой-хоч мове,* — кажа Фіхтэ, — *але чулую (творчую) душу — толькі пры жывой мове"*.

Спакушаны *"розум"* можа нават намовіць да здрады мовы і народнага духа. *"Чулая душа"* — ніколі!.. Вось чаму паэт і жанчына — найлепш пераховываюць *"чулую душу"* народу, зьяўляюцца найвярнейшымі вартаўнікамі скарбоў жывое народнае мовы...

*"Muttersprache"*[147] — ня толькі мова маткі дзіцяці, але мова Маткі народу — Маткі-Зямлі, Вялікае Маткі-Прыроды......

Жывая мова — і толькі яна — ёсьць тая асярэдзіна, у якой родзяцца *жывыя* абразы, што першы раз сьвятлом сваім адкрываюць

---

[147] ***Muttersprache*** (ням.) — матчына мова.

перад сьвядомасьцяй чалавека акружаючы яго і дагэтуль ахутаны цемрай сьвет...

Гэтыя абразы жывое мовы — той пачатны, праўдзіва-прыродны матэрыял *усяго* нашага жыцьця, далейшая перапрацоўка якога і прадстаўляе *ўвесь* зьмест нашае духовае дзеяльнасьці.

Жывымі міфамі нявыдуманых, непазычаных, а створаных "паэзіяй" самае прыроды ў чалавеку, слоў жывая мова зьвязуе нашу сьвядомасьць з найглыбейшымі крыніцамі будаўніцтва сусьвету, радніць з самым Богам-Айцом — Прыродай.

Дзеля гэтага жывая мова дае народу сьвядомасьць яго першатворнае запраўднасьці ў сусьвеце, яго праўдзівага сыноўства божага, — дае непарушную апору ў нетрах самае прыроды, зьяўляецца запраўды найлепшым залогам магчымасьці адраджэньня і далейшага бязьмежнага духовага разьвіцьця народу.

Жывая мова творыць і першую і наймацнейшую сувязь, што злучае народ у адзіным жывым цэлым. Гэтая сувязь — аснова ўсіх сувязей і спаек, што творацца ў далейшым разьвіцьці і аб'яднаньні народа, як вынік яго многаабразнай дзеяльнасьці і барацьбы за сваю індывідуальнасьць, — сувязей маральных, эканамічных, палітычных, нацыянальна-дзяржаўных…

Моц гэтае першаасновы, гэтае першае спайкі, забясьпечыць народу яго самастойную вольную будучыню.

Гэтае пачуцьцё, гэтае ўсьведамленьне сваёй запраўднай духова-прыроднай самабытнасьці будуць для народу і новай нявычарпанай крыніцай сьветлага *оптымізму*, які здабывае непарушна-крытычнае абаснаваньне, калі толькі гэтае пачуцьцё і гэтая сьвядомасьць ператвараюцца ў цьвёрдую маральную волю разьвіваць гэты найцаньнейшы ў сьвеце, дадзены Богам, *скарб самабытнасьці — да* найвышэйшых ступеняў духовае актыўнасьці.

Дзяржыся-ж за сваё *роднае карэньне,* Беларускі народзе! — *"Бо на гэтым камяні збудуе для цябе Бог Царкву Сваю, і вароты пякельныя не перамогуць яе!"*

*Amen! Amen!*

Вільня, жнівень 1923 г.

## “COR ARDENS”[148]

*К. Сваяк*[149]*. “Мая Ліра”. Беларускае Выдавецкае Таварыства. Вільня — 1924.*

I

*Ня пішу я для забавы,*
*Ні для бліхтру, ні для славы,*
*Ні на сьмех табе, бязьверца, —*
*Пішу я, бо плача сэрца.*
*Сумна страшна думкі рвуцца,*
*У сіню даль, як рой, нясуцца.*
*У ціхі гай, дзе ўсенька чуе, —*
*На прыгон, дзе брат гаруе.*
*Злажыць песьню ледзь умею,*
*Ад тых думкаў аж мадзею,*
***Сэрца мне агнём палае,***
*Аж загублена сканае.*
*Прачытай маю ты «Леру»,*
*Бо я сам сабе не веру,*
*Ці пісаць мне, ці стрымацца,*
*Каб на зьдзек чартом не дацца?*

Вось як сам сябе характэрызуе сумна-малаверны, баючыся *“зьдзеку чартоў”*, паэт.

І трэба прызнаць, характэрызуе вельмі ўдачна!

Можна сказаць наагул, што найлепшую ацэнку — у сваёй паэтыцкай сьвядомасьці, у сваёй, так сказаць, душэўнай споведзі — у сваёй паэзіі — заўсёды дае сабе сам паэт.

Паэзія таксама, як рэлігія ці любоў, асьвятляе жыцьцё навокал і ўнутры чалавека — да апошняй глыбіні — сьвятлом абсалютнай праўды, перад якім ня могуць схавацца ніводзін цёмны кут, ніводная фальш, ніводнае самазванства.

Гэтая *“паэтычная споведзь”* перад самім сабой, можа, яшчэ больш поўна і праўдзіва, чым перад духаўнікам ці перад жывым

[148] ***Cor Ardens*** (лац.) — палымнеючае сэрца. Артыкул падпісаны *Суліма*. Друкуецца паводле: Сын Беларуса. Вільня. 1924. № 27–31.

[149] **Казімір Сваяк** (1890–1926) — псеўданім Канстанціна Стэповіча, каталіцкага святара і паэта.

люстрам кахаючых дзявочых вочак, ня толькі раскрывае, але і сцаляе душу і ўсю істоту паэта, даючы яму таксама быццам сапраўднае *“адпушчэньне грахоў”*, *“адкупленьне”* і *“новае жыцьцё”*, чысьцейшае і вышэйшае.

Вось дзеля чаго сапраўдныя паэты, у натуры якіх многа гэтай уласнай *“адпускаючай грахі”*, сцаляючай душу *ласкі*, не баяцца ніколі адчыняць у паэтыцкай споведзі — сваю душу да апошніх глыбінь, прызнавацца сабе і паказаць сьвету найстрашнейшыя хібы і раны сваёй душы. Бо гэтым і толькі гэтым шляхам магчыма для іх *“адкупленьне”* ад тых *“чартоў”*, зьдзеку якіх гэтак баіцца наш паэт.

Але *“адкупляе”* паэта з яго *“грэхапакутнага суму”* ня толькі асабістая драма яго паэтычна-творчай споведзі: кожны сапраўдны паэт носіць у сваёй душы ў той ці іншай меры і душу свайго народа, носіць яго *“грахі”* і болі, і дзеля таго сапраўды сцаляючай для паэта можа быць яго паэтычная споведзь толькі тады, калі яна **ўсенародная**.

Бо кожны, каму дадзена паэтычнае слова, жыве ня толькі, а можа, і ня гэтулькі за сябе і для сябе, як для народу: яго паэтычныя споведзі і *“камуніі”*, у якіх расьце і крэпне яго душа, і *другім памагаюць “зьбіраць” свае душы, разглядацца ў іх, узрашчваць, сцаляць і ўзмацоўваць іх.*

Бо бяз гэтай дапамогі паэта як душы людзей, так і Душу Народную, патроху і паціху, але ня менш жудасна і пэўна, таўчэ і распыляе жыцьцёвая драбяза, забівае руйнуючы сілы сум, пазбаўляе надзеі і веры пануючы гвалт, уціск і зьдзек розных аспэктаў тых “чартоў”, якіх гэтак баіцца малаверны Сваяк.

І вось запраўды паэт робіцца быццам *праўдзівым сьвятарнікам-капланам* сярод людзей, праз душу і словы якога плыве ў іх душы — з гары ці з долу, а перадусім з нетраў самой усёажыўляючай, усёсцаляючай Боскай Прыроды — нейкі быццам Сьвяты Дух, — сапраўдная цудатворная ласка.

І недарма сучасны досьлед псыхалёгіі паэтыцкай творчасьці *прыраўноўвае лірычную эмоцыю да рэлігійнай*, якая таксама, праз малітву, зьбірае, узмацоўвае і вызваляе душу.

Гэткім чынам мы бачым, што ў запраўднай гэтак званай *“вызваляючай”* паэзіі, як наагул у кожным запраўдным мастацтве, павінны быць заўсёды два гэтыя галоўныя мамэнты — так сказаць, мамэнт “*пакуты*” і “*адпушчэньня*”, — у якіх адбіваецца *глыбока-*

*рэлігійны характар паэтычнай творчасьці.* Праходзячы праз асабістую драму творца, гэты аснаўны рух захоўваець у паэтычным слове ўсю дынамічную моц уплыву на іншыя душы.

У кожным запраўдным творы паэзіі заўсёды павінна быць *праўда жыцьцёвай рэальнасьці* і адпавядаючая ёй сумная, часам жудасная, паняволіваючая душу, прыніжаючая яе *“пакутай”*, споведзь; але на гэтым сапраўдная паэзія ня можа ніколі затрымацца, бо разам з тым з найглыбейшых крыніц натуры паэта зараз жа насустрач гэтаму суму рэальнасьці, гэтаму *“чортаву зьдзеку”* наплывае ўжо *вызваляючая* душу, паднімаючая яе ўвысь *сьветлая* хваля нейкай вышэйшай рэальнасьці, — як быццам сьветлае войска анёлаў з песьняй сьпяшыць на ратунак паэту.

Гэтая цудатворная *сіла-ласка*, што сваім радасным рытмам як быццам на запраўднай хвалі паднімае душу, прабуджаючы ў забітай і паняволенай зямной пакутай душы *яе ўласныя вольныя рытмы — варунак яе радаснага ўзросту*, — і ёсьць тое, *што ў паэзіі, а можа, і наагул у мастацтве трэба назваць Музыкай.*

Ня цяжка зразумець, што можа быць ня толькі музыка тонаў, слоў, але і музыка лініяў, формаў і фарбаў.

Як бачым, кожнае праўдзівае мастацтва мае, так сказаць, *дынамічны* характар. Толькі гэтым тлумачыцца *сіла яго ўплыву на душы.*

Цяпер ужо агульнапрызнана, што бяз гэтай *“сілы”*, бяз гэтай музыкі — у гэтым раскрытым намі значэньні слова — ня можа быць запраўднай, так сказаць, *суцэльнай* паэзіі.

Той ці іншы верш можа быць вельмі лоўка *зроблены*, можа быць вельмі трафны, як абраз жыцьця, як апісаньне таго ці іншага псыхалягічнага зьявішча, можа быць нават шчыра *“выцерпены”*, даючы дакладны — жудасна-балючы — абраз запраўднага цярпеньня. Але бяз уласнага вызваляючага творчага рытму парадзіўшае гэны твор сілы, бяз яе індывідуальнай, радасна-трыумфуючай над абразамі жыцьця душэўнай стыхіі, жывой душы паэта, бяз гэтай, каротка кажучы, астаўшайся ад яе творчага акту ў вершы Музыкі гэты верш ня будзе суцэльнай паэзіяй. Бо ён перад усім *ня будзе мець сілы*, і дзеля таго нічога *ня зьменіць на сьвеце*, не парушыць душаў, не падніме нікога ўвысь, не падойме і ня зьніме ні з кога ніякага цяжару.

Коратка кажучы, ён ня зробіць у душэўным сьвеце ніякай, як кажуць фізікі, *работы*, бо, паўтараем, гэта можа рабіць толькі тая ці іншая *сіла*, той ці іншы аспэкт *энэргіі*.

Гэткая “*паэзія*” будзе сапраўды быццам “*споведзь без адпушчэньня*” і без “*камуніі*”, пакута без адкупленьня, — будзе толькі *страшыць і руйнаваць душу бязвыхадным сумам* — адчаем…

---

Сум, туга, жуда, якія плывуць у нашу жывую сьвядомасьць звонку ці знутры нашае душы, *зусім рэальна звужаюць і руйнуюць* нашае “*я*”, калі яно ня мае на гэтых “*ворагаў*” і “*шкоднікаў*” моцнай і трывалай апоры ў тэй ці іншай “*сыстэме арганізаванага аптымізму*”, які павінен быць індывідуальна (маральна) і калектыўна (нацыянальна) абаснаваны… (глядзі арт. “Гэтым пераможаш” у зборніку “Заходняя Беларусь”).

Асабліва ў паэта гэты оптымізм павінен быць, як ясна з вышэйшага, *перадусім натуральна-першародным, рэлігійна-біалягічным*, мець жывую непарваную сувязь з жывымі творчымі крыніцамі Прыроды. Толькі тады ў яго паэзіі будзе тая цудатворная сіла, што мы назвалі Музыкай.

Толькі такі паэт не давядзе другіх, бо ня дойдзе сам, — да адчаю, безнадзейнасьці і бязьверыя.

Найярчэйшы прыклад гэткага “*паэта без музыкі*” дае нам вядомы расейскі пісьменнік Андрэеў, які ад страхаў жыцьця дайшоў да апошніх рубяжоў адчаю, да “*чорных правалаў*” “*Апошняга Нішто*”.

Найвышэйшым выражэньнем гэтай усюды разьлітай у Боскай Прыродзе Музыкі, гэтага як быццам Бога-Айца ў сусьвеце, — у чалавечым сьвеце зьяўляецца Любоў, якая ў Эвангельлі нават проста названа Богам.

Дзеля таго зусім ясна, што Любоў, якой павінна быць пранікнута кожная запраўдная паэзія, павінна якраз перадусім радзіцца ад гэнай Сусьветнай Музыкі — вольна і радасна, у сьвятарным натхненьні, як Сын родзіцца ад Айца. Толькі тады і *ад гэтага Сына* ў паэзіі, як і ад Айца ў Прыродзе, будзе выходзіць сапраўдны жыва- і цудатворны Дух… Толькі тады гэтае “Слова” паэзіі будзе папраўдзі Духам і Любоўю…

І наадварот, — калі гэтае Слова ў паэта адарвецца ад свайго Бога-Айца, страціць пачатна-біалягічную моц і рытм гэтай сусьветнай Музыкі, дык адразу траціць і ўсю сваю сілу…

І не спасе тады і не дапаможа ніхто і нішто на сьвеце: споведзь “*жраца паэзіі*” адразу траціць усю сваю “*благодать священства*”,

якія-б рэлігійныя словы і абразы ён ні паўтараў, — хаця б паэт быў нават сам сапраўдным капланам з прафесіі…

---

*"Ці гэткі суровы прысуд ужо спаткаў нашага паэта?"* — запытаецца чытач.

На гэта трэба шчыра адказаць: пакуль што — не! Але пагроза гэткага лёсу над ім вісіць зусім выразная…

Трэба перадусім сьцьвярдзіць, што галоўнай рысай творчасьці Сваяка зьяўляецца якраз *адсутнасьць раўнавагі* паміж сумам *"пакуты"* і радасьцю музыкальнага *"адпушчэньня"*.

У паэзіі Сваяка перадусім мала гэтай першатворнай — *"онталягічнай"* Музыкі…

Вось дзеля чаго ў яго

*"сумна страшна думкі рвуцца"*…

Паэт мае ў сабе мала радасна-творчай моцы, мала адраджаючай, сцаляючай ад атручваючага суму сілы, і дзеля таго ён сам прызнаецца:

*"ад тых думкаў аж мадзею"*…

Дзеля таго паэта зусім *рэальна забівае* гэты бязьсільны, пасыўны сум —

*Сэрца мне агнём палае,*
*аж загублена сканае!* —

кажа ён сам у "Прадмове"…

Але, як пабачым далей, *"загублена сканае"* ў гэтым сумна-палаючым, цёмным агні нават *хрысьціянска-рэлігійная сіла яго душы — яго вера*…

Спачатку паэт *"с а м  с а б е  не верыць"*, але пасьля з гэтага паэтыцкага саманедаверыя даходзіць амаль не да таго самага *"бязьверыя"*, якое ў "Прадмове" асуджае ў другіх…

І ўсё гэта — толькі простыя вынікі таго, што ў паэтыцкіх імшах Сваяка *по-мала арганаў, сьпеву*, — мала Музыкі..

---

*"Ці пісаць мне — ці стрымацца"*? — малаверна пытаецца паэт.

На гэта мы павінны адказаць лішне скромнаму паэту наноўчым заклікам: Пісаць!

Бо пакуль яшчэ сэрца, у якім шчыра палае агонь сапраўднай, хаця і беднай Музыкай, Любві да свайго яшчэ вонках забітага, але неяк ужо пазбаўляючагася адвечнага суму і страху, народа, пакуль гэтае сэрца яшчэ не сканала, але жыве, яно, відаць, мае даволі гаручага матэрыялу, каб не толькі асьвятляць *вышэйшым нябесным* сьвятлом жыцьцё і душу нашага народа, але трохі і саграваць яго зямным агнём…

На гэтую надзею дае права тое, што *ўжо ёсьць* у першай кніжцы паэта, тое, што гэтае *cor ardens* дало нам у сваёй "Ліры".

Да пабежнага агляду ўсяго багацьця гэтай сумнай, беднай Музыкай "Ліры" Сваяка мы і вернемся наступным разам.

II

З усяго таго, што сказана намі аб аснаўной рысе натуры паэта, зусім бязспрэчна выцякае яго *цераз меру павялічаная, ці ўзвышаная, духовасьць*, — наагул, шкодная для паэзіі з чыста мастацкага боку.

Запраўдны пафас паэзіі Сваяка — *рэлігійны*, але не ў нашым значэньні гэтага слова, — не ў пачуцьці моцнай арганічнай *біялягічнай сувязі* з Прыродай і Сусьветам, але якраз наадварот: у сталым пачуцьці страху і пагрозы *разрыву* гэтай сувязі.

На помач проці гэтага разрыву ці да яго аблягчэньня паэт заўсёды і кліча Бога.

Яго "Ліра" — сапраўдны малітвенік да гэтага Бога, якога відзіць ён тым ярчэй і чуе тым мацней, чым сам сябе пачувае ад Яго далейшым.

Самапачуцьцё Сваяка — запраўдна-*хрысьціянскае*.

Гэта — тое самае Бога-, сьвета-, народа-, самапачуцьцё, якое найляпей выражана ў знамянітай формуле: *"веру, Божа, але… памажы майму няверыю"*… Гэтае сьветапачуцьцё амаль ня роўна адчувае, як сілу і ласку Божую, таксама і моц *"зьдзеку чартоў"*.

Першы аддзел "Ліры" якраз і ахвяраваны пачуцьцю Бога, — гэтаму *галоўнаму патосу паэта*.

Вельмі характэрны ў гэтым сэнсе верш *"Ad Te levavi"*[150]:

*Ўзнашу я вочы ў неба да Бога*
*І як служэбнік на Яго ўзіраю:*
*Ён абароніць мяне ад благога,*
*Бо міласэрдзя ад Яго чакаю.*

[150] ***Ad Te levavi*** (лац.) — Падымаю.

*О Божа, Божа, спашлі зьмілаваньне*
*Над Тваім людам, што поўны надзеі,*
*Бо ўжо ж ён просіць даўно змартвыхустаньня*
*Каб выйсьці з граху і крыўды няволі.*
*Чужынец люд Твой аддаў на пакусу,*
*Каб з яго сэрца выгнаць цябе, Божа.*
*Хай кроў бязьвінных, да граху прымусы*
*Пабудзяць гнеў Твой на народ варожы.*
*Збудзі, о Божа, люд Твой паднявольны*
*На труд свабодны, на ласку спакою,*
*Узглянь на ягоны лёс цяжкі-мазольны,*
*На хлеб, мяшаны з горкаю сьлязою.*
*Устань, о Божа, — зорам сваёй моцы*
*Сакруш нячыстых працу рук паганых,*
*Абагаслаў свой бедны люд рабочы,*
*Як маці кволых дзетак мілаваных.*

Вельмі характэрна ў гэтым вершы гэтае адыходзячае ў мінуўшчыну пачуцьцё ўласнага бязьсільля нашага народа *“паднявольнага”*, *“кволага”*, быццам засуджанага на доўгі век на *“горкія сьлёзы”* бязьсільля перад *“варожым народам”*, якога ён сам быццам не мае сілаў *“сакрушыць нячыстую працу рук паганых”*…

У кожным разе трэба сказаць далікатна, што хараство гэтага верша так сказаць *“дарэвалюцыйнае”*, бо пасьля рэвалюцыі казаць народнаму песьняру аб тым, што народ *“даўно просіць змартвыхустаньня”* — нeяк анахранічна…

Дзьве “Песьні на псалмы” — 130 і 62 — таксама вельмі характэрны для паэта — *“служэбніка”* Бога.

Паэт проста кажа нам, дзе ён *шукае* таго, чаго мала *чуе ў сябе* ўнутры, бо — гэтага Бога ў Прыродзе.

*Ледзь толькі блісьне на небе зарніца,*
*Дух мой, о Божа, на Цябе чакае,*
*Душа жадае, як дожджу травіца,*
*І цела з стогнам да Цябе ўздыхае.*
*У сухой зямельцы бязводнай і труднай,*
*Залітай жагай палуднага сонца,*
*Цябе шукаю ў дарозе блуднай,*
*Да Твайго ўлоньня сумую бясконца.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*І бедну душу маю ажыўляе*
*Поўнасьць праствораў гвезднага космасу,*
*Цуднай мэлёдыі голас мой шукае,*
*Каб запяяці гімн Творчаму Лёсу...*

Як бачым, паэт вельмі добра чуе і ведае сілу і значэньне таго, што ён вельмі пекна і запраўды не па царкоўнаму, але *па своему* называе *"Творчым Лёсам"*, ад якога, як ад запраўднага Бога-Тварца сьвету, ідзе, пранікаючы ўсю прыроду *"голас цуднай мэлёдыі"*...

Але якраз трэба паэту гэтай мэлёдыі ўсюды ў *"прасторах"* шукаць тады, калі сам ён мае яе ў сабе замала...

У пекным, але таксама заражоным хворай пасыўнасьцяй вершы "Шчасьце", паэт кажа аб тым, чаго каму *трэба даць* да шчасьця. Ня кажа толькі аб тым, што шчасьце — толькі тады запраўднае шчасьце, калі яно не *"даецца"*, але бярэцца і выкоўваецца кожным кавалём сабе ўласнымі сіламі.

*Для ўсіх жа людцаў, гдзе ёсьць іх колькі,*
*Аднаго трэба на сьвеце толькі —*
*Без чаго сьвет наш — блудна дарога:*
*Усім для шчасьця патрэба Бога.*

Так канчае паэт.

Як можна было спадзявацца, тая рэлігійна-*"служэбная"* роля, якую гэты паэт — *"служэбнік Бога"* адводзіць паэзіі, часта ператварае яго рэлігійна-паэтычнае натхненьне ў чыста *маральны патос* ксяндза-казнадзеі. Тады творы паэта робяцца просту free вершаваным казаньнем з амбоны. Тыповым прыкладам такога запраўднага, вельмі мудрага і дабітнага казаньня з'яўляецца верш "З кнігі мудрасьці". Верш складаецца з раду маральных афарызмаў і парадаў... парафіянам!

Няможна адкідаць гэтага роду творчасьці, калі ў гэтых парадах сьвяшчэньніка-маралiста ёсьць запраўды, як гэта мы павінны сьцьвярдзіць у Сваяка, цэнны змест досьледу, розуму і пэўнага ідэалізму. Ня можна толькі залічыць гэтыя казаньні да паэзіі...

---

Другі, падпарадкаваны першаму і, як мы бачылі, цесна, сапраўды *арганічна* зьвязаны з першым — рэлігійным патосам паэзіі Сваяка, зьяўляецца *патос Бацькаўшчыны*...

Як першаму ахвяраваны першы аддзел кніжкі, так другому — аддзел другі. Можа, правільней было б назваць іх першай і другой

струнамі яго Ліры, бо абедзьве гэтыя струны гучаць не толькі кожная ў сваім аддзеле, як у запраўднай ліры, — а ўва ўсім, што толькі яна ні зайграе.

Гэты II аддзел — найвялікшы ў кніжцы і зьмяшчае, можа, наймацнейшыя творы паэта. Няможна сказаць толькі, каб у гэтым аддзеле Сваяк быў так арыгінальным, як у першым, бо і сапраўды трудна, можа, пасьля Купалы і Коласа, гэтых калёсаў нашай паэзіі, якая наагул і перадусім распрацавала з клясычнай паўнатой і глыбінёй *матыў паняволенае і імкнучаеся да вызваленьня і адраджэньня Бацькаўшчыны*, — цяжка пасьля іх у галіне гэтага самага матыву сказаць нешта арыгінальнае. І запраўды ў Сваяка ёсьць шмат перапеваў гэтага распрацаванага ў беларускай паэзіі з усіх бакоў матыву.

Можа, гэта тлумачыцца тым, што гэтыя творы пісаліся даўно, а сьвет убачылі толькі цяпер, а можа — ня столькі ўплывам магутных айцоў нашай паэзіі, сколькі магутным націскам *незрэалізаванага* яшчэ ў нас — у гэтай Беларусі — адвечнага матыву нашай паэтычнай думкі.

Трэба адзначыць, што, нягледзячы на гэта, Сваяк унёс у апрацоўку *“матыву Бацькаўшчыны”* арыгінальнасьць толькі ў тым сэнсе, што зьвязаў, як мы сказалі, арганічна гэты матыў з *“матывам рэлігійным”*. Найбольш тыповым у гэтым сэнсе зьяўляецца верш другі II аддзела — “На гадавіны незалежнай Беларусі”.

У гэтым вершу паэт паказвае, як ён адчувае драму Беларусі-Бацькаўшчыны *праз прызму Эвангельскага абраза* — цярпеньняў і сьмерці Хрыста. Але і тут — тыповая рыса натуры паэта! — перад намі — уся дэтальная паралель цярпеньняў, зьдзекаў, укрыжаваньня і пахаваньня Хрыста і Беларусі. Няма толькі паралелі паміж імі ў уваскрасеньні!.. — Ёсьць адно сумная і малаверная малітва аб гэтым *“змартвыхустаньню”*:

*Зьмілуйся ж, Божа, ты над ёю,*
*Ня дай у гробе век ляжаці,*
*Пазволь да жыцьця ёй устаці:*
*У гэты час, на трэці дзень.*

Патос Бацькаўшчыны ў Сваяка, можа, арыгінальны яшчэ і тым, што нават у беларускай паэзіі, якая наагул адзначаецца сумам *бязьсільля і малаверыя*, ён, можа, у гэтым малаверным суме пабіў усе рэкорды.

У вельмі характэрным у гэтым сэнсе вершу "Айчыны мілай" паэт кажа:

*Айчыны мілай зор на сабе чую,*
*Куды ні пайду з самлелай душою;*
*Айчыны сьлёзнай праклёны лічу я:*
*Ратунку кліча — "Ратуйце з разбою"!*
*І над Айчынай, і над сабой плачу,*
*Што памагчы ёй — я хворы, бязьсільны;*
*Што словы горкі надарма я трачу:*
*З душ нашых вее холад замагільны.*
*Зор мой дарэмна шукае выбаўцы:*
*Ня віжу сільных між браці паганай, —*
*І не чакаю з рук Божага Даўцы*
*Ужо збаўленьня з долі апляванай.*
*І толькі ў самым бяздоньні няверы*
*Іскра надзеі ў попеле тлее;*
*Іскра надзеі, што рана бяз меры*
*Долі народнай душы разагрэе.*
*Іскра бязвольна пажарышчам стане,*
*Аж твар схаваюць нябесныя зоры,*
*І дух народны адважна паўстане:*
*Раўняці будзе даліны і горы.*
*Будаваць будзе на зломах Айчыну*
*Рукой магутнай з агнём Праметэя.*
*І сам як згіне, дасьць тэстамэнт сыну,*
*Каб не змалела Айчыны ідэя!*

Гэты вельмі цікавы і глыбокага зьместу верш вельмі ярка паказвае, да чаго ўрэшце даходзяць тыя сумна-пасыўныя, нават падмацаваныя "*рэлігійнай верай*" настроі, пануючыя ў "*біялягічна-малаверных*" элемэнтах нашай *Заходняй Беларусі*, якіх тыповым прадстаўніком зьяўляецца Сваяк. Страціўшы ўсякую веру "*ў Выбаўцу*", "*хворыя і бязьсільныя*", яны, — як прароча Сваяк, — запраўды — на дне свайго "*бязвольнага суму*", — "*у самым бяздоньні няверы*", як пекна выражаецца Сваяк, — зусім выразна *бачаць ярка апісаны паэтам абраз*[151].

[151] У № 29 працяг артыкула Уладзіміра Самойлы быў паўторна передрукаваны з № 28; магчыма, гэта звязана з канфіскацыяй нумароў, пра што гаварылася ў рэдактарскай урэзцы да заканчэння артыкула. Передрук амаль ідэнтычны,

І вось — вельмі характэрна і важна, што нават у прасякнутым наскрозь маральна-рэлігійным пафасам сьветапачуцьці Сваяка насьпявае ўнутраная душэўная рэвалюцыя. І ён пачынае разумець, што спадзявацца *“ратунку ад разбою”* ці *“збаўленьня з долі апляванай”* ад нейкага вонкавага *“выбаўцы”*, а нават *“з рук Божага Даўцы”* — няма дастатачных падставаў.

*“Каб не змалела Айчыны ідэя”*, за дзела яе адбудаваньня павінен устаць і — што б ні было — устане сам народ.

І вось першая сутычка ў душы паэта абодвух сьветапачуцьцяў, двух яго галоўных пафасаў: маральна-рэлігійнага і нацыянальнага, — Богапачуцьця з народапачуцьцём — дала зусім выразную перамогу гэтаму другому.

Гэта ж першы і зусім бязсумліўны знак таго, што ў рэлігійнай сыстэме Сваяка зроблена ў *“нябесным плане”* нейкая важная, мо' *прынцыповая абмылка*, якую цяпер прыходзіцца самаму жыцьцю ў постаці магутнай *“ідэі Айчыны”* — папраўляць у *“пляне зямным”*, — дый мо' нават такімі *“спосабамі”*, што — *“аж твар схаваюць нябесныя зоры”*.

І вось трэба адзначыць, што, можа, запраўдная арыгінальнасьць Сваяка ляжыць ня ў тым, што ён сіліцца *памірыць, згарманізаваць* ў сваёй паэзіі новы рэвалюцыйна-нацыянальны змест выкліканага народным жыцьцём *“псыхічнага патосу”* — з старымі, прывычнымі, магутнымі ў яго душы формамі, — бо хто ж не рабіў гэтага праз увесь час *“панска-ксяндзоўска-народніцкага пэрыяду”* беларускай літаратуры! — але — якраз наадварот: яго запраўдная арыгінальнасьць і вельмі паказальная адзнака часу — у тым, што — у бязсумліўнай паэтычнай чэснасьці і шчырасьці чалавечай душы песьняра-патрыота раскрыта для ўсіх у яго паэзіі *барацьба* абодвух сьветапоглядаў і сьветапачуцьцяў, — і ў гэтай барацьбе *кампрамітуюцца старыя формы, старая маральна-бюракратычная сыстэма*, а трыумфуе *“Жыцьцё”*, — трыумфуе *“Айчыны ідэя”*!..

З вельмі павучальнага і цікавага зьявішча гэтай барацьбы выцякае мо' найвялікшай важнасьці *цэнтральная для нашых часоў праблема запраўднага ўзгадненьня і аб'яднаньня ў адзінай праўдзівай Рэлігіі ўсяго жывога і непераможнага зьместу чалавечага і народнага жыцьця!..*

---

за выняткам асобных месцаў: напрыклад, пры передруку былі апушчаныя два апошнія абзацы, а выраз *“бачаць ярка апісаны паэтам абраз”* быў надрукаваны як *“бачаць ярка апісаны паэтам абраз Рэвалюцыі”*.

І вось над гэтай праблемай б’ецца з вялікай шчырасьцю і наш Сваяк, і ў гэтай *паэтыцкай шчырасьці*, у гэтай яго бязстрашнасьці перад праўдай — вялікая яго заслуга і вялікі павучальны зьмест яго паэзіі.

Гляньце-ж з гэтага пункту гледжаньня на рад вершаў Сваяка ў гэтым ІІ аддзеле: вы запраўды заўважыце нейкі чарод, нейкі рытм і пульс барацьбы ці змаганьня гэтых двух *“ворагаў”*, *“антаганістаў”* (супраціўнікаў) у яго душы. Адзін верш, адзін голас у ім дае перамогу — *“Богу”* і цэламу стройнаму традыцыйнаму сьветапогляду, у якім на першым месцы ў радзе *“маральна-царкоўных”* запаведзяў стаіць — пакора, цярплівасьць, малітва, вера і надзея на вонкавага *“выбаўцу”* і *“Даўцу”*, любоў да ворагаў — на Усходзе і на Захадзе… Другі голас, другі рад вершаў кажа зусім інакш — нешта зусім адваротнае…

І гэтыя вершы як быццам зусім правільна чарадуюцца ў гэтым ІІ аддзеле кніжкі Сваяка.

Запраўды — возьмем прыклад. У вершы “Божа, зжалься” нацыянальная Муза паэта вядзе дыялог з Богам, заклікаючы Яго: *“зжаліцца”* над беларусам, якога яна ж сама… *падбурае “ўзяць свой лёс у свае рукі”*! А што гэтае апошняе азначае ў Сваяка, мы ўжо ведаем. Гэты голас Музы Рэвалюцыі, якая моліцца ў душы паэта аб тым, каб Бог, так сказаць, *наперад даў яе народу адпушчэньне за ўсё, што народ будзе змушаны зрабіць у блізкай ужо прышласьці*, — вельмі характэрны для *“зрэвалюцыянізаванага”* хрысьціянства паэта.

Але яго Муза ўсё ж *яшчэ моліцца тут Богу…*

У наступным вершы — “Загляне сонца” настрой зусім іншы. У ім перадусім абвяшчаецца *вайна як Захаду, таксама і Усходу*, з якіх *“груганы”* і *“крукі”* аднолькава *“шукалі дармовага жыру”* на Беларусі, хацелі, *“каб з душой мы прапалі”*. *“Боскім”* аб’яўляецца тут — зусім у духу *“новага хрысьціянства”* — толькі *“працы натхненьне”*!.. Выслаўляецца народны *“саматуг”*, *“бляск сонца”*, паўстаньне зо-сну да жыцьця, *“песьні радасьці”*. Асуджаецца як найвялікшы грэх гэты векавы сон народа, гэтая *цярплівасьць у няволі…*

Аб *“Богу”* тут гаворыцца толькі, што… *“м о з Я г о в о л і (народная) кроў зрасіла (беларускую) зямліцу”…*

Мы бачым у гэтым — як быццам запраўды нейкі рытм жывога змаганьня ідэяў і пачуцьцяў у душы паэта. Перамагаюць то адны, то другія…

У вершы “Ой, на Русь ды Белу” — даецца страшны і жудасны абраз сучаснай Беларусі, — з наляцеўшымі на яе стаямі-хмарамі груганоў…

*Зашумелі пушчы, застагналі нівы*
*Ад тэй груганорай-пякельнай спажывы…*
*А во — страпянуўся род той груганоры. —*
*Быў здалёку чутны гоман нейкі новы.*
*Дзівам зьдзіваваліся няпрошаны госьці,*
*Бо з зямлі паўсталі беларусаў косьці…*
*Ой вы лятуценьні, ой мае ж вы мары!..*
*Каб усталі косьці, непатрэбны чары:*
*Сьлязой полівайце вы родную ніву,*
*Трудом церабіце вы бор гутарлівы,*
*Аж пачуйце голас з касьцей айцоў вашых —*
*Груганоў ён спудзіць маскоўскіх і ляшых…*
*Дасьць Бог калісь будзе люд народу братам,*
*А Русьняк Маскоўцу да Лехіткі сватам…*

Ізноў — характэрна — устарэўшы *сынтэз* абодвух папярэдніх процілежных ці супярэчных галасоў, — *“рэлігійнага тэзісу”* і *“рэвалюцыйнага антытэзісу”*. — Моцны, праўдзівы абраз пануючага зла — нейкага *“панства, груганоў”* на Беларусі — зусім бязьсільны *“рэцэпт”* барацьбы з гэтым злом — *“паліваньне сьлязой роднай нівы”*… Але трэба справядліва адзначыць і ў гэтым вершы ўжо сапраўды *сынтэтычны мэтад змаганьня*, які дае Сваяк. Гэты мэтад стаўся ўжо агульнапрызнаным і сапраўды ўжо трыумфуючым на ўсёй Беларусі *мэтадам перамогі і вызваленьня: гэта “голас з касьцей айцоў нашых”*… Гэта Адраджэньне роднай Мінуўшчыны побач з барацьбой за рэальную нацыянальную Сучаснасьць і летуценьнем аб далёкай *сьветлай* Будучыні.

Таксама другая пара ці нават тройка вершаў, аналягічная першай, складаецца з твораў “О, край мой родны”, “Гэй, будуйце” і “На крыльлях”. У першым Беларусь рысуецца ў вобразе памёршай з гора і з голаду дзяўчынкі… Беларусь — *“краіна гора, бяз долі, бяз волі”*. Канаючы, дзяўчынка наказала паэту *“ня траціць надзеі нідзе і ніколі”* і *“на крыж сумна паказала”*. Значыць — цярпі і маліся, народзе Беларускі?! Гэтак кажа *адна душа* паэта — старая, *“рэлігійная”*… Так кажа *“тэзіс”*. Але *“антытэзіс”* кажа зусім інакш, бо паслухайце ж самі:

*“Гэй, будуйце”*! — кажа гэты другі голас, —

*Няма праўды як схаваці —*
*Ўсё пайшло цяпер інакш:*
*Пан пакінуў гультаваці,*
*А між намі меней плакс…*
*Даўней толькі наракалі,*
*Толькі чухалі галоў —*
*Ныне плакаць перасталі, —*
*Усё вернуць стрымгалоў…*

Аўтар далей рысуе абраз новага — працоўнага, актыўна-радаснага жыцьця, лішне мо нават некрытычна оптымістычны ў сучасных варунках нашага заходнебеларускага быту:

*Гэй, будуйце ж, мае людцы,*
*Жыцьцё новае наўкруг,*
*Нават сонкі хай прачнуцца —*
*Хто не вораг — будзе друг!..*

Мы бачым, як бадзёрная струя жыцьця дадае нават сапраўднага *музыкальнага рытму словам Сваяка*.

Гэтая перамога зла — метадам ператварэньня яго дысцыплінаванай навукай, ажыўленай калектыўнай, усенароднай радасьцю, *працай над сваім полем*, гэтае ператварэньне панскіх *“двароў у школы”*, аб якіх ужо сапраўды *пяе* ў гэтай песьні вольнай працы Сваяк, увесь гэты пекны абраз перарабленьня *“няворагаў да другаў”* — дык ці ж магчыма ў нас у Заходняй Беларусі?!.

*“Хто не вораг — будзе друг…”*

А што ж рабіць з ворагамі? Аб гэтым паэт ужо казаў раней… У гэтым вершы гэтае *“раўненьне далін і гораў”* ужо скончана, народ спакойна і вясёла *“школы робіць з двароў”*…

Як бачым, у гэтым вершы *“сінтэз”* аднесены… не да Заходняй Беларусі!

Трэцяя тройка таксама пачынаецца *“малітвай”*: *“Пашлі мне, Божа”*, пасьля якой ідзе запраўды шайтанская *“песьня да гарэлкі”*, у якой топіцца гэты праклят і блудны *“мэтад”* барацьбы са злом, гэткі пашыраны на Беларусі.

Гэтая *“чарачка”* патрэбна беларусу дзеля таго, каб

*Не глядзеці, як брат родны*
*Душу прадае.*
*Пазабыўшы шлях свабодны*
*І песьні свае…*
*…Забыці родную*
*Сваю старану…*
*Перад Богам каб упасьці,*
*Яго умаліць —*
*Або вечна запрапасьці,*
*Бо душа баліць…*

Гэтай гарэлкай Сваяк заклікае лепей:

*Прагавіту каб скаваці*
*Чужынца руку,*
*Зельлем розум счараваці*
*Яму — павуку!*

Рэвалюцыйны гук тут чуецца нават у самым зьменным рытме гэтай *“чартоўскай песьні”* — у гэтым *“гімне чарцы гарэлкі”*…

II аддзел кніжкі канчаецца запраўды суб’ектыўна-сінтэтычным вершам — “Чары Айчыны”, у якім пясьняр расказвае нам, як ён *вылечыўся ад хваробы і “маны бязьверы” — “чарамі Айчыны”, “лекам яе красы” — любоўю да роднае зямелькі.*

*І ад гэтага часу,* — кажа ён, —

*…А цяпер я ўжо здаровы*
*Жыву-прыпяваю;*
*Шчэбет птушак, шум дубровы*
*Гэты цуд спраўляе.*
*Гэй ты, родная старонка,*
*Гэй, краёчак мілы,*
*Хваліць буду цябе звонка*
*Да самай магілы!*
*Ты цярпеньне душы гоіш*
*І зьнямогу цела,*
*Жыцьцё творыш, песьні роіш;*
*Вучыш жыць умела!*

Як бачым, *“Айчыны ідэя”* перамагла магільны холад душы паэта, вылечыла яго і фізычна, і духова ад яго перанятай ад айцоў

хваробы — *“блудна-пасыўнай”* рэлігіі, збудзіўшы нават у яго творчай душы застыгшыя, замораныя ў ёй *жывыя рытмы*, — удыхнула ў Ліру паэта нават *неставаўшую ёй Музыку*…

З вельмі павучальнага і цікавага зьявішча гэтай барацьбы выцякае мо’ найвялікшай важнасьці *цэнтральная для нашых часоў праблема сапраўднага ўзгадненьня і аб’яднаньня ў адзінай праўдзівай Рэлігіі ўсяго жывога і непераможнага зьместу чалавечага і народнага жыцьця!..*

І вось над гэтай праблемай б’ецца з вялікай шчырасьцю і наш Сваяк, і ў гэтай паэтыцкай шчырасьці, у гэтай яго бясстрашнасьці перад праўдай — вялікая яго заслуга і вялікі павучальны зьмест яго паэзіі.

III

Трэці аддзел “Ліры” Сваяка ахвяраваны вельмі драматычнай барацьбе ў яго душы *“Эраса Нябеснага”* з Эрасам зямным.

Паэт — *“служэбнік Бога”* — з вялікім болем *адмаўляецца* ад зямнога каханьня, ад *“чараў дзяўчыны”*. Але гэтая адмова — з страху перад *“карай Бога і людзей”* — вельмі дорага абходзіцца паэту… І ўвесь чацьвёрты аддзел — у цэлым радзе вельмі моцных вершаў — рысуе нам тое *запраўдна-несьмяротнае жыцьцё*, якое вядзе Сваяк *пасьля гэтай адмовы ад жывое Любві да Зямлі — у яе найпякнейшым тварэньні…*

Павольнае, жудаснае *ўміраньне* — вось лёс, які сам выбраў сабе Сваяк, адмовіўшыся ад жывога Хараства Зямлі.

Вельмі цікава, што — у сваёй вялікай шчырасьці паэта — Сваяк не ўкрывае, што ў гэтым жудасным кананьні яму *не памагае нават тое самае Неба, дзеля якога ён адрокся ад Зямлі…*

Якраз наадварот: гэтае Неба тады і *адвярнулася ад яго зусім, калі ён здрадзіў Зямлю…* — Душа яго змадзела дарэшты. — *“Узьлёт яе да Неба быццам хто скаваў”… “Мадзее і вера, і агонь і любоў”… “Малюся да Бога, хоць Ён тут бязьсільны”… “Згубіў я здароўе і волю і мэту”…* — Адно асталася: *“спачыць у магіле”*… Так скардзіцца бязьсільны, малаверны, сам сябе пакрыўдзіўшы, Сваяк…

*Адзін быў заўсёды — было мне нявольна*
*Пазнаці любові ціхога дзіцяці…*

Так ён сам высьвятляе сабе і людзям прычыну сваёй пагібелі.

Аддзел пяты — мешаніна розных твораў: арыгінальных і перакладаў. Гэты аддзел *не дае аканчальнага сынтэзу*, ані выхаду з ду-

шэўнай драмы Сваяка, чыста сярэднявечнай драмы — знамянітага некалі *“спору Неба і Зямлі”*, — *“спрэчкі душы з целам”*… Тут ёсьць асобныя элементы сінтэзу і выхаду з блуднага і манлівага *“Сярэднявечча”* — праз рэвалюцыйны *“Рэнесанс”*, у Новую Гісторыю, у Новае Жыцьцё — праз Працу… Ёсць асобныя штрыхі сьветлага абраза Будучыні. Але далейшай яснай дарогі самога паэта ў кніжцы яго няма.

Паэзія Сваяка — вельмі характэрная праява нашага заходнебеларускага жыцьця, пастаўленага паміж польска-каталіцкім *“Сярэднявеччам”* і магутнымі ўплывамі ўсходнерасейскага *“Рэнесансу”*. Спроба даць нейкі сынтэз абодвух гэтых сьмяротна-варожых сьветапоглядаў — аказалася невыканальнай. Ці гэта — дзеля сутнасьці праблемы, ці — дзеля слабасьці сілаў Сваяка, мы аб гэтым тутака казаць ня будзем.

У кожным разе трэба прызнаць вялікую шчырасьць паэта ў драматычных перажываньнях тэй барацьбы, якая адбываецца ў яго душы паміж гэтымі — Захадам і Усходам… Сонца![152].

## ПРАФ. ЗЬДЗЕХОЎСКІ[153] АБ БЕЛАРУСКАЙ ДУШЫ[154]

*Prof. M. Zdziechowski. Władysław Syrokomla. Pierwiastek litewsko-białoruski w twórczości polskiej. Wilno, 1924 r.*

На адбыўшымся 8/XII у Віленскім Унівэрсытэце абходзе сталецьця ад дня нарадзінаў *“польскага”* паэта Сыракомлі-Кандратовіча[155]

[152] Публікацыя апошняй часткі суправаджалася рэдакцыйным камэнтарам: *“З прычыны таго, што за падачу ў гэтай стацьці адрыўкаў вершаў Сваяка з* легальна *выданага ў Вільні ягонага зборніку “Мая Ліра” Камісар Ураду двойчы сканфіскаваў нашу газэту — мы прымушаны скараціць цэнны агляд гэтага зборніку грам. Сулімай, адмовіўшыся ад ілюстраваньня яго прыкладамі творчасьці Сваяка”*.

[153] **Марыян Здзяхоўскі** (польск. *Marian Zdziechowski*, 1861–1938), літаратуразнаўца, філосаф, у 1925–1926 гг. рэктар Віленскага ўніверсітэта імя Стафана Баторыя.

[154] Друкуецца паводле выдання: Суліма. Праф. Зьдзехоўскі аб беларускай душы. Вільня: Выданьне газэты “Змаганьне”, 1924. — 20 с.

[155] **Уладзіслаў Сыракомля** (сапр. *Людвік Уладзіслаў Францішак Кандратовіч*, 1823–1862), беларуска-польскі паэт, драматург, перакладчык, літаратурны крытык і краязнаўца.

вядомы прафэсар п. Зьдзехоўскі прачытаў лекцыю аб знамянітым паэце, якая толькі што выйшла ў сьвет асобнай брашурай.

Праца праф. Зьдзехоўскага настолькі цікава для нас, беларусаў, якія з свайго боку маюць даволі рэзонаў лічыць Сыракомлю беларускім паэтам, хоць і спольшчаным, пісаўшым пераважна па-польску, але-ж запраўдным беларусам — і ня толькі па *"месцу нараджэньня"*, але і па найглыбейшым асновам свайго духоўнага складу, — што варта ня толькі даць шырокім беларускім кругам паняцьце аб гэтай вельмі цікавай працы, але варта-б было нават — пераглядзеўшы нанова ўсе палажэньні аўтара, пашырыць і паглыбіць яго характарыстыку Сыракомлі, як паэта з беларускай душой, — давясьці ўсё, што кажа праф. Зьдзехоўскі, да апошніх, часам як быццам закрытых нават для яго крытычная *"зоркасьці"*, ці можа для яго *"польскай душы"*, — вывадаў...

Але зробім пакуль што толькі першае — меншае...

Праф. Зьдзехоўскі належыць у кожным разе да такіх, рэдкіх у сучаснай Польшчы, людзей, якія ня маюць ані патрэбы, ані жаданьня дапасоўвацца да *"настрояў"* і *"злобаў"* палітычнага дня і маюць адвагу дагаварыць да канца ўсё, што ім кажа іх шырокі кругазор мысьлі і шчырае пачуцьцё сэрца.

Дзеля таго праф. Зьдзехоўскі ня толькі *"непапулярны, амаль не байкатаваны"* ў сучасным польскім грамадзянстве, але гэткімі запраўднымі правадырамі апошняга, як паны Обсты[156], лічыцца нават амаль ня *"ворагам Польшчы"*... — І гэта — дзеля таго, што ён мае адвагу *"ў Польшчы"* прызнаваць, напрыклад, высокія вартасьці нямецкай ці нават расейскай культуры... або з трыбуны віленскага чыста польскага да йшчэ *"крэсовага"* унівэрсытэту — у часе пануючых цяпер у Польшчы *"charakteryzujących epokę naszą centralistycznych namiętności i niwelujących szałów"*[157], мае сьмеласьць абвяшчаць гэрэтычныя ідэі ў духу "Гарадэльскай уніі"[158], казаць аб

[156] Маецца на ўвазе **Ян Конрад Обст** (польск. *Jan Konrad Obst*, 1876–1954), польскі журналіст, рэдактар, выдавец. У 1925–1933 гг. рэдактар штодзённай польскай газеты *"Dziennik Wileński"*.

[157] ***Charakteryzujących epokę naszą centralistycznych namiętności i niwelujących szałów*** (польск.) — Характарызуючых нашу эпоху цэнтралізатарскім запалам і ўраўнаўчай апантанасцю.

[158] **Гарадзельская унія** — дамова паміж вялікім князем літоўскім Вітаўтам і каралём польскім Ягайлам, заключаная ў 1413 г., якая рэгулявала адносіны паміж дзвюма дзяржавамі, надавала каталіцкай шляхце Вялікага Княства

індывідуальнасьцях *“краёвых”*, аб *“pierwiastkach litewsko-białouskich w poezii polskiej”*[159] і іншых прыкрых для *“poprawnej polszczyzny”*[160] рэчах...

Але з другога боку гэтая “Гарадэльская унія”, якую шаноўны прафэсар лічыць *“szczytem”*[161] *“хрысьціянскай палітыкі”* Польшчы, яго пекная думка аб тым, *“каб польская мысьль, польская культура зьяла тым самым сьвятлом, якое прыцягвала... у XV стагодзьдзі да сувязі з Польшчай суседнія краі і народы”* (ст. 33), — найлепей паказываюць, што мы маем дзела з ідэалізатарам мінуўшчыны, з романтыкам у палітыцы, якому запраўднае жыцьцё, запраўдная палітычная рэчавістасьць адказвае — на *“гарадэльскія лятуценьні”* — Рыскім мірам...

Для нас ува усей гэтай романтычнай ідэолёгіі проф. Зьдзехоўскага бязспрэчна важны толькі той бязумоўны і суровы маральны прысуд гэтага адзінага з вельмі нялічных палякоў, запраўды дайшоўшых, паводле яго ўласнага выразу, да *“чыстага зьместу чалавека”*, прысуд усей тэй сучаснай Польшчы, якая ня толькі топча можа для каго і мілую *“гарадэльскую”* мінуўшчыну, але якая — што шмат важней — сваей *“рыскай”* палітыкай зьніштажае рэальныя магчымасьці ня толькі паразуменьня з пачуўшымі сябе — і бяз яе згоды і ласкі — зусім роўнаправўнымі і вольнымі народамі, у частцы — з народам беларускім, але гэтым самым газардоўна[162] ставіць на карту мо’ нават і ўсю сваю рэальную будучыню...

Праф. Зьдзехоўскі не належыць да прыяцеляў беларускай ідэі, як наагул не зьяўляецца прыхільнікам самавызначэньня і разьвіцьця гэтак званых малых народаў, даводзячы, што толькі ў вялікіх нацыянальна-дзяржаўных басэйнах можа да найвышэйшага людскога тыпу даходзіць чалавек, што толькі вялікія *“фабрыкі культуры”* вялікіх гістарычных народаў выробляюць паўнацэнныя агульналюдзкія вартасьці ўва ўсіх галінах духоўнай творчасьці чалавека... Пад моцным уплывам нямецкага духу праф. Зьдзехоўскі апраўдывае, так сказаць, *“духоўны імпэрыялізм”* вялікіх народаў,

польскія гербы, далучала яе да польскіх саслоўных інстытутаў, абмяжоўвала самастойнасць.

[159] ***Pierwiastkach litewsko-białouskich w poezii polskiej*** (польск.) — беларуска-літоўскіх каранях у польскай паэзіі.

[160] ***Poprawnej polszczyzny*** (польск.) — правільнай пальшчызны.

[161] ***Szczyt*** (польск.) — пік, найвышэйшая кропка.

[162] ***Hazardowny*** (польск.) — азартны, рызыкоўны.

у частцы прапаведуе вялікую *"місію"* польскага духу *"на ўсходзе"*. Проці такога, гэтак кажучы, *"чыста духоўнага гвалту"* ня было-б ні магчымасьці, ні сэнсу абурацца і вясьці барацьбу... Але гэты практыкаваны *"ў нябесным пляне"* духоўны імпэрыялізм вялікшага народу становіцца вельмі небясьпечным, калі, як у Польшчы, *"у зямным пляне"* пануе самая зьвярыная палітыка матар'яльнага гвалту, шалее *"фізычны імпэрыялізм"*, які ня толькі адбірае ў слабейшага народу магчымасьці свабоднага карыстаньня духам і культурай старшага народу, ламаючы яго арганічныя, нацыянальныя *"фільтры"*, але адкрыта і цынічна ставіць сабе, як мэту, фізычнае зьніштажэньне папаўшага ў яго рукі меншага ці малодшага народу...

Адказам на гэты супольны *"Drang"*[163], супольны гвалт абодвух саюзных імпэрыялізмаў, можа быць толькі, так сказаць, *"зачыненьне нацыянальнай граніцы"*, і *"таможаная вайна"* з небясьпечным, руйнуючым *"ўплывам"* і *"ўвозам"* і — перадусім умацаваньне якраз тых самых *"нацыянальных фільтраў"*, праз якія павінны праходзіць у нашую душу ўсе гэтыя *"ўплывы"*, каб яны запраўды ўзбагачалі наш дух, а не *"расчышчалі"* ў нашай душы месца для чужога, *"вышэйшага"* польскага духу...

Усе небясьпекі гэтай *"місыі"*, руйнуючай вольнае, самастойнае разьвіцьцё народнай душы, крадучае яе першародзтва ў свайго Бога-Прыроды, атручываючай яе пачаткавы біолёгічны оптымізм, без якога няма ані жаданьня, ані сэнсу жыць, які зьяўляецца першым залогам бязьмежнага духоўнага росту народа, — усе гэтыя небясьпекі найлепш дэманструюцца на прыкладзе таго паэта, на *"сырым камлі"* беларускай душы якога была, здаецца, нават без усякага гвалту — самымі *"гарадэльскімі"* мэтадамі зроблена гэтая прышчэпка польскай мовы і польскага *"духу"*...

Мы пойдзем разам з праф. Зьдзехоўскім па гэтаму пахнючаму саду беларускай душы Сыракомлі-Кандратовіча, але спрабуем яшчэ глыбей, як гэта зрабіў гэты прызнаны ўсім сьветам *"тайнаслухач"* чалавечай душы ў найпякнейшых яе аспэктах, падслухаць яе тайну, — і пабачым, ці запраўды гэтая прышчэпка *"кароны"* польскага духу дала моцны, жыцьцярадасны самасьцьвярджаючы — непераможны ўзрост беларускаму караню ці *"камлю"* душы паэта...

Калі на гэтае пытаньне мы атрымаем адказ дадатны, тады трэба будзе прызнаць, што беларускі камель (*"Litwa"*) бяз болю, як

---

163 ***Drang*** (ням.) — уціск, напор.

у сваё арганічнае прадоўжаньне можа ўрастаць у польскую карону (*“Koronę”*)... пры, зразумела, усіх тых выняткова спрыяўшых варунках і абставінах, якія калісь стварала для польшчыўшайся беларускай шляхты польская ўлада... Але-ж калі на нашае, як кожны зразумее, прынцыпова важнае пытаньне мы атрымаем адказ адмоўны, дык трэба будзе праф. Зьдзехоўскаму згадзіцца, што ня толькі яго талентна і шчыра сказанае слова аб *“польска-беларускай”* душы Сыракомлі недасказана ім да канца, але — яшчэ й далей — што яго галоўная, прынцыповая *“гарадэльская тэза”* аб бязумоўных дабрадзействах польска-беларускай *“уніі”* абедзьвюх народных душаў... пад гэгэмоніяй польскага духу... — павінна будзе паддацца грунтоўнаму перагляду...

---

Як мы казалі, пакуль што мы абмяжоўваемся толькі рамкамі працы, цытатаў і прыкладаў лекцыі праф. Зьдзехоўскага, якія перадусім маюць ужо тую бязспрэчную вартасьць, што запраўды шукаюць праўды і ўмеюць у пэўнай меры яе знайсьці, — значыць такому правадыру па духоўнаму саду паэта можна сьмела паверыць сваю руку...

Ня можа быць ніякага сумліву ў тым, што сам Кандратовіч афіцыяльна чуў сябе паляком, што ў пэўнай, а нават вельмі значнай, меры *“гарадэльская ўнія”* ў яго душы сталася бязспрэчным трывалым фактам...

*“Няма Літвы бяз Польшчы, ані Польшчы бяз Літвы”* (Літвы, г. зн. Беларусі), — казаў ён сам у вядомым пазнанскім тосьце. Нацыянальна-палітычная сьвядомасьць у яго часы магла быць у ім толькі польская, і не аб тым мы будзем тутака вясьці нашую гутарку.

Мы ўсе настолькі прывыкаем да пэўных рэчаў, якія штодня бачым і чуем, што лічым іх зусім звычайнымі і зразумелымі і нічуць ня трывожымся, каб вытлумачыць сабе тое ці іншае, можа вельмі важнае ці вельмі ненармальнае зьявішча.

Як ведама, мы найлягчэй прывыкаем... да чужога гора, да чужога суму і спакойна тлумачым сталым асабістым ці нацыянальным *“характарам”* ці *“тэмпэрамэнтам”* тое, што зусім ня мае, а тым больш — не павінна мець — перадусім характару сталасьці, як рэч ненармальная, руйнуючая жывы дух асобы ці цэлага народу.

Гэты сталы сум асобы ці народу мае заўсёды свае глыбокія прычыны, і запраўдная актыўная любоў да таго ці да другога сьвядома

ці несьвядома якраз кіруецца да гэтых найглыбейшых нетраў хворага духу і, калі яна зьяўляецца запраўднай сілай, дык і даконывае запраўдны цуд сцаленьня, — уваскрашае заснуўшы ці забіты, ледзь тлеючы пачатны біолёгічны оптымізм нашай духоўнай прыроды...

Кожны ведае, што ў гэтым і зьмяшчаецца той *"цуд ўваскрашэння любоўю"*, які гэтак праславілі ўсе паэты ўсіх часоў і народаў...

Любоў уваскрашае радасьць жыцьця, асьвячае і асьвятляе ўсю прыроду навакола мяне, а перадусім — праслаўляе і благаслаўляе ўсю прыроду ўва мне самым — дае мне любоў да мяне самога, калі яе да таго ня было...

А паводле найлепшага, найпякнейшага азначэньня Спінозы, пачуцьцё радасьці ў маёй сьвядомасьці зьяўляецца адбіцьцём об'ектыўнага, рэальнага росту і пашырэньня маей душы — наагул усей маей запраўднай — прасьвятлёнай і асьвячонай істоты...

І значыцца — наадварот — пачуцьцё суму, журбы, тугі — адбівае об'ектыўны працэс аб'яднаньня, звужэньне душы...

Значыць, запраўдная любоў дае новыя магчымасьці росту, разьвіцьця, расшырэньня маей самастойнай істоты, што якраз і дае, паводле Слінозы, об'ектыўна абаснаваную радасьць маей сьвядомасьці...

Але запраўдная любоў павінна зрабіць яшчэ адзін, ужо апошні, крок: настолькі ўваскрасіць свой жывы прадмет, каб ён не патрабаваў ужо, больш, гэтак кажучы, пастаяннага даплыву звонку гэтай уваскрашаючай цудатворнай сілы, без якой ізноў пачыналі-б вянуць і тухнуць сьвятло і радасьць унутры і вонках яго...

Запраўдная любоў павінна, як пекна кажа Лявон Талстой[164], *"заразіць на ўсё жыцьцё"*... Толькі тады любоў запраўды даканае свайго цудоўнага чыну, калі яна настолькі *"заразіць"* чалавека ці цэлы народ сваей сілай, што прабудзіць у іх іхнюю ўласную любоў да саміх сябе, і прытым — настолькі, каб якраз гэтая іхняя любоў да саміх сябе ўжо сама без даплыву і помачы звонку выпаўняла ўсю гэтую задачу бесканечнага і пастаяннага ўваскрашэньня, даючы бесперарыўнае пачуцьцё радасьці — адбіцьця об'ектыўнага бязьмежнага росту душы...

Толькі тады, як кожнаму зразумела, уваскрашэньне ператвараецца ў запраўднае, не вымагаючае больш помачы звонку *ўваскрашэньне* асобнага чалавека ці цэлага народу...

---

[164] **Леў Талстой** (рус. *Лев Толстой*, 1828–1910), рускі пісьменнік, мысляр, публіцыст.

I мы ведаем, што якраз гэтак і ставілася вялікая задача Адраджэньня ў пачатку Новага часу. Гэтак пачынаецца і забясьпечываецца і ўваскрашэньне да новага самастойнага жыцьця і кожнага асобнага народу і ў нашыя часы...

А калі мы прыпомнім, што той самы вялікі філёзоф Спіноза, новае рэлігійнае самапачуцьцё якога магутнай хваляй увайшло ў сьвядомасьць сучаснага чалавека, рэлігійны пантэізм якога зьяўляецца найглыбейшай рэлігійнай асновай і прадпасылкай ня толькі філёзофскай, але і палітычнай сьвядомасьці сучаснай душы і рэспубліканскай схэмы сучаснага гаспадарства, — што той самы Спіноза вучыў, што любоў да Бога ў кожным з нас есьць ня што іншае, як любоў Бога да самаго сябе, што сам Бог, які жыве ў нас, у нашай душы, любіць сам сябе паўсюды ў Сусьвеце, а перадусім у нас саміх, бо Ён і ўся Прырода — адно, дык мы добра зразумеем, што прабудзіць і гэткую любоў у народу да самаго сябе, любоў, якая-б пачула сябе любоўю самаго Бога да гэтага народу, якая-б дзеля таго — шляхам гэтай бесканечнай радасьці бязьмежна расьціла-б і пашырала самастойна народную душу, — прабудзіць у заняпаўшым, падбітым народзе гэткае самапачуцьцё — зьяўляецца дапраўды першай і найвышэйшай задачай запраўднага рэлігійнага ўваскрашэньня народу...

---

Як-жа вырашыла гэтую аснаўную задачу ўваскрашэньня беларускага народу *"гарадэльская"* любоў — унія старшага, вялікшага Духам польскага народу?..

Тыповы, можа найпякнейшы, плод гэтай любові — польска-беларуская душа і паэзія Сыракомлі лепш за ўсё адказывае на гэтае аснаўное, прынцыпова-рэлігійнае пытаньне аб запраўднай вартасьці гэтай *"уніі"* беларускай і польскай душаў... Бо кожнаму ясна, што якраз тут, а не дзе ў іншым месцы ляжыць запраўдны, рэлігійна-ахопліваючы ўсе іншыя — палітычныя, культурныя і г. п. пытаньні, зьмест праблемы... Бо паэзія, гэта — тое самае, што запраўднае жыцьцё душы, і тут, у тым сьвятым аўтары ніякога фальшу быць ня можа, бо тут — самая крыніца жыцьця і жывога духу. Які-ж аснаўны *"пафос"* усей паэзіі Сыракомлі знайшоў сам праф. Зьдзехоўскі?

Галоўны пафос беларускай душы паэта — гэта яго *"пачуцьцё прыроды"*. Паэт казаў, што ён пазнаваў нёманскія сенажаці па іх

паху, а дрэвы — па шуму лістоў... Але зусім слушна праф. Зьдзехоўскі кажа, што *“да гэтага пачуцьця прыроды трэба прыглядзецца бліжэй”*... Можа нават — бліжэй, як гэта робіць сам аўтор...

Тое, што піша праф. Зьдзехоўскі, паводле Рэнана і іншых позытывістаў, аб азначаючых не толькі народную душу — тыпы народнай псыхікі, але і нават і тыпы рэлігіяў, уплывы прыроды зьмяшчае многа праўды, але — ці шаноўшы аўтор напраўду думае, што *“пустыня ёсьць монотэістычна”*, або *“пантэізм створаны сенажацямі і морам”*?!

Ня можа быць сумліву ў тым, што пачатныя рэлігіі тварыліся, як адбіцьцё, прадоўжаньне *“пачуцьця натуры”*, але ў далейшым кожная з іх ставіла сабе заданьнем — *перамогу* над гэтай пачатна дадзенай прыродай...

І толькі паколькі гэтая перамога зьдзяйсьнялася ўдунутымі ў душу чалавека яго рэлігіяй новымі сіламі Духа, пастолькі яго душа пачынала новы ўзрост, а з ім, як мы ўжо ведаем, і знаходзіла новую пашыраючую душу радасьць перамогі і творчасьці...

Дзеля таго яшчэ не зьяўляецца апошнім адказам на нашае пытаньне тое, што сьцьвярджае аўтор аб агульным характары *“безканечнай мэлянхоліі”*, якая праймае ўвесь краявід Палесься, дзе ўрадзіўся і правёў амаль ня ўсё жыцьцё Сыракомля, — якая запраўдным “пафосам” (цярпеньнем) адбілася ў паэзіі Сыракомлі.

Ня ў тым справа — для вырашэньня нашага пытаньня, з нашага пункту гледжаньня, — *што* дала паэту родная беларуская прырода, але — у тым галоўнае пытаньне, — *што* дала гэтай пачатна тыповай-сумнай беларускай душы паэта якраз гэтая *“унія”* з польскім духам — для перамогі гэтай *“бязьмежнай мэлянхоліі”* — для гэтага першага кроку запраўднага рэлігійнага акту *вызваленьня з рабства прыродзе*, — як залогу новага жыцьця, запраўднага ўваскрашэньня ў сьвятле і радасьці...

*“Litwa rodowita!”* — пісаў Сыракомля ў “Дэмборогу”[165], — *“твая зямля сумная, тваё неба бяз блеску”*. Так кажа сама аб сабе беларуская прырода вуснамі свайго паэта... Але хто-ж не разумее, што гэта — *крык,* гэта — *прызыў* да Сьвятла, да Блеску, да Радасьці, якую якраз і павінен даць той, хто прыходзіць, як быццам з неба, як вышэйшы, — з мацнейшым духам, з запраўднай цудатворнай

[165] Маецца на ўвазе паэма Уладзіслава Сыракомлі *“Urodzony Jan Dęboróg”* (“Дабародны Ян Дэмбарог”).

любоўю, — нясе запраўдную *"унію"* для духоўнага вызваленьня і — ўваскрашэньня?!

І вось як сам праф. Зьдзехоўскі і цяпер яшчэ адказывае на гэты прызыў...

*«Але-ж у гэтай цемранай зямлі, у гэтым небе бяз блеску ёсьць "хараство суму", якое зачароўвае душу прывязанасьцяй, якую толькі сьмерць можа разьвязаць».*

Адказ зьмяшчаецца ў тым, што ад гэтага паняволеньня беларускай душы забойчым, паводле Спінозы сумам, цемрай і мэлянхоліяй беларускай прыроды, вызваляе… ня "унія", не вялікая збаўчая *"гарадэльская унія"*, але — сьмерць...

У другім месцы праф. Зьдзехоўскі кажа, што ў Сыракомлі гэтая мэлянхолія *"лагодная"*... Далей мы пабачым, што гэта значыць, як гэтая *"лагодная мэлянхолія"* адбіваецца ў найважнейшых творах паэта, якія якраз акрэсьляліся не беларускай прыродай, але польскім духам — якраз гэтай *"уніяй"* паміж гэтай, як думае праф. Зьдзехоўскі, гістарычнай прызначанай адна для другое парай... Бо — ані *"Літвы бяз Польшчы — ані Польшчы бяз Літвы"*!..

Калі адна сьмерць можа вызваліць беларускую душу з паняволеньня забойчаму суму яе *"прыроды"*, дык які адказ можа даць нам, зразумела, не ў палітычным тосьце на якой небудзь урачыстасьці — у Пазнані ці дзе інш, — але ў найглыбейшых крыніцах і тайніках духоўнае споведзі, у сваей паэзіі паэт — аб гэтай *"уніі"*?..

Калі гэта мэлянхолія ў народзе актыўнага тыпу, які ня можа і ня хоча мірыцца з *"няволяй Прыродзе"* з аднаго боку, і з бязьсільлем, ці можа чым горшым, са шкоднасьцяй гэтай уніі — бо сацыяльнай і нацыянальнай няволяй з другога, тады, як гэта і бывала, калісьці ў Беларусі, а яшчэ больш на Украіне, і калі не ў 15, дык у 16 веку, — *"народная душа"* адказывае аружным паўстаньнем...

Гэткага роду *"мэлянхолія"* адбілася, напр. у паэзіі Марцінкевіча[166], якой Сыракомля закідаў *"niewczesne drażnienie starej niechęci między klasąmi"*[167]...

А калі, мэлянхолія *"лагоднага"* тыпу, як правільна азначыў пр. Зьдзехоўскі ў Сыракомлі, дык такая *"душа"* адказывае на...

---

[166] Маецца на ўвазе **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч** (1808–1884), драматург, паэт, заснавальнік беларускай драматургіі, тэатра.

[167] ***Niewczesne drażnienie starej niechęci między klasąmi*** (польск.) — Несвоечасовае дражненне старых канфліктаў паміж класамі.

пагрозу сьмерці — запраўды цудоўным вершам — "Cupio dissolvi", гэта значыць — *"хачу разчыніцца ў сусьвеце — зьнікнуць"*...

Сам праф. Зьдзехоўскі падкрэсьлівае, што гэты верш *"stanowi najgłębszy wyraz religji"*[168] Сыракомлі.

> *"Dałeś (унія з Польскім духам?) mi mowę, cóż ona znaczy?*
> *Czyż choć cień myśli mej wytłumaczy?!*
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> *W uszu i w oku, w smaku i woni*
> *Tylko się samo złudzenie chroni,*
> *Tylko przeszkoda duszy człowieczej,*
> *By doskonalej pojęła rzeczy".*
>
> ("Dwa obrazy").

Вось як ашукаў паэта гэты фальшывы, бо чужы і варожы, Дух, даўшы яму нягодную, бо не яго ўласную родную "мову", у тым шырокім сэнсе гэтага выразу, які даў калісь нямецкі фылёзоф Фіхтэ ў сваіх слаўных прамовах да нямецкага народу.

Можна згадзіцца з праф. Зьдзехоўскім, што *"філёзофічны зьмест"* гэтага вершу Сыракомлі запраўды *"найглыбейшы"*, але яшчэ глыбейшы — бо папросту жудасна-страшны! — першы, пачатна-біолёгічны, вадліва-рэлігійны, душэўна руйнуючы, самазабойчы яго зьмест — з нашага пункту гледжаньня... І не дарма сам праф. Зьдзехоўскі прызнае, што *"Сыракомля быў за сто міль ад філёзофіі"* (С. 16).

І можа гэтая *"рэлігія сэрца"*, гэтая *"лагодная мэлянхолія"* беларускай душы, вельмі падабаецца душы польскай, у якой, як сьцьвярджяе праф. Зьдзехоўскі, гэтай мэлянхоліі зусім няма, — настолькі, што польская душа *"koraniarza"*[169] нават не разумее беларускай душы, а толькі гатова... памагчы ёй у яе "жаданьні расчыненьня" і зьніштажэньня. Але з нашага сучаснага пагляду запраўды жывой рэлігійнай сьвядомасьці, якая ад Адраджэньня і Спінозы лягла ў аснову рэспубліканскага дэмакратычнага самапачуцьця народаў, як жывы прынцып грамадзкай і палітычнай арганізацыі, гэтая *"рэлігія сэрца"*, аснованая на *"лагоднай мэлянхоліі"*, на зрэзыгнаваным самазьніштажэньні — на духоўнай пасыўнасьці

[168] ***Stanowi najgłębszy wyraz religji*** (польск.) — Гэта найглыбейшае выяўленне рэлігіі.

[169] ***Koraniarz*** (польск.) — карэнны паляк.

павінна быць асуджана да канца, як найвялікшае праступленьне перад сабой, сваім народам, — перад людзкасьцю, — засуджана, як найвялікшы грэх, як хула на Духа, якая не даруецца ніколі!..

І гэты *"cmentarny"*[170], хаўтурны *"пафос"* якраз і прасякае ўсю паэзію Сыракомлі... Гэты *"пафос" "урос у душу"* яго *"Янкі Цмэнтарніка"*, які прадстаўляе якраз той тып беларуса, які створаны *"гарадэльскай уніяй"* польскага пана з беларускім *"хлопам"*, якога мела, паводле праф. Зьдзехоўскага, падняць да сябе — да сьвятла і радасьці, як *"роўнага з роўным"* польская душа...

Дзе-ж ужо там казаць аб палітычным выніку гэтай *"духовае уніі"* — аб *"łączności dworu i chaty wobec wspólnego wroga"*[171], якая, паводле праф. Зьдзехоўскага, была *"ukochanym marzeniem poety"*[172] (С. 26).

Бо — як-жа напраўды сабе прадстаўляе аўтор гэтую *"łączność"*[173], калі сам ён кажа, што *"найвялікшае спачуцьцё ў ім (паэце) будзіў закінуты цягнучы ярмо паншчыны сялянскі люд"*... (С. 25).

*"Лагодная мэлянхолія"* аднолькава пасыўна, хаця можа і вельмі паэтычна, прыймае як сваё, так сама і чужое *"upośledzenie"*[174]...

Гэта *"лагодная мэлянхолія"* страціўшага запраўдную родную, супольную з усім народам *"мову"*, ашуканага ў сваіх пачатных, актыўных інстынктах, спольшчанага беларуса, зразумела абаўе ўсялякае жыцьцёвае паражэньне, усялякую ціхую сьмерць, усялякую жыцьцёвую пасыўнасьць у найхарашэйшыя, запраўды паэтычныя, *"rozrzewniające do łez"*[175] вопраткі.

Руіна шляхціча "Лагоды" ў спорцы за арэнду з шляхцічам "Заборай" ("Kęs chleba")...

Цікавы тып польска-беларускага Донкіхота — "Filip z Konopi"[176], якога б'ець кожны і ўсюды за яго найшляхэтнейшыя чыны...

І — урэшце, як запраўдная *"апотэоза"* гэтай прынцыповай самаахвярнасьці біолёгічна-ашуканай душы, — абраз "Margiera" і яго

170 ***Cmentarny*** (польск.) — могілкавы.

171 ***Łączności dworu i chaty wobec wspólnego wroga*** (польск.) — аб'яднанне маёнтка і хаты супраць агульнага ворага.

172 ***Ukochanym marzeniem poety*** (польск.) — улюбёнай мары паэты.

173 ***Łączność*** (польск.) — лучнасць, сувязь.

174 ***Upośledzenie*** (польск.) — тут, відаць: крыўда.

175 ***Rozrzewniające do łez*** (польск.) — да слёз захапляльныя.

176 ***Filip z Konopi*** (польск.) — Піліп з канапель.

таварышоў, якія, ня хочучы аддацца ў рукі крыжакоў, *“самі сябе на кастры ў ахвяру сваім багам забівалі”*... (С. 23). Усе гэтыя створаныя гэтым пасыўна-хрысьціянскім тыпам паэзіі прыпцыпова ашуканай душы, найлепей характарызуюць таго паэта, хто, як Сыракомля, — *“ад сваіх адстаў, але да чужых ня прыстаў”*...

*“Не малюй жыцьця інакш як з неба”*, запраўды пекна казаў паэт... Але новае неба над галавой сучаснага чалавека зусім не вымагае гэткай рэлігіі самаадрачэньня. Апошняе мае пэўны сэнс у асобным чалавеку на карысьць другога, ці — на карысьць роднага народу, ці агульналюдзкай ідэі... Але яно ня мае ніякога сэнсу ў адносінах да цэлага жывога народу, якога ніхто ня мае права прынасіць у ахвяру ніякой цэннасьці ні на зямлі ці на небе!..

---

Цытаваны ўжо намі Фіхтэ *ў* тых-жа “Прамовах да нямецкага народу”, кажа, што народ можа запраўды жыць і разьвівацца, толькі маючы запраўдную жывую родную мову...

У гэтай мове — жывая крыніца духоўнай самабытнасьці народу, крыніца яго сілы і яго першатворнага оптымізму.

Какі якімсь гістарычным няшчасьцем народ траціць сваю родную жывую мову, а на яго жывым карані, на яго *сырым камлі “прышчапляецца,* — як кажа Фіхтэ, — *плоская і мёртвая гісторыя чужога разьвіцьця”*, дык у канцы канцоў засыхае і самы корань...

Пачынаецца доўгі, можа нават вельмі *“паэтычны”*, працэс засыханьня, уміраньня гэтага жывога народнага караня...

Гэты об’ектыўны працэс, як мы ведаем з Спінозы, адбіваецца ў народнай сьвядомасьці — у паэзіі — сумам і жудой.

Адбіваецца якраз тым, што трафна назваў крытык Сыракомлі — *“лагоднай мэлянхоліяй”*!...

*“Лагодная мэлянхолія”* ў народнага паэта — дык жа-ж гэта — адбіцьцё запраўднага ўміраньня гэтага народу!.. Трэба-ж нарэшце гэта ўжо зразумець, і не закрываць *“рэлігійнай”* ці *“філёзофічнай”* фразэолёгіяй запраўднага зьместу гэтага страшнога зьявішча!..

Ці-ж расейская паэзія і наагул літэратура не навучыла яшчэ гэтай *“навукі першага чытаньня”* паэтычных твораў?!.

Можа вельмі *“цёмныя сілы”* правяць, паводле праф. Зьдзехоўскага, за ўсходняй граніцай Польшчы... Але вялікая моц гэтых *“цёмных сілаў”* — у тым, што яны будзяць жывы дух уваскрасеньня

ў заняпаўшых за часаў царызму народных масаў — у шматмільённага расейскага, украінскага і беларускага сялянства!..

Гэта таксама трэба ўжо зразумець!

---

*“Паэзія Сыракомлі, кажа праф. Зьдзехоўскі, становіць духоўную граніцу паміж Літвой (Беларусьсю) і Каронай (Польшчай)”...*

*«Там, дзе “rzewność”*[177] *гэтай паэзіі ня выклікае водгуку, — гэта знак, што мы апынуліся ў іншым краі, у іншым псыхолёгічным клімаце, — пасярод людзей, інакш адчуваючых, інакш прывязаных да бацькаўшчыны»* (С. 22).

На простай і яснай мове, — на палітычнай мове (бо толькі на ёй гавораць цяпер з нашым пакрыўджаным народам, і толькі на гэтай мове павінны і мы адказываць варожа ўзброенай проці нас *“польскай душы”*), — гэта значыць, што беларускай душы польская ніколі не зразумее! — Нават тады, калі гэтая беларуская душа будзе разтлумачана польскай з такім талентам, з такой глыбінёй, з такім спачуцьцём, з якім зрабіў гэта ў сваім натхнёным слове аб Сыракомлі — сам праф. Зьдзехоўскі!..

Бо мы-ж бачылі, што нават і ён ня можа дагаварыць да канца ўсіх вывадаў з сваіх ўласных, вельмі трафным досьледаў і палажэньняў...

А нават і гэткае, не да канца ідучае, разуменьне беларускай душы робіць ужо вельмі непапулярным шляхетнага польскага мысьліцеля-крытыка ў польскім грамадзянстве...

Вывад адсюль для нас — ясны: усе свае надзеі беларускаму народу трэба ўзлажыць толькі на самога сябе...

Галоўнае зьявішча нашых часоў гэта — тое, што старая сумная беларуская душа, якая гэтак падабаецца польскаму пану, а нават праф. Зьдзехоўскаму, — памерла і — ужо не ўваскросьне...

А нараджаецца новая, моцная, радасная — *“аблечоная ў сонца”*!

---

[177] ***Rzewność*** (польск.) — пяшчота.

## ВЕРНАЯ ДАЧКА СОНЦА І “ШЧЫРАЙ ЗЯМЕЛЬКІ” [178]

*Натальля Арсеньнева. Пад сінім небам. Віленскае выдавецтва Б. Клецкіна. Вільня. 1927, ст. 141 у 8°. Цана 2 зал. 50.*

### I

Толькі што выйшаў з друку першы зборнік вершаў нашае ведамае пясьняркі Натальлі Арсеньневай[179], які зьмяшчае вершы за 1921–1925 г. г. У апошніх часапісах усьцяж зьяўляюцца новыя вершы Н. Арсеньневай, дык трэба думаць, што не заставіць доўга чакаць сябе і другі зборнік Яе поэзыі.

Першы зборнік поэты зазвычай як яго “пяршак”, мае ўжо, часам і найбольш ярка, — выражаны характар індывідуальнай асобы тварца… Часта ў першым зборніку, у першым вялікім творы вялікшы поэта дае быццам сваю *“поэтыцкую праграму”*, свой *“маніфэст”*, сваю *“тронную прамову”*, якую далейшыя творы толькі разьвіваюць, пашыраюць, паглыбляюць, выконуючы яе — у вялікае *“дзела жыцьця”*. Але — часта, ах, залішне часта! — першыя творы даюць нам ужо амаль не цалком усяго поэту, які ў далейшым толькі, як кажуць, — *“насьлядуе самога сябе”*, перапявае свае першыя песьні… Асабліва — у нашыя, бягучыя такім шпаркім тэмпам часы, — душы й таленты насьпяваюць так борзда, так залішне борзда, сьпяшаючыся неяк вылажыць усё, што ўлажыла ў іх Прырода, быццам самі ня вераць у трывалы, вольны й бязьмежны расьцьвет жывучага ў іх духу.

Першы зборнік вершаў поэты мае заўсёды — як для чытачоў, таксама і для аўтара — асаблівую важнасьць. Для аўтара ён мае значэньне першага важнага і адказнага спатканьня з публікай, значэньне, так сказаць, *“хрэсьбінаў”*, — першай *“спробы агнём і… вадой”* крытыкі. Для чытачоў, а наўперад для найбольш уважных і сур’ёзных з чытачоў — для крытыкаў, першы зборнік поэты мае асаблівую важнасьць дзеля таго, што першы раз дае магчымасьць — абняць разам, ахапіць зорам, зьвязаць і ацаніць, як *нешта цэлае*, усё тое, што зьяўлялася й чыталася паасобку, уразьбіўку; дае магчымасьць угледзіць усю вагу, вартасьць і навіну таго літаратурнага зьявішча, якое прадстаўляе сабой паэзыя рэ-

[178] Тэкст падпісаны *М. Чэмер*. Друкуецца паводле: Родныя гоні. Вільня. Кн. 5. 1927. Ліпень — жнівень. С. 35–39; Кн. 6. 1927. Верасень — кастрычнік. С. 15–27.

[179] **Наталля Арсеннева** (1903–1997), паэтка, перакладчыца, драматург.

прэзэнтуючагася грамадзянству тварца... Першая кніжка паэты дае магчымасьць запраўды-ж упяршыню *добра пазнаёміцца з паэтам*, — з яго душэўным жыцьцём, выяўленьнем якога зьяўляецца ягонае паэзыя.

Пераходзячы да зборніку Натальлі Арсеньневай, трэба сказаць, што забраныя ў ім вершы за пяць год хаця маладога, але сьведамага ўжо жыцьця пясьняркі, гэта матар’ял, які дае магчымасьць грунтоўна судзіць — ня толькі аб індывідуальным паэтыцкім багацьці, якое зьмяшчаецца ў кніжцы, так сказаць, *“у гатоўцы”*, але і аб тым, — як расло ды множылася гэтая багацьце, якімі шляхамі, якім тэмпам ішоў рост паэтычнага развою аўтаркі... А гэта дае ў пэўнай меры права меркаваць аб тым, якія магчымасьці тояцца ў аўтаркі для далейшага ейнага росту й развою...

І вось першае ўражаньне — магутнае, пераконуючае, што перад намі — зьявішча запраўднай, самамэтнай, арганічнай, шчырай поэзыі “Божай міласьцю”, поэзыі кроўна-блізкай найглыбейшым жаролам народнага духу і дзеля таго маючай усе падставы для далейшага бліскучага развою й расьцьвету...

Натальля Арсеньнева мае ўсё, каб зрабіцца першарадным тварцом у паэзыі, — мае шырокі й глыбокі грунт пад сабой — у пачуцьці спачатных, асноўных стыхіяў Жыцьця й Прыроды, пачуцьці, якое радніць яе з падставамі першай-натуральнай рэлігіі нашых далёкіх продкаў. Яна мае выплываючую з гэтай кроўнай неразрыўнай сувязі з Прыродай і моцнай у ёй апоры — магутную сілу душы й бязьмежна бязьмерна ўдзячную любоў да жыцьця і веру да гэтае Прыроды, без каторых ня можа быць і запраўднай любові да свае роднае прыроды, да свае Бацькаўшчыны, да свайго Народу.

Яна мае й бясспрэчны чароўна-лёгкі дар музыкальнага выслаўленьня гэтае свае любові, гэтае свае — прынцыповае веры да прыроды, як яе верная, шчырая, а дзеля таго — любімая дачка... Яна мае чароўны дар *“слова-чару”* заражаць нас, як уладная чараўніца, гэтай музыкай свае шчырае любові да прыроды, — запаляць нашыя сэрцы тым самым агнём, тым самым *“сонцам”*, якім поўна яе душа. Яна мае багаты слоўнік свабодна, але законамерна — бо-ж арганічна спароджаных гэтай яе любоўю й захапленьнем — выразаў і абразоў для ўяўленьня гэтае Прыроды — ня толькі яркі, жывы, бяспрэчны й беспасярэдне пераконуючы, што здаецца, быццам гэта сама Прырода ў вершах пясьняркі выслаўляецца сама, быццам у паэзыі Прырода любуецца сабой, як у люстры...

І гэта — ясна і ёсьць першай адзнакай шчырай паэзыі, якая раскрываецца цалком толькі тэй чулай і творчай душы дзіцяці, жанчыны, песьняра, якія не парвалі яшчэ гэтай *“спачатнай сувязі з Прыродай”*, не падняліся яшчэ й тыя галаваломныя, зваротныя *“Краіны Духу”*, на якіх так бязумна й няўдзячна рвуць гэтыя сувязі, злучаючы чалавека з улоненьнем вечнае Маткі-Прыроды, гатуючы гэтым самым няўхільныя цярпеньні, трагедыі, катастрофы ў будучыні…

Паглядзім-жа — як адбіваецца *“дзяцінна-жаноцкая”* душа гэтае вернае дачкі Прыроды ў ейных творах.

Трэба адразу адзначыць, што надзвычай удачна выбраны загаловак зборніку, добра азначаны гэты агульны характар яе паэзыі, яе — сьветапогляду. *“Пад сінім небам”* — пад *“ясным Сонцам”* — у неразрыўнай сувязі з Маткай-Прыродай — вось у чым бачыць зьмест, хараство й шчасьце паэтка. *“Сіняе Неба”* і *“сонца вясеньняга першыя косы”*, вось — наймагутнейшыя, сьветлыя, дзіўныя сілы, якія твораць жыцьцё, даюць самі сабой сілу душы й цела, сцаляюць ад усіх-уселякіх хваробаў і *“смуткаў шэрае зямлі”*, вызваляюць *“ад няпрыветных песьняў гора”*…

*“Пад сінім небам — няма роспачы”*…

*“У нябесных сінях несьмяротных”*…

*“Бязконцым сьвятам сплывае год”*…

Гледзячы зь верай на сіняе неба, на каторым, як Боства ўсяе Прыроды, зьзяе *“яснае Сонца”*, чалавек сам робіцца прычасным да гэтага *“бязконцага сьвята” “праўдзіва-ўзьлётнага жыцьця-натхненьня без перашкод”*, робіцца шчырым сынам яго жывой *“сіняй несьмяротнасьці”*. Пясьняр, якога менш трымае зямля, якога *“душаць мары жыцьця”*, — ляціць *“на белых крыльлях лятуценьня”* ў гэтае сіняе неба — да пасаду Яснага Сонца — шукаць там *“словачару”* — запраўднага слова магічнай малітвы-паэзыі, — якое дало-б яму, а праз яго і людзём — сілу панаваць над *“марамі жыцьця”*.

Гэткім першым гімнам-малітвай Сіняму Небу і пачынаецца зборнік.

Але адразу відаць, што гэтае сіняе неба Арсеньневай *ня мае нічога супольнага з тым сымбалічным “небам” сьпірытуалізаваных* рэлігіяў, на каторым, як вераць людзі, жыве Бог… Гэтая *“сіняе неба”* нашае пясьняркі — проста, *жывое* — *“вось гэтае”* сіняе неба, якое зьзяе над намі сваімі *“несьмяротнымі*

*сінямі"*. На ім гарыць-сьвеціць жывое залатое *"сэрца неба"* — Сонца, якое *"залатою ласкай"* — быццам жывой крывёй сэрца — залівае *"ціхія палі"* Зямлі…

Перад тварам гэтага жывога відомага Бога Прыроды ня трэба дый ня можна тужыць-сумаваць, — можна толькі *"заглядаць бяз конца ў блакіт празрысты"*.

*"Ні аб чым ня думаць — толькі смутна сьніць"*…

Сьніць аб будучым шчасьці, набіраючыся на ўсё далейшае жыцьцё — цудоўнай, чароўнай сілы Сонца. Бо-ж чалавечая душа, як вучаць усе найстарэйшыя рэлігіі, створана якраз — *"паводле абраза ды падобнасьці"* гэтага Бога-Сонца…

І канец гэтага верша "Май" ясна кажа, аб чым мае *"сьніць"* у Май жыцьця маладая чалавечая душа, *"аддаючыся ласкам сонца"*, — *"Сьніць аб сінім небе, і аб полі чыстым"*,

*"Аб гарачым сонцы, што ў душы гарыць"*.

Слаўны грэцкі філёзаф сказаў даўно крылатыя словы:

*"Я прыйшоў на сьвет, каб абачыць Сонца"*[180].

Нашая пясьнярка ня толькі паўтарае гэтыя харошыя ўдзячныя словы старавечнага мудраца, але дадае да іх штосьць новае. Чалавек прыйшоў на зямлю ня толькі дзеля таго, каб пабачыць Сонца, але і дзеля таго, каб *"нагледзіўшыся на сонца"*, *самому зрабіцца як Сонца*… Паводле гэткага-ж ведамага паэтычнага лёзунгу слаўнага расейскага паэты Бальмонта[181] і яна кідае гэты сьветлы бадзёры покліч — *"Будзем, як Сонца!"*[182]. І яна пяе-залiваецца — з шчырай прасьцінёй першабытнай рэлігійнай веры — свае гімны-малітвы Сонцу; і яна чуе ў сабе, у сваёй душы яго творчую гарачыню — сваю кроўную сваяцтва з гэтым спрадвечным Богам-Сонцам… І яна кліча ўсіх нас — *"быці як Сонца"* — гарэць, сьвяціць, *"будзіць зямлю"*, тварыць на ёй жыцьцё навокал — таксама, як Сонца — радасна, проста, бязынтэрысоўна, шчыра — папросту з надмеру свайго боскага агню, свае творчае душэўнае сілы. Як сонца гарыць і сьвеціць, так-

[180] **Анаксагор з Клазаменаў** (каля 500 — 428 да н. э.), старажытнагрэцкі філосаф, матэматык, астраном. Заснавальнік афінскай філасофскай школы.

[181] **Канстанцін Бальмонт** (рус. *Константин Бальмонт*, 1867–1942), рускі паэт-сімваліст, перакладчык, эсэіст, прадстаўнік паэзіі Сярэбранага веку.

[182] Маецца на ўвазе верш Канстанціна Бальмонта, які пачынаецца наступна: *"Я в этот мир пришел, чтоб видеть Солнце / И синий кругозор. / Я в этот мир пришел, чтоб видеть Солнце / И выси гор"*.

сама і сэрца — *“любіць дзеля таго, што ня любіць яно ня можа”*, як сказаў другі паэта[183]…

Трэба сказаць, што гэтыя гімны, гэтыя запраўдныя малітвы Сонцу належаць да найлепшых твораў пясьняркі — шчырае золата разьлітай у іх паэзыі — быццам беспасярэдне цячэ з самога залатога Сэрца сіняга неба…

*У неба гляне і устане*
*Зноў з нядоляй на змаганьне*
*Верны сын зямелькі шчырай…*

І яшчэ — у тым-жа вершы (“Крыніца”):

*Сілы дасьць яму крыніца (на роднай зямельцы!)*
*Веру — Сонца, што іскрыцца…*
*Сьмеласьць — неба, што сьмяецца…*

Родная *“верная дачка Зямелькі шчырай”* не патрабуе яшчэ адразу падмяняць жывыя родныя, шчырыя стыхіі Прыроды, што спарадзілі яе, — абстрактнымі сымваламі ды сьпірытуалізаванымі абразамі… зложных арганізаваных рэлігіяў. Яна адчувае на сабе беспасярэдне й канкрэтна жывыя й жыватворныя ўплывы Маткі Прыроды. Кахаючая й каханая дачка гэтае спрадвечнае Маці, яна ўсьцяж адчувае на сабе і навокал бесьперарыўныя цуды Неба, Сонца й Зямлі.

Сіняе Неба — спрадвечная краіна, адкуль сплывае на Зямлю ўсялякае шчасьце. — Адсюль

*“смутна-пекнай княгіняю*
*Пазірае спакойна вясна”.*

Адсюль вясна, гэта найвялікшая цудатворка на зямлі, зыходзіць уніз, каб — *“сеяць новыя сьветлыя сны”* — аб шчасьці…

Дык ня толькі чалавек, але і ўся прырода на зямлі — моліцца гэтаму жывому сіняму пасаду Бога нашага сьвету.

У вадным з найлепшых вершаў-гімнаў Небу й Сонцу дадзены абраз такой запраўднай малітвы ўсяе богамольна-ўдзячнае прыроды — у тым вялізным храме, у якім бязьмерна-ахаплюючым скляпеньнем ёсьць небасхіл…

[183] Напэўна, маюцца на ўвазе радкі рускага паэта Аляксандра Пушкіна з верша “На холмах Грузии”: *“И сердце вновь горит и любит — оттого, / Что не любить оно не может”.*

Ня можам устрымацца, каб ня выпісаць гэты харошы і асабліва характэрны для нашай пясьняркі верш цалком:

*Жамчужной мглою хмаркі абвязалі*
*Нябёсы, Сонца цуць.*
*На залатых жытох сярэбраныя хвалі*
*Плывуць, плывуць, плывуць…*
*Які прастор кругом! — Бяз берагу, бяз краю*
*Калышуцца жыта,*
*У ружовым полымі вятраны дзень згарае.*
*Як цёпла — любата!*
*Шматфарбным дыванам, красой-вясной сатканым,*
*Лажыцца сенажаць.*
*І ўдзень і на зары, і ўвечары і зрана —*
*Там жаўранкі зьвіняць.*
*І звонкі іх прызыў, і лёгкія ўздыханьні*
*Красуючых палей*
*Нясуцца да нябёс — малітвай дзякаваньня —*
*Вышэй, вышэй, вышэй…*

Пры жаданьні можна нават правясьці дэтальную паралель гэтага абраза молючайся прыроды з богаслужэньнем у храме… Але гэта было-б ужо залішне *“ад чалавечага”*…

Мы ведаем такія канцавыя абразы-паралелі быццам *“хрышчанай”* у хрысьціянскую веру — ахвярна-церпячай *“на крыжы”* — Прыроды — у слаўнага бэльгійскага паэты Родэнбаха[184] і ў іншых. Але з імі поўнае *“дахрысьціянскае”* сілы і самамэтнага жыцьця, простая, здаровая, сьветлая — удзячная Сонцу прырода Арсеньневай мае вельмі мала супольнага…

Прырода Арсеньневай — зусім жывая, навет неяк — людзкажывая… Гэтае глыбокае пачуцьцё свае кроўнае свайні — сынаўства з Сонцам і Зямлёй, каторыя спарадзілі ўсё, што ёсьць *“пад сінім небам”*, робіць паэтцы блізкімі, як браты ды сёстры, — усе творы ды зьявы ў прыродзе. Шчырым пачуцьцём, цалком ужо незразумелым у нашыя *“разумныя”* часы, паэтка адчувае ня толькі жывымі, але — маючымі быццам душу ды сьведамасьць — усё, што ёсьць у прыродзе.

[184] **Жорж Родэнбах** (фр. *Georges Rodenbach*, 1855–1898), бельгійскі паэт, лічыўся адным з найбуйнейшых франкамоўных пісьменнікаў-сімвалістаў.

У ўсім яе жыцьця-пачуцьці ды сьветапаглядзе ўсьцяж жывы той відаць нясьмяротны ў паэзыі *“спачатны анімізм”*, каторы калісьці прасякаў нашу старадаўнюю *“рэлігію Сонца”*…

Далей мы пакажам, як паэтка, сьпеючы духоўна, прабуе шукаць выхадаў за межы гэтае абмежаванасьці *“стуленага кола вечных паўтарэньняў”*, — *“адвечнае песьні”* Прыроды, каб перамагчы *залежнасьць* ад яе зьменнасьці, каторая — часамі нязносная, часамі страшная чалавеку ў грамадзянстве… Але гэта праўдзіва-людзкія высілкі — тым болей маюць хараства ды высокае павучальнасьці, чым болей маюць хараства ды высокае павучальнасьці, чым болей моцнае ды жывое карэньне мае яе жывая, чулая, творчая душа ў Прыродзе… Яна гэткім парадкам, як кожны запраўдны паэта, нічога быццам не бярэ на веру — з усяго, што існуе ў гатовым відзе ў *“сучаснай духоўнай традыцыі”* — яна сама хоча тварыць-пераживаць усю даўгагоднюю эвалюцыю народнае сьведамасьці — за сваю ўласную *“рызыку й страх”*.

Дык — гляньце, як запраўды жыве ўсё ў яе паэтычнай Прыродзе!

Сонца — жывое, бо гэта — жывы Бог Прыроды й Жыцьця, Бацька ўсяго, што толькі ёсьць *“пад сінім небам”* сьветлага, дужага, сьмелага, радаснага!..

Сонца — ня толькі *“сьветла грэе”*, але і — *“лашчыць спакойна і легка бяз конца”* (стар. 22).

*“Сонца... росы ўсьмешкаю сушыць…”* (“Край”, С. 9).

*“Сонца… нясе пацалункі… заве да сябе…”* (“Пралескі”, С. 14).

*“Пад наглядам Сонца — прападаюць трывогі…”* (“Зімовы ранак”, С. 36).

Ці-ж няясна, што Сонца — жывая істота, сутнасьць якой — ласка, радасьць, Любоў…

Неба — таксама жывое — Яно — *“ласкае Вас”*…

*“Неба сіняе, сіняе, сіняе — ня толькі зьзяе, але — жыве: яно будзіць зямлю ад доўгага сна”*… (“Красавік”, С. 23). Вясна — пэўне-ж што жывая: яна *“пазірае спакойна-смутна пекнай княгіняю”*, *“сее новыя сьветлыя сны”*... (Там-жа).

А восень, быццам паміраючая, і тая — жывая; бо-ж навет канаючы, усьцяж — *“іграе на ліры”* —

*Прыбраўшыся ў кроў і у сонца,*
*У золата — лісьце, ў жамчуг — валаконцы,*

*З ліры сваей здабывае бяз конца*
*Струнаў глухі перабор.*

(“Жоўтыя клёны”, С. 32).

Але восень ня толькі іграе на ліры, але і — гавора:

*Чуюцца, чуюцца восені словы —*
*У фарбах, паўтонах, лісьця і нябёс,*
*У лёгкім дрыжэньні бярозаў бяз мовы,*
*У сьвежасьці льдзістай, што вецер прынёс…*

(“Восень”, С. 35).

Вецер-ветрык, зусім ды бяспрэчна жывы!… бо хлапец-пастушок, ён — *“жартуючы вее”*, *“лашчыцца да кустоў”*, *“штось ім пяе”* на вушка… А часам — *“злы”* — *“адкіне жалейку”*, на якой толькі што граў, дый — *“схаваецца ў кусты”*... (“Красавік”, С. 23, 22, 24, 34).

*“Поўна жыцьця”* (!) жаўтацьвет-сенажаць, што шле да Сонца свае *“зыкі”*, ды ўся *“звоніць песьняй”*… (“На сенажаці”, С. 26).

*“Дыхае — бо-ж — жывое!”* — *“поле ў сонцавых косах”*… (Там-жа).

Жывыя й таполі, што — *“праз сонца штосьці ляніва шапочуць”*.

Клён — нават увосені — жывы ды *“пышны”*, толькі — *“маўклівы”*... (“Восень”, С. 32).

Нават здавалася-б ужо мёртвыя лісты гэтага клёну — *“сыплюцца ціха, жахліва, маўкліва, крыючы зямлю сваім золатам”*... (С. 33).

Зусім жывыя навет — *“маленькія яблынак рожкі”*, каторыя толькі што нарадзіліся — бо яны — *“нібы рвуцца дая сонца лучоў”* (“Вясна”, С. 21).

У харошым вершы “У лесе” паэтка расказуе, як узнавіла яна забытую вякамі *“знаёмасьць”* — з старым жывым *“дзедам-лесам”*… —

*Лес вітаў нас нячутнымі словамі…*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Штось казаў бор… Дубы нярухомыя*
*Слалі з ветрам нам шэпты забытыя,*
*І здаваліось такімі знаёмымі*
*Словы іх, з мовай сэрцайка зьлітыя.*

(“У лесе”, С. 27).

Ці-ж ня ясна, што гэтая *“нячутная мова лесу”*, мова старых дубоў, жывых сьведак тых старадаўніх часоў, аб якіх нам асталіся

толькі казкі ды песьні, гэта-ж — толькі добра забытыя чалавекам *"шэпты"* Прыроды... І вось, гэтую спрадвечную, але амаль што не забытую намі ўсімі *"мову Прыроды"*, зьлітую з *"мовай сэрца"* людзкога — у вадзіную, агульную ды супольную Мову для ўсяго, што толькі жыве *"пад сінім небам"* — ускрашае нам наша пясьнярка...

Але-ж — ня толькі жывое ўсё — *"пад сінім небам"* — удзень, калі сьвеціць-грэе-лашчыць Сонца.

Жывая зусім сама — Ноч! — *"Вечная чараўніца"* — *"ночка ціхая, расістая"*... Яна — ідзе над палямі, лагчынамі, паліць зоры на небе, кідае кроплямі роснымі, дыхае рознымі пахамі ў сонным бару, варушыць галінамі ліпы... ("Ночка", С. 30).

*Ноч сонныя дрэвы прывабіла ласкай,*
*Таемнай, няцяжкай, маўкліваю казкай*
*Апошнія сьцішыла гукі*... (С. 34).

Ды ці-ж ня жывая істота гэта ціхая, цёмная ноч, калі яна — як дзяўчына:

*Акрыўшыся хусткай туману,*
*Нячутна зыйшла на зямлю;*
*Над сьветам, паснулым дарана,*
*Раскінула ўладу сваю...*
*Спляла сіняватыя цені*
*Ад цёмных бяроз і кляноў,*
*І месяца косы — прамені*
*Зьвяла на зямлю зь небясоў.*
*Збудзіла начныя згаворы,*
*Шум — шэлях цяжкое травы,*
*Сьмяялася з жабяга хору,*
*І плакала ў плачы савы...*
*Да сэрца людзкога паволі*
*Вужакай сьлізкой прыпаўзла,*
*Старыя забытыя болі*
*Ізноў паднясла, падняла...*
*Збудзіла ў адных — няіначай,*
*Як жаркай крануўшы рукой,*
*Найгоршыя мукі распачы,*
*У другіх — найвышэйшы пакой...*

("Ноч", С. 25).

Тут Ноч зьяўляецца перад намі — запраўднай чараўніцай нашых казак, ускрашаючы й старадаўнюю веру народную ў дзіўную здольнасьць такіх “надлюдзкіх” істотаў — прыймаць абразы розных зьвяроў….

Нават, здавалася-б, ужо вякі аджыўшы, астыглы, мёртвы месяц, і той запраўды — жывы! Бо й ён — з *“усьмешкай халоднай усходзіць, прыбраўшыся ў мглы”*, на неба…

А ўжо, здавалася-б, на што халодныя, далёкія, няведамыя нам зоры, але і аб тых — з сусьветнай *“мовы сэрца”* — даведалася бясспрэчна пясьнярка, што і яны — жывыя. З пераконуючымі праўдай ды хараством сваіх паэтычна-рэлігійных інтуіцыяў — пясьнярка запэўняе нас, што сама бачыла, як яны, гэтыя зоры, —

*Ранілі халодныя сьлёзы…*

А часамі яна проста чуе, дый прынукае чуць і нас, як —

*Клічуць вечарам зоры*
*У сусьвеце прасторы…*

Усё, усе *“пад сінім небам”* жыве ды жывіцца з гэтых жывых спрадвечных жаролаў жыцьця, усё набіраецца гэтае сьветазарнае сілы й ласкі Сонца…

І ўсё, што выходзіць з глыбіні цёмных, але жывых родных нетраў *“Зямелькі шчырай”*, цягнецца, імкнецца ўгару — *ins hohe Meer*[185] — да *“паўніны жыцьця ў сусьвеце”*, — як кажа добра дабраны (але дрэнна толькі вось перакладзены) эпіграф з Гётэ, які стаіць на чале ўсяе кніжкі... Усё жывое, дужае, здаровае, што спарадзілася на зямлі, імкнецца ў магутным парыве — пад непераможным, чароўным *“зовам Сонца”* — угару, каб хаця на часіну прыняць учасьце ў тым *“праўдзіва-ўзьлётным”*, *“дзіўным, як сон, жыцьці”*, у тым *“бясконцым сьвяце”*, якія пануюць — *“у нябёсных сінях несьмяротных”*... Імкнецца ўгару, але ніколі не адрываецца ад роднае Зямлі…

У гэтым сьветлым, шырокім, магутным ахопе сонцавага Жыцьця ў Прыродзе, зь якога выйшаў дый у якое мае з шчырым давер’ям уліцца, як кропля ў моры, як частка Прыроды-Жыцьця, чалавек, нашая пясьнярка запраўды зьбліжаецца да пантэістычнага сьветапачуцьця вялікага нямецкага паэты, які — у свой чарод — паглыбіў ды ўсьведаміў свае паэтычныя інтуіцыі пад магутным уплывам ведамага нашым чытаром — слаўнага філёзафа Сьпінозы…

[185] *Ins hohe Meer werd’// ich hinaus genießen...* — радок з “Фаўста” Ё. В. Гётэ.

І гэты сонячны сьвет, гэты сьветлы *“пазытыў жыцьця”* — найхарошшая сутнасьць паэзыі Арсеньневай. — Шчырым золатам паэзыі, усімі хварбамі вясёлкі — з усёй сілай ды рэальнасьцяй запраўднага самамэтнага жыцьця — сьвеціць ды грае ён у вершах нашае песьняркі, даючы нам — запраўдную радасьць мастацтва…

II

Але, апрача сьветлага, радасна-сонечнага *“пазытыву”* Жыцьця, існуе і ягоны цёмны жудасны *“нэгатыў”*... Побач з гэтым сіне-залатым *“сьветам дня”* існуе — *“сьвет чорнае ночы”* — *“Цемры-Імглы”*… Побач з вольным прасторам, шырокім бязьмежным, *“лёгкім узьлётным, як сон”*, жыцьцём-натхненьнем без перашкод і *“без роспачы”* існуе — *“зачараваны кут”*, дзе былое вольнае сьветлае калісьці Жыцьцё — запраўды неяк загнана ў кут, адкуль няма ўжо ані ўзьлёту, ані выхаду, дзе ўся сутнасьць існаваньня — у бясьсільнай роспачы, у дарэмнай пакуце, у дарэмных высілках — вярнуць тое, што ўжо нельга вярнуць, паправіць тое, што ўжо — непапраўляльнае…

Але й тут — хай злое, варожае чалавеку, патайное — усё-ж неяк пануе Жыцьцё! Можна сказаць — усьлед за Арсеньневай — што сьмерці быццам зусім няма — *“пад сінім небам”* яе паэтычнага сьвету… Жыцьцё толькі неяк зьмяняе сваю форму, сваё дзённае аблічча на начное, усьцяж астаючыся Жыцьцём…

І тут ізноў пясьнярка ўскрашае старую народную веру спачатнай рэлігіі натуралізму — у несьмяротнасьць жыцьця, у сталую нясталасьць, зьменнасьць яго формаў, але — бязупыннасьць, неперарыўнасьць яго на зямлі…

І вось — дадатнай рысай шырокага паэтыцкага таленту Арсеньневай ёсьць тое, што яна адчувае, ахоплюе ды адбівае Жыцьцё-Прыроду — у усёй яе суцэльнасьці, — ня толькі на шырокіх прасторах пад ясным сонцам, але — у ўсіх *“кутох”*, цёмных ці праклятых, дзе толькі ёсьць — Жыцьцё…

Другі ўступны “праграмны” верш — 1925 г. (бо-ж *“прадмова”* заўсёды — пасьляслоўе!) — добра кажа аб гэтым вялікім жаноцкалюбоўным Сэрцы пясьняркі, дзе запраўды *“жыве й пяе”* ўвесь сьвет…

*Сонца вясеньняга першыя косы*
*Грукат крыніцаў і раньнія росы,*

*Восені жоўтай чырвонай адцені,*
*Смуткі зьмярканьня, начы лятуценьні,*
*Сэрца развагі і сэрца парывы,*
*Песьні, што ўлетку плывуць па-над нівы,*
*Плач лясуна, карагод русальчыны,*
*Чары і зводы начное часіны,*
*Смутнай балотніцы сьмех-прычытаньне,*
*Роднай старонкі ціхое каханьне, —*
*Усё, што у сэрцы жыве і пяе, —*
*Вершы мае…*

Адабражэньню гэтага цёмнага нэгатыву Жыцьця-Прыроды пасьвечаны навет цэлы асобны разьдзел, траха палова ўсяго зборніку.

Гэты аддзел мае назоў “Зачараваны кут” (з крыніцы народнай), і першы, уступны, верш таго-ж назову ёсьць запраўды мастацкім пралёгам да гэтае *“цёмнае паловы Жыцьця”*, аб якой так многа ведала дый ведае дагэтуль, і так многа сказала нашая *“народная крыніца”*… Бо-ж, можа, не знайсьці на сьвеце другога такога народу, які-б, як наш, — так мала жыў вольным, сьветлым, шчасьлівым, узьлётным *“жыцьцём натхненьням без перашкод”*, а так многа вякоў быццам запраўды быў — усімі сіламі сусьветнае Цемры — загнаны ў нейкі *“зачараваны кут”* няволі, бясьсілы, пакуты і роспачы!.. І толькі цяпер магутна адраджаецца на нашых вачох у нетрах ягонай душы дый вырываецца ў вольных рытмах яго новай паэзыі паўзадушаная вякамі, паўзабытая народам — воля да Сонца, да перамогі над чарамі й *“марамі, што душаць у жыцьці!”*.

Мы ня маем тутака магчымасьці вычарпаць усяго глыбокага зьместу гэтага разьдзелу, адкладаючы гэтую ўдзячную задачу на іншы раз. Дамо толькі паняцьце аб тым, з якой шчырасьцю адчувае, з якім мастацтвам малюе, заражаючы нас яго жудой і вечнай трывогай, пясьнярка — гэта цёмны, фатальны “кут” Прыроды. Бо, калі *“нябесныя сіні несьмяротныя”* з іх *“бязконцым сьвятам”* — трэба прызнаць *“раем” “прыроднай рэлігіі”* нашае пясьняркі, дык гэты *“зачараваны кут”* ёсьць яе запраўдным прыродным *“пеклам”*, з якога, як з Дантавага “Інфэрно”[186], — няма выхаду назад тым, што ў яго лучылі.

[186] **Дантэ Аліг’еры** (італ. *Dante Alighieri*, 1265–1321), італьянскі паэт, аўтар “Боскай камедыі”, якая складаецца з трох частак: “Пекла (Інферна)”, “Чыстец” і “Рай”.

У гэтым цудоўным жудасна-імпрэсыяністычным пралёгу забрана ў вадно ўсё цёмнае насяленьне гэтага *"ночнага сьвету"*, вядомага нам усім — з нашых казак ды павер'яў — усе так званыя *"стыхійныя духі"* — астачы даўнейшай рэлігіі — якія, як ведама былі 1000 год назад быццам пераможаны новай рэлігіяй хрысьціянства, загнаны яе *"крыжом ды мячом"* у гэты *"зачараваны кут"*, але чамусьці дагэтуль маюць такую страшэнную, варожаю сілу ды ўладу — *"Цемры-Магілы"* — над нашым народам, закрываючы ад яго — яснае Сонца… Вадзянікі, балотніцы, русалкі, *"страшныя сьліўні з гаці"*, спорнікі, ведзьмы, лясуны, начніцы і г. д. і г. д — аджываюць у гэтым *"куце"*, у гэтай цемры-імгле і — *"кола зьменнае вядуць"*… Вечар быццам мост з царства дня ў царства ночы… Дык зробім поруч з пясьняркай — некалькі крокаў праз гэты мост у гэты сьвет жуды ды цемры.

*В е ч а р… Сонца занікае,*
*Кроў зары бляднее, тае,*
*Тае ў небе, на зямлі.*
*Дрэвы-м а р ы ў гушчары*
*У м г л ы зьліліся сіняй х м а р ы,*
*А н я м е л і ў цішыні.*
*Ч о р н ы м робіцца балота,*
*Йшчэ ч а р н е й — лісты чарота;*
*Толькі зорныя агні*
*Загараюцца ў бяздоньні*
*І ў балотнай н е м а й тоні*
*Адбіваюцца яны.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*І чарот тады з а п л а ч а,*
*Быццам ж а л ь б у, няінача,*
*Ў ц е м р у лесную нясе…*
*З а н я м е л і сосны бору,*
*Ня стрыхнуць дрымоту-змору,*
*Што к ім з нетраў прыпаўзла…*

І так далей, усё ўзмацняецца цёмная, жудасная і гэтага абразу — навекі выгнанага з-пад Сонца, загнанага ў гэты кут жыцьця — чорнага-цямранага-туманнага, нямога, плачучага, жалючагася, ахопленага зморай-дрымотай, нездаровага, схіліўшагася, падгніўшага, струхлелага, *"жудасным гудам гудзячага"*, гушчарнага, імшарна-

га, беспатольнага, дзікога, грэшнага, злога, зводнага, загадкавага, зьменнага, палахлівага, спорна-зьмяінага, атрутна-чароўнага, хрыпла-сіпла мармочучага, галосячага роспачай-адчаем тапельніцы, але ўсё-ж непераможнага для сьмерці — Жыцьця[187]. Адзінай пацехай для ўсяго гэтага *“быўшага Жыцьця”* ёсьць — сьвятло-коска месяца, у якім толькі і адбіваецца для яго навек недаступнае для гэтага *“кута”* Сонца, — быццам сымбалізуючы тыя блядыя спаміны аб няўдала пражытым, ашукаўшым, зламаным, падбітым жыцьці на зямлі ўсіх тых людзёў, што лучылі сюды, у гэты *“кут”* — пасьля так званае *“сьмерці”*…

І запраўды — апрача аднаго вершу — казачкі гэтага разьдзелу аб тым, скуль і як бяруцца песьні паэтаў, *“сьпевы, што вытканы за сьветам”* (“Сны”), усе 7 вялікшых твораў гэтага *“Куту”* даюць прыклады ды апавяданьні аб тым, як фатальна, трагічна ламаецца, падбіваецца, ашукаецца на зямлі — часта найхарошшае чалавечае жыцьцё, якім шматлікім шляхам гэтае жыцьцё, няўдалае, зламанае, — пераходзе з-пад сіняга неба ды яснага сонца ў гэты — *“Зачараваны кут”*.

Зробім кароткі агляд зьместу аддзелу.

*“Балотніца”*, *“прычытаючы ды мучаючы душу ўначы”* сваім плачам, расказуе нам, — як яна, — *“загубіла сваю моладасьць, веру страціла, сілу страціла”*, аддаўшыся душой і целам *“чарнабрываму”*, які — *“жартаваў-гуляў”* з яе маладой душой, а пасьля — кінуў ды пайшоў. Але загубленая на зямлі людзьмі — балотніца ўсьцяж жыве ў сваім *“зачараваным куце”* дый імсьціцца, губячы — топячы ў балоце — падобных да таго, што яе згубіў…

*“Плач старога лясуна”* — чароўна расчулячы, поўны глыбокага сымбалізму абраз *“Бор вырубалі”* людзі, руйнуючы спрадвечную сялібу старога лясуна, які — усьцяж плача ад гэтага ў бясьсільнай злосьці. — *“Доўга равець ён, пакуль ня ўмецца”*.

А мы-ж ведаем, якую глыбокую спрадвечную забытую людзкую мудрасьць хавае ў сабе лес — з вершу “У лесе”. Другі верш аб лесе (С. 47) кажа, што лес гэта *“хорам быццам незямны”*, у які трэба ісьці маліцца, калі хочацца плакаць, калі людзі пакрыўдзяць цябе… Бо-ж толькі там знойдзе — у яго спрадвечнай цішы — сцаленьне…

[187] Усе гэтыя пітэты ўзядзены з багатага імпрэсыяністычнага слоўніка пралёга. — ***У. С.***

Толькі там пачуеш ты — *"у шэпце лісьця"* — *"з мовай сэрцайка зьлітым"* — словы найвялікшае мудрасьці й пацехі, якая толькі ёсьць для чалавека на сьвеце, аб якой кажа чалавеку ўся прырода: *"Ты даруй неразумным, як я..* — скажа лес. —

*І адыйдзе паволі нуда...*
*Уцяміш ты, што нядоля твая*
*Гэта — кропля у моры жыцьця,*
*Дзе усюды — і боль, і бяда...*

Але гэтае спрадвечнае *"пасыўнай мудрасьці расьлінаў"*, мудрасьці пакоры, тае мудрасьці, што на руйнаваньне жыцьця адказуе толькі бясьсільным плачам ды *"рэзыгнацыяй"* старога лясуна, — не разумее дый ня хоча болі слухаць сучасны чалавек — актыўны ды ўмелы барацьбіт за сваё *"мейсца пад сонцам"*, *"пад сінім небам"* — за сваю долю! Шкада чуламу сэрцу паэты — і гэтага бору, і гэтага лясуна... Але — няхай гэты лясун ідзе ў *"зачараваны кут"* — з сваёй бясьсільнай злосьцяй проці новага жыцьця ды з пакорнай мудрасьцяй старога лесу!

Жудаснае "*Вясельле*" ізноў кажа аб тым, як —

*...спраўлялі вясельле ля млына*
*— Вадзяны дзед з заліўцай-дзяўчынай,*

Маладое жыцьцё якой таксама, відаць, зламалася на зямлі...

Харошая вершаваная казачка "*Зорка*" вуча аб тым, як імсьцяцца дзяцюком *"лятавіцы, злыя чараўніцы"*, што *"ў васеньнюю ночку сыплюцца (зорным) дажджом на зямлю"*...

*Зоры ёсьць такія — ясныя, ціхія, —*
*Душы праклятыя там жывуць, чуваць...*
*І за крыўду гэту да скончэньня сьвету*
*Пакляліся мсьціцца — людцаў чараваць...*

Далей харошая казачка апавядае аб тым, як гэткая *"зоркай зьляцеўшая, скінуўшаяся дзяўчынкай"*, *"праклятая душа"* збаламуціла ў зорную ноч дзяцюка, што пакахаў яе — з усёй бясспыннай гарачынёй песьняра-паэты... А калі зводнай дзяўчынцы прыйшла пара ізноў абярнуцца зоркай на небе, пясьняр, сьціснуўшы яе, — разам з ёй... падняўся над борам, але — затрымаць *"зоркі"* ня мог... Дый сам абярнуўся ў жаўранка , а з таго часу — жыве — пясьняр! — неяк

між небам і зямлёй, усьцяж высіляючыся, але — дарма! — даляцець да тае зоркі, што сьмяецца з яго горка на небе —

*І хлапіца-жаўронка зводзіць, злая, зноў…*

Горка-жудаснае, абвеянае вялізарным, нялюдзкім, хапаючы за сэрца сумам, апавяданьне “Шчасьце” кажа аб долі — *“долі й шчасьцейку”* на нашай зямельцы найхарошшай дзяўчынкі-сіраціны, каторай матка — *“у рацэ ўтапілася”*, а *“бацькі ня ведала нават дзяўчына”*… Усё выцярпела, зьнясла, перамагла, *“працуючы на чужую сям’ю”*, дужая, гордая, дзіўна-прыгожая дзяўчына. Не прамагала толькі вось у сэрцы — жаданьня шчасьця. Чараўнік-млынар, да каторага Галіна йдзе, каб раскрыў ёй будучыню, і варожа ёй — вялізарнае, нячуванае шчасьце! —

*Будзеш шчасьліваю, кажа Галінцы,*
*Дзякуй скажы тэй шчасьлівай хвілінцы,*
*Як радзіла да жыцьця цябе маці:*
*Лепшае долі людзём не спазнаці…*

І спраўдзілася хутка жудасна-іранічная варажба старога млынара:

*Жыта на ніве яшчэ не дажалі —*
*Галю ў гаёчку за вёскай хавалі…*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Верыла Галя, што шчасьце ўжо блізка…*
*Так і сканала, як сонейка нізка,*
*Нізка стаяла, і першыя зоры*
*Ужо запаляліся ў небным прасторы…*

Так і перайшла яна — па вячэрняму *“масту”* — з *“дзённага сьвету”* ў *“зачараваны кут”*…

Ганьба і гібель таму сьвету, у якім найвялікшае шчасьце для такой дзяўчыны, як Галіна, — памерці маладой!

“Народнае апавяданьне” быццам нейкі сумны, цёмны *“нэгатыў”* ясных, вясёлых “Трох Будрысаў”[188] Міцкевічавых[189] — *“Тры Браты”*, — кажа аб тым, як тры браты — паляўнічы, араты ды

[188] **“Тры Будрысы”** — “Літоўская балада” Адама Міцкевіча. На беларускую мову твор пераклаў Янка Купала.

[189] **Адам Міцкевіч** (1798–1855) — беларуска-польскі пісьменнік, класік польскае літаратуры.

паэта — паехаўшы ў сьвет шукаць *“прыгожую дзяўчыну, жонку-любку-гаспадыню”*, усе — у розны час, ды ня ведаючы адзін аб адным — знаходзяць адну і тую-ж зводніцу дзяўчыну-красуню, дый, пакахаўшы яе болі жыцьця — свайго ды братавага, — гінуць усе трое — *“тры браты, тры братабойцы”* — у вапошняй — *“крывавай бойцы”* — *“з-за харошага дзяўчаці”*.

Ізноў і тут — у фатальнай залежнасьці ад *страсьці*, якую ня можа, ня мае сілаў перамагчы жывучы цалком у Прыродзе *“прыродны чалавек”*, — адчуваецца цёмная варожая чалавеку сіла, што цягне яго з так харошых — *“у дзень прыгожы яснавокі”* — прастораў сьвету ў ягоны — *“зачараваны кут”*.

Апошні, найвялікшы твор у зборніку — *“Лебядзінае возера”*[190].

Ізноў, як і ўсё, — што піша — бо-ж творыць, як сама Прырода! — Арсеньнева, і гэтая казка — пад харошай, чыста народнай формай зьмяшчае глыбокую думку, якая, ня пытаючыся аб тым, ці мела намер гэты сьведама пясьнярка, ці разумела тое, што творыць — сама сабою ўзрастае ў зложны сымболь, усёахопліваючага зьместу. Гэтым сваім сымболізмам зьместу паэма-казачка Арсеньневай вельмі напамінае ведамы беларускаму чытару — у перакладзе — твор Уладз. Караленкі[191] “Лес шуміць”[192].

Толькі там *“судзьдзёй”* над праступным панам, які залішне лёгка захацеў зьняважыць *“адвечны закон Прыроды”*, забрудзіўшы распустай харошую жонку свайго халопа-паляўнічага — страшным судзьдзёй, што заступіўся за пакрыўджанага халопа, зьяўляецца — лес… Мы бачым, што ў мужской *“філёзофіі прыроды”* ўкраінска-расейскага мастака-народалюбца[193] лес зусім не такі ўжо *“пакорнамудры”*, як у нашай пясьняркі, — з яе па жаноцку чулай, але яшчэ не дайшоўшай цалком да новае мудрасьці-барацьбы, душой… “Лес” Караленкаў — шуміць, кліча да сябе буру-навальніцу, не шкадуе сваіх адзінак-дзярэў — кінуць у барацьбе проці распусты пана,

[190] Адзначаем і тут блізкі матыў у цытаванага ўжо Родэнбаха, што так любіў абразы белых лебядзеў. — ***У. С.***

[191] **Уладзімір Караленка** (рус. *Владимир Короленко*, 1853–1921), рускі пісьменнік.

[192] Сцэнічны абразок паводле апавядання зрабіў Францішак Аляхновіч.

[193] Уладзімір Караленка нарадзіўся ў Жытоміры. У юнацтве далучыўся да народніцкага руху.

і гісторыяй, нацыянальнай індывідуальнасьці. Бо-ж — толькі ў гэтым сваім нацыянальным сьвеце можа вольна і шырака разьвіцца, глыбака ўкараніцца дый высака ўзьнясьціся — як кожная паасобная чалавечая адзінка народу, так роўна і ўся вялікая асоба народу-гаспадара. Народу трэба ведаць сябе! А найлепшую веду сябе, зразуменьне дый усьведамленьне сваёй істоты ў сучаснасьці дае гісторыя — веда сваёй мінуўшчыны.

І якраз тутака найслабейшы бок нашай нацыянальнай сьведамасьці: наш народ жыве і цяпер яшчэ блізу цалком *"па-за гісторыяй"* — быццам тая жывёла — *"на лоне прыроды"*, з году ў год паўтараючы сваю *"адвечную песьню"*, цяжкой працы ў нейкім *"зачараваным коле вечных паўтарэньняў"* — безь ніякага поступу наперад, безь ніякага *"зьбіраньня капіталу"* — духоўнага і матэрыяльнага, без чаго і ня можа быць наагул ніякага поступу, ніякага духоўнага жыцьця, ніякай гісторыі, ну і, зразумела-ж, — і ніякай будучыні для народу! Народ, які жыве толькі, як жывёла, і здабудзе сабе толькі лёс жывёлы, на якой езьдзіць ды працаваць, якую даіць, стрыгчы ды есьці будуць заўсёды іншыя народы, пакуль не заезьдзяць ды не зьядуць яго цалком і дарэшты... Дый ці-ж ня бачым мы якраз гэтага сумнага вобразу нашай долі — як на Ўсходзе, так і на Захадзе.

Так было, так ёсьць, дый так будзе, пакуль народ наш будзе жывёлай і ня станецца асобай. Найвышэйшая роля і заданьне нашай маладой інтэлігенцыі — у тым, каб пeратварыць наш народ з жывёлы ў асобу.

Нацыянальна-чалавечая асоба народу ведае, любіць, зьбірае і захоўвае сваю мінуўшчыну, плятучы зь яе жывую гісторыю, жывую тканіну свайго несьмяротнага жыцьця. Праца сягодняшняга дня — гэта-ж і ёсьць пeратварэньне жывой мінуўшчыны ў жывую будучыню народу.

Калі сам Беларус не зьбярэ дый не захавае для сябе здабытую ды расьцярушаную па ўсім яго Краі-Бацькаўшчыне яго мінуўшчыну, дык нехта іншы зробіць гэта для сябе, падмяніўшы беларускую мінуўшчыну нашага краю нейкай іншай — чужой… Дый ці-ж ня робіцца гэта на нашых вачах тутака ў белы дзень?! Дык можа пара ўжо і нам забраць голас у гэтай нашай справе, распачаць плянова, адкрыта і горача гэтую сьвятую для нас, неабходную для нашага нацыянальнага разьвіцьця працу — зьбіраньня нашай мінуўшчыны

дый ператвараньня яе ў жывую нашую будучыню?! Бо-ж тое, што для чужынцаў тутака прадстаўляе нейкую *“цікаўнасьць”*, як мёртвыя *“забыткі”*, для музэяў, для археолёгічных калекцыяў, архіваў, для нас, беларусаў, гэта — абрыўкі нашага жыцьця, кавалкі нас саміх, нашага нацыянальнага цела, нашай душы, ды ўсё гэта зусім ня мёртвае, але жывое, толькі неяк *“заснуўшае”*, — пакуль сьпіць, забыўшы сваю мінуўшчыну, наша душа! Але зараз-жа ўсё гэта ажыве, як толькі збудзімся са сну мы самі! Дый тады мы пазнаем усю вялізарную вартасьць, усю родную кроўную блізкасьць для нас гэтых усіх абрыўкаў, *“забыткаў”*, кавалкаў даўнейшага жыцьця, якое калісьці буйна, вольна, шырака жыло. Дый усё гэта, кажам мы, мае цудоўную сілу ізноў ажыць, як толькі ажывем мы самі, ускрэшаныя нашай любоўю да нашай вялікай нацыянальнай асобы — жывой, адзінай і непадзельнай — у яе мінуўшчыне, сучаснасьці ды бязьмежнай будучыні!

Скарыніч вучыць, як зьбіраць ды захоўваць беларускія географічныя ды асабовыя назовы дый тлумачыць, дзеля чаго гэта патрэбна.

Трэба, каб наш край, кажа ён, *“захаваў свой собскі выгляд”*.

Трэба, каб хаця-ж толькі самі беларусы захавалі дый заўсёды ўжывалі свае ўласныя, спрад вякоў існаваўшыя назовы местаў, вёсак, рэкаў, асабовыя імёны і г. д. п.

Бо-ж на нашых вачох усе гэтыя беларускія старадаўнія назовы зьмяняюцца цяпер на польскія, як даўней, праўда, зусім яшчэ нядаўна — зьмяняліся на расейскія.

Кніжка Скарыніча была сканфіскаваная за хіба-ж залішне гарачае яго абурэньне на тое, што гэткая крыўда запраўднаму беларускаму аблічча краю рабілася дый робіцца ўсьцяж з такім *“лёгкім сэрцам”*… Рэзкі заклік яго да сумленьня — як тых, хто робіць гэта, так і тых, што прыглядаюцца да гэтага бязьдзейна, і выклікаў кару… Але-ж тым, што караюць беларусаў за гэтае шляхотнае абурэньне, трэба прыпомніць, як горача — дый таксама шляхотна — абураюцца яны самі на тое, што робяць з адвечнымі польскімі назовамі немцы на сваіх *“усходніх крэсах”*.

Беларуская прэса заўсёды паказывала на той дэмаралізуючы момант у польскай агульна нацыянальнай ідэолёгіі, калі тое, што лічыцца добрым, патрэбным, маральна і нацыянальна асьвячоным на ўсходніх крэсах, кляйміцца як агіднае, маральна і нацыянальна

недапусьцімае на крэсах заходніх… Калі палякі абураюцца тым, што немцы перакручваюць адвечна польскія народныя назовы на нямецкія, дык трэба разумець такое-ж абурэньне на такое-ж перакручываньне беларускіх назоваў на польскія.

Але-ж Скарыніч мае галоўнай мэтай не абурэньне на *“апалячваньне беларускіх назоваў”* з боку польскага ўраду й польскага грамадзянства. Яго галоўнае заданьне — зьвярнуцца да саміх беларусаў, каб яны самі захоўвалі дый ужывалі заўсёды, баронячы ад загубы, ратуючы ад пагражаючай магілы свае беларускія назовы, гэтыя жывыя слоўныя прыборы ды адзнакі, дадзеныя жывой беларускай прыродзе, культуры і мінуўшчыне краю адвечным яго жыхаром.

Трэба памятаць, што ўсе гэтыя назовы, якім часта — па некалькі сталецьцяў, а то і тысячалецьцяў веку, складаюць важную частку беларускай мовы і гісторыі! Гісторыя культуры, слушна кажа Скарыніч, шмат карыстаецца з географічных і асабовых назоваў. Таксама прыродаведаньне. З гэтых назоваў можна даведацца, дзе і якія расьліны расьлі або і растуць цяпер. Географічныя назовы памагаюць пазнаваць даўнейшае расьсяленьне беларускіх плямёнаў, пашырэньне іх ды перасяленьне… І так далей.

Высьветліўшы значэньне ды важнасьць гэтае працы для агульна-нацыянальнага самаўзгадаваньня, аўтар дае практычныя рады, спосабы ды ўзоры, як яе выконываць і дзеля мэтаў навукова-дасьледчых. Бо-ж гэтай працай мае заняцца, плянова і паважна, як гэта робіцца ўжо некалькі гадоў на Беларускім Усходзе, нашае заходняе беларускае студэнства.

Можам толькі пажадаць нашым маладым дасьледчыкам сілы і вытрываласьці ў важнай працы, а ўсёй беларускай інтэлігенцыі, да якой зьвярнуўся Студэнскі Саюз, поўнага зразуменьня важнасьці паднятай Скарынічам і намі тутака дый сьведамага ды гарачага супрацоўніцтва ў супольным дзеле ўзгадаваньня нашай нацыянальнай асобы, украпленьня яе *“гістарычнай памяці”*, безь якой, паўтараем, народ ёсьць толькі жывёла, але ня ёсьць асоба.

Нядаўна памёршы маршалак Фош[215], які быў ня толькі геніяльным ваенным павадыром французскага народу, але і зыркім дасьледчыкам агульных мэтадаў самазахаваньня і самаабароны народу

[215] **Фердынанд Фош** (фр. *Ferdinand Foch*, 1851–1929), французскі вайсковы дзеяч, военачальнік часоў Першай сусветнай вайны, маршал Францыі.

ад ворагаў і спосабаў забясьпечаньня вечнага існаваньня народу, сказаў, што — “*толькі той народ, які мае добрую памяць, здолее захаваць сябе ад загубы*”. Фош баяўся, што француcкі народ залішне ўжо хутка забудзе аб мінулай вайне, аб небясьпецы з боку Нямеччыны.

Але і наагул — як у прыродзе, гэтаксама і ў “*грамадзкай прыродзе*”, у гісторыі — мець ворагаў — ня толькі ня страшна, але, як вучаць і біолёгія, і гісторыя, нават патрэбна, нават неабходна! Трэба толькі добра і ў кожную хвіліну памятаць аб іх існаваньні дый — аб усіх найдрабнейшых фактах, спосабах, штуках бязупыннай зь імі барацьбы. Трэба памятаць, як добра трэбуе Фош, — аб усей тэй “*ваеннай гісторыі*” народу, зь якой запраўды-ж складаецца хіба галоўны зьмест усёй яго нацыянальнай гісторыі і ідэолёгіі.

## НА ЧУЖЫНЕ…[216]

Рознакалёрнымі ўзорамі мігцяць ліхтары і рэклямы. Сьвіст і грукат трамваяў, вазоў, самаходаў — бяз устанку зьвініць у вушох.

Гаманлівая таўпа сунецца бязьмежнаю хваляй, снуе мурашнікам людзей…

І я сярод хвалюючае масы іду, плыву, як човен на моры…

Адзін. Ня чуваць тут знаёмага слова, ня радуюць сэрца родныя гукі і вобразы…

Блукаю, як адарваны ад дрэва ліст, гнаны бурай у няведамую даль…

Бязьмежная туга адзіноты прагавітаю п’яўкай смокча з сэрца радасьць і спакой…

У тужлівых вачох палахліва ўстаюць вобразы роднага краю, цені-зьявы сьветлай мінуўшчыны.

Шэрыя палеткі, польныя дарожкі, таёмны пошум хваёвага лесу, плач белых бярозаў…

Восень… Лес шуміць бязьлістым рэшатам галінаў, пласты пачарнелага лісьця засьцілаюць прымерзшую зямлю…

---

У 1918 г. Вярхоўны галоўнакамандуючы саюзнымі войскамі, які падпісаў Камп’енскае перамір’е, што завяршыла вайну.

[216] Тэкст падпісаны псеўданімам *А. Чэмер*. Друкуецца паводле: Калосьсе. 1935. № 4. С. 208.

Месяц таёмна-халодным сьвятлом агартае пустыя палі; сухія чароты хмурна ўглядаюцца ў халодныя воды…

Доўгія цені кладуцца на ўзгоркі і лагчыны, зоры баязьлівым дрыжаньнем усеялі далёкае неба…

Жартаўлівыя зайчыкі скачуць па полі, абгрызаючы пасохшы лубін, азімыя пасевы…

……………………

Таўпа як укапаная замерла на тратуары.

Скрыганулі тармазы, асьляпляючае сьвятло лінула ў вочы….

Хутка мяшаюся з таўпою ды йду далей, агорнуты рытмам вялікага места…

Ізноў ліхтары ды рэклямы мазоляць мне вочы, а родныя вобразы зьнікаюць у імгле…

Не! Ня зьнікаюць, а хаваюцца на дне душы, каб кожную хвілінку прыпамінаць, што мы жывём ня толькі для сябе! Што нас чакае Бацькаўшчына, браты!...

І мы прыйдзем!

Прыйдзем са ўсіх куткоў сьвету на кліч Беларусі!!!

## Ліст да Браніслава Эпімаха-Шыпілы[217]

1909 [г.] 2/ХП
[Мінск], Юрьевская ул., д. 18, кв. 5

Многоуважаемый и дорогой Бронислав Игнатьевич!

Давненько не писал Вам,— не получал от Вас вестей. На праздниках — 100 против 1 за то, что буду в Питере и, если еще помните меня и хотите видеть, зайду к Вам.

Теперь же хочу обратиться к Вам письменно все по поводу нашего бедного Янука[218]. Кажется, он собирается в Питер и думает заехать к Вам, воспользовавшись Вашим давнишним приглашением.

Конечно, просить Вас принять в нем участие нечего. Вы были крестным отцом его творений, его литературным опекуном, таким же Вы останетесь для него и лично. Мне он очень дорог как единственный и недостаточно оцененный поэт современной Белоруссии. Только Вы его и цените правильно. И мне просто страшно за него в Питере.

Ивановский[219] его берет, кажется, пока в Суполку[220], предполагая устроить ему какую-либо работу для заработка постоянного.

---

217 Друкуецца паводле публікацыі: Пуцявінамі Янкі Купалы. С. 53.
**Браніслаў Эпімах-Шыпіла** (1859–1934), грамадска-культурны дзеяч, выдавец, фалькларыст, мовазнаўца, літаратуразнаўца. У часе напісання ліста ён працаваў у бібліятэцы Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, быў адным з заснавальнікаў выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца".

218 Маецца на ўвазе Янка Купала.

219 **Вацлаў Іваноўскі** (1880–1943), палітычны і грамадскі дзеяч, міністр асветы ва ўрадзе БНР пад кіраўніцтвам Антона Луцкевіча. Ад 1906 г. узначальваў выдавецкую суполку "Загляне сонца і ў наша аконца".

220 Маецца на ўвазе выдавецкая суполка **"Загляне сонца і ў наша аконца"** — першая легальная беларуская суполка, якая дзейнічала ў Санкт-Пецярбургу ў 1906–1914 гг.

Цель его приезда — учиться. Между нами говоря, Купала как истинный поэт ленив и больше верит во вдохновение, чем в труд. Эту веру надо в нем оздоровить — как раз настолько, чтобы не убить вдохновения. И я думаю, что пребывание у Вас, хотя и временное, окажет на него именно это благодетельное влияние. В Вильне как раз этого условия — не убий, не угашай духа, любви — не было, и часто у них с редакцией было не совсем ладно и складно. Он, кажется, поленивался, его недооценивали. Помогите ему Вашим прекрасным, испытанным трудом, но сохранившим всю свежесть юношеской чистоты и веры в человека сердцем. В Ваше влияние я глубоко верю. Любовь женщины — любовь слепая, распыляющая душу, творит чудеса, но эта любовь лишь будит "чудо", сия[ю]щее в поэте; любовь мужского духа, зрячая, просвещенная, собирает душу поэта чистейшим чувством дружбы и благодарности, делает из него истинного рыцаря духа без страха и упрека — героя не на час, а на всю жизнь. Такое чувство нужно разбудить и воспитать в Купале,— без него нет поэта. И объект этого чувства, субъект этой миссии — Вы. Купала Вас полюбит, помогите ему. Боюсь я за него очень.

Жму Вас крепко, крепко. Всей душою Ваш друг и слуга

Влад. Самойло

## Пісьмо ў рэдакцыю[221]

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Цэлы рад унутраных і вонкавых прычынаў прымушае мяне зрабіць публічна гэткага зьместу заяву.

Ад пэўнага часу беларускае грамадзянства падзялілася на некалькі розных групаў, між якімі стварыліся такія немагчыма варожыя адносіны, што яны атручваюць ды руйнуюць усё палітычнае, грамадзкае дый навет папросту — асабіста-прыватнае жыцьцё ў грамадзянстве.

Скуткі гэтага страшнага ненармальнага стану — перад вачыма ўсіх.

Асабліва несьцярпімае палажэньне вытвараецца гэткім станам грамадзянства для тых, хто жыве ў стычнасьці з ім, не залічваючы сабе азначана ні да аднаго з варожых "абозаў".

[221] Друкуецца паводле: Наша Праца. Вільня. 1927. № 7. 22 кастр. С. 4.

Але — трэба думаць, што — з распачацьцём выбарнай кампаніі, калі і без таго раздражненыя групавай барацьбой ды ненавісьцяй страсьці разгарацца яшчэ страшней, гэткі стан у грамадзянстве яшчэ завострыцца... Усё гэта не варожыць і ў далейшым нічога добрага беларускаму грамадзянству, а праз яго й беларускаму народу, аб якім — у заядласьці групавай ці асабістай барацьбы — яго павадыры часта забываюць…

Зусім асаблівае палажэньне ў беларускім грамадзянстве займаю я. Я заўсёды лічыў і лічу сябе, так сказаць, — непаўнапраўным сябрам беларускага грамадзянства, як нямаючы — ані палітычных правоў у Краі (польскага грамадзянства), ані паўнаты ўласнага беларускага нацыянальнага самапачуцьця і самаазначэньня, нягледзячы на маю кроўную сувязь з Краем і маё бязьмежнае жаданьне працаваць на яго карысьць. Дзеля таго я павінен і пачуваць сябе толькі як быццам *"госьцем"* ці *"працаўніком"*, ня бяручы на сябе абсалютна ніякай адказнасьці за ўсё, што робіцца ў беларускім грамадзянстве яго паўнапраўнымі, а дзеля таго і бяручымі на сябе паўнату адказнасьці сябрамі. Я быў гэткім чынам тутака заўсёды — у найвышэйшай меры *"прыватным чалавекам"*. І я ўсьцяж рабіў, насколькі ў мяне хапала сілы, — усе высілкі, каб лагодзіць усё ўзрастаючуюся, усьцяж шалеючую варожасьць паміж раскалоўшымі грамадзянства групамі, стаўшыся амаль не *"фаховым"* разьемным судзьдзёй у лічных справах іх павадыроў, выступаючы аднолькава як паўнамоцнік то тэй, то гэтай стараны… Дагэтуль я не забіраў ніколі — за ўвесь час майго сужыцьця з беларускім грамадзянствам — адкрыта голасу ў яго прэсе, выпаўняючы ў ёй толькі працу *"фахоўца"*.

Цяпер — бо-ж больш не магу вытрымаць! — я ўпершыню забіраю голас з аднаго боку — дзеля апошняй перасьцярогі: даволі гэтай маральнай атруты — узаемнага нігілізаваньня! даволі гэтага самаруйнаваньня! даволі ахвяраў гэтага страшэннага падзелу! Гэты падзел пры нашай слабой культурнасьці дый асабліва зложаных і цяжкіх абставінаў жыцьця — ідзе нажаль значна, ах, значна далей, як нармальны падзел грамадзянства на палітычныя партыі ці грамадзкія групы, ня толькі распыляючы, але, як сказана, папросту руйнуючы, зьніштажаючы грамадзянства, якое і бяз таго ня можа пахваліцца багацьцем людзей, здольных да культурна-будаўнічай працы… Гэта — з аднаго боку. А з другога, я гэтым прымушаны заявіць, што я ня маю больш папросту ані фізычных, ані маральных сілаў знасіць такі стан таго грамадзянства, сябрам якога

я хачу сябе лічыць, — я не магу ня толькі працаваць, але папросту не магу больш дыхаць атручанай атмасфэрай, якая створана гэтым нігілістычным, запамінаючым аб людзкіх і боскіх законах, аб інтарэсах і маральным здароўі грамадзянства й народу, — падзелам і яго скуткамі… Ня маючы ізноў паўнапраўнай волі і ўласнага самапачуцьця ў беларускім грамадзянстве, каб распачаць якую-небудзь уласную, адкрытую, адказную акцыю — грамадзка-палітычную, — скіраваную на перамогу страшэннага зла падзелу, я магу, пасьля гэтай сваёй перасьцярогі, фактычна зрабіць толькі адзіны, астаючыся для мяне магчымым, а канешным — крок. Калі дагэтуль я быў абмежаваным дый самаабмежаваным *“homo privatus”*[222], дык цяпер я раблюся — у беларускім грамадзянстве *“homo privatissimus”*[223].

Практычна гэта мае значыць тое, што я раблю сябе сам яшчэ больш і яшчэ далей абмежаваным у сваім сужыцьці і супрацы з беларускім гармадзянствам. *Я фармальна выходжу з усіх беларускіх таварыстваў, дзе я ад даўняга часу быў, — праўда, у апошнія часы — зусім ужо нячынным бязьдзейным сябром.* Бо-ж я не магу — паводле агульнага падзелу беларускага грамадзянства на групы — таксама дзяліць беларускую навуку, мараль, культуру, гаспадарку, школу і г. д., як гэта змушаны рабіць падзеленыя паміж варожымі групамі існуючыя беларускія таварыствы і іншыя ўстановы… У дадатак — дзяліць тое, чаго і без таго — драбніца…

Я складаю з сябе апошнія рэштві грамадзкіх правоў і грамадзкай адказнасьці, якія яшчэ, прынамсь намінальна, меў у беларускім грамадзянстве як сябра гэтых таварыстваў... І гэткі мой стан *“анабіозу”* (*“паўсьмерці”*) будзе трываць дагэтуль, пакуль існуючы ў грамадзянстве ненармальны, шкодны падзел прынамсь не пазбавіцца сваіх самазабойчых *“нігілізмаў”*… Можа, трэба было-б зрабіць — якраз наадварот — астацца і працаваць усьцяж... Я гэта разумею. Але на гэта я ўжо ня маю сілаў. Ня слухалі мяне раней, калі з усіх сілаў працівіўся падзелу, пераконваючы ў яго страшэнных няўхільных скутках… Пэўна-ж — не паслухаюць і цяпер. Цяпер, калі гэтыя скуткі прыходзяць усё ясьней і страшней, вінаватыя павінны самі адбыць грамадзкую кару дый у яе жудзе — зразумець віну і адрадзіцца…

---

[222] ***Homo privatus*** (лац.) — чалавек прыватны

[223] ***Homo privatissimus*** (лац.) — чалавек найпрыватнейшы.

Пакідаю сабе толькі — вольнае і абсалютна неадказнае супрацоўніцтва асьветна-інфармацыйнага характару ў беларускіх часопісях, якія гэтага пажадаюць. У заключэньне дадаю, што ніякай асабістай уразы ні да каго з паасобных сяброў беларускага грамадзянства ня маю.

Шчыра спагадаючы амаль ня роднаму мне беларускаму народу, астаюся назаўсёды

Уладзімер Самойла.
15 кастр. 1927 г., Вільня.

**Ад Рэдакцыі**. Зьмяшчаючы пісьмо грам. Ул. Самойлы, рэдакцыя, як стаячая на груньце клясавай барацьбы, лічыць падзел беларускага грамадзянства на розныя палітычныя партыі, якія выражаюць інтарэсы і імкненьні розных клясаў беларускага народу, зусім нармальным і станоўча не згаджаецца ў гэтым з аўтарам пісьма. Аднак рэдакцыя зусім згодна з аўтарам, што да шкоднасьці і згубнасьці для беларускага грамадзянства тых формаў барацьбы (маючых выраз у даносах і інсынуацыях на сваіх палітычных праціўнікаў), якімі карыстаюцца ў вапошні час некаторыя беларускія палітычныя групы і партыі.

## Лісты да Уладзіслава Талочкі[224]

Глыбокапаважаны а. Уладзімір[225]!

Найперш — "мерсі" за марку. У мяне з гэтай серыі — толькі адна. А цяпер вернемся да спраў. Лекцыя спадарыні Ліхаравай[226] была

[224] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21). Упершыню былі апублікаваныя ў: Гарбінскі, Ю. З эпісталярнае спадчыны Уладзімера Самойлы // Запісы БІНіМ. Вып. 25. Нью-Ёрк — Менск, 2001. С. 131–138. Тут друкуюцца паводле першапублікацыі, але з каментарамі і ўдакладненнямі датаў, зробленымі Аляксандрам Пашкевічам.

[225] Імя "Уладзімір" часта выкарыстоўвалася ў дачыненні да Уладзіслава Талочкі (у тым ліку і ім самім) як у прыватнай карэспандэнцыі, так і ў публіцыстыцы. Хутчэй за ўсё, гэта было імя, прынятае ім для правядзення набажэнстваў у каталіцтве ўсходняга абраду.

[226] **Сафія Аляксееўна Ліхарава** (1883–1980), мастацтвазнаўца, краязнаўца, геолаг, педагог. Была дачкой расійскага генерала, па маці мела польскае

вельмі цікавай, таму ўгаварылі яе застацца яшчэ на адну. Адна з нашых дам (вельмі інтэлігентны і сімпатычны чалавек) запрапанавала ёй начлегі і сваю кватэру. Спадзяюся, што і Вы, як ініцыятар лекцыі, прыйдзеце таксама... Быў тут, але толькі пару хвілін, адзін ксёндз. Не ведаю яго. Ды і той вельмі хутка пайшоў. Публікі было мала. Зрэшты, так як заўсёды ў нас *"па срэдах"*. Вельмі зьдзівіў у Вашым лісьце той фрагмэнт, дзе пішаце, быццам *"Бохан*[227] *саступіў Ліхаравай сваю (?!) сераду"*... Пасьля таго, што я напісаў Вам пра ролю Бохана ва ўсёй гэтай справе, напісаць так — тое самае... што не прачытаць майго *"мілага ліста"*. Бохан адказаў ёй, што *"з прыемнасьцю аддае чацьвер... — 7 красавіка, паколькі ўвесь сакавік заняты"*. Так ён піша і мне. Я напісаў яму такі адказ, на які той заслужыў. Шкада, што не пакінуў сабе копіі гэтага ліста. Таму Вам пасылаю толькі яго адказ-ліст да мяне, з якога Вы ўбачыце ўсё *"благародства яго душы"*. Па самой інтанацыі яго ліста адчуеце, як зачапіў Бохана мой ліст. Адказ Бохана быў адмовай, паколькі спадарыня Ліхарава не магла ні сядзець тут яшчэ цэлы месяц, чакаючы ў чарзе на *"боханаўскі чацьвер"*, ні прыехаць за свой кошт у Вільню яшчэ раз у красавіку. Усё гэта я растлумачыў Бохану. Хацеў дамагчыся ад Бохана *"чацьвярга"* для спадарыні Ліхаравай. Бо, як Вам вядома, у *"чацьвяргі"* больш народу, а таму з лекцыі было б больш даходу. Я пісаў Бохану, што звычайна для прыезджых гастралёраў мясцовыя знакамітасьці, пры ўмове ўзаемнай дамоўленасьці з арганізатарам лекцыі, як правіла саступаюць сваё месца з увагі

---

паходжанне і нават у 1905 г. перайшла з праваслаўя ў каталіцтва. Да 1917 г. жыла і працавала ў Пецярбургу (Ленінградзе), у 1929 г. паехала на навуковую канферэнцыю ў Польшчу, адкуль у СССР не вярнулася. У 1929–1932 гг. працавала ў Дзяржаўным геалагічным інстытуце ў Варшаве, ад 1933 г. жыла ў Кракаве, дзе выкладала ў Ягелонскім універсітэце. Пасля Другой сусветнай вайны жыла ў горадзе Кентшын на тэрыторыі былой Усходняй Прусіі. Сярод іншага займалася гісторыяй рускага царкоўнага мастацтва.

[227] **Дарафей Бохан** (1878–1942), літаратар і журналіст, ураджэнец Мінска. У міжваенны час актыўны дзеяч расійскага культурнага і грамадскага руху ў Вільні. Займаўся арганізацыяй лекцый і літаратурных вечарын, кіраваў Літаратурна-артыстычнай секцыяй Віленскага рускага таварыства, якая ў 1936 г. стала самастойнай літаратурнай групай як "Віленская садружнасць паэтаў". Быў таксама старшынёй паэтычнай літаратурнай групы "Барка паэтаў", што дзейнічала пры Віленскім універсітэце Стафана Баторыя. У 1939 г. быў арыштаваны і вывезены савецкімі ўладамі. У 1942 г. уступіў у Армію Андэрса, загінуў у Тэгеране.

на цікавасьць тэматыкі лекцыі. У сувязі з гэтым чарга дакладаў перасоўваецца толькі на тыдзень. У выніку, як я і пісаў, і лектары і прысутныя толькі выйграюць. Першыя атрымліваюць магчымасьць лепш падрыхтавацца з дакладамі, а публіка таксама мае сваё — і ў менш скандалічным настроі. Як рэагаваў Бохан на гэтую маю прапанову саступіць чарговы *"чацьвер"* спадарыні Ліхаравай, Вы ўбачыце з яго ліста, які Вам перасылаю.

У выніку яго адмовы ратаваць стан рэчаў давялося Багдановічу[228] і мне. Мы саступілі спадарыні Ліхаравай *"сераду"*, як вымушаны эрзац *"чацьвяргам"*. Зноў жа такі, саступілі *"посную"* сераду, за якую дакладчыца атрымала толькі некалькі злотых... Да таго ж Бохан не мае ніякага дачыненьня да рэлігійна-філасофскіх рэфератаў па срэдах. Не распараджаецца імі. Нават не прысутнічае на іх. І на гэты раз таксама не быў. Але, думаецца, не таму, што не цікавіўся тэматыкай. Хутчэй, проста зрабіўшы чарговае *"сьвінства"*, зноў жа, як заўсёды, уцёк ад публічнай *"нашлёпкі"*. Зьвярніце ўвагу, што ў сваёй *"аргумэнтацыі"* Бохан гаворыць толькі пра першы *"чацьвер"* — 3-га сакавіка, як пра заняты дабрачынным дакладам на карысьць (асабістую!) для спадарыні Сакаловай[229]. Але яму было прапанавана саступіць наступны чацьвер — г. зн. сёньняшні. Вось пра гэты чацьвер ён і маўчыць. Абвінавачвае мяне ў *"недакладнасьці"*. Але ж спадарыня Ліхарава прыехала ўсё-ткі не *"4 сакавіка"*, а *"3-га"*. Гэта значыць, перад 4-м, так, як я і пісаў яму. Акрамя таго, паслаў і сам ліст спадарыні Л., у якім і сапраўды напісана, што — *"4-га сакавіка"*.

---

228 **Вячаслаў Багдановіч** (1876 — 1941?), беларускі і расійскі грамадска-палітычны і рэлігійны дзеяч. У 1922–1930 гг. сенатар Польскай Рэспублікі, сябра Беларускага пасольскага клуба. Выступаў супраць аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Польшчы і за далейшае арганізацыйнае падпарадкаванне яе Маскоўскага патрыярхату.

229 Відаць, маецца на ўвазе **Тамара Аляксандраўна Сакалова** (1892 — 1970-я?), паэтка, актыўная ўдзельніца расійскага культурнага жыцця ў міжваеннай Вільні. Была жонкай расійскага афіцэра, пасля Грамадзянскай вайны ў Расіі апынулася ў Вільні. Ад 1922 г. загадвала бібліятэкай пры Віленскім рускім таварыстве. Друкавала свае вершы ў многіх эміграцкіх газетах і зборніках. Уваходзіла ў расійскую "Віленскую садружнасць паэтаў", літаратурна-артыстычную секцыю Віленскага рускага таварыства і іншыя культурна-асветніцкія расійскія арганізацыі ў Вільні. Пасля далучэння Вільні да СССР у 1940 г. арыштаваная і адпраўленая на 10 гадоў у лагер у Варкуту, а пасля — у ссылку ў Новасібірскую вобласць. Пасля вызвалення жыла ў Радашковічах, пэўны час выкладала ў мясцовай музычнай школе.

У чым маё *"штукарства"*, гэта — сакрэт Бохана. Справа, аднак, больш простая. Ведаючы, што Бохан са спадаром Рассэтам[230] (вельмі прыстойны чалавек) вядуць *"чацьвяргі"*, я зьвярнуўся да іх. Спачатку да Рассэта. Двойчы наведваў памяшканьне "Русского Общества"[231], але там Бохана не сустрэў. Аднаго разу застаў толькі сп. Рассэта. Яму ж і перадаў ліст спадарыні Ліхаравай з просьбаю — даць яму ход, г. зн. перадаць Бохану. Сам жа Рассэт заявіў, што ён — хворы і нічым цяпер не займаецца. Заходзіў я і на кватэру да Бохана, але і там яго не засьпеў. Пакінуў яму запіску, у якой папрасіў зрабіць усё магчымае для даклада спадарыні Ліхаравай. Распараджацца *"чацьвяргамі"* я не мог, таму толькі прасіў. Прасіў *"чацьвер"*, бо ён *"жирнее"*, чым нашыя *"постные"* (у сэнсе даходаў) *"срэды"*. Ні на кога нічога звальваць не меў права. Як не меў ніякіх магчымасьцяў што-кольвек зрабіць сам. Я не зьяўляюся сябрам "Русского Общества" і не выконваю ніякіх адміністрацыйных функцыяў. Увогуле, не маю нават ніякіх адносінаў да *"чацьвяргоў"*. Толькі тады, калі дзякуючы Бохану, правалілася канцэпцыя *"чацьвярга"*, мы з Багдановічам вырашылі выкарыстаць *"сераду"*. Уласна кажучы, а пра гэта ў свой час Вам пісалася, хоць я і выбраны сябрам *"віцэ-старшыні"* гуртка, але ніякай істотнай ролі ў ім не адыгрываю. Калі не лічыць той або іншай *"трёпки"*, якую час ад часу спраўляю дакладчыкам, калі прысутнічаю на *"срэдах"* і ўдзельнічаю ў дыскусіях, як правіла, вельмі і вельмі нізкага ўзроўню...

Такім чынам, *"сераду"* спадарыні Ліхаравай фактычна аддаў Багдановіч, а зусім не Бохан, як гэта пішаце Вы. Дарэчы, як і да мяне, да Багдановіча спадарыня Л[іхарава] напісала непасрэдна...

Дзіўлюся — адкуль у Вас такія зьвесткі?! Падазраю — ці не ад самога Бохана. У такім разе, з усёй увагаю прачытайце яго *"мілае пісьмо"*. Толькі больш уважліва, чым маё...

З [неразб. — *Ю. Г.*] да вайны я не быў знаёмы. Я ж — не вільнюк, а мінчук. Сустракаўся з ім тут, калі быў выкладчыкам, але пазней

[230] Відаць, маецца на ўвазе Багдан Аляксандравіч дэ Расэт (? —1936), былы расійскі афіцэр-кавалерыст, ротмістр. Пасля заканчэння Грамадзянскай вайны ў Расіі ў эміграцыі ў Польшчы, жыў у Вільні.

[231] **Рускае таварыства ў Вільні (Віленскае рускае таварыства)** — галоўная арганізацыя рускай нацыянальнай меншасці, якая дзейнічала ў Вільні ў 1920–1930-я гг. Уключала ў сябе літаратурна-артыстычную, рэлігійна-філасофскую і музычна-драматычную секцыі, таксама пры ім дзейнічалі "Віленская садружнасць паэтаў" і гурток вывучэння Расіі.

*“раззнаёміўся”*. Часамі сустракаемся на вуліцы, але адрэсу яго не ведаю. Калі даведаюся, абавязкова Вас паінфармую.

Спадарыня Ліхарава наведала сёньня Музэй[232] і зрабіла мне шмат цікавых уваг наконт нашых ікон. Яшчэ раз будзе ў панядзелак, тады ж прыйдзе і А[нтон] Ів[анавіч] Л[уцкевіч][233]. Ён цяпер хварэе і таму сёньня не быў на сустрэчы. Прыходзьце, калі ў Вас будзе магчымасьць. Пачатак, здаецца, а 10-й гадзіне раніцы ці а палове 10-й.

З каментарыямі і заўвагамі па дакладу, як спецыяліст у праваслаўных справах, выступіць Багдановіч. Я, магчыма, толькі дапоўню, калі ён што-небудзь істотнае і важнае прапусьціць. Мы з Ліхаравай у час папярэдняга яе дакладу крыху пасварыліся. Але ўсё было на ўзроўні дыскусіі і таму скончылася прыстойна. Я, натуральна, падыйшоў да разгляду праблемы не столькі з пазіцыі спецыяльна-іканаграфічнай, і нават не містычна-рэлігійнай, а сацыялагічнай, нацыянальна-рускай. На мае пытанні дакладчыца адказвала кепска: гэта не яе галіна ведаў. Кірунак маіх пытаньняў падхапіў Багдановіч. Але з-за позьняга часу развіць шырэй дыскусію не атрымалася. Магчыма, сам падрыхтуюся і выступлю з дакладам па гэтай праблеме. Яна — *“страшна”* цікавая. Часткова мы з Багдановічам яе сфармулявалі наступным чынам: «*Чаму ў Ноўгарадзе ды і па ўсёй Русі “софианские храмы”*[234] *замяняліся “успенскими”*[235]*...*». А я яшчэ і ўдакладніў: *“южное”*, светлое

[232] Маецца на ўвазе **Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя Івана Луцкевіча**, які дзейнічаў у 1921–1945 гг. і дзе працаваў Уладзімір Самойла.

[233] **Антон Луцкевіч** (1884–1942), грамадска-палітычны і культурны дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага незалежніцкага руху і адзін з лідараў беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг. Кіраваў працай Беларускага музея ад самага яго стварэння да свайго арышту савецкімі ўладамі ў 1939 г.

[234] Маюцца на ўвазе Сафійскія саборы, якія будаваліся ў найзначнейшых гарадах Старажытнай Русі ў XI ст., наследуючы аднайменнаму храму ў тагачасным цэнтры ўсходняга хрысціянства — Канстанцінопалі. Усяго ў той час былі пабудаваныя тры велічныя храмы з такім імем — у Кіеве, Ноўгарадзе і Полацку.

[235] Маюцца на ўвазе храмы, названыя ў гонар свята Успення Прасвятой Багародзіцы. Такую назву мелі кафедральныя саборы ў многіх найважнейшых гарадах Старажытнай Русі — ва Уладзіміры, Растове, Смаленску, Суздалі, Маскве і інш.

христианство жизни — мрачным, *"темноликим"* христианством смерти (успения)...

*"Бохан саступіў..."*?! Ат і трэба ж так напісаць...

[Вільня, сакавік — красавік 1936?[236]]

Ваш Ул. Самойла

*

Сэрэніссімэ Патэр![237]

Пасылаю Вам адрас А. І. Луцкевіча. Між іншым, гэта ён — адрас, а не Л-ч павінен быў трапіць да Вас яшчэ ўчора. Але мой сын, спяшаючыся на споведзь, забыў захапіць з сабою ліст. Сам я *"загрыпіўся"* і ў Музэі не быў. Што датычыць майго артыкула, то я вельмі хацеў бы што-кольвек даць. Толькі напісаць так, як хацеў бы, — і нельга, і не хапае часу. А так, абы з рук, як цяпер даю ў расейскую газэту, — не задаволіць ані мяне, ані часопіс. Зрэшты, магчыма што-небудзь і атрымаецца...

Моцна цісну руку.

Вільня. 24/9–37

Шчыра адданы Ул. Самойла

P. S. Адрас А. І. Луцкевіча
*Czarny Brod*
*kolo Turmont*[238]
*folwark Gora Sloneczna*
*P. Osmolowskiego*
*(dla A. L.)*

*

Вялебны Ойчэ!

Вялікую і прыемную неспадзеўку зрабілі Вы мне *"гістарычнымі"* літоўскімі маркамі. Я ўжо так сумаваў, што, захварэўшы апошнімі днямі, прапусьціў аказыю набыць гэтыя маркі. А тут раптам такі

[236] У публікацыі Юрася Гарбінскага пад гэты лістом стаяла дата *"сакавік — красавік 1937?"*, аднак паколькі Багдан дэ Расэт, які згадваецца ў лісце, памёр у 1936 г., мы падаём як больш верагодную дату ліста менавіта 1936 г.

[237] ***Serenissime Pater!*** (лац.) — Найсвятлейшы Айцец!

[238] **Турмант** — мястэчка ў тагачасным Браслаўскім павеце Віленскай губерні, цяпер Турмантас (*Turmantas*) у Зарасайскім раёне Уцянскага павета Літвы.

мілы *"супрыз"*. Я меўся пісаць да Душэўскага[239] якраз у дзень 9 мая, каб мець і польскія маркі з датай 10, але і гэта *"празеваў"*... Так часам забівае тэрміновая праца ў газэце, што нават справы такой першараднай важнасьці, як філятэлістычныя, адыходзяць з памяці ў цень... Таму асабліва шчыра дзякую Вам за памяць аб нашай калекцыі, якая так значна абагацілася Вашым прысылам...

Яшчэ — папрашу Вас напісаць адрэс С. В. Ліхаравай (ці яна Васільеўна, я няпэўны...[240]). Справа ў тым, што я закінуў яе лісты сярод маіх папераў і газэт, і не магу знайсьці яе адрэсу. Яна прыслала адкрытку, вельмі мілую, з *"Хр. В."*[241] і бібліографіяй іконаведы, а я так запозьніўся ей адказаць. Пішу ей, што... на нейкі час выяжджаў на адпачынак з Вільні, каб неяк ачысьціцца хаця перад ей, калі не перад уласным сумленьнем, ад слушнага дакору ў *"сьвінстве"*... Усё віна — гэтая забіваючая праца ўначы, адбіраючая памяць у дзень...

[Вільня.] 15/V-38

*

Глыбокапаважаны а. Уладзімер!

Прабачце, што адразу не адказаў на Ваш ліст. Дарэчы, — прыходзілі Вашыя ўкраінцы з "Новай Зары"[242], але не засталі мяне ў рэдакцыі. Абяцалі яшчэ раз зайсьці, але не зайшлі. Іх я так і не бачыў. Ці былі яны ў рэдакцыі, не ведаю — сёньня спытаю. Склярава[243] помню вельмі добра. Як выкладчык ён быў вельмі слабы. І мой бацька, нябожчык, яго за гэта не любіў. Але, наколькі памятаю, нягледзячы на такія адносіны, паспрыяў яго пераводу ў іншую навучальную ўстанову. Мы ўсё ж такі асабіста яго любілі — быў

[239] Клаўдзій Дуж-Душэўскі ў міжваенны час жыў у Коўне, з'яўляючыся грамадзянінам Літоўскай Рэспублікі.

[240] Няўпэўненасць Уладзіміра Самойлы мела пад сабой грунт: сапраўды, імя па бацьку Сафіі Ліхаравай было не Васільеўна, а Аляксееўна.

[241] Маецца на ўвазе напісанае на паштоўцы расейскамоўнае велікоднае прывітанне *"Христос Воскресе"*.

[242] ***"Нова зоря"*** — украінская грэка-каталіцкая газета, якая выходзіла ў Львове ў 1926–1939 гг., спачатку штотыдзень, а з 1928 г. два разы на тыдзень. Была органам спачатку Украінскай хрысціянскай арганізацыі, а з 1930 г. Украінскай каталіцкай партыі — Украінскай народнай абновы. Яе рэдактарам у 1928–1939 гг. быў вядомы ўкраінскі хрысціянска-дэмакратычны дзеяч Восіп Назарук.

[243] Асоба не высветленая.

далікатна-мяккім, добрым і сімпатычным чалавекам. Будзьце ласкавыя, перадайце яму маю ўдзячнасьць за памяць і ўзаемнае прывітаньне. Імя па бацьку маёй мамы ён, праўда, крыху перакруціў: яна — не Іванаўна, а Канстанцінаўна. Дзе яны?.. Мама два гады таму памерла ў Краснадары, дзе жыве брат Іван з сям'ёй — на савецкай пенсіі, а гэта значыць — напаўгалодныя. Брат Аляксандр, выехаўшы з Адэсы ў Растоў-на-Доне яшчэ ў 1919 годзе, прапаў без вестак. Пасьля заканчэньня прыродазнаўчага факультэта ў Маскве ён паступіў у Пятроўска-Разум[оўскі] агранамічны інстытут[244] (былую Акадэмію). Адтуль быў узяты на вайну прапаршчыкам. У апошні час заведваў радыёстанцыяй, а яшчэ раней — кіраваў гаспадарчым аддзелам у сваёй артылерыйскай часьці. Салдаты яго любілі, бо добра карміў і... не краў. Аднак пазьней, як афіцэру, яму прыйшлося хавацца ад бальшавікоў. Найбольш верагодна, ад іх рук і загінуў. Некаторы час хадзілі чуткі, што ён быццам бы ў Парыжы. Я пісаў, прасіў навесьці спраўкі — на жаль, весткі аказаліся непраўдзівымі... Чаму Скляраў выкладаў лаціну? Ён жа не класік, а, здаецца, *"славянарос"*, як і я. Зрэшты, і я таксама залазіў не ў сваё карыта. Але гэта было тут — *"... на бесптичьи"*, як кажуць[245]. Раней, пры лішку талстоўскіх выхаванцаў[246], гэта ўвогуле не дапускалася. Лідэрса[247] я не ведаў. Прыпамінаецца толькі прозьвішча, але вельмі невыразна.

Між іншым, хачу паінфармаваць Вас пра недаравальны *"ляпсус"*, а нават *"гафу"*[248] (больш моцных слоў не знайду) нашых но-

---

[244] Маецца на ўвазе **Пятроўская сельскагаспадарчая акадэмія** — вышэйшая аграрная навучальная ўстанова ў Расійскай імперыі. Пятроўска-Разумоўскай яе называлі па месцы знаходжання — сяло Пятроўска-Разумоўскае пад Масквой. Заснавана ў 1865 г., ад 1894 г. называлася Маскоўскім сельскагаспадарчым інстытутам. Пасля 1917 г. установе ненадоўга была вернутая старая назва — Пятроўская сельскагаспадарчая акадэмія, у 1923 г. перайменавана ў Сельскагаспадарчую акадэмію імя К. А. Ціміразева.

[245] Маецца на ўвазе расейская прымаўка: *"На безптичье и ворона соловей"*.

[246] Маюцца на ўвазе выпускнікі расійскіх гімназій, арганізаваных па сістэме, прапанаванай міністрам народнай асветы Расійскай імперыі ў 1866–1880 гг. **Дзмітрыем Талстым** (1823–1889). Праведзеная ім у 1871 г. рэформа сярэдняй адукацыі сярод іншага прадугледжвала значнае пашырэнне аб'ёму вывучэння ў гімназіях класічных (лацінскай і старагрэцкай) моў, прытым толькі выпускнікі такіх гімназій (а не рэальных) мелі права працягваць адукацыю ва ўніверсітэтах.

[247] Асоба не высветленая.

[248] ***Gafa*** (польск.) — прамашка, промах, хіба.

вых рэдактараў-ідыётаў са *"сьвентай паменьці"* прайдзісьветам Вернікоўскім[249]. Яго прыяцель Більдзюкевіч[250], такі ж як і ён, толькі горшы, бо яшчэ жыве, коштам аб'яваў прапіхнуў у расейскую газэту да непрыстойнасьці лакейскі панегірык Вернікоўскаму. Той, як Вы добра ведаеце, служыў Пятровічу[251] з усёй яго чорнай зграяй для разбурэньня праваслаўнай Царквы. Таго ж самага дня ў "К. В."[252] З'явілася *"славословие"* Більдзюкевіча, якое праслаўляла нябожчыка менавіта за гэта разбурэньне[253]. Факт той, натуральна, схавалі

[249] **Тодар Вернікоўскі** (1861–1938), грамадска-палітычны і праваслаўны дзеяч. Далучыўся да беларускага нацыянальнага руху пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., браў удзел у дзейнасці ўрада БНР і іншых кіраўнічых беларускіх нацыянальных арганізацый у 1918–1921 гг. Пасля 1921 г. працаваў у заходнебеларускіх грамадска-культурных, рэлігійных і палітычных арганізацыях. У 1920-я гг. адзін з актывістаў паланафільскай Тымчасовай беларускай рады. Ініцыятар выдання і першы рэдактар беларускага праваслаўнага часопіса "Сьветач Беларусі". Ад 1930 г. старшыня Беларускага праваслаўнага камітэта па беларусізацыі Царквы.

[250] **Усевалад Більдзюкевіч** (1879 — пасля 1940), грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч. Да Першай сусветнай вайны працаваў чыноўнікам на чыгунцы. Ад 1918 г. уваходзіў у склад урада Беларускай Народнай Рэспублікі. Са студзеня 1919 г. у Вільні. У 1924 г. адзін з заснавальнікаў і лідараў паланафільскай Тымчасовай беларускай рады. У студзені 1930 г. на канферэнцыі прадстаўнікоў беларускіх праваслаўных арганізацый удзельнічаў у стварэнні Беларускага праваслаўнага камітэта па беларусізацыі царквы. Рэдагаваў часопіс "Сьветач Беларусі" (1931). Прыхільнік ідэі аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы.

[251] Хто маецца на ўвазе, не высветлена.

[252] Відаць, маецца на ўвазе ***"Kurjer Wileński"*** — штодзённая грамадска-палітычная газета, якая выдавалася ў Вільні ў 1924–1939 гг. Спачатку лічылася беспартыйным выданнем, а пасля рэдакцыя падтрымлівала палітыку Юзафа Пілсудскага і ягоных наступнікаў, дзеля чаго друкаваная на старонках газеты публіцыстыка насіла збольшага праўрадавы характар.

[253] Відаць, маецца на ўвазе некралог па Тодару Вернікоўскім, надрукаваны ў газеце *"Kurjer Wileński"* 19 ліпеня 1938 г. Гл.: x. Ś. p. Teodor Wernikowski (zwolennik odruszczenia cerkwi) // Kurjer Wileński. 1938. 19 lipca. № 196. S. 5. Адносна дзейнасці Вернікоўскага, звязанай са справамі Праваслаўнай царквы, там было напісана наступнае:

*"Пачынаючы з 1929 года Т. Вернікоўскі ўсю сваю энергію прысвяціў справам Праваслаўнай царквы ў Польшчы, асабліва на паўночна-ўсходніх землях П*[*ольскай*] *Р*[*эспубліке*]. *У 1930 г. разам з У. Більдзюкевічам ён дасылае мемарандум да Яго Эміненцыі Мітрапаліта Праваслаўнай царквы ў Польшчы, дамагаючыся дэрусіфікацыі Праваслаўнай царквы ў Польшчы і яе беларусізацыі ў епархіях з пераважна беларускім насельніцтвам.*

ад мяне і таму цяпер пакараныя. Я прапаноўваў выправіць сытуацыю і напісаць пра нябожчыка праўду — так, як гэта адпавядае лацінскаму выразу: пра памерлага — ці нічога, ці толькі — добрае... Але, на жаль, у апошні момант адхілілі.

З найлепшымі пажаданьнямі.

[Вільня, ліпень — жнівень 1938?[254]]

Ваш Самойла

## Ліст да Клаўдзія Дуж-Душэўскага[255]

Даражэнькі Душэўскі,

Шчыра дзякую за памяць — за ліст і цудоўныя маркі. Пасылаю з шчасьлівай аказіяй Сэржпутоўскага[256]. Адступіць Вам яго на ўласнасьць пакуль што ня можам, бо другі экзэмпляр кніжкі недзе згінуў. Калі знойдзецца, тады будзем гутарыць. А пакуль што — ка-

*Быў арганізаваны Цэнтральны беларускі праваслаўны камітэт, старшынёй якога быў абраны Т. Вернікоўскі. У склад камітэта ўвайшлі, акрамя свецкіх асобаў, прадстаўнікі беларускага праваслаўнага духавенства.*
*У сваёй працы камітэт сустрэўся з варожым стаўленнем расійскай грамадскасці і духавенства. Быў момант, што духоўная ўлада пагражала адлучэннем ад Царквы сябраў камітэта на чале з Т. Вернікоўскім».*

Такое непрыхільнае стаўленне з боку У. Самойлы і ягоных аднадумцаў да дзейнасці Т. Вернікоўскага і яго паплечнікаў, скіраванай нібыта на шляхетную справу беларусізацыі Праваслаўнай царквы ў Польшчы, было выклікана як кепскай рэпутацыяй саміх гэтых людзей у беларускім грамадстве (і адпаведна сумневамі ў іх шчырасці), так і ідэйным непрыманнем імі ідэі аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Польшчы, якую адпачатку падтрымлівалі і прасоўвалі дзеля сваіх мэтаў перадусім свецкія ўлады. Абвешчаную ў 1925 г. аўтакефалію з адмовай ад кананічнага падпарадкавання Маскоўскаму патрыярхату Самойла і іншыя лічылі (і небеспадставўна) спробай паставіць Праваслаўную царкву ў Польшчы пад поўны дзяржаўны кантроль і зрабіць яе інструментам паланізацыі. Гэтым і тлумачыцца такое рэзкае акрэсленне дзейнасці "прааўтакефальных" дзеячаў як "разбурэння".

254 У публікацыі Юрася Гарбінскага пад гэтым лістом стаяла пазнака даты "*1936?*". Аднак паколькі Тодар Вернікоўскі памёр 14(16) ліпеня 1938 г., мы ўдакладнілі і дату ліста.

255 Друкуецца паводле арыгінала, які захоўваецца ў БДАМЛМ: Ф. 3. Воп. 1. Спр. 1. Л. 11 — 11 адв.

256 Маецца на ўвазе адна з кніг **Аляксандра Сержпутоўскага** (1864–1940), этнографа, фалькларыста, мовазнаўца.

рыстайцеся гэтым часова. Можа вернеце з сястрой Вашай[257] назад. Каб Вам хаця чым колечы адудзячыцца, пасылаю свае артыкулы на беларускія тэмы. Артыкулы прызначаны для *"беларускага нумару"* "Вядомосьці Літэрацкіх"[258], які рыхтуецца рэдакцыяй ды мае выйсьці ў студні ці лютым, як пісаў рэдактар. Праўда, маю значныя сумлівы, ці дачакаемся такога нязвычайнага выпадку… У кажным разе, мы ўсе, хто што мог, далі ў гэты нумар. Таму Вашы *"закід"* аб тым, што *"нашы чароўныя рэчы трымаюцца пад спудам"*, як бачыце, не зусім справядлівы. Што можам, робім, але-ж магчымасьці нашыя вельмі слабыя — і фінансавыя, і палітычныя... Кажу Вам, што не спадзяюся, каб з *"нумарам"* пайшло ўсё гладка: або *"націснуць"* згары, каб ня выйшаў, або *"хлопнуць"* пасьля выхаду… Можэце выкарыстаць артыкулы дзеля дакладу, калі што прыдасцца. Перавыдаць "Казкі"[259] — думка вельмі добрая; калі ёсьць магчымасьці, *"валіце"*. У мяне да Вас яшчэ такая просьба. Можа Вам прытрафіцца выпадак знайсьці аказію танна набыць машынку расейскую да пісаньня. Мой *"манарх"*[260], як блізу ўсе манархі нашых часоў, разьлізаецца па швам. Калі знойдзеце, паведаміце — можа, што ўдасцца зрабіць пры дапамозе нашых выдаўцоў (газэты). Толькі — каб добрая фірма. У нас з расейскім шрыфтам ужо рэдка бывае аказія, а перарабляць — лішні накладны выдатак. Прывезьці, здаецца, дазволена, калі не новая — для сябе. Будзе аказія — зробіцца, пасьля разрахунку, зразумела-ж. Напісаў-бы больш, пакалякаў, але трэба сьпяшыць, бо Ваша Сястрычка можа ўпархнуць. Яна мела ехаць сёньня, калі атрымае візу з Варшавы. Таму — трэба разьвітацца. Дзякую Вам шчыра яшчэ раз за маркі і за Л-ча[261]. Калі запраўды ўдасцца памагчы яму, будзе вельмі добра. Нашы, жонка і цэсарэвіч мае дзякуюць так сама за прывітаньне і шлюць Вам і Вашая сям'і свае добрыя зычэньні. Будзьце здаравенькія ўсе.

---

[257] **Ганна Душэўская** (1898–1990), удзельніца беларускага нацыянальнага руху, вызначалася артыстычнымі здольнасцямі. Напрыканцы 1921 г. выехала ў Берлін.

[258] ***"Wiadomości Literackie"*** — тыднёвік, які выдаваўся ў Варшаве ў 1924–1939 гг.

[259] Хутчэй за ўсё, маюцца на ўвазе "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" Аляксандра Сержпутоўскага (1911).

[260] Маецца на ўвазе расійская друкарка "Монарх" (*"The Monarchs"*).

[261] Напэўна, маецца на ўвазе Антон Луцкевіч.

Вашае ўражаньне слушнае. Але гэта — *“тэзіс”*[262], таму прыгнятае. Як толькі Вам удалося зрабіць і *“арзіс”*[263], стало адразу лягчэй. Але галоўнае ў нас — навет не матар’яльны гнёт. Гэта — не за сябе, але за сям’ю церпіць. Горшы — гнёт маральны, пад якім жывем, працуем, пішэм і т. д... Гэта — страшэнная рэч — не да дараваньня... *“Беларусаў нема”*, гэта пішуць цяпер нават у *“вольным” “дэмакратычным” “Кур-Вілю”*[264] — рэктара Станевіча[265], беларуса Сьвяневіча[266] і т. д…

Крэпка сьціскаю Вашу руку.

Вашы Ул. І.-С.
Вільня, 13/1/39 г.

[262] **Тэзіс** (англ. *thesis*) — тут маецца на ўвазе музычны тэрмін: моцная, ударная (акцэнтаваная) частка такта ў музыцы.

[263] **Арзіс** (англ. *arsis*) — у музыцы: супрацьлегласць тэзісу — неакцэнтаваная частка такта.

[264] Маецца на ўвазе газета ***“Kurier Wileński”***.

[265] **Вітольд Станевіч** (польск. *Witold Staniewicz*, 1887–1966), польскі эканаміст і дзяржаўны дзеяч, паходзіў з Лідчыны. У 1933–1936 гг. быў рэктарам Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя.

[266] **Станіслаў Свяневіч** (польск. *Stanisław Swianiewicz*, 1899–1997), польскі навуковец, прафесар эканомікі, пісьменнік, юрыст, паходзіў з Дзвінска. На старонках “Віленскага кур’ера” друкаваў артыкулы па нацыянальных пытаннях.

## Пра Уладзіміра Самойлу

*Аляксандра Бергман*[267]

### Уладзімір Самойла-Суліма і беларускае пытанне ў міжваеннай Польшчы[268]

У сувязі з сотаю гадавінаю з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Янкі Купалы (Івана Луцэвіча), якая ўрачыста адзначалася ў 1982 г. не толькі ў Беларусі, узрос інтарэс да расійскага літаратурнага крытыка Уладзіміра Самойлы, які і ўвёў Янку Купалу як паэта ў літаратуру. Яго [Самойлы] біяграфія амаль невядомая. У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (БСЭ) 1973 г. няма нават указання на месца яго нараджэння[269]. Зацікаўленасць Самойлам узнікла хіба незалежна ад юбілею Купалы. У 1979 г. у Мінску малады даследчык М. Калінковіч апублікаваў чатыры лісты Уладзіміра Самойлы да Аляксандра Блока[270]. Вельмі цікавы каментар да гэтых лістоў выяўляе Самойлу як літаратурнага крытыка і абуджае цікавасць да яго постаці. Але ў поўнай меры асобу Самойлы Калінковіч нам не рэпрэзентаваў.

У пачатку 1982 г. выйшла іншая праца, прысвечаная выключна сувязям Самойлы з Янкам Купалам на пачатку яго творчага

---

267 **Аляксандра Бергман** (польск. *Aleksandra Bergman*, 1906–2005), даследчыца-гісторык, публіцыст. Нарадзілася ў Гродне. Ад 1925 г. была сябрам КПЗБ. У 1934 г. пераехала ў БССР, а ў 1935 г. арыштаваная і прысуджаная да 10 гадоў лагераў. У 1946 г. па праграме рэпатрыяцыі пераехала ў Польшчу. Жыла і працавала ў Варшаве. Даследавала гісторыю Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду.

268 Арыгінальная публікацыя: Bergman, A. Włodzimierz Samojło-Sulima wobec kwestii białoruskiej w Polsce międziwojenniej // Przegląd Historyczny. 1983. № 74/4. S. 653–676. Друкуецца ў перакладзе Юрыя Бабіча.

269 Ліс, А. Самойла У. // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (далей — БСЭ). Т. IX. Мінск, 1973. С. 348.

270 Калінковіч, М. Как дань глубокого уважения: Письма В. Самойло к А. Блоку // Неман. Минск. 1979. № 11. С. 153–159.

шляху[271]. Жыццё некаторых людзей так складваецца, што для адкрыцця і даследавання патрэбных крыніц часам патрабуюцца гады. Мае сціплыя намаганні не далі належных вынікаў, таму хай іх працягнуць маладыя даследчыкі. Жадаючы сёння штосьці сказаць пра Самойлу, я мушу ісці па слядах маіх папярэднікаў і заняцца толькі адным бокам яго жыцця ў Вільні, а менавіта ўдзелам у беларускіх справах у Польшчы. Якраз у гэтай сферы Самойла пакінуў каштоўныя публіцыстычныя працы (на беларускай і польскай мовах), якія тычацца палітыкі кіроўчых колаў у адносінах да беларускага пытання.

У. Самойла нарадзіўся 17 студзеня 1878 г. у фальварку Казіміраўка пад Мінскам і быў другім дзіцем. Меў двух братоў і сястру. Бацька Іван Іванавіч (1839–1912), уладальнік Казіміраўкі, быў педагогам. Да 1880 г. выконваў абавязкі інспектара мужчынскай гімназіі ў Мінску, затым быў дырэктарам рэальнага вучылішча. Ён быў змагаром за дабро, асветнікам, старшынёй праўлення Мінскай публічнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, ствараў вячэрнія, так званыя нядзельныя школы[272]. Маці таксама была педагогам. Такім чынам, Самойла паходзіў з сялянска-інтэлігенцкага асяроддзя. Як мы ўбачым, ён атрымаў глыбокія веды ў некалькіх галінах.

Са “Справаздачы мужчынскай гімназіі ў Мінску за 1897–1898 гады” вынікае, што атэстат сталасці ён атрымаў летам 1898 г.[273]. У той жа справаздачы адзначана выказанае ім жаданне вывучаць медыцыну ва ўніверсітэце ў Маскве. Ніякіх іншых дакументаў гэтага перыяду, у прыватнасці пра яго вучобу, мы не ведаем. Жонка Самойлы, якая жыве ў Польшчы і якая сустрэла свайго будучага мужа, калі яму было 40 гадоў (рэпатрыявалася з Вільні ў Польшчу у саракавыя гады), і сын (вярнуўся ў Польшчу з Асвенціма) ніякіх дакументаў не маюць. Вельмі мала яны ведаюць пра гады навучання, акрамя таго, што ён вывучаў медыцыну і перапыніў вучобу на чацвёртым курсе, калі пачаліся практычныя заняткі, звязаныя з анатамаваннем трупаў. Не звязваюць гэта з Масквой, хутчэй

[271] Александровіч, С. Уладзімір Самойла — даследчык паэзіі Янкі Купалы // Полымя. Мінск. 1982. № 1. С. 201–208.

[272] Конан, У. Самойла Іван Іванавіч // Янка Купала: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1986. С. 546–547.

[273] Так вынікае з ліста А. Ліса, які “Справаздачу пра стан мужчынскай гімназіі ў Мінску за 1897–1898 гг.” (на рускай мове) трымаў у руках. Ліст ад 27 лістапада 1982 г. захоўваецца ў аўтаркі.

з Санкт-Пецярбургам. Яны ведаюць таксама, што ён вучыўся на трох факультэтах, вывучаў сярод іншага хімію. Самойла ў больш познія гады рэпрэзентаваў сябе чытачам як філолаг-славіст[274].

Верагодна, яшчэ будучы на вучобе, здрадзіў усім сваім запланаваным практыкаванням пяра. Адкуль гэтая здагадка? У Санкт-Пецярбургу, як мы ўбачым, сябраваў з вядомым лінгвістам Браніславам Эпімах-Шыпілам, які быў вядучай фігурай беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца". З думкай Самойлы як чалавека пяра лічацца ў Мінску ўжо ў 1905 годзе, гэта значыць, верагодна, адразу пасля або перад заканчэннем навучання. Акрамя таго, як адзначае М. Калінковіч, Самойла адразу ж пасля ўніверсітэта працаваў у мінскай рускай газеце "Северо-Западный край"[275].

Як мы ўбачым, веды, якія Самойла атрымаў, навучаючыся на розных факультэтах, ён не растраціў. Гэта знайшло адлюстраванне ў яго далейшай журналісцкай творчасці, у манеры пісання, у дакладнасці думкі. З польскай літаратуры, а таксама з рускай вядома, што пісьменнікі, якія ў маладосці вывучалі медыцыну, вылучаліся стылем (Чэхаў, Тадэвуш Бой-Жэленьскі). Можа быць, менавіта медыцынскія даследаванні паўплывалі на тое, што Самойла выявіў у публіцыстыцы ўменне дэталёвага назірання, аналізу самых складаных сацыяльна-палітычных праблем, устанаўлення дакладнага дыягназу і называння "хваробы" па імені. Не чужое яму было таксама мастацтва абагульнення. У асяроддзі інтэлігенцыі, як беларускай, так і польскай у Вільні, яго лічылі выбітным інтэлектуалам. Такое меркаванне пра яго мы знаходзім, у прыватнасці, на старонках "Віленскага весніка"[276].

У згаданай вышэй нататцы С. Александровіча гаворыцца, што ў менскай газеце (*"Минский курьер"* ) У. Самойла адзін з першых вясной 1908 г. у серыі артыкулаў ("Нататкі") абгрунтаваў неабходнасць стварэння беларускіх школ (Самойла пра гэта ўзгадае

[274] Суліма. Гэтым пераможаш! // Заходняя Беларусь. Вільня, 1924. С. 67. Са слоў сям'і вынікае, што Самойла ведаў сем моваў: беларускую, рускую, польскую, нямецкую, французскую, грэцкую і лацінскую.

[275] Калінковіч, М. Как дань глубокого уважения. Між іншага, вышэйзгаданы А. Ліс у БСЭ падае, што Самойла быў супрацоўнікам рускамоўнага выдання *"Минский курьер"*.

[276] Obserwator. Optymizm krytyczny jako próbka filazofii białoruskiej // Przegląd Wileński. 1924. 9 marca. S. 4.

праз 25 гадоў)[277]. Значыць, займаўся публіцыстыкай і літаратурнай крытыкай. На думку С. Аляксандровіча, найперш крытыкай. Надрукаваў у альманаху "Туманы" эсэ пра Г. Ібсена, Ю. Славацкага, В. Верасаева, В. Меерхольда, А. Блока, з якім ён таксама перапісваўся. Сам пісаў вершы, некаторыя перакладаў. Прачытаў у Мінску некалькі публічных лекцый пра творчасць Аляксандра Блока. Усё гэта раскідана па часопісах, якія ў Варшаве сёння недаступныя.

З усяго тагачаснага даробку толькі лісты А. Блока, як мы ведаем, сталі прадметам адмысловага даследавання. З публікацый пра Самойлу вынікае, што ў мінскі перыяд пераважала ў яго творчасці і інтарэсах праблематыка мастацкай літаратуры, у прыватнасці рускай, і што ён пісаў па-руску.

Але не гэтая праца спрыяла таму, што сёння імя Самойлы вядомае ў Беларусі. У першую чаргу гэта звязана, несумненна, з уплывам, які ён аказаў на паэтычны лёс Янкі Купалы, чый стагадовы юбілей адзначаўся ў 1982 г. пастановай ЮНЕСКА[278].

Сам Купала апісаў іх сяброўства ў аўтабіяграфічным лісце да крытыка і літаратуразнаўцы Л. Клейнбарта[279]. Ва ўзросце каля 18 гадоў Самойла быў настаўнікам Янкі Купалы, і з гэтага часу

---

[277] Sulima. "Nowy" i "najnowszy" kurs polityki polskiej w sprawie białoruskiej // Przegląd Wileński. 1931. 20 grudnia. S. 4.

[278] Мозольков, Е. Критико-библиографический очерк // Купала, Я. Стихотворения. Т. I. Масква, 1953. С .7; Янка Купала. Аўтабіяграфія // Пяцьдзесят чатыры дарогі. Мінск, 1963. С. 328; Семашкевіч, Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. Мінск, 1971. С. 74–77; Яраш, М. Янка Купала // История белорусской дооктябрьской литературы, Мінск, 1977. С. 513; Александрович, С.; Александрович, В. Беларуская литаратура XIX — пачатку XX ст.: хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мінск, 1978. С. 231–241; Александровіч, С. Уладзімір Самойла — даследчык…; Саламевіч, Я. Янка Купала: Летопись жизни и творчества // Неман. Мінск. 1982. № 7. С. 161–176; Пуцявінамі Янкі Купалы / уклад. Г. В. Кісялёў. Мінск, 1981; Лойка, А. Як агонь як вада // Неман. Мінск. 1982. № 7. С. 34–84; Яго ж. Як агонь, як вада. Кніга пра Янку Купалу // Маладосць. Мінск. 1982. № 5–7. Ва ўсіх пералічаных публікацыях (акрамя А. Лойкі) аўтары прыводзяць новыя невядомыя дакументы пра Самойлу, пра яго ролю ў творчым жыцці Янкі Купалы, пішуць пра яго з трымценнем. Толькі А. Лойка зводзіць ролю Самойлы ў жыцці Купалы да нуля. Беручы пад увагу, відавочна, лёс, што напаткаў Самойлу ў 1939 г., ён рыхтуе глебу для выкрэслівання ўвогуле Самойлы з біяграфіі Купалы.

[279] Гэты ліст цытуе С. Александровіч у: Уладзімір Самойла — даследчык…

з ім не толькі сябраваў, але і клапаціўся пра яго. Намаганнямі Самойлы расійская газета *“Северо-Западный край”* змясціла ў 1905 г. першы друкаваны верш Купалы “Мужык” на беларускай мове. У 1908 г. Самойла пераклаў іншы яго верш на рускую мову. У тым жа годзе не без дапамогі Самойлы з’явіўся на беларускай мове першы зборнік вершаў Купалы пад назвай “Жалейка”. Самойла з энтузіязмам напісаў на згаданы зборнік рэцэнзію. *“Песня Купалы,* — пісаў Самойла, — *гэта люстэрка, у якім свеціцца душа беларуса, яго жыццё, яго радзіма, гэта сапраўдны голас, які ўзнікае ў глыбіні нацыянальнай душы, гэта крык, што жыве Беларусь. І хто да гэтага часу не верыў, што беларускі народ здольны прачнуцца і пайсці сваім уласным шляхам, павінен прызнаць, што беларусы не памерлі, што яны маюць сілу, каб жыць!”*[280]. Што ў гэтым сяброўстве было, можа, самае каштоўнае? Купала не толькі цаніў Самойлу, але проста любіў яго. У прысвячэнні на сваім фотаздымку з 1909 г., які Купала падарыў Самойлу, ён напісаў: *“У доказ шчырай павагі і цёплай дружбы найлепшаму і найсправядлівейшаму свайму настаўніку, дабрадзею пану Самойлу ад Янука Купалы 16. XII”* — і яшчэ верш з пажаданнямі[281].

Публікацыі, звязаныя са стагоддзем Купалы, маюць для нас яшчэ і дадатковую каштоўнасць, паколькі раскрываюць некаторыя рысы Самойлы як літаратурнага крытыка. Адным з першых у няспелых юнацкіх вершах Купалы ён адчуў творчыя магчымасці і талент паэта. Самойла ўплываў на Купалу, каб той пісаў, а таксама заахвочваў яго да пісання выключна па-беларуску. Затым ён зрабіў усё, каб увесці Купалу ў свет і каб ён змог атрымаць сістэмныя веды, якіх Купалу пакуль не хапала. Самойла не зрабіў памылку, паслаўшы свайго вучня, якім па-ранейшаму апекаваўся, да свайго даўняга сябра Б. Эпімах-Шыпілы ў Санкт-Пецярбург. Ён пісаў яму: «*Я не павінен, бадай, прасіць Вас прыняць удзел у яго лёсе. Бо Вы ж былі хросным бацькам яго твораў, яго літаратурным апекуном (тут гаворка ідзе пра выданне ў Санкт-Пецярбургу першага зборніка вершаў Я. Купалы “Жалейка”.* — А. Б.*). Такім для яго Вы застаняцеся таксама і ў асабістым жыцці. Ён мне вельмі дарагі як адзіны і недаацэнены паэт сучаснай Беларусі. Толькі Вы*

[280] Рэцэнзія цытуецца ў скароце ў: Александровіч, С.; Александровіч, В. Беларуская литаратура ХІХ — пачатку ХХ ст. С. 231–238.

[281] Пуцявінамі Янкі Купалы. С. 65.

*належным чынам ацэньваеце. Я проста баюся за яго ў Санкт-Пецярбурзе»*[282].

Гэты ліст Самойла напісаў ва ўзросце 31 года, і ў ім адлюстраваны непасрэдна бацькоўскі клопат. Ён быў чалавекам свядомым, як мы бачым, сардэчным, праніклівым і адначасова па-чалавечы мудрым. С. Александровіч так піша пра Самойлу як даследчыка паэзіі Купалы: *"Трэба было мець унікальны эстэтычны густ, адчуць перспектыву развіцця беларускай паэзіі, быць смелым і мець прарочае прадбачанне, каб у невялікай кніжачцы невядомага паэта адчуць прыход у літаратуру (беларускую.* — А. Б.*) нацыянальнага барда, роўнага ў сваім значэнні Тарасу Шаўчэнку"*[283]. Дадамо: гэта мог адчуваць толькі крытык, які нарадзіўся ў Беларусі і быў з ёй *"звязаны непарыўна"*.

Апошнія словы ўзятыя з ліста Самойлы да Блока, напісанага ў гэты ж самы перыяд. Мы знаходзім тут як бы агульную матывацыю заангажавання Самойлы ў творчае жыццё Купалы. Ён пісаў Блоку: *"Калі справа ў маёй нацыянальнай прыналежнасці, я рускі, але непарыўна звязаны з Беларуссю"*[284]. Але тут жа адразу як бы забыўся, што толькі што сказаў! Ён супрацьпастаўляе свой *"нацыянальны твар"*, паходжанне з крэсаў, спецыфіку, словам, сваю нацыянальнасць нацыянальнасці Блока. Апелюе да поўнай адсутнасці *"нацыянальнай памяці"* беларусаў. Ён не называе сябе беларусам, як тады гэта рабіла кола інтэлігенцыі, што паходзіла з Беларусі, выхаванае ў рускай культуры, але сэрцам і розумам адчувае сябе ўжо ўцягнутым у справу беларускага нацыянальнага адраджэння. З ліста таксама відаць, што Самойла проста сумаваў па тым часе, калі яны будуць мець свой уласны рамантызм. Ствараецца ўражанне, што словы, якія выкарыстаў Самойла ў рэцэнзіі на "Жалейку" (хто да гэтага часу не верыў) таксама належаць і да самога аўтара.

Словам, удзел Самойлы, дасведчанага літаратурнага крытыка (з чыім меркаваннем лічыўся Блок, цаніў яго вядомы крытык Юліуш Аўхенвальд, пра што мы даведваемся з дысертацыі М. Калінковіча) у творчасці і ў жыцці Купалы не быў выпадковым.

[282] Семашкевіч, Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе. С. 75: Ліст Самойлы да Б. Эпімах-Шыпілы ад 2 снежня 1909 г. захаваўся ў Ленінградскім архіве. Тут мы цытуем паводле: Пуцявінамі Янкі Купалы. С. 53.

[283] Александровіч, С. Уладзімір Самойла — даследчык… С. 205.

[284] Калінковіч, М. Как дань глубокого уважения. С. 157.

Самойла чакаў паяўлення ў беларускім жыцці такой з'явы, як Купала, і шчасліва на яго трапіў.

Тут мы хочам звярнуць увагу на вельмі важную рысу характару Самойлы. Ён быў імпульсіўным, рэзкім. Як крытык горача рэагаваў на свежасць, навізну твора, у той жа час, аднак, ён не страціў здольнасці да глыбокага аналізу. Рэцэнзію на першую кнігу вершаў Купалы ў "Минском курьере" назваў "Вялікае свята!". Дэвіз для гэтай рэцэнзіі, узяты з верша Купалы, гучыць менш урачыста: "Гэта крык, што жыве Беларусь". У тэксце, аднак, мы знаходзім глыбокі і вельмі грунтоўны аналіз падзеі. «*Мы з'яўляемся сведкамі гістарычнай падзеі, надзвычай важнай для краіны. Беларуская песня перайшла са сферы этнаграфіі ў сферу літаратуры. Беларускі народ становіцца выказнікам нацыянальнай самасвядомасці, а не як да гэтага часу — аб'ектам фальклорнага вывучэння. І "Жалейка" Купалы з'яўляецца адным з неабвержных доказаў гэтай сур'ёзнай падзеі*»[285]. Як мы бачым, гэта далёкасяжныя высновы, якія выходзяць за межы літаратурнай крытыкі і якія, хутчэй, пасуюць ідэолагу беларускага адраджэння.

З дадзеных пра кантакты з Купалам ускосна мы даведаемся і пра сувязі Самойлы з беларускім адраджэнскім рухам у перыяд 1904–1905 гг. Ён прынёс тады, праўдападобна, Купалу нелегальныя выданні, пісаў водгукі на яго творы (крыху пазней таксама і паруску, а на беларускую мову перакладаў іх Якуб Колас); ён таксама напісаў у "Нашу ніву" пад псеўданімам *"Уладак з Казіміраўкі"* (усе гэтыя дэталі можна знайсці ў вышэйзгаданых публікацыях пра Янку Купалу).

Наступны перыяд жыцця Самойлы, паміж 30 і 40 гадамі, мабыць, самы важны ў яго жыцці, застаецца цёмнай плямай і, верагодна, будзе для будучага даследчыка найбольш цяжкім для адкрыцця. Што здарылася з Самойлам пасля 1910 г.? З ліста да Блока, напісанага ў 1911 г., вынікае, што ён быў вымушаны спыніць выдавецка-рэдакцыйную працу ў Мінску і перабываў у Казіміраўцы. «*Я не буду хаваць перад Вамі, што ў выніку усякага роду жыццёвых непрыемнасцяў — агульных, спецыфічна расійскіх, а таксама асабістага характару — мае зацікаўленні адышлі некалькі ў цень. Многія з маіх планаў, назаўсёды або толькі часова — я не магу*

[285] Александровіч, С.; Александровіч, В. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. С. 231–232.

*выразна вызначыць — засталіся “пакрытыя заслонай”. Апошнія два гады былі надзвычай цяжкімі і нават прыблізна немагчыма сказаць, калі я пазбаўлюся ад гэтых цяжкасцяў... Усё гэта я пішу для таго, каб растлумачыць такое маё незразумелае аддаленне ад усяго гэтага, да чаго я ішоў, здавалася б, такой простай дарогай і што адпавядала натуральным памкненням майго сэрца».* Пры адсутнасці іншай інфармацыі цяжка даць які каментар да такой драматычнай споведзі. Калінковіч дапускае, што Самойла пакінуў Мінск па палітычных прычынах. Чаму ён павінен быў заставацца ў Казіміраўцы, нават калі і не любіў гэтага *“шляхетнага гнязда”*? Мы не ведаем. У гульню ўвайшла таксама жанчына, пра каторую мы зноў жа нічога не ведаем.

Са сціплай інфармацыі сям’і вынікае, што ў час Першай сусветнай вайны Самойла працаваў, верагодна, ва ўрадавай хімічнай лабараторыі ў Мінску, дзе даследаваўся склад каштоўных металаў у злітках (афіцыйная назва гэтай установы невядомая). Ён служыў менеджарам. Магчыма, менавіта па гэтай прычыне ён не быў прызваны ў войска. Да Першай сусветнай вайны ён быў чальцом Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (К-Д)[286]. А. Ліс паведаміў мне, што пасля Лютаўскай рэвалюцыі Самойла быў абраны ў Мінскую гарадскую думу[287]. І няма нідзе інфармацыі, што і для каго Самойла пісаў. Як мы ўбачым з далейшага працягу яго дзейнасці, гэта падаецца абсалютна немагчымым, каб цалкам ён змоўкнуў.

Не дайшла да нас таксама ніякая інфармацыя пра яго з 1917–1918 гг., калі актывізавалася дзейнасць розных беларускіх палітычных партый. Ці браў які ўдзел у гэтым руху? Верагодна, ён быў, аднак, у кантакце з беларускімі актывістамі. У снежні 1918 г., калі немцы пакідалі Мінск, Самойла адправіўся ў Вільню. Гэтак паступіла значная частка беларускай інтэлігенцыі, з якой ён быў звязаны і якую мясцовыя рэвалюцыйныя ўлады пераследавалі як нацыяналістычны элемент. Але гэтая сувязь, верагодна, не была занадта цеснай, таму што ў першыя гады знаходжання ў Вільні Самойла, падобна, не ўдзельнічаў у мясцовым беларускім руху. Калі ён пакідаў Мінск, было яму 40 гадоў. Вільню ведаў, бываў тут не раз.

[286] Protokól rozprawy sądowej z 23 lutego do 22 maja 1928 r. w Sądzie okręgowym w Wilnie. Цэнтральны дзяржаўны архіў ЛітССР (сёння Літоўскі Цэнтральны дзяржаўны архіў). Ф. 129. Воп. 2. Адз. зах. 2357. Т. IV. Л. 156.

[287] Ліст аўтарцы ад А. Ліса ад 5 верасня 1982 г.

У Вільні адаптаваўся адносна хутка, у яго былі тут сябры і знаёмыя з Мінска і Пецярбурга. Быў тут ксёндз Адам Станкевіч, праф. Марыян Здзяхоўскі, Антон Неканда-Трэпка і многія іншыя, якія, відавочна, дапамаглі яму тут уладкавацца. Акрамя ўсяго іншага, ён пачаў выкладаць грэцкую і лацінскую мовы ў гімназіі Фердынанда Велера. Таксама даваў прыватныя ўрокі па гэтых прадметах. Верагодна, ён жыў з гэтай працы на працягу наступных некалькіх гадоў. Паводле інфармацыі жонкі вынікае, што меў рэнамэ добрага знаўцы прадмета і нават праф. Здзяхоўскі накіроўваў сваіх знаёмых да Самойлы як да найлепшага знаўцы гэтых моў. На сціплае жыццё зарабляў. Ён здымаў пакой на рагу Людвісарскай і Баніфратарскай, 14/2 з фартэпіяна. Хто ведае, ці сапраўды гэты інструмент не паўплываў на вельмі важныя змены ў жыцці старога халасцяка. У маладосці ён змог атрымаць веды не толькі ў розных галінах навукі, але таксама навучыўся граць на піяніна, нядрэнна маляваў. Мяркуючы па інфармацыі сям'і, ён з асалодай іграў Шапэна. Яго ігра ўразіла маладую суседку, якая нядаўна пераехала ў гэты дом. Была гэта полька, вільнянка, медсястра віленскай лякарні Сафія Яніна Жылевіч. Розніца ва ўзросце была істотнай. Але высокі і зграбны, вельмі далікатны ў манерах, цікавы ў гутарках сусед выйграў. Вяселле адбылося ў касцёле, таму што нявеста паходзіла з каталіцкай сям'і, з дробнай шляхты з ваколіцаў Беняконяў. Самойла быў праваслаўным, але як чалавек талерантны не пярэчыў. Як сцвярджае сп-ня Сафія Яніна, яны пражылі разам шчасліва дваццаць гадоў.

У гэтым жа доме яны знялі кватэру на гарышчы. Жылі вельмі сціпла (пра гэта вядома не толькі з аповедаў сям'і). Шмат часу і ўвагі Самойла прысвячаў сваёй жонцы, а потым сыну, які таксама быў названы Уладзімірам. Першым настаўнікам сына быў яго бацька. Дома гаварылі, як і ў многіх віленскіх сем'ях, папольску і па-руску. Бацька не пярэчыў, што яго сын выхоўваўся каталікам. Для яго было найважней, каб сын вырас чалавекам правільным, справядлівым. Сам Самойла, відавочна, у сябе дома пачуваўся свабодна. Пра свае клопаты не любіў гаварыць. І калі ён быў у прыўзнятым настроі, нават чытаў вершы. І ніхто не ведае, ці ўласныя, ці іншых аўтараў.

Апартаменты на апошнім паверсе сталі вядомыя ў пэўных колах. Прыходзілі сюды знаёмыя, госці, сябры: беларусы, палякі, рускія. Часта наведвалі студэнты са сваімі працамі, вершамі. Прыходзіў

даволі часта Браніслаў Тарашкевіч, які, відавочна, зрабіў значны ўплыў на прыхільнасць Самойлы да пытання беларускага перакладу "Іліяды", першыя некалькі песень якой былі апублікаваныя ў 1922 г. у беларускай віленскай прэсе[288].

У 1921–1922 гг. адбылося значнае павелічэнне актыўнасці беларускага руху ў Вільні ў сувязі з выбарамі (упершыню ў гісторыі) 14 беларускіх прадстаўнікоў у польскі Сейм (за выключэннем тых беларусаў, якія прыйшлі са спіса Польскай народнай партыі "Вызваленне"). Гэта зрабіла вялікае ўражанне на Самойлу. Ён рэагаваў аналагічна таму, як рэагаваў на выхад "Жалейкі": спантанна, актыўна. У сярэдзіне 1923 г. ён апублікаваў больш шырокі філасофскі трактат, у якім заклікаў беларусаў акумуляваць ўнутраную энергію, загартоўваць волю, развіваць сваё "я" або ідэнтычнасць, прыняць удзел у нацыянальным руху. *"Кожны з нас,* — пісаў, — *каб быць жывым чалавекам, сам павінен перажыць раней ці пазней незвычайны момант, пэўны выбух, сапраўдную духоўную рэвалюцыю"*[289]. Такі, верагодна, шок перажыў Самойла ў Вільні, цалкам уключаючыся ў беларускі рух Леапольда Родзевіча, Язэпа Лагіновіча, Браніслава Тарашкевіча[290]. Пачаў нават сам пісаць і гаварыць па-беларуску. Мову ён добра ведаў з дзяцінства. У сваіх публікацыях часта атаясамліваў сябе з беларускім народам, хоць сваім прозвішчам падпісваўся вельмі рэдка. Я прачытала, напэўна, усе найбольш важныя яго публікацыі ў Польшчы і шмат газетных артыкулаў і толькі два разы натрапіла на яго ўласны подпіс (разгледзім ніжэй). Самым распаўсюджаным яго псеўданімам быў Суліма[291], выкарыстоўваў яго ў асноўным у першыя гады; пазней рэдка падпісваўся, відаць, лічыў, што быў расшыфраваны. Падпісваўся літарамі С., Н. або псеўданімамі Сірыус, Гудас, Privatissimus, Наглядчык, Аглядчык, Уладзімір Чэмер, Мінчук, Стары Мінчук, Ars,

---

[288] Фрагмент "Іліяды" ў перакладзе на беларускую мову з арыгінала Б. Тарашкевіча (радкі з 1–207) апублікаваў "Беларускі звон" (Вільня, 7 і 9 сакавіка 1922 г.).

[289] Суліма. Гэтым пераможаш! С. 10.

[290] У сваіх паказаннях Самойла заявіў, што рэдактарамі часопісаў, якім ён прапаноўваў артыкулы, былі Л. Родзевіч, Я. Лагіновіч. Гл.: Пратакол судовай справы з 23 лютага па 22 мая 1928 г.

[291] Сын У. Самойлы сцвярджае: з аповедаў бацькі вынікае, што "Суліма" — гэта родавы герб і што першым у іх родзе быў Завіша Чорны з Гарбова. Параўнай: Niesiecki, K. Herbarz Polski. Wyd. J. N. Bobrowicz. T. X. Lipsk, 1845. S. 112–113.

Roxolanus, Civis, Alter Ego. Я ўпэўнена, што гэта толькі частка яго псеўданімаў[292].

Ён стаў адмысловым палітычным публіцыстам. Літаратуразнаўчая крытыка адышла на другі план. У беларускай прэсе, куды ён пісаў, літаратурныя тэмы асвятлялі іншыя. Мяркуючы па некаторых публікацыях, ён змяніў сваё стаўленне да Савецкай Беларусі. Хто ведае, ці не нацыянальная палітыка ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы ў тыя гады была адным з вырашальных фактараў у яго эвалюцыі. У 1923 г. ён пісаў пра паспяховыя крокі і гаспадарчыя дасягненні ў Савецкім Саюзе. Крыху пазней напісаў, што ў той час ён лічыў заходнюю частку Беларусі больш паспяховай. Аднак быў перакананы ў тым, што *"і галава, і сэрца больш прыдадуцца ва ўсходняй частцы"*[293].

Паступова змяніўся яго лад жыцця. Некаторы час яшчэ выкладаў у гімназіі Велера. Акрамя таго, ён быў заняты грамадскімі справамі. Літаральна праглынаў стосы газет на польскай, беларускай, рускай, нямецкай мовах. Артыкулы, як правіла, пісаў на сваёй старой расійскай машынцы (каторую яму падарыў адзін з сяброў), і то ўначы. Пасля завяршэння працы выходзіў на шпацыр. Ён жыў у пастаянным напружанні.

Пра яго публікацыі 1922–1927 гг. поўнай інфармацыі чытач тут не знойдзе. Гэта проста немагчыма. Па-першае, ён пісаў вельмі шмат. Ён часта быў аўтарам уступных артыкулаў, што друкаваліся без подпісу. Перашкаджаюць таксама і пастаянна змяняльныя ім псеўданімы. Але перш, чым перайсці да абмеркавання публіцыстыкі Самойлы, зазірнем у большую працу (60 старонак немалога

[292] Цяжка адназначна патлумачыць звычку выкарыстоўваць некалькі псеўданімаў. Адной з прычын можа быць адсутнасць польскага грамадзянства да 1928 г. уключна. Колькіразовае газетнае "парушэнне" і прыцягненне да адказнасці магло прывесці да выгнання з Польшчы. Цалкам магчыма, а можа, гэта была галоўная прычына — ён павінен быў хаваць свой удзел у беларускай прэсе перад рускім эміграцкім асяроддзем, дзе кожнае праяўленне гэтага руху інтэрпрэтавалася як бальшавіцкая дзейнасць ці дзейнасць ад імя бальшавікоў. У "Przeglądzie Wileńskim", дзе дакладна было вядома імя Самойлы як аўтара артыкула або любой іншай публікацыі, ніколі яго імя не выкарыстоўвалася ў нейкім тэксце пра яго. Ён сам толькі аднойчы выкарыстаў сваё прозвішча. Часам Самойла сваім псеўданімам надаваў нейкае сімвалічнае значэнне, падпісваючыся як *"Obserwator"* або *"Alter Ego"*. Калі выказваў думку, якую ніхто не падзяляў у беларускім асяроддзі, падпісваўся *"Privatissimus"*.

[293] Sulima. "Nowy" i "najnowszy" kurs polityki polskiej w sprawie białoruskiej. S. 3.

фармату) пад назвай "Гэтым пераможаш!" і з падзагалоўкам у дужках («Нарысы крытычнага аптымізму»). Рэцэнзент у *"Przeglądzie Wileńskim"* разглядаў гэтую працу як філасофскую, прызнаў, што яна настолькі поўная і разнастайная зместам, што пераказ яе цалкам проста немагчымы[294]. Сёння гэты тэкст чытаецца як адозва да кожнага здольнага думаць беларуса, каб гартаваў сваю волю, развіваў энергію, бо ў гэтым знойдзе сапраўдную радасць жыцця. Уласную энергію чалавек павінен спалучаць з энергіяй усёй нацыі і патрабаваць ад уладаў культурнай аўтаноміі. Артыкул мае дзве плоскасці. Адна — гэта рэальнасць жыцця беларускага народа, якая, на думку аўтара, дае падставу для аптымізму. У беларусаў ёсць уласная мова, свая паэзія, яны не хочуць і надалей заставацца яшчэ ўгнаеннем для іншых народаў, яны маюць сілы, каб свядома імкнуцца да самастойнасці. Другая плоскасць — ідэалагічная, што абапіраецца ў асноўным на канцэпцыі Лейбніца і Фіхтэ, якія высунулі ідэю перавагі духу над матэрыяй. Аўтар павучаў, якім павінна, на яго думку, быць пазіцыя свядомага беларуса: не дапусціць дэнацыяналізацыі, супрацьстаяць любым падобным спробам. Рабіць гэта штодзённа, рэгулярна, а не час ад часу (*"Нацыя — гэта штодзённы плебісцыт"*). Аўтар выказваецца на карысць так званай *"творчай барацьбы"* і супраць барацьбы рэвалюцыйнай. Заканчвае артыкул словамі "Дык трымайся, беларускі народзе, сваіх каранёў!" і тэкстам з Евангелля: *"Бо на гэтым камяні Я збудую Царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе!"* Амінь, амінь![295].

На думку аўтара, беларускі народ знаходзіцца на такой стадыі развіцця, што сілу можа паказаць толькі тады, калі дзейнічае ў адзінстве. Непрыяцель імкнецца падзяліць яго, але беларускі народ пераважна адзіны, бо ў асноўным сялянскі. Галоўным чыннікам, які цэментуе нацыю, з'яўляецца мова. Самойла супраць усіх рэвалюцый у першую чаргу таму, што яны не выступаюць эканамічным сродкам барацьбы паміж дабром і злом і нішчаць традыцыйныя каштоўнасці. Да таго ж, на яго думку, не той народ, не той клас, які зрабіў рэвалюцыю, карыстацца яе дабротамі. Ён падвяргаў рэзкай крытыцы сучасных яму адэптаў марксізму, якія не вылучаюць на пярэдні план духоўныя сілы нацыі. Рэцэнзент *"Przeglądu Wileńskiego"* падкрэсліваў, што Самойла — чалавек вельмі

[294] Obserwator. Optymizm krytyczny jako próbka filazofii białoruskiej.
[295] Евангелле ад Мацвея. Раздз. XVI. В. 18.

здольны і вельмі добра начытаны — часта бярэ голас пры дыскусіях на філасофскія тэмы (у Вільні існаваў клуб, дакладна не вызначана дзе, але там адбываліся сустрэчы і дыскусіі на тэмы рэлігіі і філасофіі). Гэта рэдкая і станоўчая з'ява. Так Самойла прыходзіць да беларускага народу з добрай місіяй. Ён пантэіст і да хрысціянскіх традыцый ставіцца неадназначна. Туманныя таксама, на думку рэцэнзента, яго разважанні пра сілу зла і барацьбы з ім. Ён хваліць аўтара за тое, што той змагаецца з гарэлкай, але крытыкуе яго за едкі, газетны спосаб крытыкі апанентаў у такім сур'ёзным артыкуле (гаворка ідзе пра В. Студніцкага, які быў гарачым прыхільнікам асіміляцыі беларусаў; Самойла змагаўся з ім цвёрда, дзе толькі мог). Артыкул Сулімы "Гэтым пераможаш!" абмяркоўваўся таксама на старонках рускай газеты *"Виленское утро"* і ўвогуле пазітыўна. Адзіная прэтэнзія: аўтар не прадумаў, для каго ўласна піша. Калі ў агітацыйных мэтах, то "малым" непатрэбныя ані Гегель, ані Фіхтэ[296]. Артыкул Самойлы гучаў як пасланне прарока. У ім адлюстравалася значная розніца ў поглядах паміж аўтарам і левым беларускім рухам. У некаторых пытаннях адчуваецца адсутнасць узгодненасці. Так, напрыклад, аўтар выступаў за "творчую барацьбу", але супраць барацьбы рэвалюцыйнай.

У гэтым жа 1923 г. праходзіў у Беластоку працэс 45 беларусаў. Самойла прысутнічаў у якасці рэдакцыйнага супрацоўніка[297] левых беларускіх выданняў, пазней яго артыкул выйшаў асобнай кніжкай. Ён напісаў у ёй, як намаганнямі некалькіх настаўніц, якія хацелі стварыць беларускія школы, быў заснаваны рух, які пракуратура разглядала як паўстанцкія і ўзброеныя дзеянні. Як жа тады трэба разумець аўтара, у чым заключаецца адрозненне паміж *"творчай барацьбой"* і *"барацьбой рэвалюцыйнай"*? Як можна было ва ўмовах палітыкі раздзяржаўлення, што праводзілася польскімі ўладамі і іх магутным апаратам (пра які аўтар штосьці ведаў), выступаць супраць прыгнёту толькі выключна метадам "творчай барацьбы"? Цесна супрацоўнічаючы з рэдакцыямі левых беларускіх газет, ён дасканала ведаў механізм іх функцыянавання. Ведаў, як трэба было змагацца, і не толькі прававымі метадамі, не кажучы ўжо пра складаную сітуацыю з фінансаваннем газет.

[296] Бохан, Д. Д. Западная Беларусь. Литературный зборник // Виленское утро. 1924. 10 студз.

[297] Працэс 45 беларусаў у Беластоку. Вільня, 1923. Выдадзены Беларускім пасольскім клубам ананімна.

З артыкула, у якім ацэньваў рэлігійнасць чытачоў, цяжка зрабіць выснову, у якой ступені ён быў рэлігійным. Ён быў, несумненна, пантэістам. З розных публікацый вынікае ўражанне, што прызнаваў за рэлігіяй важную ролю. Ён разглядаў яе як фактар у рэгуляванні грамадскага жыцця, маральны фактар у духоўным жыцці нацыі. Ужо ў 1903 г.[298] яго захапіла ідэя стварэння нацыянальнай царквы, каб інтэграваць нацыю, у якой частка належала да каталіцкага касцёла, а большасць былі праваслаўныя. Таму рэлігія ў спалучэнні з палітыкай яго цікавіла ўжо на пачатку беларускага адраджэнскага руху. Піянераў гэтага руху ён крытыкаваў якраз за тое, што яны ігнаравалі рэлігійнае пытанне. У 1929 г. ён зноў вярнуўся да ідэі беларускай (!) нацыянальнай царквы. Яго пераследавала думка пра падзел нацыі, і ў рэлігіі ён шукаў аб'яднальны складнік. У іншых месцах рэзка нападаў на тыя ўрады і цэркви, якія ўхвалялі і дабраслаўлялі народы на ўзаемнае забойства падчас Першай сусветнай вайны[299].

Паўстае пытанне: якім чынам адно з адным спалучалася? Як замацавалася практыка, якая супярэчыла агульным падыходам? Не варта спрашчаць сітуацыю, як калі б на ўсіх узроўнях чалавечага мозгу была абсалютная гармоніі агульных поглядаў і тых, што з'яўляюцца штодня. Жыццё дае шмат прыкладаў вельмі супярэчлівых. Вялікі Паўлаў, заснавальнік філасофіі ўмоўных рэфлексаў, прадстаўнік матэрыялістычнага ладу мыслення, быў, паводле ўспамінаў М. Горкага, шчырым вернікам[300]. Вядомыя супярэчлівыя — рэлігійныя і містычныя — погляды аднаго з найвялікшых сатырыкаў дзевятнаццатага стагоддзя Мікалая Гогаля. Такіх прыкладаў ёсць шмат.

Цалкам магчыма, што сутыкненне на кожным кроку з варожай сілай, якая штурхала беларускае грамадства на падзел, абудзіла ў Самойлу змагара за беларускую нацыянальную справу. Варта разумець, у якіх пытаннях яго погляды супадалі з поглядамі беларускай лявіцы, а ў якіх кардынальна разыходзіліся.

Камуністычная партыя Заходняй Беларусі заўсёды лічыла нацыянальнае пытанне складовай часткай сацыяльнай рэвалюцыі.

---

298 Privatissimus. Unija w przeszłości i przyszłości // Przegląd Wileński. 1929. № 7–8. S. 9.

299 Урады і народы // Сын беларуса. 1924. № 20. 30 ліп.

300 Горький, М. Из воспоминаний о Павлове // Собрание сочинений. Т. XVII. Москва, 1952. С. 469.

Яна высока цаніла тыя змены, якія адбываліся ў беларускім грамадстве ў сувязі з рэвалюцыяй у Расіі, у якой беларусы ў значнай ступені бралі ўдзел. Існавала меркаванне, што беларускі народ, як і любы іншы, асабліва ў складзе капіталістычнай Польшчы, паддаецца класаваму расслаенню. Затое Самойла лічыў, што нацыянальнае пытанне, у прыватнасці беларуская праблематыка, з'яўляецца асаблівым. Яго мэтай было аб'яднанне ўсіх беларусаў, падзеленых межамі і цэрквамі. Гэта карэлявала з поглядам, што беларускі народ мае для гэтага ўсе дадзеныя, таму што ён у асноўным сялянская нацыя. Здавалася б, што гэтыя дзве пазіцыі знаходзяцца на процілеглых полюсах. У той жа час у канкрэтнай міжнароднай сітуацыі Польшчы нацыянальнае пытанне, калі гаварыць пра беларусаў, амаль цалкам супала з пытаннем сялянскім. КПП — КПЗБ у дваццатыя гады была засяроджаная на тым, каб з'яднаць на аснове сваіх ідэй увесь беларускі народ у справе барацьбы за нацыянальную ідэнтычнасць і супраць нацыянальнага прыгнёту, за дэмакратычныя свабоды, за школы, за навучанне на роднай мове, за зямлю. А гэта ўжо ўяўляла з сябе агульную платформу.

Самойла быў супраць рэвалюцыі. КПЗБ рыхтавалася да яе. Здавалася б — дыяметральныя супрацьлегласці. Але рэаліі былі такія, што беларуская дзяржава была створаная ў Савецкім Саюзе. КПЗБ лічыла БССР у якасці адзінага прадстаўніка беларускага народа і праводзіла дзейнасць на карысць сацыялістычнай дзяржавы. Самойла пэўны час лічыў, што паколькі гэта першая аўтаномная беларуская дзяржава паўстала ў межах Савецкага Саюза, паколькі яна развівае культуру і адукацыю народа, трэба яе прызнаць, падтрымаць і абапірацца на яе. Гэтая няпісаная ўмова стварала платформу супрацоўніцтва.

Такім, якім нам уяўляецца Самойла ў сваім артыкуле ў жніўні 1923 г., ведала яго хіба толькі вузкае кола сяброў. Асноўная маса чытачоў ведала яго па артыкулах, якія білі ў цэль беззаганна, не прызнаючы ніякіх перашкодаў.

У тым жа 1923 г. Самойла распачаў серыю публікацый на тэму Беларускага пасольскага клуба[301]. Адразу вызначыў, у чым заключалася асноўная супярэчнасць, што падзяляла Сейм у дваццатыя гады: ён быў абраны як прадстаўнічы шматнацыянальны орган,

---

[301] Суліма. Беларускі клуб у польскім Сойме // Новае Жыццё. Вільня. 1923. № 7–10. (У чатырох нумарах выдання, пачынаючы ад 22 красавіка.)

а кіроўчыя колы лічылі, што вырашаць пытанні ў ім павінны выключна палякі. І якая ў такіх умовах павінна быць роля і тактыка беларускага клуба? На думку аўтара, паход у Сейм быў кампрамісам з беларускага боку (тэзіс А. Луцкевіча. — *А. Б.*) замест непасрэднай барацьбы за незалежнасць. І вось ён даводзіць: гэты кампраміс не можа заходзіць занадта далёка. Самойла востра крытыкаваў Тарашкевіча за тое, што той першым зрабіў заяву пра лаяльнасць Беларускага клуба. Увесь Клуб крытыкаваў за выказванне вотуму даверу ўраду ген. Сікорскага. Ён высмейваў наіўнасць тых, што першапачаткова давяралі Пілсудскаму, а потым скардзіліся, што ён не стрымаў свае абяцанні ў дачыненні што да "роўных з роўнымі". Ворага трэба зведаць своечасова і займаць у адносінах да яго адпаведную пазіцыю. Самойла крытыкаваў Тарашкевіча за тое, што ён у сваёй сеймавай дэкларацыі канстатаваў, што беларусы прыйшлі ў Сейм па зямлю і школы. А свабода? — пытаецца аўтар.

Пазнейшыя выступы Тарашкевіча Самойла хваліў. Ацэнку такога стаўлення пакінем на меркаванне чытачоў. Хачу адзначыць толькі два моманты. Па-першае, беларускі друк, у якім публікаваўся Самойла, залежаў тады ад некалькіх дэпутатаў і ў пэўнай меры ад усяго Клуба. Але Самойла захаваў незалежную ад сваіх працадаўцаў пазіцыю: больш за тое, іх нават крытыкаваў (некаторых за тое, што занадта шмат п'юць). І што яшчэ не менш цікава: пазіцыя Самойлы ў тактыцы Беларускага пасольскага клуба амаль супала з тагачаснай пазіцыяй КПЗБ[302].

Пад загалоўкам «Што такое "Вызваленне" з беларускага пункту гледжання» Самойла апублікаваў шэраг артыкулаў у газетах "Наша будучыня" і "Нашае жыццё" адразу ж пасля выбараў[303]. Ён падкрэсліваў у іх, што "Вызваленне" было найсур'ёзнейшым канкурэнтам Беларускага выбарчага камітэта і пры гэтым вельмі небяспечным. Па-першае, таму што абвясціла радыкальную

[302] Я. Лагіновіч (Корчык) у біяграфіі (1936 г.) пісаў, што на пачатку 1924 г. ЦК КПЗБ даручыў яму заданне ў Вільні востра выступіць і раскрыць кампрамісную тактыку Тарашкевіча ў Сейме. У выніку Тарашкевіч страціў кіраўніцтва (кіраўніком стаў В. Рагуля), а ў самім Клубе ў хуткім часе паўстала так званая сацыялістычная фракцыя. Гл:. Centralne Archiwum KC PZPR (далей CA KC PZPR). Autobiografja J. Łohinowicza. Teczka osobowa № 79291.

[303] Суліма. Што такое "Вызваленьне" з беларускага пункту гледжаньня. Вільня, 1923 (брашура).

сацыяльную праграму, выкарыстоўвала вопыт беларускага адраджэнскага руху і праводзіла агітацыю на беларускай мове (было сярод "вызваленцаў" некалькі вядомых беларускіх дзеячаў, як, да прыкладу, дэпутат Станіслаў Балін і іншыя, якія крыху пазней заснавалі Незалежную сялянскую партыю). Асноўная думка, якая праходзіць праз усё даследаванне: Польская народная партыя (PSL) "Вызваленне" з'яўляецца польскай партыяй, а беларусы не дзеці, якіх нехта іншы павінен прадстаўляць. Адчуваецца, што аўтар брашуры прадстаўляе самастойны, сфарміраваны беларускі нацыянальны рух і выступае яго актыўным удзельнікам. Цікавая таксама брашура пра падрыхтоўку да выбараў гмінных[304]. Папраўка да акта канстатавала вельмі важную дэталь: у адпаведнасці з дзейнай канстытуцыяй мусіць быць пяціступенная сістэма выбараў — не хапала аднаго пункту: побач з вольнымі, прамымі, тайнымі і ўсеагульнымі адсутнічала азначэнне роўных выбараў. З гэтай папраўкі вынікала, што палякі на Крэсах маюць права на атрыманне дадатковых галасоў (хто ўмее чытаць і пісаць на польскай мове, служыў у польскім войску і г. д.). Самойла падлічыў, што на Крэсах адзін паляк у чатыры разы даражэйшы, чым звычайны "тутэйшы". І, нарэшце, ён паказаў, што ў гміне войт, а ў горадзе староста "сам кіруе" (адсюль: самакіраванне), гэта значыць, што адміністрацыя прымае рашэнне і аб выбарах і аб функцыянаванні адміністрацыйных структур. А ў заключэнні чытаем: *"Забойства мясцовага самакіравання — гэта самагубства парламента"*.

Брашуры папярэднічаў дэвіз: "Вольныя з Вольнымі, Роўныя з Роўнымі". Пад гэтым дэвізам ідзе іранічны подпіс: *Міцкевіч — Пілсудскі*.

У гэтай сітуацыі літаратурная крытыка як бы перастала цікавіць Самойлу. Але пра некалькі прац у гэтай галіне варта згадаць. У прыватнасці, агляд паэзіі святара Канстанціна Стэповіча (псеўданім — Сваяк)[305]. Аўтар назваў рэцэнзію "Cor Ardens" (гарачае, або палымянае, сэрца), чым нібыта выказаў сімпатыю да лірыка, робячы пры гэтым прафесійны аналіз. У іншым месцы асвятліў раман Язэпа Нарцызава[306]; здаецца, што звярнуў увагу на яго

[304] Суліма. Які "самаўрад" гатуе беларускаму народу Польская рэспубліка. Вільня, 1924 (брашура).

[305] Суліма. "Cor Ardens" (палымянае сэрца) // Сын беларуса. 1924. 15, 20 жн.

[306] Нарцызаў, Я. "Вар'ят без вар'яцтва" // Змаганне. 1923. 2 студз.

таму, што беларуская літаратура не мела большых сур'ёзных раманаў. Самойла пільна сачыў за навуковай працай беларусаў у Літве (Вацлава Ластоўскага, Клаўдзія Душэўскага), падкрэсліваючы, што іх дасягненні, незалежна ад палітычнай арыентацыі, павінны быць здабыткам усяго народа. Ён інфармаваў чытачоў пра выхад у Коўне штомесячніка "Крывіч". Асабліва цікавы яго аналіз апублікаванай у Коўне працы "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі", або "Гісторыя беларускага пісьменства", якую ўклаў Вацлаў Ластоўскі. Самойла назваў кнігу "капітальнай працай"[307]. Вельмі цікавай з'яўляецца яго спрэчка з праф. Марыянам Здзяхоўскім. У сувязі са стагоддзем з дня нараджэння Людвіка Кандратовіча (Сыракомлі) Здзяхоўскі прачытаў у Віленскім універсітэце спецыяльны даклад, падзагаловак якога гучаў так: "Літоўска-беларускі элемент у польскай творчасці". Самойла адказаў серыяй артыкулаў, а затым брашурай. "*Нас, беларусаў,* — пісаў ён, — *справа Сыракомлі вельмі цікавіць*". Ён даказваў і абараняў меркаванні тых, хто лічыў Сыракомлю беларускім паэтам, што праўда — спаланізаваным. Вельмі высока цаніў стаўленне прафесара да нацыянальных меншасцяў, але не даравал яму негатыўных адносін да самастанаўлення "*антыгістарычных народаў*". Ён адстойваў пункт гледжання, што народы, якія пасля Першай сусветнай вайны не стварылі сваёй дзяржавы, яшчэ адыграюць важную ролю ў гісторыі[308].

Пра творчасць Янкі Купалы дваццатых і трыццатых гадоў Самойла не выказваўся. Ва ўсякім разе, я не знаходзіла такіх публікацый. У 1923 г. ён назваў Купалу "каралём нашай паэзіі". У 1938 г. ён апублікаваў першую песню паэмы "Слова пра паход Ігаравы" ў перакладзе Янкі Купалы (з дваццатых гадоў) з шырокім уступам, які па сутнасці прысвяціў іншым аспектам (стаўленню

[307] Суліма. "Крывіч" // Голас беларуса. Вільня. 1924. 17 лют.; Roxolanus. Kapitalne dzieło // Przegląd Wileński. 1927. 5 czerwca. S. 2–6.

[308] Суліма. Праф. Здзяхоўскі аб беларускай душы. Вільня: выд. газеты "Змаганне", 1924 (брашура). Яна была крытычна ацэнена расійскім літаратурным крытыкам Д. Д. Боханам, які прызнаў рацыю праф. Здзяхоўскага. Гл.: prof. Zdziechowski i p. Sulima, krytyk białoruski // Виленское утро. 1924. 18 янв. Тэзу Самойлы пра Сыракомлю падтрымаў Антон Навіна ў артыкуле пад назвай: O duszy białoruskiej Syrokomli // Przegląd Wileński. 1937. № 9. S. 5–6. Гл. таксама: С. Варварызацыя дзяржаўных народаў // Сын беларуса. 1924. № 22. 3 жн.

да нацыянальнай традыцыі), мінімальна надаючы увагу аўтару перакладу[309].

Стыль Самойлы, кампазіцыя, мова — усё гэта вельмі важны складнік яго журналісцкай творчасці. Так, Рыжскі дагавор 1921 г. ён назваў *“вердыктам новага Саламонавага суда, бо ніводная з краін — ні Польшча, ні Расія — не была сапраўднай маці, дзіця* [г. зн. Беларусь] — *падзялілі”*[310]. Калі ў *“Gazecie Warszawskiej”* (нумар 213 за 1923 г.) быў надрукаваны артыкул пра тое, што асадніцтва не вытрымае іспыту і ў выніку *“затрыумфуе Беларусь”*, Самойла, са спасылкай на гэтыя словы, напісаў: *“Амінь, пабожна дадамо”*, а свой кароткі артыкул на гэтую тэму назваў па-польску “Triumfuje Białoruś”[311]. Такога кшталту трукаў, якія яго забаўлялі, было шмат. Але мы сустракаем і больш складаныя. Напрыклад, артыкул пад назвай “Два Обсты ў адной галаве”[312] (Обст, па-нямецку *“садавіна”,* — гэта прозвішча рэдактара эндэцкага *“Dziennika Wileńskiego”*). Артыкул мае падзагаловак “Спроба паставіць дыягназ нейкай невядомай хваробы”, які з’явіўся ў выніку заменаў апазіцыйных крэслаў на міністэрскія. Так, Обст з *“Dziennika Wileńskiego”* абараняе інтарэсы *“мясцовага польскага насельніцтва”*. Мясцовымі жыхарамі лічацца выключна тыя, хто прыйшоў на Усходнія крэсы некалькі сотняў гадоў таму, умацаваўся тут з пункту гледжання эканамічнага, культурнага, а ў апошні час і палітычнага. Гэтаму польскаму элементу, згодна з Обстам, абавязаныя дасягненнямі краіны, якімі карыстаецца ўсё насельніцтва крэсаў. Такога ж кшталту Обсты таксама працуюць у Познані, у Быдгашчы. Обсты Заходніх крэсаў, сумленныя палякі, як і іх вільнюскі калега, абараняюць інтарэсы і правы *“польскага элемента, які знаходзіцца пад пагрозай”*, на нямецкіх крэсах Польшчы, а віленцы — на беларускіх. Яны пішуць, што ўкладзены ў гэтыя землі нямецкі капітал, індустрыялізацыя краю, прынесеная сюды больш высокая культура, яшчэ не могуць ім, немцам, гэтым прыбышам, асаднікам, даць права на панаванне, таму што ўсё багацце, прагрэс і цывілізацыя былі створаны

[309] Чэмер, Ул. Вялікі скарб нашай старасвеччыны // Калосьсе. Вільня, 1938. № 2 (15). С. 77–80.

[310] Privatissimus. Unija w przeszłości i przyszłości…

[311] Суліма. “Triumfuje Białoruś!..” // Сцяг народа. Вільня. 1923. 23 жн.

[312] Суліма. Два Обсты ў адной галаве // Вольны сцяг. Вільня. 1923. 2 кастр.

рукамі, працай польскіх сялян (таксама, як на ўсходзе — працай беларускіх сялян, дадае Суліма). На думку заходніх Обстаў, гэтых асаднікаў трэба выселіць (а на ўсходзе польскіх асаднікаў пасяліць). Быдгашцкі Обст піша, што ніякая сіла на свеце не можа забараніць польскаму ўраду некалі спагнаць за крыўды, зробленыя палякам і г. д. Пры тым віленскі Обст не павінен ведаць, што на заходніх крэсах існуе яго ідэалагічны антыпод. Абодва Обсты вядуць барацьбу за існаванне, іх аб'ядноўвае польскасць, і яны могуць спакойна практыкаваць "незаплямленую" маральнасць. Зусім інакш, піша аўтар, выглядае справа, калі абодва мозгі павінны змясціць супрацьлеглую ідэалогію абодвух Обстаў у адной варшаўскай галаве, каторая павінна кіраваць аднычасова і адным, і другім Обстам. Гэта абсалютна немагчыма, таму нічога дзіўнага, што варшаўская галава хварэе, траціць здаровы сэнс і з часам ператвараецца ў ідыёта. Таму *"Gazeta Warszawska"*, якую Самойла заўсёды лічыў сур'ёзным выданнем, моцна сапсавалася. Дадзены тэкст не перадае ўсіх нюансаў таго артыкула па *"обстаізацыі мазгоў"*.

Чытач заўважыць, што артыкулы і выбраныя тут для разгляду іншыя публікацыі з'явіліся ў 1922–1924 гг. Гэта невыпадкова. Быў гэта важны этап у жыцці Самойлы. Тое, што ён у гэтыя гады закранаў у сваіх публікацыях у Вільні, — амаль цалкам адлюстраванне яго паслання. Праз некалькі гадоў прыбывання ў гэтым горадзе, у перыяд адноснага развіцця дэмакратычных свабод, калі палітычнае жыццё розных груп грамадства было досыць інтэнсіўным, а прэса займала значнае месца ў грамадскім жыцці, Самойла цалкам быў паглынуты сваёй творчасцю. Менавіта ў гэты перыяд выступаў пераважна як *"Суліма"*. У выданні Генеральнага штаба гэтага перыяду (1922–1923) пазначана, што Самойла быў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК) і што належаў да правага крыла[313].

У 1925–1927 гг. гэтая тэматыка змянілася і набыла больш агульны характар: тэксты пра Юзафа Пілсудскага і яго ўрады, палеміка з К. Сракоўскім, артыкулы на тэму штомесячніка *"Mniejszości Narodowe"* ("Нацыянальныя меншасці") і, як і раней, грунтоўныя, без утойванняў, агляды міжнародных спраў. Голас як бы прыціх.

[313] Krótki zarys zagadnienia białoruskiego. Warszawa: Wydawnictwo Sztabu Generalnego, 1928. Oddzial II. S. 220.

Ужо не падпісваўся *"Суліма"*: альбо ўвогуле не падпісваўся, або выступаў як *"Наглядчык"* (Аглядальнік). Увогуле яго публікацыі выходзяць усё радзей. Мы не лічым, што справа ў яго ўступленні ў Беларускае навуковае таварыства ў 1924 г. Ніжэй скажам, што ён быў катэгарычна супраць разладу ў Беларускім пасольскім клубе (чэрвень, 1925), а гэта, напэўна, магло быць нагодай зменаў, якія адчуваюцца ў яго публікацыях.

Ад сярэдзіны 1925 г. да сярэдзіны 1927 г. у краіне актыўна дзейнічала Грамада. Самойла пра гэта пісаў. Паўстае пытанне: якое было яго стаўленне да Грамады? З пазнейшых выказванняў на гэтую тэму мы ведаем, што Самойла пазітыўна ацэньваў Грамаду, як *"самаабарону беларускага народа"*[314]. З матэрыялаў паліцыі вынікае, што з 1926 г. Самойла быў сябрам БНК і што належаў да вярхоў Грамады, але, хутчэй, не да той групы, *"якая слепа выконвала дэрэктывы Камінтэрна"*. Іншая паліцэйская "Справаздача дзейнасці беларускіх арганізацый у Польшчы за 1925 г."[315] паказвае два моманты: 1. Матывацыя заснавання асобнага пасольскага клуба. На пярэдні план выходзяць перавагі сацыяльнага кшталту над нацыянальным і жаданне падтрымаць крайніх левых у Сейме; 2. Матывацыя праціўнікаў (сярод прозвішчаў няма прозвішча Самойлы). У самім дакуменце, аднак, прозвішча Самойлы згадваецца двойчы (стар. 9 і 26), пры разглядзе сітуацыі да і пасля расколу. У абодвух выпадках яно згадваецца сярод грамадоўцаў. У дакуменце няма ніякіх слядоў заангажавання Самойлы ў акцыі супраць фарміравання асобнага клуба Грамады, бо ўсе дзеянні адбываліся дастаткова адкрытым чынам, а не толькі з удзелам непасрэдных чальцоў клуба. Хутчэй за ўсё, ён быў супраць стварэння асобнага клуба. Ён востра дыскутаваў з ініцыятарамі расколу, але ўстрымаўся ад адкрытай крытыкі. Тарашкевіч пісаў у аўтабіяграфіі 1933 г., што ўвосень 1925 г., гэта значыць пасля стварэння асобнага пасольскага клуба, кіраўніцтва Грамады стварыла рэдакцыйны савет, які павінен быў апекавацца ўсімі друкаванымі грамадоўскімі выданнямі. У гэты савет павінны былі ўваходзіць

---

[314] Gudas. Chto lepszy // Przegląd Wileński. 1930. 29 czerwca. S. 3–5.

[315] Historia ruchu białoruskiego. Urząd Śledczy m. Wilna. Brygada V. S. 211. Centralne Archiwum Ministerstwa Spraw Wewnętrznych (CA MSW). Sprawozdanie z działalności białoruskich organizacji za 1925 r.; CA KC PZPR. Wojewódzka Komenda PP w Wilnie. 287/I-1.

С. Рак-Міхайлоўскі, У. Самойла, Я. Бабровіч, псеўд. Сямён. Антон Луцкевіч негатыўна адрэагаваў на гэты крок, мяркуючы, што Бабровіч, член ЦК КПЗБ, засланы "камісар" і сам шмат разоў *"адыходзіў і вяртаўся"*[316]. Там няма згадкі пра тое, як адрэагаваў на гэта Самойла. Мы ведаем ад сям'і, што Тарашкевіч падтрымліваў асабістыя сяброўскія адносіны з Самойлам. Ён ведаў яго вельмі добра, ведаў яго агульнадэмакратычныя погляды, журналісцкі талент, ведаў, што ён сумленны чалавек і нічога насуперак сваім перакананням рабіць не будзе, а будзе адстойваць сваю пазіцыю і ў якасці прадстаўніка беларускага нацыянальнага руху. Вядома, Самойла ўнёс некаторы ўклад у грамадоўскі друк, хоць ён адрозніваецца ад таго, які быў у перыяд 1922–1924 гг. Публікацыі гэтага перыяду маюць пераважна прафесійны характар.

З 1927–1928 гг. нам вядомыя два дакументы Самойлы. Адзін асабісты, другі — чыноўніцкі. Асабісты дакумент — гэта "Ліст у рэдакцыю" з газеты "Наша праца", № 7 ад 22 кастрычніка 1927 г. Самойла засведчыў у ім, што фармальна выступае ад усіх беларускіх таварыстваў, да якіх ужо даўно належаў, але, праўда, у апошні час актыўнага ўдзелу ў іх працы не браў (зазначым адначасова, што большасць таварыстваў была тады пад уплывам грамадоўцаў і камуністаў).

Што заахвоціла яго на гэты крок, які ён лічыў для сябе амаль самагубчым? Ведаючы некаторыя яго выказванні на тэму стану, у якім апынуўся беларускі рух пасля разгрому Грамады і арышту яе кіраўнікоў, прымаючы пад увагу, што ліст быў адрасаваны легальным выданням, матывы маглі б зводзіцца да наступнага. Пілсудскаму ўдалося не толькі разграміць Грамаду, але ў той жа час выклікаць стварэнне разнастайных груп і групак беларусаў (Самойла казаў, што не належаў ні да адной). Узаемныя абвінавачванні, штучна ініцыяваныя або знарок завостраныя (тут, відавочна, мелася на ўвазе КПЗБ) няўхільна прыводзяць да самаразбурэння беларускага лагеру і да поўнага нігелізму ў нацыянальным пытанні. У гэткай атмасферы Самойла не мог не толькі працаваць, але і адпачываць. З таго ж ліста вынікае, што ў свой час Самойла быў праціўнікам падзелу Беларускага пасольскага клуба.

На жаль, не ўдалося адшукаць дакументаў КПЗБ на гэтую тэму. Відавочна, само апублікаванне ліста і адказ рэдакцыі было гэтай

[316] CA KC PZPR. Mf. 1684. Autobiografja B. Taraszkiewicza z 15 grudnia 1933 r.

рэакцыяй. Рэдакцыя канстатавала, што не пагаджаецца з меркаваннем Самойлы, што падзел на групы — гэта натуральны вынік падзелу нацыі на класы, якія тыя групы рэпрэзентуюць, у адпаведнасці з прынцыпамі класавай барацьбы, якія вызнае рэдакцыя. На гэтую тэму адгукнуўся хіба што *“Przegląd Wileński”* ў хроніцы здарэнняў, падтрымліваючы У. Самойлу.

Як цяпер, з перспектывы больш як паўстагоддзя, ацаніць гэтую падзею? Можна найперш, без доўгіх роздумаў, і такім чынам: Самойла працаваў пяць гадоў у розных беларускіх структурах, супрацоўнічаў з беларускай прэсай левага толку, так што ён быў левых поглядаў. Выйшаў — значыць “здрадзіў” беларускаму пытанню. Мог бы такі “суддзя” знайсці дадатковае абгрунтаванне: хіба толькі ён адзін выйшаў? Колькі дэпутатаў (і не толькі дэпутатаў) выйшлі тады з НСП? Колькі выйшла з Грамады? Усё праз вынік узмацнення рэпрэсій. Не выключаю, што ўзмацненне рэпрэсій таксама паўплывала на настрой Самойлы. Тым не менш я лічу, што гэта няслушнае тлумачэнне. Асуджэнне Самойлы можа паўстаць толькі на падставе сектанцкай, ілжывай тэорыі, што нацыянальны рух з’яўляецца сферай выключна камуністаў або левых элементаў, тэорыі, якая выключае з нацыянальнага руху і дэмакратаў, і ўвогуле ўсіх патрыётаў сваёй краіны. Жыццё, аднак, кожны дзень дае факты, якія супярэчаць гэтаму меркаванню. Сама гісторыя Польшчы (стаўленне Маркса да польскіх спраў у мінулым стагоддзі) з’яўляецца найлепшым доказам гэтага. Гэта было слушна не толькі для дзевятнаццатага стагоддзя, але таксама і ў перыяд Савецкага Саюза. Вышэй ужо была зроблена спроба высвятліць, на якіх прынцыпах існавала супрацоўніцтва Самойлы з беларускай лявіцай. Гэта было партнёрства, якое давала выдатны плён. Можа, хтосьці скажа, што адыход Самойлы, беручы пад увагу яго агульныя погляды, павінен быў адбыцца. Але ці павінна было гэта адбыцца ў 1927 годзе? Мяркуючы па лісце, пра які ідзе гаворка, Самойла разумеў, што гэты крок для яго будзе мець фатальныя наступствы. Ён пісаў, што для яго зараз настане перыяд *“паўсмерці”* (анабіёзу).

Паспрабуем прааналізаваць тагачасныя падзеі ў камуністычным руху. У верасні 1927 г. Пленарнае пасяджэнне ЦК КПЗБ прымае пастанову “Этнічная палітыка фашысцкай дыктатуры і радыкальна-сялянскі і нацыянальна-вызвольны рух у Заходняй Беларусі”,

у якой была падкрэслена, між іншым, недаацэнка "класавага антаганізму ў нацыянальным пытанні ў Заходняй Беларусі ў перыяд пасля майскага перавароту". Было сказана, што ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі ідзе працэс ваганняў, адной з найбольш актуальных задач з'яўляецца выкрыццё, а таксама ўпартая барацьба супраць апартунізму і нацыяналізму ў нацыянальным і сялянскім руху[317]. У сферы барацьбы за нацыянальныя мэты раілася высоўваць сацыяльныя і класавыя пытанні. Усе беларускія актывісты, якія заставаліся за межамі ўплыву КПЗБ, пачалі з часам трактавацца як нацыянал-фашысты. Пастанова VII пленума ЦК КПЗБ была сюрпрызам нават для вядомых актывістаў КПЗБ. Незадоўга перад гэтым, у сакавіку таго года, IV пленум ЦК КПЗБ рэкамендаваў "*у нацыянальным пытанні весці за сабой усю вёску*". Новы VII пленум востра скрытыкаваў гэтую рэкамендацыю. П. Корчык і іншыя ў гэтым выпадку заняліся самакрытыкай[318]. Можна меркаваць, што такія радыкальныя змены адбыліся ў выніку перамогі новай кіроўнай каманды "меншасці" ў ЦК КПЗБ. Яны рабілі ўплыў таксама на змены ў БССР у адносінах да беларускага пытання. Пачаліся абвінавачванні ў адрас беларускай інтэлігенцыі ў нацыяналізме. Рэзалюцыі VII Пленума ЦК КПЗБ прынеслі пэўныя вынікі. Сёння мы бачым гэта хоць бы з артыкулаў тэарэтыка КПП Юльяна Бруна з 1930–1931 гг. пра нігілізм у нацыянальным пытанні ў КПЗБ і пра неабходнасць павароту ў гэтай сферы[319]. Паварот, аднак, не адбыўся, таму што гэта ў першую чаргу было пытанне стратэгіі. Пісалі пра тое палітычныя апаненты КПЗБ. Севярын Віславух заявіў, што ў КПЗБ беларускае пытанне знятае з парадку дня. Магчыма, хтосьці апраўдае КПЗБ, чыя палітыка ў значнай ступені залежала і не толькі арганізацыйна ад КП(б) Беларусі. Мне, аднак, здаецца, што ў дадзеным выпадку апраўдваць КПЗБ нельга, хоць бы з тае прычыны, што сацыялістычная рэвалюцыя тады яшчэ ў Польшчы не адбылася, і таму не варта

---

317 Резолюция по национальному вопросу. VII Пленум ЦК КПЗБ. Вильно, 1927. CA KC PZPR. Biblioteka.

318 CA KC PZPR. Sign. 163/III—12. K. 63: IV Plenum KC KPZB (materiały). Ад канца 1927 г. так званая "*теория единой деревни*" стала прадметам няспынных нападкаў у КПЗБ аж да яе ліквідацыі.

319 Brun, J. Niezbędny zwrot // Pisma wybrane. T. II. Cz. I. Warszawa, 1956. S. 89–101. Ён жа. Jeszcze o zwrocie w stosunku do ruchu narodowowyzwoleńczego// Pisma wybrane. T. II. Cz. I. Warszawa, 1956. S. 166–189.

было стратэгіі КП(б)Б жыўцом пераносіць ў Заходнюю Беларусь (нагадаем, што ў хуткім часе ў БССР абвастрэнне класавай барацьбы ў вёсцы прывяло да *"ліквідацыі кулацтва як класа"*)[320].

На мой погляд, "Ліст у рэдакцыю" Самойлы быў рэакцыяй на гэтыя падзеі. Не выключаю, што масавыя арышты таксама паўплывалі на яго. Але асноўнай прычынай адчайнага кроку была пазіцыя КПЗБ у беларускім пытанні. Нават болей. Хоць у гэтым лісце па зразумелых прычынах скарот КПЗБ нават не згадваецца — гэта гістарычны дакумент, які вызначае, калі першы этап дзейнасці партыі скончыўся. У святле згаданых фактаў мы павінны сказаць, што гэтай няпісанай дамовы, якая існавала паміж беларускай лявіцай і вядомым журналістам, дэмакратам, патрыётам сваёй краіны, які цалкам прысвяціў сябе беларускай справе, не выканала менавіта беларуская лявіца. У дадзеным выпадку Самойла стаў увасабленнем вялікай групы беларускіх актывістаў, якія адвярнуліся ад КПЗБ. Ён прадказаў, што ў дзейнасці левага беларускага крыла возьме верх нігілістычны падыход да нацыянальнага пытання. Словы *"нігілізм"* і *"самаразбурэнне"* паўтараюцца ў лісце некалькі разоў. Ён пісаў: *"Я не магу ў адпаведнасці з агульным падзелам беларускага грамадства на групы такім жа чынам падзяляць беларускую культуру, навуку, гаспадарку, школу і г. д., як да гэтага змушаныя беларускія таварыствы і іншыя арганізацыі, падзеленыя паміж сабой на варожыя групы"*.

Успомнім, як на працягу многіх гадоў Самойла быў паглынуты ідэяй яднання беларускага народа і што толькі ў адзінстве нацыі, на дадзеным этапе нацыянальнай самасвядомасці, ён бачыў магчымасць росту яе моцы. Самойла таксама меў рацыю, лічачы, што беларускі народ быў па сутнасці сялянскай нацыяй. У 1923 г. ён пісаў, што толькі вораг робіць рознага кшталту спробы зламаць беларускі народ і яго нацыянальны рух. Калі ж ён зразумеў, што за тое ж бярэцца сіла, якая дагэтуль была асноўнай рухальнай сілай абуджэння нацыі — грамадская лявіца, — пагадзіцца з гэтым не здолеў. Для Самойлы гэты паварот у стратэгіі КПЗБ яскрава выяўляў

---

320 Wysłouch, S. Rolia Komunistycznej partii Zachodniej Białorusi w ruchu narodowym w Polsce. Wilno, 1933; Карпюк, А. Аўтабіяграфія // Беларускія пісьменнікі: Пра час і пра сябе. Мінск, 1966. С. 200. Тут аўтар распавядае пра драму бацькі, сакратара мясцовай арганізацыі КПЗБ, калі ён даведаўся ад свайго сына, што той будзе выдалены з шэрагаў КПЗБ як *"кулацкі элемент"* на падставе апошняй інструкцыі (пачатак 1930-х гг.).

фармальную трактоўку беларускага пытання толькі з гледзішча інструментальнага, дзеля ўзмацнення барацьбы за сацыяльную рэвалюцыю. Ён жа працягваў разглядаць нацыянальнае пытанне як пытанне самастойнае. І тут ужо пра партнёрства не магло быць і гаворкі.

Яшчэ за некалькі гадоў да таго, калі праф. Здзяхоўскі закідаў Самойлу, што той паддаўся *"цёмным сілам"*, якія дзейнічалі за ўсходняй мяжой, яго адказ быў: *«Моц гэтых "Цёмных сілаў" у тым, што яны будзяць жывы дух народных мас паняволеных народаў»*[321]. У тым жа 1924 г. ён пісаў, што беларусы не патрабуюць, каб хтосьці іншы іх прадстаўляў[322]. Хто б з чытачоў тады падазраваў, што гэта піша не сапраўдны прадстаўнік беларускага народа? Бадай, Самойла сам сябе тады такім лічыў.

І вось пасля такіх вірлівых гадоў, калі яго таленты засвяціліся ўсімі колерамі, у асяроддзі, дзе ён пачуваўся як ніколі па-свойску, раптам стаў чужым, "прыватнай асобай". Верагодна, адчуў, што разрыў з гэтым асяроддзем — гэта канец перыяду, калі ён быў *"сапраўды жывым чалавекам"* (як ён пісаў у 1923 г.). І вось гэтак сталася. Нешта ў ім зламалася. Гэта быў чарговы глыбокі крызіс у яго жыцці. Пра папярэдні пісаў Блоку ў 1911 г.[323].

Пасля разрыву з левымі Самойла працягваў друкавацца на беларускай і польскай мовах (на беларускія тэмы), але яго голас цяпер сцішыўся. Яго працы даказваюць, што ён глыбока вывучыў характар дзяржаўнай палітыкі паслямайскага кіраўніцтва, што спарадзіла ілюзію і саступкі ў пэўных колах Беларусі і змены ў наступныя гады. Ён зразумеў прычыну гэтых зменаў, і гэта яшчэ больш яго прыгнятала[324]. Самойла прыйшоў да высновы, што пытанне самавызначэння беларускага народа, які ў дваццатыя гады зрабіў велізарны скачок наперад, зноў адкінутае назад і хто ведае, як надоўга. У сваіх апошніх публікацыях трыццатых гадоў ён вяртаўся да тых праблемаў, з разгляду якіх калісьці пачынаў. Невыпадкова ў 1938 г. у прадмове да старога перакладу "Слова пра паход Ігаравы", зробленага Я. Купалам, пісаў, што на дадзены момант гэта

[321] Суліма. Праф. Здзяхоўскі аб беларускай душы.

[322] Суліма. Што такое "Вызваленьне" з беларускага пункту гледжаньня.

[323] Калінковіч, М. Как дань глубокого уважения. С. 158.

[324] Sulima. "Nowy" i "najnowszy" kurs polityki polskiej w sprawie białoruskiej // Przegląd Wileński. 1931. № 17–23.

для *"нашага народа"* — адна з галоўных задач і гэта вяртанне да сваіх старых традыцый, некалі перарваных і забытых[325].

Некаторыя публікацыі У. Самойлы ў апошнія гады заканчваліся "інфармацыяй", што з пачатку 1930-х гг. ён *"адышоў ад грамадскай працы"* або *"беларускай справы"*[326]. Не адпавядала гэта праўдзе. У 1930 г. ён зноў далучыўся да Беларускага навуковага таварыства[327]. Яго роля ў жыцці беларусаў зменшылася, але беларускім пытаннем займаўся і надалей. Шмат часу аддаваў Музейнай радзе, быў бібліятэкарам БНТ, займаўся каталагізацыяй і ўпарадкаваннем, рабіў, што было патрэбна. І нічога не сведчыць, што гэтая праца аплачвалася. Ён, аднак, не быў сакратаром БНТ (такая інфармацыя сустракалася). У справаздачах таварыства з 1933 і 1938 гг. называюцца іншыя прозвішчы сакратароў[328]. Яго артыкулы публікавала "Калоссе", а таксама прэса "Цэнтрасаюза". Але што самае галоўнае і што сведчыць пра яго пастаянную ўцягнутасць у беларускія справы — гэта серыя крытычных артыкулаў пра палітыку санацыйных урадаў і іх адносіны да беларускага пытання, да беларусаў. Немалаважным з'яўляецца таксама заангажаванне Самойлы (кажуць, што гэта з яго ініцыятывы) у справу грамадзянскага суда над Р. Астроўскім і "выгнанне" яго з Вільні. Няма ніякіх сумненняў у тым, што напрыканцы 1927 г. У. Самойла парваў не з беларускім рухам, не з беларускім народам, не з беларускім пытаннем, але толькі з беларускай лявіцай. Гэта што да першага дакумента.

Некалькі словаў пра другі дакумент[329]. У актах справы Грамады мы знаходзім паказанні У. Самойлы, дадзеныя ім 22 сакавіка 1928 г. у якасці сведкі перад акруговым судом у Вільні. З першай часткі дакумента ўзнікае ўражанне, што ён выступаў як сведка абароны А. Луцкевіча. На самай справе ён быў выкліканы ў якасці сведкі і з'явіўся ў судзе не добраахвотна. Пра Луцкевіча сказаў, што ведаў яго з часоў Беларускай сацыялістычнай грамады ў Мінску, што іх дэмакратычныя погляды на незалежнасць не змяніліся з тых часоў,

[325] Чэмер, Ул. Вялікі скарб нашай старасвеччыны. С. 77–80.

[326] Ліс, А. Самойла У.; Лойка, А. Як агонь, як вада // Маладосць. Мінск, 1982. № 7. С. 107, 145.

[327] Sprawozdanie z działalności za 15 lat // Rocznik Białoruskiego Towarzystwa Naukowego. T. I. Wilno, 1933. S. 16.

[328] Запісы Беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938. С. 69.

[329] Protokól rozprawy sądowej z 23 lutego do 22 maja 1928 r. w Sądzie okręgowym w Wilnie.

што ў беларускім грамадстве ў Вільні ён страціў свой аўтарытэт яшчэ падчас выбараў у Сейм у 1922 г., што да Грамады *"не належаў ані фармальна, ані фактычна"*. Затым Самойла сцвердзіў, што ні да адной з рэдакцый беларускіх левых выданняў Луцкевіч не належаў, працаваў па прафесіі. І яшчэ два факты: у Вільні Самойла выдаваў сваю ўласную газету (не ўдалося ўстанавіць час выдання і назву, а таксама мову газеты); пасля расколу ў Беларускім пасольскім клубе паміж грамадоўцамі і чальцамі Сялянскага саюза паўстаў канфлікт, падчас якога пасол Рагуля заклікаў Самойлу выканаць ролю арбітра (у якой канкрэтна справе — не ўстаноўлена). У сваіх паказаннях Самойла рашуча адмежаваўся ад беларускай лявіцы і сцвярджаў, што выконваў у беларускім друку выключна прафесійныя функцыі. Ён паводзіў сябе так, каб пазбегнуць далейшых пытанняў. Суду гэтага было дастаткова. Дакумент заканчваецца словамі: *"Сведка Уладзімір Самойла вызвалены"*.

Хоць беларускія газеты вельмі мала плацілі аўтарам, аднак страта нават невялікіх даходаў у бюджэце Самойлы таксама адыгрывала ролю. У 1928 г. ён яшчэ зарабляў як выкладчык гімназіі Велера. Мяркуючы па рукапісах і машынапісах, якія захаваліся ў Цэнтральнай бібліятэцы ў Вільні, Самойла пісаў і для некаторых нямецкіх выдавецтваў (таксама ў 1929 г.)[330]. Не заўсёды яму плацілі за дасланыя працы. Аднак нельга выключаць, што сталым беларускім аўтарам нешта плацілі.

Напрыканцы 1929 г. Самойлу ўдалося знайсці дадатковыя даходы, што яму вельмі было патрэбна. Наколькі вялікай была патрэба ў сродках, мы можам сабе ўявіць, калі нават сын, які ў той час быў маленькім дзіцем, памятае гэты факт.

У Львове выйшаў беларускі буквар польскімі літарамі, вельмі кепска зроблены. Самойла адрэагаваў на гэта ў *"Przeglądzie Wileńskim"* артыкулам пад назвай "Скандальны буквар"[331], падпісаўшыся ўласным прозвішчам. Закончыў словамі: *"Не маглі звярнуцца да беларусаў"*. Толькі тады звярнуліся да яго. Пасля адпаведнай апрацоўкі былі дасланыя яму з Міністэрства адукацыі такія патрэбныя грошы.

---

[330] У выдавецтвах "Jahrbuch für Kultur und Geschichte der Slaven" (месцілася ў Вроцлаве), а ў 1929 г. у "Feuilletomdienst des Ost-Express" (адрас нявысветлены). Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літоўскай ССР. Ф. 21–537, 21–538. Ліст ад 3 лютага 1983 г.

[331] Samojło, Wł. Skandaliczny elementarz // Przegląd Wileński. 1929. 27 października.

У снежні 1929 г. была заснавана ў Вільні новая беларуская газета "Наперад". Яна змяняла назвы: "Народны звон", "Беларускі звон". Выходзіла да 2 снежня 1932 г. Газета належала да групоўкі "Цэнтрасаюз". Яе заснавальнікамі былі А. Луцкевіч і Р. Астроўскі. Пасля да іх далучыўся Ф. Акінчыц, які неўзабаве адышоў ад справы, матывуючы гэта тым, што Луцкевіч з'яўляецца саветафілам, толькі замаскаваным. У гэтых выданнях можна знайсці артыкулы Самойлы. Цяжка сказаць, ці ўдзельнічаў ён у арганізацыйнай партыйнай дзейнасці. Мы ведаем, аднак, што ён падтрымліваў ад пачатку да канца ў Вільні сяброўскія адносіны з Луцкевічам. На жаль, мы не маем поўнага камплекта публікацый "Цэнтрасаюза". У тых, да якіх мы мелі доступ, толькі адзін раз нам трапіўся артыкул *"Сулімы"* ("Аб нацыянальнай памяці": "Беларускі звон" ад 19 чэрвеня 1931 г.) як рэцэнзента кнігі этнаграфічнага характару. Выданні тыя крытыкавалі ўсе: з аднаго боку, камуністы, з іншага — беларускія хрысціянскія дэмакраты, у асноўным за прыманне палітыкі польскіх санацыйных уладаў. У публікацыях рэзка крытыкавалася палітыка Сталіна і выказваліся пратэсты супраць рэпрэсій у Беларусі. Сёння, чытаючы гэта, мы не можам забываць, што большасць тагачасных рэпрасаваных пазней былі рэабілітаваныя, што XX з'езд КПСС рэзка раскрытыкаваў перыяд, умоўна названы *"культам асобы"*, калі мелі месца масавыя парушэнні вяршэнства закону, неабгрунтаваныя рэпрэсіі і было дапушчана шмат палітычных памылак у нацыянальным пытанні.

У *"Przeglądzie Wileńskim"* Самойла анансаваў артыкул з сямі раздзелаў пад назвай «"Новы" і "найноўшы" курс польскай палітыкі ў беларускім пытанні»[332]. Ён востра крытыкаваў тактыку кампрамісаў з санацыйнай уладай і аналізаваў крах тактыкі "Цэнтрасаюза", які пайшоў на гэтыя кампрамісы толькі ў імя захавання культурных каштоўнасцяў (гімназія) на фоне *"ілжыва добразычлівага курсу новай беларускай палітыкі"*. Мы не ведаем, у якой ступені Самойла сам браў удзел у гэтай дзейнасці. Але ў любым выпадку гэты артыкул з'яўляецца рэзкай крытыкай (або самакрытыкай) таго, што было зроблена, каб спыніць закіды адміністрацыі, што нібыта ў беларускіх гімназіях выхоўваюць камуністаў.

Далей аўтар прааналізаваў эвалюцыю поглядаў і асобы Тадэвуша Галоўкі, які раней выказваўся за аўтаномію для беларусаў. Але калі ён стаў практыкам, віцэ-прэзідэнтам соймавага клуба, стаў

332 Sulima. "Nowy" i "najnowszy" kurs polityki polskiej w sprawie białoruskiej.

трактаваць беларусаў не як нацыю, але толькі як рэгіянальную групу насельніцтва. Аўтар задаваўся пытаннем, чым быў прадыктаваны паварот у нацыянальнай палітыцы чалавека, які некалькі гадоў таму быў блізкі да паразумення з беларускай інтэлігенцыяй. Самойла крок за крокам прасачыў, як улада вырашыла цалкам ліквідаваць беларускую праблему. Ён прыйшоў да высновы, што ўлады пачалі трактаваць беларускую справу як элемент вонкавай палітыкі: у звязку з зменамі нацыянальнай палітыкі Масквы перастаў, на думку ўладаў, існаваць галоўны стымул да існавання беларускага пытання ў краі. Быў у гэтым артыкуле нават анатамічны аналіз механізму дзяржаўнай палітыкі, з якога выразна вынікала, што ні адна фракцыя ў Польшчы не была зацікаўлена ў сапраўдным вырашэнні беларускага пытання.

Іншыя артыкулы ў *"Przeglądzie"*, як, напрыклад, "Хто лепшы", былі таксама добра прадуманыя, поўныя цікавага зместу. У невялікім тэксце пад назвай "Метамарфозы" Самойла пісаў, што *"крэсы ўсходнія"* былі для ўладаў толькі *"Варшаўскім Hinterlandem"*[333]. Або такая звычайная замалёўка: "Не выбіралі, а выбралі"[334]. У 1935 г. рэдакцыйны артыкул пад загалоўкам *"Szanteriada"*[335] нібыта падсумаваў вынікі дыскусіі на тэму чалавечай годнасці асобы, што належыць да нацыянальнай меншасці. Усё пачалося з таго, што ў выданні *"Kurier Wileński"* апублікавалі ліст польскай "Настаўніцы", якая жалілася, што яе праца на крэсах не мае ніякага эфекту, таму што беларускія дзеці не ведаюць польскай мовы. На старонках гэтага ж выдання потым выступіў нехта д-р Станіслаў Шантар, назваўшыся чытачом-беларусам паводле паходжання. На яго думку, *"нармальныя"* беларусы *"духоўна"* імкнуцца да польскіх культурных формаў. Беларуская школа — гэта толькі выдумка *"ненармальных"* беларусаў, або бальшавікоў. Самойла ў поўную сілу свайго палемічнага таленту запратэставаў супраць такога кшталту выступаў. Калі на бальшавікоў спасылаецца з рэпрэсіўнымі мэтамі паліцыя — гэта зразумела. Але зусім іншае, калі даводзіцца *"ідэалагічна"*, што беларусы павінны саромецца свайго паходжання, пагарджаць ім, прывучаюцца да прыніжэння.

---

[333] Gudas. Metamorfozy // Przegląd Wileński. 1928. 27 маја; Gudas. Kto lepszy? // Przegląd Wileński. 1930. 29 czerwca.

[334] Gudas. Nie wzbierali a wzbrali // Przegląd Wileński. 1933. 31 grudnia.

[335] Gudas. Szanteriada // Przegląd Wileński. 1935. 2 czerwca. S. 1–3.

Дыскусія перакінулася таксама на старонкі "Крыніцы". Артыкул Самойлы скончыў дыскусію.

У 1937 г. Самойла закрануў надзвычай важную тэму: нацыянальнасць жыхароў Палесся[336]. Ён падняў праблему, агучаную раней польскім этнографам Юзафам Абрэмбскім і зрабіў вельмі дэталёвае даследаванне. А пра вынікі напісаў у *"Sprawach Narodowościowych"*. Самойла сцвярджаў, што палешукі, нягледзячы на тое што яны ўсё яшчэ знаходзяцца ў сферы ўплыву некалькіх культур — рускай, украінскай, беларускай і польскай, не паддаюцца асіміляцыі. Такая пастаноўка праблемы не асабліва адпавядала высновам іншых польскіх навукоўцаў. Прааналізаваўшы працы Ю. Абрэмбскага, Самойла прыходзіць да лагічнай высновы: самым важным з'яўляецца тое, што палешукі застаюцца самімі сабой, а пры больш спрыяльных умовах, захаваўшы пры гэтым сваё нацыянальнае "я", перастануць быць "тутэйшымі". У 1939 г. Самойла апублікаваў у беларускім штоквартальніку "Калосьсе" шырокі агляд двух канцэртаў беларускага хору Р. Шырмы, якім апошнім часам больш зацікавіўся і з якім нават пасябраваў[337]. Цікава, на якой падставе нехта назваў нядаўна Самойлу *"польскім публіцыстам"*? Некалькі згаданых тут артыкулаў з трыццатых гадоў увогуле пра гэта не сведчаць. Затое прыведзеныя вышэй публікацыі дазваляюць адназначна сцвярджаць, што да апошняй сваёй хвіліны ў Вільні ён пераймаўся і жыў беларускай справай.

1 верасня 1939 г. гітлераўскія войскі перасеклі мяжу Польшчы. Невядома, ці было для Самойлы нечаканасцю ўварванне Чырвонай арміі ў Вільню. Дома ён спыняў праявы панікі. Угаворы сяброў пакінуць Вільню і адправіцца ў эміграцыю адкінуў. Наадварот, ён задумваўся над уладкаваннем жыцця ў новых умовах і не пакідаў надзеі, што зможа працягваць працаваць у Музеі імя Івана Луцкевіча. Больш ці менш такой жа думкі прытрымліваліся і яго знаёмыя: А. Луцкевіч, А. Уласаў і іншыя.

Аднак, відавочна, прапанова аб супрацоўніцтве беларускай інтэлігенцыі не выклікала даверу новых уладаў. 8 кастрычніка 1939 г. Уладзімір Самойла быў арыштаваны ў Вільні, у сваёй кватэры на Зарэчнай, 20, кв. 13. Ён меў 61 год. Спачатку яго трымалі ў Лукішках,

---

[336] Roxolanus. Problem etniczny Polesia // Przegląd Wileński. 1937. 24 września.

[337] Чэмер, Ул. Новыя гарманізацыі беларускіх песьняў у выкананьні хору Р. Шырмы // Калосьсе. Вільня, 1939. № 1. С. 52–56.

затым перавялі ў Вілейку. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя падае, што У. Самойла памёр у Менску на пачатку саракавых гадоў[338].

Знаёмства з публікацыямі У. Самойлы па беларускіх пытаннях дазваляе зрабіць некалькі высноў.

1. Ужо было адзначана, што часопісы і іншыя перыядычныя выданні, на якіх грунтуецца дадзенае даследаванне, маюць значныя недахопы. Так, няма ўпэўненасці, што не засталася па-за ўвагай пэўная важная яго публікацыя. У Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе захоўваюцца машынапісныя тэксты і рукапісы Самойлы, змест якіх мы не ведаем. Таму варта спадзявацца, што ў будучыні вы зможаце аднавіць больш поўную карціну яго асобы.

2. Тое, што Самойла ў прынцыпе не падпісваў сваіх тэкстаў уласным імем, мае яшчэ адзін аспект: ён пісаў амаль заўсёды на замову і многія яго высновы варта разглядаць як вынік добра праведзенай працы, але не заўсёды іх трэба ўспрымаць за яго ўласнае, аўтэнтычнае меркаванне. Многія з яго выказванняў не могуць быць прынятыя ў літаральным сэнсе. Гэтыя тэксты варта разглядаць у кантэксце яго агульных поглядаў на канкрэтнае пытанне. Так, напрыклад, публікуючы тэкст у беларускім выданні, ён выкарыстоўвае словазлучэнні “наш народ”, “мы, беларусы” часта не ў літаральным сэнсе.

Прымаючы пад увагу комплексны характар яго падыходу да беларускай справы, можна дапусціць сцвярджэнне, што ў яго асобе мы бачым ідэолага дэмакратычнага кірунку ў беларускім руху XX стагоддзя. Што праўда, Самойла не пакінуў ні праграмы, ні якога-небудзь іншага падобнага дакумента, які б пра гэта сведчыў (часткова ён выклаў сваё крэда ў артыкуле пад назвай “Гэтым пераможаш!”). Але яго паняцце нацыі і таго, што ў ёй найважнейшае (мова, духоўны бок, этычны і маральны), сялянскі характар нацыі, стаўленне да праблемы аб’яднання нацыі, адносіны да нацыянальнай традыцыі, роля царквы і рэлігіі, абарона нацыянальнай годнасці, падыход да многіх сацыяльных і палітычных спраў толькі з пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў — усё пра гэта сведчыць. Да таго ж здаецца, што асоба Самойлы як прадстаўніка працоўнай інтэлігенцыі XX стагоддзя з’яўляецца поўным адмаўленнем таго,

---

338 Ліс, А. Самойла У.

што часам пагардліва разумеецца пад паняццем “інтэлігентны”. Ён быў чалавекам выключнай працавітасці, самадысцыпліны, без якой не можа быць і гаворкі пра якую-небудзь сур’ёзную творчую працу. Ён быў да канца жыцця чалавекам, які не толькі пісаў, але які і чытаў, аналізаваў інфармацыю. У яго быў жывы розум і ён не баяўся ніякіх нечаканасцяў. Ён быў загартаваны не толькі фізічна. Ён заўсёды быў верны сабе, сваім этычным і маральным прынцыпам, і менавіта таму ён карыстаўся павагай не толькі сяброў, але і ворагаў.

*Пераклад з польскай Юрыя Бабіча*

***Ст. Станкевіч***[339]

## На 100-я ўгодкі Ўладзімера Самойлы[340]

Летась споўнілася 100 год ад нараджэньня ў Менску 29 студзеня 1878 г. беларускага публіцыстага, літаратурнага крытыка й нацыянальна-грамадзкага дзеяча Ўладзімера Самойлы. Пра ягоныя вялікія заслугі для справы беларускага нацыянальнага адраджэньня

339 **Станіслаў Станкевіч** (1907–1980), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. закончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 1936 г. абараніў доктарскую дысертацыю “Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі”. Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюза, рэдагаваў часопіс “Студэнцкая думка”. У 1937–1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі і Балгарыі. У 1939–1941 гг. выкладчык у Наваградскай педагагічнай вучэльні. У 1941–1943 гг. бурмістр Барысава, у 1944 г. намеснік Прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 г. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету “Раніца”. Быў актыўным прыхільнікам аднаўлення Рады БНР. Ад 1947 г. радны БНР. У 1948–1962 гг. рэдактар газеты “Бацькаўшчына” (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНіМа ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, у тым ліку ў 1963–1965 гг. — старшынёй арганізацыі. Супрацоўнік Радыё “Свабода”. У 1963–1980 гг. рэдагаваў газету “Беларус” (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу літаратуразнаўчых прац, сотняў публікацый. Пахаваны ў Іст-Брансвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

340 Друкуецца паводле: Беларус. New York. 1979. № 262. Люты. С. 3.

ды беларускае літаратуры дарэвалюцыйнага пэрыяду ў 9-м томе Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі чытаем, між іншым, наступнае: «*Адзін з рэдактараў і супрацоўнікаў газэты "Минский курьер", у якой (1907) падыймаў пытаньне пра неабходнасьць беларускай школы як перадумовы творчага разьвіцьця беларускага народу. Памог Янку Купалу апублікаваць верш "Мужык", першы аб'ектыўна ацаніў яго "Жалейку" і "Адвечную песьню"*».

Усё гэта адпавядае сапраўднасьці, як і ўсё тое, што сказана ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі пра публіцыстычную дзейнасьць Уладзімера Самойлы як дарэвалюцыйнага, гэтак і парэвалюцыйнага часу. І так Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, чэрпаючы свае інфармацыі галоўна з выдадзенай у 1971 годзе ў Менску кніжкі Сьцяпана Александровіча "Пуцявіны роднага слова", сьледам за ім прыводзяць зь "Минского курьера" наступныя Самойлавы словы: *"Абавязковай умовай разьвіцьця разумовага жыцьця народу зьяўляецца родная мова. Родная мова — гэта жывы пасрэднік паміж жывой душой дзіцяці й жывой для яго рэчаіснасьцю, жывой прыродай, жывымі прадметамі"*.

А вось ацэна Ўладзімера Самойлы першага Купалавага зборніка 1908 году "Жалейка". Праўда, храналягічна першым рэцэнзэнтам Купалавай "Жалейкі" ў газэце *"Минское эхо"* за 8 ліпеня 1908 году быў беларускі пісьменьнік Ядвігін Ш. Але як цьвердзіць у цытаванай сваёй кнізе Сьцяпан Александровіч, гэта была рэцэньзія лішня стрыманая й супярэчлівая. Зусім іншая, вельмі пахвальная і ўзвышана энтузіястычная была рэцэньзія Ўладзімера Самойлы пад вымоўным загалоўкам *"Великий праздник"*, што была надрукаваная ў № 113 газэты *"Минский курьер"* у 1908 г. Уладзімер Самойла пісаў:

«*На вуліцы маладой Беларусі — вялікая сьвята! Сонца жывой сапраўднай паэзіі заглянула ў вакенца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народу! Гукі роднай "Жалейкі", прасякнутыя сапраўднай шчырасьцю, жывой любоўю й жалем да роднага беларускага сьвету, вырваліся з вуснаў нацыянальнага паэта... Мы прысутнічаем пры гістарычным здарэньні, вельмі важным для краю. Беларуская песьня з галіны этнаграфіі пераходзіць у галіну літаратуры. І "Жалейка" Янкі Купалы — адзін з бясспрэчных доказаў гэтага... Няхай ён стане для Беларусаў тым, кім быў Шаўчэнка для Ўкраіны. Прыйдуць лепшыя часы, і за яго подзьвіг*

*родны народ адплоціць яму сваёй лепшай удзячнасьцю — бесьсьмяротнасьцю».*

Як ведама, выказаныя першым Уладзімерам Самойлам прароцтвы збыліся поўнасьцяй. І ўжо адно гэта мае вялікую гістарычную вымову, што ставіць Уладзімера Самойлу ў рады запраўдных піянэраў беларускай літаратурнай крытыкі.

Аднак шмат важных мамэнтаў зь дзейнасьці Ўладзімера Самойлы ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, трэба думаць наўмысьля, як несугучных сучаснай партыйнай палітыцы, прамоўчаныя. І гэта мамэнтаў важнага этапнага характару, што ставяць Уладзімера Самойлу як аднаго з выдатных піянэраў у беларускім адраджэнскім руху пачатку бягучага стагодзьдзя. Але-ж ёсьць і іншы, куды шырэйшы й больш агульны піянэрскі аспэкт у нацыянальнай дзейнасьці Ўладзімера Самойлы, ня толькі ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, але й наагул нікім яшчэ не адзначаны.

Уладзімер Самойла належаў да тае катэгорыі першых беларускіх адраджэнцаў, што былі ўзгадаваныя ў расейскай культуры, прынялі ў спадчыне ад сваіх прашчураў расейскую мову як сваю родную і, не зважаючы на гэта, псыхалягічна сталіся шчырымі беларускімі патрыётамі. У гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня зьява гэта была высока пазытыўная й пэрспэктыўная. Не сакрэт, што мала хто з удзельнікаў Усебеларускага Кангрэсу ў сьнежні 1917 г. мог прамаўляць на беларускай мове, дый сярод удзельнікаў гістарычнага паседжаньня 25 сакавіка 1918 г. Рады БНР ня ўсе маглі гаварыць па-беларуску. А тымчасам іхны нацыянальны патрыятызм стварыў літаральна цуд у гісторыі Беларусі.

Як добра ведама асабіста аўтару гэтых радкоў, яшчэ ў міжваенным дваццацігодзьдзі ў Вільні, дзе тады жыў і працаваў Уладзімер Самойла, ён, як правіла, гаварыў па-расейску, а калі пісаў свае публіцыстычныя й літаратурныя артыкулы для віленскіх беларускіх газэтаў, дык патрабавалі яны грунтоўнай моўнай карэкты. Працуючы тады карэктарам некаторых беларускіх газэтаў, аўтар гэтага артыкулу можа пасьветчыць, што на машынапісах Уладзімера Самойлы густа хадзіла карэктарскае пяро Антона Луцкевіча. І як-жа ў сувязі з гэтым розьніўся Ўладзімер Самойла ад катэгорыі жалю годных сяньняшніх беларусаў у БССР, што ў моц партыйнага ўзьдзейваньня лёгка пакідаюць родную беларускую мову ды пераходзяць на *“общепонятную”* мову расейскую,

як мову гэтак званага *“савецкага народу”*, творанага на расейскай нацыянальнай базе, у чым праяўляецца ўжо не прагрэсыўная, а рэгрэсыўная й рэакцыйная іхная роля.

У міжваенным часе Ўладзімер Самойла быў адным з найбліжэйшых супрацоўнікаў і палітычных аднадумцаў Антона Луцкевіча. Калі апошні ўсьцяж займаў становішча старшыні Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні, дык Уладзімер Самойла быў нейкі час сакратаром гэтага Таварыства. Калі Антон Луцкевіч быў нязьменным дырэктарам заснаванага ягоным родным братам Беларускага Музэю ймя Івана Луцкевіча, дык Уладзімер Самойла працаваў гэткім-жа нязьменным бібліятэкарам гэтага музэю. Антон Луцкевіч быў фактычным рэдактарам і галоўным публіцыстам прэсавых органаў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, а пазьней газэтаў антысавецкага кірунку. І ў гэтай галіне галоўным ягоным супрацоўнікам заставаўся Ўладзімер Самойла. Наагул у міжваенным пэрыядзе Ўладзімер Самойла ў сэньсе палітычным знаходзіўся цалкам пад уплывам Антона Луцкевіча.

І калі Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя ў сваім 6-м томе войстра абвінавачвае Антона Луцкевіча ў антысавецкай дзейнасьці, дык абвінавачваньне гэтае цалкам датычыцца й да Ўладзімера Самойлы. Калі напрыканцы 1939 г. Антон Луцкевіч быў органамі НКВД арыштаваны ў Вільні, дык адначасна зь ім арыштаваны быў і Ўладзімер Самойла, пасьля чаго ўсякі сьлед па іх абодвых загінуў. І хоць Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя сьмерць Антона Луцкевіча фіксуе ў 1946 г., а Ўладзімера Самойлы — напачатку 1940, паводля прыпушчэньня віленскага беларускага грамадзтва, праўдападобна абодвы яны памерлі адначасна й памерлі не сваёй сьмерцяй.

У часе нямецкай акупацыі начальнік беларускай паліцыі ў Менску Юльян Саковіч, замардаваны пазьней разам з родным братам высланага бальшавікамі беларускага паэты Валерага Маракова польскімі тэрарыстамі ў Лідчыне, расказваў мне, што ў менскай турме нейкі час тады сядзеў ахвіцэр НКВД, які, як ён інфармаваў, прыймаў удзел у расстрэле Антона Луцкевіча ў 1940 г. у турме ў Оршы. Адсюль не пазбаўленая верагоднасьці выснова, што Антон Луцкевіч быў расстрэлены тады, калі памёр ці дакладней быў расстрэлены і Ўладзімер Самойла.

Не зважаючы на тое, што Ўладзімер Самойла часткова цяпер рэгабілітаваны пры адначаснай адмове рэгабілітацыі Антона Луц-

кевіча[341], усё-ж леташнія 100-я ўгодкі ад ягонага нараджэньня ніводным радком ня былі адзначаныя ў пэрыядычным друку БССР. І гэта таксама хіба не выпадкова: асоба й дзейнасьць Уладзімера Самойлы ані ня сугучная сяньняшней нацыянальнай палітыцы партыі. Для нас-жа постаць Уладзімера Самойлы вельмі характэрная, а ягоная публіцыстычная й літаратурная ды палітычна-грамадзкая дзейнасьць становіць сабой сьветлую бачыну ў найнавейшай гісторыі Беларусі.

## Размова з сынам Уладзіміра Самойлы[342]

*[…] Дагэтуль яшчэ вельмі мала вядома пра тое, кім быў "найлепшы ўчыцель" Купалы — Уладзімір Самойла. Мае сябры з Мінска раілі шукаць яго сям'ю ў Польшчы. Таму што У. Самойла, які нарадзіўся на Беларусі, у фальварку Казіміраўка каля Мінска, свае апошнія дваццаць гадоў пражыў у Вільні, дзе ажаніўся з полькай Зоф'яй Жылевіч, па прафесіі медыцынскай сястрой. Знайшла я і жонку, і сына ў Варшаве. Вось размова з сынам Уладзіміра Самойлы, таксама Уладзімірам Самойлам.*

*Аляксандра Бергман: Як сталася, што Вы з маці пасяліліся ў Варшаве? Рэпатрыянты з Вільні ў 40-я гады сяліліся пераважна на заходніх землях. Шукала я вас па ўсёй краіне, між іншым праз "Ніву", шукала ўсюды — толькі не ў Варшаве…*

Уладзімір Самойла: З 1941 года разам з групай сяброў, Анатолем Рымашэўскім, Аляксеем Паляковым, Фердынандам Трахноўскім, я прымаў удзел у віленскім падполлі. Мяне арыштавала гестапа 7 мая 1943 года. Прабываў у Асвенціме пад нумарам 157585. Два разы мае сябры-вязні выратавалі мяне ад загазавання. Потым мяне трымалі ў філіяле Бухенвальда, у шахце Ванс Лебен ам Зэй пад нумарам 96466 аж да канца вайны. У Польшчу вярнуўся я ў ліпені 1945 года. Пачаў працаваць тэхнікам СПБ (Грамадскае будаўнічае прадпрыемства) у Макаве-Мазавецкім, а потым у Варшаве. Сюды паклікаў я маму. У Варшаве працаваў я і займаўся ў Варшаўскай палітэхніцы з 1950 года, атрымаў дыплом інжынера-будаўніка. Тут заснаваў сям'ю.

---

[341] Антон Луцкеіч быў рэабілітаваны ў 1989 г.

[342] Друкуецца паводле: Ніва. Беласток. 1982. 26 снеж.

<u>А. Б.:</u> *У сувязі з сотай гадавінай Янкі Купалы паявілася многа публікацый, між іншым, пра ролю Вашага бацькі ў жыцці Я. Купалы. Ці ведаеце Вы што-небудзь пра гэта яшчэ з дому?*

<u>У. С.:</u> Бачыце, бацька мой прыбыў у Вільню, калі яму было ўжо 40 гадоў. З яго домам, які застаўся на савецкім баку ад граніцы, мы амаль не ўтрымоўвалі ніякіх сувязей. Усё, што я ведаю пра бацьку з яго маладых гадоў, — гэта з выпадковых гутарак. А бацька, і гэта трэба ведаць, быў надта ж скромны. Не памятаю я, каб ён хваліўся, што быў блізка знаёмы з вядомым рускім паэтам Аляксандрам Блокам. Даведаўся я пра гэта тады, калі пачаў капацца ў ягонай бібліятэцы і знайшоў там надпісы на кніжках, ахвяраваных бацьку. З гэтых надпісаў Блокам зразумеў я, што ён цаніў бацьку як літаратурнага крытыка і ганарыўся яго дружбай. З хатніх размоваў даведаўся я, што бацька пасля заканчэння гімназіі ў Мінску доўгі час жыў у Пецярбургу, там займаўся аж на трох факультэтах: філасофскім, хімічным і медыцынскім. Бацькі яго, або інакш — мае дзяды, былі людзьмі адукаванымі: і дзед, і бабулька былі педагогамі, грамадскімі дзеячамі-асветнікамі. Бацька быў чалавекам, надзеленым многімі здольнасцямі: ён валодаў сямю мовамі, іграў на фартэпіяна, маляваў. Але пра свае дасягненні або клопаты не любіў гаварыць. Мяркую, што была адна важная прычына, з-за якой бацька рэдка звяртаўся да свайго літаратурнага мінулага. У Вільні, як толькі магу ўспомніць, ён займаўся беларускай справай і гэтая справа цалкам захапіла яго. Пра нішто іншае не гаварылі тыя людзі, што прыходзілі да нас.

<u>А. Б.:</u> *А хто да вас прыходзіў? На якой мове ішла гаворка?*

<u>У. С.:</u> Хто прыходзіў у першыя гады жыцця ў Вільні, калі бацька вучыў грэчаскай і лацінскай мовам у прыватнай гімназіі Велера і даваў прыватныя ўрокі, я не ведаю. Як толькі сягае мая памяць, мы жылі ў доме на вуглу вуліц Браніфратарскай і Людвісарскай, на паддашшы, у двух пакоях, надта скромна. Наведвалі нас беларускія дзеячы: вельмі часта Антон Луцкевіч, кс. Адам Станкевіч, а як падказвае мне мама — Браніслаў Тарашкевіч, сенатар Вячаслаў Багдановіч з жонкай, Янка Станкевіч з жонкай і іншыя. Тады гутарылі па-беларуску. Прыходзіў пан Свянціцкі — размаўляў па-руску. Да канца жыцця сябраваў з бацькам праф. Мар'ян Здзяхоўскі, і тады гаварылі па-польску або па-руску. Наведвалі бацьку маладыя паэты, студэнты па самых разнастайных справах. Нярэдка выходзілі

з якой-небудзь часткай вопраткі бацькі. Хоць мы жылі скромна, але бацька заўсёды знаходзіў некага, хто быў у яшчэ горшым становішчы.

<u>А. Б.:</u> *Ці сродкам утрымання сям'і была выключна журналістыка?*

<u>У. С.:</u> Па-мойму, так. Бацька многа пісаў. У яго была руская пішучая машынка. Удзёнь ён бегаў па розных справах, паглынаў стосы газет. За машынку сядаў пераважна вечарам і працаваў дапазна. Часам выходзіў ноччу на шпацыр. Прыводзіў да хаты бяспанскага сабаку або ката. Наогул ён мала дбаў пра дабрабыт. Клапаціўся толькі пра адно: каб маці не займалася цяжкай работай. Вельмі шанаваў маці і дбаў пра яе спакой. Калі ведаў, што ў газеце змешчана якая-небудзь прыкрая звестка, хаваў ад яе газету, не даваў. Вельмі клапаціўся пра тое, каб у сям'і панаваў добры настрой. Калі закончыў што-небудзь пісаць, быў вясёлы, задаволены, гатовы танцаваць. Быў шчуплы і вышэйшы за маму. Больш ведаў я бацьку па яго характары, чым па яго духоўных багаццях, з якіх карысталася многа, вельмі многа людзей. Быў патрабавальным, надта працавітым, не цярпеў недысцыплінаванасці, ілжы, непунктуальнасці, недатрымання дадзенага слова. Быў імпульсіўным, запальчывым.

<u>А. Б.:</u> *Ці быў цяжкі ў сужыцці?*

<u>У. С.:</u> Наколькі памятаю, быў справядлівы. Зрэшты, гэта не толькі мой погляд. Маім выкладчыкам у тэхнічнай школе, на дарожным аддзяленні, быў інжынер Пратасевіч, які быў вучнем майго бацькі ў гімназіі Велера, і ён вельмі сімпатычна ўспамінаў яго. Бацька адзіны раз у жыцці адлупцаваў мяне. Памятаю я пра гэта толькі таму, што ён сам гэта перажываў больш за мяне, калі я фактычна ўжо было забыў пра тое. Было нам усім добра на паддашшы. Кажу я пра гэта не адно цяпер, тое ж самае адчуваў і тады.

<u>А. Б.:</u> *Ці бацька быў рэлігійны?*

<u>У. С.:</u> Па-мойму, ён быў веруючым. Але ці практыкуючым? Цяжка мне на гэтае пытанне адказаць. Перш за ўсё быў ён талерантным. Мая маці — каталічка. Бацька быў праваслаўным. Не памятаю, каб па гэтай прычыне былі якія-небудзь канфлікты. Бацькі вянчаліся ў каталіцкім касцёле на вуліцы Дамініканскай. Вянчаў іх кс. Кратовіч, які таксама потым мяне хрысціў. Наведваў нас, наколькі памятаецца. Наогул, сярод сваіх прыяцеляў мой бацька меў нямала духоўных: ужо спомненага кс. Станкевіча, Талочку і іншых, таксама і праваслаўных.

<u>А. Б.:</u> *У якіх газетах бацька працаваў?*

<u>У. С.:</u> Тыя часы, калі бацька пісаў толькі ў беларускія газеты і то выключна левіцовыя, ведаю адно па аповедах. Цяпер мне стала вядома, што апрача артыкулаў ён напісаў і выдаў тады кнігу “Працэс 45-ці беларусаў у Беластоку”, некалькі брашураў. У трыццатыя гады бацька пісаў у рускую газету “Утро”. З гэтай газеты ў яго быў бясплатны ўступ у тэатр. Ён пісаў рэцэнзіі тэатральных пастановак, выступаў на тэмы міжнародных падзей. Пісаў у “Przegląd Wileński” на беларускія тэмы, таксама славістычныя газеты, што выходзілі за граніцай. Часам пісаў па-нямецку. Свае машынапісы высылаў заўсёды апячатанымі сургучом і пячатаўся ўласным пярсцёнкам-пячаткай. Забыў я сказаць, што бацька рэдка падпісваўся сваім прозвішчам, пераважна ўжываў псеўданімы, а найболей сур’ёзныя работы падпісваў псеўданімам “Суліма”, які быў родавым гербам. Мне расказваў, што пачынальнікам нашага роду быў Завіша Чорны герба “Суліма”.

<u>А. Б.:</u> *Вы ўспаміналі пра “Przegląd Wileński”. Гэта быў двухтыднёвік выключна для нацыянальных спраў, таму ні пра што іншае, як пра беларускія справы, туды пісаць ён не мог. А ці пісаў у іншыя польскія газеты?*

<u>У. С.:</u> Не памятаю, каб бацька пісаў калі-небудзь у іншую польскую газету. З упэўненасцю магу сказаць, што не пісаў.

<u>А. Б.:</u> *Ці Вы пазнаёміліся з тым, што паявілася пра бацьку ў 1982 годзе?*

<u>У. С.:</u> Так, тое, што трапіла ў Варшаву, прачытаў. Хачу выказаць глыбокую ўдзячнасць беларускім літаратуразнаўцам, якія з чуллівасцю ўспамінаюць пра *“настаўніка Янкі Купалы”*. Выключэннем ў гэтым выпадку з’яўляецца кніга Алега Лойкі “Як агонь, як вада”, што друкаваў у бягучым годзе часопіс “Маладосць” (асабліва частка, змешчаная ў сёмым нумары). Здзівіла мяне сцвярджэнне, што быццам бы бацька адхіліўся ад беларускай справы. Гэта абсалютна нязгодна з праўдай. Да канца жыцця нішто бацьку не мучыла так, як беларуская справа. У трыццатыя гады, а гэта памятаю добра, бацька як бібліятэкар цэлымі днямі парадкаваў беларускую бібліятэку ў Музеі імя Івана Луцкевіча. Не было таго дня, каб ён не сустракаўся з беларускімі дзеячамі. Вельмі часта працаваў у Беларускім навуковым таварыстве. Аж да апошняга нумара “Przegląd

Wileński" пасылаў у яго артыкулы. Скажу нават болей — наш матэрыяльны быт быў намнога ніжэйшы за тых, хто да нас прыходзіў, і неаднойчы мне даводзілася пачуць, што бацька, калі б не паграз у беларускіх справах, мог бы зрабіць у Вільні бліскучую кар'еру. А то дзякуючы валоданню мовамі і сваім знаёмствам (мабыць, мелі на думцы Уладзіслава Рачкевіча — віленскага ваяводу ў гадах 1926–1930, які быў школьным сябрам бацькі). Аднак бацька не звяртаўся да яго нават за польскім грамадзянствам, якога не меў да 1928 года. Аформіў яму гэтую справу прафесар Здзяхоўскі. Да канца 1927 года бацька цесна супрацоўнічаў з левіцовай прэсай, якою кіравала камуністычная партыя. Тады ж выслаў да гэтай жа прэсы ліст, што зрывае свае сувязі з ёю, бо не згаджаецца з тымі зменамі, якія наступілі ў тактыцы лявіцы. Ён быў чалавекам незалежным. Ён разарваў сувязі з лявіцай, але не з беларускім рухам наогул. У іншых газетах працаваў як спецыяліст, спецыялістам жа быў выдатным, а не як піша А. Лойка: *"малавядомы польскі журналіст"*. Гэтыя словы нязгодныя з праўдай. Бацька, па-першае, у Вільні быў паўсюдна вядомым, па-другое, ён ніколі не займаўся польскімі справамі, калі яны не датычылі беларускіх спраў. Няпраўда таксама і тое, што я размаўляў толькі па-польску. Размаўляў я так, як у многіх віленскіх змяшаных сем'ях: па-польску і па-руску, бо мая маці, як многія вільнянкі, спраўна валодала рускай мовай. Наймацней мне баліць той абыякавы, нават насмешлівы тон, з якім аўтар "Кнігі пра Янку Купалу"[343] гаворыць пра бацьку. З бацькам многія не згаджаліся. Спрэчкі былі гарачыя, але заўсёды яго шанавалі. Можа аўтар "Кнігі..." спадзяваўся, што ніхто не ўваскрасіць праўды пра бацьку, асабліва пасля яго трагічнай смерці. Аднак ужо тое, што паявілася ў беларускім друку, сведчыць, што аўтар моцна памыліўся. Перапрашаю, што я крыху ўскіпеў, але гэта мне вельмі баліць.

*<u>А. Б.:</u> У Вашага бацькі былі паважныя падставы не згаджацца з тактычнымі зменамі ў стратэгіі беларускай лявіцы, бо яны адмоўна ўздзейнічалі не толькі на беларускі рух, але і на саму камуністычную партыю. А ў якую арганізацыю або плынь у беларускім руху ўваходзіў Ваш бацька?*

[343] У кніжным варыянце твор, пазначаны як "раман-эсэ пра Янку Купалу" выйшаў пазней: Лойка, А. Як агонь, як вада… : раман-эсэ пра Янку Купалу. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984. 485 с.

<u>У. С.:</u> У гэтых справах, можна сказаць, я зусім не арыентуюся. Мабыць, бацька не належыў да ніякай арганізацыі. Пагаварваў часам, што ён — *"асоба прыватная"*. Пра яго казалі *"сапраўдны дэмакрат"*, *"справядлівы"*. Неаднойчы прыходзілі да яго як да суддзі перасвараныя бакі. Ведаю, што доўгія гады быў ён у прыяцельскіх адносінах з Антонам Луцкевічам, Антонам Некандам-Трэпкам і іншымі дзеячамі, якія займаліся справамі беларускай асветы, культуры, напрыклад з Рыгорам Шырмам. Недзе ў 1932 годзе бацька быў ініцыятарам стварэння таварыскага суда над Радаславам Астроўскім. Абвінавачвалі яго ў немаральных паводзінах і прысваенні грошай, прызначаных на беларускія выдавецтвы. Многа здароўя патраціў бацька на гэтую справу, і яна цягнулася аж тры гады, закончылася асуджэннем Астроўскага, які мусіў пакінуць Вільню. Бацька нядоўга пісаў у газеты, якія выдаваў Астроўскі. Аднак неаднойчы вяртаўся да таго часу, як інцыдэнту, і вельмі шкадаваў яго. Калі справа была закончаная, ужо не стала беларускай газеты, у якой ён мог бы пісаць. Паяўляліся нейкія перыёдыкі, надта ж рэдка ён у іх пісаў. Але пра выгнанне Астроўскага гаварыў так, быццам сам ачысціўся ад бруду.

<u>*А. Б.:*</u> *Як сталася, што бацька, які ў маладосці займаўся пераважна літаратурнай крытыкай, у Вільні стаўся публіцыстам ды выключна палітычным?*

<u>У. С.:</u> Не памятаю, каб бацька калі-небудзь закранаў гэтую справу. Відаць, заразіўся кліматам Вільні, дзе было столькі дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Гледзячы з перспектывы гадоў, магу толькі выказваць уласныя меркаванні. Калі бацька на самай справе мала або цалкам не кранаў літаратурнай тэматыкі ў беларускім друку, гэта, відаць, таму, што лічыў Антона Луцкевіча лепшым за сябе знаўцам беларускай літаратуры. А мо ў рускіх газетах пісаў пра рускую літаратуру? Варта было б гэта даследаваць. Пры нагодзе хацеў бы я яшчэ пра адну справу. Калі я пачаў знаёміцца з працамі бацькі, у першую чаргу мяне заінтрыгавала брашура "Праф. М. Здзяхоўскі пра беларускую душу", бо я здзівіўся, што бацька вёў публічную палеміку з прафесарам. І з першых радкоў я зразумеў чаму. Бацька пісаў у брашуры, што работа праф. Здзяхоўскага пра У. Сыракомлю *"для нас, беларусаў, надта цікавая, таму што беларусы лічаць яго беларускім паэтам, праўда, паланізаваным"*. Яшчэ не закончыў я яе чытаць. Аднак заўважыў

я, што гэтыя спрэчкі адбываліся ў 1923 або 1924 гадах, і падумаў: у гэтым увесь мой бацька! Да самай смерці прафесара (ён памёр у 1938 г.) бацька быў з ім у самых лепшых прыяцельскіх сувязях. Але калі ў яго быў іншы погляд, пры тым выказаны публічна, бацька таксама мусіў публічна выказаць свой погляд. І гэта зусім не ўздзейнічала адмоўна на іх сувязі…

А. Б.: *Чаму ў сям'і не захаваліся дакументы пра бацьку?*

У. С.: Бацька прыбыў у Вільню ў канцы 1918 г., нелегальна. Хоць граніца тады не была ўстаноўленай і спецыяльна не ахоўвалася, але прайсці яе можна было толькі пешшу. Відаць, бацька не прынёс з сабою многа каштоўных дакументаў, яны засталіся або ў Менску, або ў Казіміраўцы. У Вільні, калі 8 кастрычніка 1939 года ў нашай кватэры на вуліцы Зарэчча, 20, нумар 13 была праведзеная рэвізія, бацьку арыштавалі і разам з ім забралі, мабыць, усё, што магло мець якую-небудзь вартасць. Між іншым, шукалі рукапісы, якіх не знайшлі па той простай прычыне, што бацька пераважна пісаў адразу на машыне. Мне цяпер расказвалі, што ў віленскіх бібліятэках ёсць многа такіх работ бацькі, якіх няма ў Польшчы. Спадзяюся, што з часам уся спадчына па бацьку стане даступнай гісторыкам. Чым глыбей знаёмлюся з бацькавымі творамі, тым мацнее ў мяне жаданне сабраць іх усе.

А. Б.: *Дзякую за інфармацыю, якую здаўна чакалі нашыя чытачы.*

У. С.: І я таксама дзякую перш за ўсё тым незнаёмым мне людзям, якія зацікавіліся маім бацькам, знайшлі дакументы пра яго. Асабліва лісты да Блока явілі мне яго як жывога. Дзякую рэдакцыі "Нівы" за тое, што захацела мяне паслухаць. Ведаю, што чакалі ад мяне большага, чым я магу цяпер сказаць. Аднак мне неабходна звыкнуцца з тым, што бацька ўваскрос у маёй памяці, што ён яшчэ камусьці патрэбны. Столькі гадоў я пра яго нічога не чуў! Мушу крыху супакоіцца, магчыма, знайду ў маёй памяці больш цікавыя звесткі за тыя, якія сёння вы ад мяне пачулі.

*Гутарыла Аляксандра Бергман.*

## ПАКАЗНІК АСОБАЎ

## ЗМЕСТ

Пра Уладзіміра Самойлу

**Самойла, У.**

С17 Выбранае / Уладзімір Самойла ; уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, агульнае рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча ; камент. Наталлі Гардзіенкі, Аляксандра Пашкевіча, Лявона Юрэвіча. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 288 с.: [4] с. іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 34).

ISBN 978-985-7180-36-3.

Кніга “Выбранае” Уладзіміра Самойлы — другая ў падсерыі “Спадчына: агледзіны” серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” — гэта складзены ўпершыню зборнік прац апекуна Янкі Купалы, выдатнага літаратурнага крытыка і філосафа. У выданне ўвайшлі рэцэнзіі на зборнікі Я. Купалы, К. Сваяка, Н. Арсенневай, перыёдыкі і асобныя творы аўтараў 1920–1930-х гг. Таксама ў кнізе можна знайсці філасофскія эсэ, у тым ліку найбольш важнае “Гэтым пераможаш!”, некаторыя лісты Уладзіміра Самойлы, публікацыі, прысвечаныя яго біяграфіі і творчасці, ды інтэрв’ю з сынам дзеяча. Выданне рэпрэзентуе малавядомую сёння, але багатую і разнастайную творчую спадчыну выдатнага беларускага інтэлектуала.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

12+

Літаратурна-мастацкае выданне

Бібліятэка Бацькаўшчыны
Кніга 34
Спадчына: агледзіны

**Самойла** Уладзімір

**Выбранае**

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч*
Вёрстка, уклейка *Вадзім Нога*
Дызайн вокладкі *Анатоль Лазар*
Карэктар *Міраслава Шавыркіна*

Падпісана да друку 14.08.2017. Фармат 84×108 $^1/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 15,33. Ул.-выд. арк. 14,6.
Наклад 200 асоб. Замова 349.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.